# Маладосць

# 9

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(718) ВЕРАСЕНЬ, 2013**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



*Ніна Мацяш. Партрэт, зроблены ў вясновым садзе. Яе любімы партрэт. Як ні хацела Ніна Іосіфаўна ажыццявіць нешта падобнае ў больш сталым веку, але не атрымалася. Яна гаварыла пра гэта не толькі са шкадаваннем — з вялікай удзячнасцю да аўтара працы: «Лепшага партрэта ў мяне няма. Паўтарыць такое не здолеў ніхто».*

*20 верасня святкуецца юбілей Ніны Мацяш, якой, калі б іншы лёс, споўнілася б яшчэ толькі семдзесят. Наступны, берасцейскі, нумар прысвячаецца гэтай Жанчыне.*



*Айцец ЯЎСТАФІЙ*
*(ХАЛІМАНКОЎ)*

# *IV**

Дваццаты раздзел біблійнай кнігі Ісход, дзе знаходзіцца знакаміты Дэкалог (дзесяць запаведзяў Закона Маісеева) пачынаецца так: «І сказаў Бог усе словы гэтыя, кажучы: Я Гасподзь, Бог Твой, Які вывеў цябе з зямлі Егіпецкай, з дома рабства; хай не будзе ў цябе іншых багоў перад аблічча Маім» (Ісх. 20, 1-3).

Збавенне Ізраіля з-пад улады Егіпта, егіпецкай няволі, традыцыйна разглядаўся ў хрысціянскім біблейскім багаслоўі як спосаб вызвалення душы чалавечай ад улады граху. Гасподзь нібы адразу папярэджвае свой народ (кожную душу): памятай, хто твой Вызваліцель. Памятай, калі не з падзякі, то хоць бы з пачуцця ўласнай бяспекі, таму што калі патрапіш зноў у лапы да ворага, то будзе горш удвая.

Але… так ужо ў нас атрымліваецца заўсёды, што ледзь устаўшы на ногі, ледзь, так бы мовіць, адчуўшы моц у каленках, чалавек губляе памяць. Гэтаксама алкаголезалежны пасля чарговага загулу дае сабе (і іншым, зразумела) абяцанне ніколі больш не браць і кроплі спіртнога ў рот. Але праз некаторы час усе наступствы шалёных п’янак шчасна забываюцца, і «з імі здараецца па праўдзівай прымаўцы: сабака вяртаецца на ваніты свае, і: памытая свіння ідзе качацца ў балоце» (2 Пят. 2, 22).

Ледзь Ізраільскі народ, які бег ад егіпецкага рабства, сутыкнуўся з першай сур’ёзнай праблемай (перасьледам войскаў фараона), адкрылася гэтая ганебная эпоха наракання: «І залямантавалі сыны Ізраілевыя на Госпада, і сказалі Маісею: хіба няма магілаў у Егіпце, што ты прывёў нас паміраць у пустыні? Што ты гэта зрабіў з намі, вывеўшы нас з Егіпта? Ці не гэта самае мы казалі табе ў Егіпце, сказаўшы: “пакінь нас, няхай мы працуем Егіпцянам”? Бо лепш быць нам у рабстве ў Егіпцянаў, чым паміраць у пустыні» (Ісх. 14, 10-12). Пустыня тут — паняцце не толькі геаграфічнае. Мноства ласкі, ізлітай на нас у шчодра раскінутых абдымках Ойчых, змяняе дробны і калючы холад неразумення. Госпадзі, чаму я павінен памятаць пра тое, што ўжо пачынаю забываць?

І вось адзін малюнак, потым другі, потым ужо цэлая галерэя «мясных катлоў» ахоплівае пякучай тугой маю зраненую

***Калі я не адчуваю больш Тваёй прысутнасці, Госпадзі, ці маеш права Ты мяне папракаць у маленькіх здрадах?***

* *Працяг. Пачатак у № 6, 7, 8 за 2013 г.*

душу. Калі я не адчуваю больш Тваёй прысутнасці, Госпадзі, ці маеш права Ты мяне папракаць у маленькіх здрадах? Памяць занадта кароткая, і наогул, я — чалавек слабы, хворы, я прыпоўз да Цябе — увесь пабіты жыццём, а Ты... Ты пакінуў мяне сам-насам са старэйшым братам[1]. І што — хіба гэта не тое ж самае рабства, толькі ўжо «ў імя Тваё»?! Я станаўлюся ў позу Іава (самому, вядома, брыдка ад гэтага нават не тэатра — фарсу), — але так хоць крыху лягчэй... І ўсё гэта, прынамсі, можна назваць малітвай.

Вось у такія хвіліны і падкрадаецца думка... Адна, потым другая, трэцяя — вунь яны, зорачкі-іголачкі ў шырачэзнай пасцы неба; вочы, якія так прагна, забойна зіхацяць, становяцца ўсё бліжэй — пятлёй сцягвае табе душу зграя шакалаў. І так холадна, так пуста, самотна вакол… Хіба я ўжо труп, што яны, сцярвятнікі, гэтак бессаромна кружаць вакол мяне, прыцэньваюцца? Я хачу закрычаць. І не магу. Так бывае падчас жудасных сноў. Што гэта, насамрэч? Нарэшце ўцемліваю — гэта помыслы бязвер'я. Яны прыйшлі. Ты і не заўважаеш, як яны ўжо пачалі цябе трушчыць...

Госпадзі, — нарэшце, разрываюцца мае вусны, — дапамажы! Не пакінь мяне. Вось яна — мая вера, дрыжыць як асінавы лісток, вось-вось сарвецца, падхопленая ветрам, паляціць у іншабыццё. Ты сам, быццам асінавы лісток, дрыжыш, таму што калі няма веры, няма і цябе. Сэнс, які спачываў у тваіх руках, нібыта нованароджанае дзіця, якога ты так дрыгатліва, так далікатна песціў — ён павінен быў вырас-

***Так бывае падчас жудасных сноў.***
***Што гэта, насамрэч?***
***Нарэшце ўцемліваю — гэта помыслы бязвер'я. Яны прыйшлі.***
***Ты і не заўважаеш, як яны ўжо пачалі цябе трушчыць...***

***Госпадзі, ды дзе ж Ты, дзе?! —***
***крычу я, і крык мой павісае***
***над безданню, замірае, не далятае,***
***падае падстрэленай птушкай.***
***Гэта Гасподзь міласціва***
***не прымае яго — гэты хлуслівы крык.***
***Таму што я ўсё ведаю. Я ведаю,***
***дзе Гасподзь***

ці ў нешта вялікае, прыгожае... І раптам: «А ці быў хлопчык?»

Але што значыць верыць?

Ісці за Хрыстом па тым шляху, якім Сам Ён ішоў.

А куды Ён ішоў? Які канчатковы прыпынак?

«А куды Я іду, вы ведаеце, і шлях ведаеце» (Ін. 14, 4).

Божа, які ж гэта шлях? Яшчэ ж не ўсе размовы скончаны, яшчэ не ўсе правілы вычытаны, яшчэ не ўсе прабачэнні прынесены. Пачакай трошкі, я... пачакай, яшчэ столькі няскончаных спраў!.. І ў адказ на ўсе гэтыя ўбогія віскі — «Хто любіць душу сваю, загубіць яе; а хто ненавідзіць душу сваю ў свеце гэтым, захавае яе ў жыццё вечнае» (Ін. 12, 25).

Але як жа можна сумнявацца ў тым, што я Цябе не люблю, Госпадзі! — крычу я, крычу ад сораму, ад адчаю...

Але Госпадзі, Госпадзі! Ты гаворыш са мной і далей: «Хто Мне служыць, Мне няхай следуе, і дзе Я, там і слуга Мой будзе» (Ін. 12, 26).

Госпадзі, ды дзе ж Ты, дзе?! — крычу я, і крык мой павісае над безданню, замірае, не далятае, падае падстрэленай птушкай. Гэта Гасподзь міласціва не прымае яго — гэты хлуслівы крык. Таму што я ўсё ведаю. Я ведаю, *дзе* Гасподзь.

На Галгофе.

На Крыжы.

«З крыжа не сходзяць, з крыжа здымаюць». І ўсе тыя, хто ідзе за Хрыстом, павешаны на нябачных крыжах, кожны на

[1] Гл.: Лк. 15, 11-32.

сваім. Вера пакідае чалавека, калі пачынаецца гэтая мана: я не магу, у мяне не атрымаецца... Ці яшчэ бессаромна: нас не вучылі, нас няма каму вучыць, настаўнікі дрэнныя.

Кожны дзень, з самай раніцы, трэба рыхтавацца да барацьбы са зверам, які жыве ўнутры мяне самога. Як шматгаловы казачны (але тут, вядома ж, не да казак!) цмок, ён вельмі разнастайны і... жывучы. Ссячэш, загасіш, затопчаш у адным месцы — вылезе ў іншым. Возьмешся за тое, іншае, месца... Бач — зноў прарастае там, дзе толькі што ссек і затаптаў.

Здаецца, я пераканаў сябе, што толькі яшчэ вучуся, назапашваю сілы, я — «вечны студэнт»; ну які сэнс мяне цяпер кідаць у гэтую мясарубку? Чуеце? Чуеце?! І ўсё радзей і радзей я адчуваю ў сваёй душы ні з чым не параўнальныя праблёскі ціхай мілоты: «маячкі», якія Гасподзь дасылае мне час ад часу: трымайся, Я з табой, «не бойся, толькі веруй»[1]... А што толку гаварыць з чалавекам, калі ён увесь час робіць выгляд, што пытае (нават калі вельмі гучна крычыць), а насамрэч — «спасі мяне, Госпадзі, але толькі не цяпер»[2].

Вось так вычэрпваецца вера. Ад зламыснасці. Ад падману. Ад таго, што сябе шкада. Сябе любімага. І толькі сябе, на самай справе. Можна шмат тут разважаць пра тое, што ёсць, маўляў, маса змякчальных абставін. Ну ёсць — і што? А чаго няма? Няма любові. Той любові, якая калісьці запаліла ў тваёй душы агонь — агонь да неба, які вывеў цябе з твайго Егіпта бессэнсоўнасці і адчаю; агонь, які даваў табе сілы ісці, а калі не было аніякіх сіл, — паўзці. Няма той любові, якая адрэзала б цябе ад свету, захапіла, павяла за сабой, адкрыла дзверы ў новы свет — туды, дзе б сустрэў цябе Ён…

***Што толку гаварыць з чалавекам, калі ён увесь час робіць выгляд, што пытае (нават калі вельмі гучна крычыць), а насамрэч — «спасі мяне, Госпадзі, але толькі не цяпер»***

***Туман вершаплёты часта параўноўваюць з саванам, але мне хацелася б загарнуцца хаця б у саван: каб хоць неяк сагрэцца***

Няма той любові, якая спальвала ўсе масты за табой, якая выпальвала ўсю брыдоту ў табе — няма таго агню, пра які Ён сказаў: «Агонь прыйшоў Я зьвесьці на зямлю, і як хацеў бы, каб ён ужо загарэўся!» (Лк. 12, 49).

Няма любові — таму і няма нічога. Таму што Ты, Госпадзі, — Любоў. Імя Тваё Святое памірае ў мяне на вуснах, злятае бясплотнай ластавіцай — як апошні ўздых чалавека перад смерцю. «Божа мой, пазаву ў дні, і не пачуешы, і ў начы, і не ў вар'яцтва мне» (Пс. 21, 3).

Мне холадна і я губляюся ў тумане адзіноты. Туман вершаплёты часта параўноўваюць з саванам, але мне хацелася б загарнуцца хаця б у саван: каб хоць неяк сагрэцца.

Ты сустракаеш смерць — яна ж, як хатняя котка, адданая, ласкавая, пранікае ва ўсе поры тваёй душы, авалодваючы табой незаўважна, ненадакучліва... Мне здаецца, я адрываюся ад зямлі і лячу — лячу кудысьці далёка ў свабодным палёце.

Словы малітвы гучаць, як нейкі таямнічы пароль, за якім адкрываецца тонкая палоска святла, і вось усё выразней становяцца знаёмыя контуры — контуры Крыжа. З апошнім уздыхам я раскідваю рукі і лячу ў раскрытыя для мяне Абдымкі Ойчыя.

[1] Лк. 8, 50.

[2] Словы блаж. Аўгусціна.

**Віншуе Беларускі саюз музычных дзеячаў!** Заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Правалінскі (яму — 60!) вядомы як інтэрпрэтатар і прапагандыст эстрадных песень беларускіх аўтараў.
Прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, заслужаны артыст Барыс Нічкоў (адзначае 75-годдзе!) — знакаміты выканаўца на габоі, педагог, які паспрыяў развіццю нашай школы ігры на драўляных духавых інструментах, выхаваў нямала лаўрэатаў міжнародных конкурсаў сярод габаістаў і флейтыстаў.




**На мяжы** інтуітыўнага і рацыянальнага нарадзілася Ethno fantasia — праграма новага аўдыяальбома Ірэны Катвіцкай, ці, як прызнаецца сама спявачка, свет яе ўласнай гармоніі. Зрэшты, І. Катвіцкая — не толькі яркая выканаўца. Гэта непаўторная індывідуальнасць у сферы этнічнай беларускай музыкі. Нарадзілася і атрымала прафесійную музычную адукацыю ў Мінску, займалася этнамузыкалогіяй у НАН Беларусі, мае досвед выкладчыка, піяністкі, кампазітара, уваходзіць у Беларускі саюз музычных дзеячаў. Ірэна супрацоўнічае з беларускімі гуртамі «Князь Мышкін», Apple Tea ды іншымі. Яе ведаюць як аўтара і лідара некалькіх айчынных этнапраектаў, як аранжыроўшчыка і вакалістку праектаў Kazalpin (Швейцарыя — Беларусь) і Diagilew Project (Германія).
Новы альбом Ірэна параўноўвае з прыватным дзённікам, у якім раскрываецца сакральная духоўная прастора славянскай жанчыны, дзе суіснуюць архаічныя традыцыі продкаў і рэальныя, дарагія сэрцу людзі, а воляю фантазіі спалучаюцца магія, малітва і дзіцячая калыханка. Захопленая таямніцай старадаўніх песень роднай зямлі, Катвіцкая імкнецца праз уласную творчасць аднаўляць жывую спеўную традыцыю, захоўваць глыбінны пласт беларускай культуры і, эксперыментуючы са стылямі, інтэграваць яго ў сферу сучаснай сусветнай музыкі (clear Ethnic, world-music, ethno-jazz, modern, neoclassic).
Набыць дыск Ethno fantasia можна ў сталічнай Кнігарні «ЛогвінаЎ» або ў інтэрнэт-краме.

---

## ПРАЙШЛО ПРАЗ «МАЛАДОСЦЬ» І ВЫЙШЛА КНІГАЙ!

### Чытаць шэрым вечарам




Дождж, прыцемкі, пакой, гарбата. Гарачая. І пахне мацярдушкай. Чытаеш кнігу Бравы «Даараванне», што выйшла ў выдавецкім доме «Звязда» адразу на трох мовах, — беларускай, рускай і нямецкай (такі вось бела-чорны томічак з прадмоўкай аўтара, пісанай ад рукі, і чырвонай стужачкай-закладкай) — і разумееш, што час ідзе не проста так, не доўжыцца, а мае сэнс і вартасць.




Залатыя скрыжалі імператара-д’ябла. Іх трэба знайсці. У балоце, у якое яны трапілі з астатнімі рэчамі-скарбамі пры адступленні арміі Напалеона. Саветнік святога прастола Павел Кардонскі, ён жа тэолаг, збіраецца супрацьстаяць таямніцам, што дыхаюць з апраметнай. Увесь той час, пакуль вы будзеце чытаць.

# Акры свядомасці



*Руслан Найдзен.*

*Гэтым разам ствараць сяброўскую атмасферу даверу і пазітыву давялося адразу для двух гасцей — дызайнера Руслана Найдзена і паэта Арцёма Кавалеўскага. Запрасіць абодвух была нагода — падрыхтоўка іх сумеснай кнігі «АКРЫ». У візуальна-паэтычным праекце вершы Арцёма аздабляў Руслан. Складана ладзіць дыялог з паэтам і дызайнерам адначасова. Калі Арцём прызвычаіўся ствараць слоўныя малюнкі і выказвацца натхнёна эмацыйнымі фразамі, то Руслану бліжэй выяўленчыя вобразы. Але нейкім дзіўным чынам яны выдатна дапаўнялі адно аднаго і па-сяброўску перакідваліся жартамі.*

**— «АКРЫ» можна расшыфраваць як «Арцём Кавалеўскі, Руслан» і загадкавая літара «ы». Яшчэ адзін варыянт: акры — гэта зямельная мера. Што вымяраеце вы сваёй кнігай?**

**А. К.:** — Гэта кніга не толькі для чытання, але і для разгляду. Кожны глядач-чытач будзе разгадваць значэнне назвы і знаходзіць уласныя асацыяцыі. Назва нарадзілася раптоўна. Нам не хацелася прыцягваць яе да пэўнай ідэі, канцэпцыі, але «АКРЫ» ўпісаліся ў нашы імёны і прозвішчы. Разам з тым літара «ы» — такая нязграбная, кульгавая, з палкай — падалася цікавай. Акрамі можна вымяраць не толькі зямлю, але і свядомасць. Хто як хоча, так няхай і вымярае.

І яшчэ маленькая загадка. Калі пакупнік зірне на вокладку ў кнігарні, ён адразу не расчытае назву. Бо спачатку ўбачыць алфавіт — набор літар. Гэта касмічны праект і для беларускай літаратуры і для дызайнерскага мастацтва.

**Р. Н.:** — Мне падабаецца літара «ы» — множны лік. Насамрэч на вокладцы мы зашыфравалі назву. У гэтым алфавіце адсутнічаюць літары: а, к, р, ы. Інтрыга пачынаецца адразу.

**— Ці сустрэнуць чытачы ў гэтай кнізе нейкія знаёмыя асацыяцыі, герояў?**

**А. К.:** — Безумоўна, героі будуць. І нават з сусветнай літаратуры. Напрыклад, вельмі знакамітая асоба Ганна К. Літаратурны персанаж, які дзіўным чынам павядзе сябе акурат на першай старонцы. Прысутнічаюць і антычныя героі, маленькія хлопчыкі, дзяўчынкі, птушкі, звяры, дрэвы.

**— Руслан, ці ёсць у вас любімы верш у кнізе?**

**Р. Н.:** — Так. Усе тэксты набраны 11-м кеглем. У гэтым вершы ўсяго 10 радкоў. 9 з іх набраны так, як і закладзена, а ў апошнім радку адно слова набрана 240-м кеглем. Трэба было зрабіць так, каб гэтае слова не змясцілася на старонцы, настолькі яно маштабнае, ёмкае. І там ёсць яшчэ зорачка-зноска, якая нарадзілася ў працэсе абмеркавання. Арцём вельмі смелы хлопец. Правакацыйная зноска атрымался.

**А. К.:** — Мы дазвалялі сабе шмат вольнасцей, мужчынскай іроніі і каламбураў.

**— Амаль кожны, хто прыходзіць на «Кухню», расказвае, як выглядае тое месца, дзе ён стварае. У якіх умовах працуеце вы?**

**Р. Н.:** — Ёсць месца, дзе я магу засяродзіцца і падумаць пра што-небудзь. Чым прывабная прафесія дызайнера. Для працы мне не заўсёды патрэбен стол, крэсла. Магу стаяць на прыпынку, альбо на платформе чакаць цягніка, сесці ў вагон і думаць.

Яшчэ выдатнае месца — мая кухня. А палове на дванаццатую, ведаю, Арцём не спіць, я тэлефаную, і мы гадзіну па тэлефоне працуем. Часам збіраемся ў майстэрні.

**— А ў вашай творчай кухні ёсць прадметы, якія ствараюць неабходную атмасферу?**

**Р. Н.:** — Безумоўна. Нейкія рэпрадукцыі, кнігі, прыемныя дробязі. Часам дома такое не пастравіш, а вось у майстэрні на запыленую палічку… Адна рэч мне вельмі дарагая. У 1969-м я набыў постар The Beatles. Сёлета яму споўнілася 45 гадоў. Гэтая рэч пастаянна са мной. Ён

як быў наклеены на кардоне, так і застаўся. Гэта ўспаміны, пачуццё нечага чароўнага.

У маёй майстэрні бывае шмат гасцей. Традыцыйна, калі адкрываецца выстаўка, сустракаемся. Распальваем печку бярозавымі дровамі. Гутарым.

**— А вось Арцём казаў, што ў яго кабінет дазволена ўваходзіць толькі выбраным асобам…**

**А. К.:** — У мяне працоўнае месца ўсюды: на лаўцы, у парку, на вуліцы. Ёсць шмат улюбёных месцаў, куды магу запрасіць толькі вельмі блізкіх людзей. А тое, што тычыцца пакоя, дзе працую... Туды таксама могуць трапіць толькі абраныя людзі. Бо рэчы, якія мяне акружаюць, надта важныя для мяне: слоўнікі, папера, кнігі, птушынае пер'е (я збіраю яго). Магу калекцыянаваць манчжурскія арэхі, жалуды. Гэта ўсё ляжыць у мяне, і з ім звязаны нейкія ўражанні. Мне так падабаецца. Люблю рэчы, як яны выглядаюць, пахнуць, паводзяць сябе разам са мной. Гэта такое матэрыяльнае ўспрыманне. Часам мне патрэбны мінімалізм, але бывае хочацца ўпрыгожыць сваё жыццё рэчамі.

Мне вельмі падабаецца маленькая бронзавая качачка, якая сядзіць на чорным каменьчыку, што я прывёз з Фінляндыі. Мой сябра, у якога я гасцяваў, узяў камень амаль правільнай круглай формы і сказаў: «Мая рука не ўзнімецца, каб кінуць гэты шэдэўр прыроды ў мора». І перадаў яго мне. Я яго прывёз у Мінск. Ён ляжыць цяпер на стале.

Памятаю, набыў маленькі букецік апошніх асенніх кветак, якія прадавала жанчына ля метро позна ўвечары. Ён засох і цяпер захоўваецца. Нядаўна зрабіў рэйнстык — індзейскі інструмент, які стварае гук дажджу, прыбою.

Я шмат чаго збіраю. Калекцыяную бутэлькі: старыя, антыкварныя — колькі формаў, колераў, дызайнерскіх знаходак! Шукаю хімічны посуд, маленькія кніжкі, каштаны. 15 гадоў запар восенню бяру каштан, кладу ў кішэню, пасля ён трапляе дамоў — туды, дзе ў мяне жывуць астатнія.

Часам каштоўна зазірнуць на сметнік. Неяк мы ішлі з мамай, і я сказаў: «Ведаеш, люблю раман "Маці"». Пяць хвілін прайшло, ля сметніка я знайшоў кнігу «Маці» Горкага. Я яе ўзяў. Можна там адшукаць цацкі савецкага перыяду. Апошняе, што мне трапілася, гэта металічная печачка. Цяпер і яна жыве ў мяне.

Неяк Руслан падарыў са сваёй майстэрні маленькі высушаны дэкаратыўны гарбузік. Яго можна выкарыстоўваць як бразготку. Мне прыемна.

**Р. Н.:** — Арцём даволі асцярожны таварыш. Мы даўно з ім знаёмыя. Разам рабілі часопіс «Бярозка», гэты праект. Але я яшчэ не быў у яго кабінеце. І чакаю гэтага моманту — вельмі хачу адчуць тую атмасферу.

**А. К.:** — Гэта прыватная прастора, дзе ўсё павінна быць асабістым. У мяне была дзіўная сітуацыя: прачнуўся ад гуку, нібыта кроплі падаюць. А пасля гук стаў настолькі блізкім, што я расплюшчыў вочы і ўбачыў — каля ложка ходзіць голуб. Я яго спужаўся, а ён мяне. Ён на мяне косіцца, я — на яго. Але ж быў яму вельмі рады.

**— Руслан, як вы адпачываеце? Ці патрэбны вам нейкія спецыфічныя ўмовы?**

**Р. Н.:** — Найбольш блізкі для мяне спосаб адпачынку — з'ехаць у пятніцу ў вёску. Там працягваецца мой дызайн у ландшафце і доме. Там створана адмысловая атмасфера, яна мяне вельмі саграве.

**А.К.:** — Для мяне сапраўдны адпачынак, калі я застаюся адзін сярод людзей, якіх ніколі не бачыў. Гэта можа быць і далёкае замежжа, і беларуская вёска, дзе ты будзеш шпацыраваць і прамаўляць у прастору, упэўнены, што яна цябе чуе. Можна блукаць па горадзе. Мне гэта вельмі падабаецца. Я прафесійны фланёр — шмат шпацырую, адчуваю горад, знаходжу ў ім любімыя месцы. Некаторых з іх ужо няма. Мажлівасць застацца сам-насам са светам — гэта вельмі важна. Можна адпачываць з кімсьці, але гэта іншае. Ты павінен шмат аддаваць чалавеку…

*Мала хто пагаджаецца пісаць традыцыйнае бурымэ для нашай рубрыкі менавіта ў прамым эфіры. Звычайна госці прыходзяць падрыхтаваныя. Але Арцём Кавалеўскі ўзяў адказнасць напісання вершаваных радкоў на сябе і зрабіў гэта падчас запісу праграмы. Словы «ікаўка», «кнігаўка», «не плач», «крумкач» пакінуў гасцям пісьменнік Пятро Васючэнка.*

Прыляцела да мяне стомленая кнігаўка,
Пачалася ў мяне веснавая ікаўка.
Кнігаўка сказала: «Цёма, ты не плач.
Бо калі заплачаш, прыляціць крумкач
і цябе заб'е».




*Арцём Кавалеўскі.*



Алена МАСЛА

# Чаму Карэла Чапека не крытыкуюць?

***Што такое дзіцячая кніга? Першнаперш гэта дарагі друк. А ў нас таленавітых людзей вельмі шмат. А колькі бруіцца цікавых ідэй! Цяпер і хапаюцца выдаўцы за дзіцячую літаратуру. Яна і добрая, і нарасхват. Добра было б, каб зменшыўся падатак, як у нашых суседзяў, на кнігадрукаванне для дзяцей (у Расіі 2 % на дзіцячую кнігу, на Украіне зусім адсутнічае падатак, у нас — 20 % НДВ). Такі крок стаў бы стымулам і для прыватных выдаўцоў.***

* * *

Кожная літаратура мае ў праблемах спецыфіку. Шведскія дзіцячыя пісьменнікі таксама скардзяцца, хоць іх менш цэняць. І гэта пры тым, што 1600 кніг для дзяцей на год. Але (і мы тут сышліся нейк у мерkаванні са шведскімі калегамі) чым больш прагаворваеш праблему, тым больш яе заглыбляеш. Не трэба на ёй акцэнтаваць шырокай увагі. Трэба яе вырашаць! Я, напрыклад, на аўдыторыю, у прэсе, на радыё перастала прамаўляць, што не хочуць ведаць беларускай мовы, чытаць па-беларуску. Наадварот: трэба засяроджвацца на пазітыве, а не ныць, што ўсё занядбана.

* * *

Чытаюць тое, што прыходзіць у рукі, тых, хто прыходзіць сам да чытача.

* * *

Крытыкі малавата па дзіцячай літаратуры. Наўскідку назаву Ладу Алейнік і Аксану Бязлепкіну. Але не з усім я згодная. У мяне ўражанне, што крытыкі шукаюць нейкі ідэальны твор, які вырашыць усе існыя нашы праблемы ў дзіцячай літаратуры. У ідэал узводзіцца Астрэд Лінгрэн. Але нам патрэбна захоўваць нацыянальную спецыфіку. Менавіта такія кнігі карыстаюцца найбольшай папулярнасцю. Вазьміце казкі Ігара Кузьмініча, Сержука Вітушкі. Там у гульнявой форме расказваецца пра нашу гісторыю і культуру. Чаму Карэла Чапека не крытыкуюць, што яго героі вандруюць па рэальнай Чэхіі? І нам такая літаратура суперпатрэбная. А крытыкам неабходна ўлічваць і ўзроставую спецыфіку: не трэба на кнігу для 5-гадовых дзяцей глядзець вачыма 12-гадовага чалавека. Дый дарослыя часам хочуць, каб адна дзіцячая кніга задаволіла дзіця любога ўзросту.

* * *

У нас вельмі цэніцца індывідуальнасць, нешаблоннасць. У параўнанні з рускай літаратурай мы тут выйграем.

* * *

У кожнай плыні ёсць свае зоркі. Літаратурны працэс, як жыццё. Хіба ён можа перарвацца?

***Запісаў Анатоль ТРАФІМЧЫК***

*Вольга ГРАМЫКА*
***volha.livejournal.com***

# *Пиши исчо, дорогой автор*



**ЯК АРТЭФАКТ І ФЕТЫШ**

У нас, пісьменнікаў, увесь час дапытваюцца: чаму вы так чапляецеся за папяровую кнігу? Без яе і лясам здаравей, і паліцам прасторней. Тым больш што выдаюць сёння адну муру, а шэдэўры ляжаць у сеціве бясплатна, выдаўцоў не цікавячы.

У наша стагоддзе асноўнай меркай паспяховасці папяровай кнігі робіцца не якасць і нават не чытабельнасць, а жадабельнасць. Жадабельнасць кніжкі часткова залежыць ад чытабельнасці, то бок жадабельная кніжка заўсёды чытабельная, але адваротнай залежнасці амаль не назіраецца. Калі чытабельнасць можа больш-менш ацаніць любы крытык, то жадабельнасць — велічыня непрадказальная. Тузін чалавек прачытае юнацкія фантазіі Васі Пупкіна і застанецца абыякавым. Адзінаццаты затопіць іх слязьмі і перад выхадам наступных будзе ноч пільнаваць дзверы кнігарні. Ён хоча яе менавіта ў паперы, як артэфакт і фетыш, каб прывязаць свае пачуцці да матэрыяльнага носьбіта, які можна пяшчотна прыціснуць да сэрца. Чытальная зала тут бессэнсоўная, яна як грамадская прыбіральня ў супермаркеце, а хочацца замкнуцца ў сваёй, утульненькай і з кафляй у кветачкі. Якраз з гэтай мэтай чытачы просяць у аўтараў аўтографы, і на гэта ж працуе фансэрвіс — фігуркі, коміксы, кашулькі з тэматычнымі карцінкамі.

На жадабельнасць кніжкі моцна ўплывае аўтар, у меншай ступені — серыя, у зусім малой — якасць выдання. Так-так, некаторыя чытачы дагэтуль купляюць кніжкі пад шпалеры, а таксама ў якасці падарунка, калі кніжка дастаткова шыкоўная. З якасцю кнігі жадабельнасць не мае агульнага. Разумная, павучальная, тая, што трывожыць чытача, кніжка абмяркоўваецца — і больш ніколі не адкрываецца. Бо дала ежу розуму, а не сэрцу. А розум рацыянальны і не бачыць сэнсу купляць тое, што ты не будзеш перачытваць. Таму такія кнігі выдавецтвы выпускаць не любяць: не акупляецца. Жменька эстэтаў, што, захліпаючыся, хваліць кніжку на форумах, не ў залік («Лічбавікі!» — з пагардай кажуць пра іх у выдавецтвах). Неаднойчы назірала: о-о-о-о, які аўтар, які геній! — а кніга ляжыць на складзе. (Зрэшты, у якаснай кнігі болей шанцаў стаць жадабельнай. Некаторыя людзі купляюць яе, «каб была», хоць і ўсведамляюць, што ў бліжэйшыя дзесяць гадоў наўрад ці яе адкрыюць. Але ж прыемна бачыць яе на паліцы).

Гэтаксама кніжка можа быць наколькі заўгодна цікавай, смешнай, захапляльнай і гэдэ, але калі яна не жадабельная, яе не купяць. Цудоўна, чытаў да трох ночы, рагатаў як шалёны, дайце яшчэ дзве-тры-дзесяць, але мала хто любіць перачытваць анекдоты. Узнікае парадаксальная сітуацыя: аўтар запатрабаваны, новую кнігу чакаюць і яна разлятаецца як гарачыя піражкі — у лічбе. Але гэтыя аўтары таксама сыходзяць з рынку, бо іх праца не аплочваецца, а гэта крыўдна. Хоць вы вось паспрабуйце прыдумаць хаця б адзін анекдот, і зразумееце, якая гэта пякельная, хоць і прыемная праца.

Сітуацыю ў абодвух выпадках выправіць мог бы стабільны рынак лічбавых кніг, але яго няма — 99 % кантэнту пампуюцца з пірацкіх сайтаў, не прыносячы аўтарам ні грошыка.

Як ні крыўдна прызнаваць, у нашым стагоддзі перамагаюць не шэдэўры, а няшкі. Адсюль і палкі юных пападанак, і Марці-Сью, і лаўсторы з тэнтаклямі. Фансэрвіс на любы густ, у кожнай такой кніжкі жадабельнасці на трыпяць тысяч тыражу хопіць, а больш і не трэба.

Таму лозунг «Пісаць трэба лепш, тады і купяць» асабіста я лічу ўжо не пераканаўчым.

З.Ы. Гэта ніколькі не кіраўніцтва да дзеяння, проста выснова :). З.Ы.2. Я б з вялікім задавальненнем пайшла ў чыстую лічбу. Напісаў, аформіў, заліў, сам кошт усталяваў — і стрыжы сабе купоны.

Але:)))) Пры шматтысячнай колькасці спампоўванняў маёй апошняй кнігі на любым з пірацкіх рэсурсаў афіцыйна (Литрес+Альфамагазин) я атрымала за двухмесячны продаж яе лічбаверсіі (спадзяюся, бухгалтэрыя не заб'е мяне за раскрыццё сакрэтнай інфармацыі) — 9265 рублёў 95 капеек. Гэта вельмі крута. Іншыя аўтары, не настолькі папулярныя, і таго не маюць. На кніжцы «хит продаж» налеплена. Ну і яшчэ прыкладна 2000 рублёў кінулі на веб-мані. Гэта, нагадваю, першыя два месяцы, нават, дакладней, — першыя два тыдні, пік продажу. Потым пра аўтара забываюцца да выхаду наступнай кнігі.

Пиши исчо, дорогой автор, и ни в чем себе не отказывай! :)))

## КАЛІ ЧЫТАЧ СТАНЕ СУМЛЕННЫМ

Варта толькі адрэкламаваць у ЖЖ выхад кнігі, як безліч народу пачынае пытацца: «А дзе купіць лічбу, бо я з паперы не чытаю?».

Ясная справа, не ўсе чытаюць з паперы, ды і не ўсе кнігі яе вартыя.

Але.

Уражвае мяне да здзіўлення адзін тып чытачоў. Якому адказваеш: «Лічба з'явіцца на Літрэсе недзе праз месяц», а ён табе ў адказ: «Ну-у-у-у, я тады лепш пайду ў піратаў спампую, хутчэй будзе».

Ды хто ж спрачаецца, красці заўсёды хутчэй! А вы ў курсе, што DVD увогуле выходзіць толькі праз паўгода пасля пракату — але нешта я не чула прэтэнзій у духу: «Я не цярплю вашы паганыя кіношкі, дайце мне DVD у дзень адкрыцця пракату, інакш я пайду і спампую кіно ў піратаў». (То бок, пампуюць, канешне, але сумлення хапае хаця б не патрабаваць халявы так адкрыта).

…

Калі чытач стане сумленным, лічба будзе выходзіць у дзень выхаду паперы, бо яны ўжо будуць раўнавартаснымі. А пакуль «лічба» сінонім «крадзенага». Аўтар піша кнігу год. Два. Бывае, пяць-дзесяць. Не адмазвайцеся словамі: «Мне месяц чакаць, у-у-у», для аўтара гэта гучыць што здзек. Асабліва, калі «прачытаў азнаямляльны кавалак, вельмі спадабалася, пайду скраду цалкам».

## ДЗЯЎБЛА Б<br>ДА АПОШНЯГА ВОЛЬХУ

Ведаеце, мяне тут на кіеўскай сустрэчы з чытачамі запыталі: «Скажыце, а чаму вы не пішаце больш такія сур'ёзныя рэчы як "Грань"»?

Я пяць хвілін распіналася, што мне аднолькава цікава пісаць і гумар, і сур'ёзныя рэчы, а калі так, то няхай, маўляў, выбар застаецца за чытачом, які аддае перавагу першаму. Я змагу данесці свае ідэі ў якім заўгодна фармаце і выбіраю той, з дапамогай якога дастукаюся да большай колькасці людзей. Па-мойму, гэта цалкам лагічна — настаўнік жа таксама прыходзіць у клас з планам урока, які зацікавіць максімальную колькасць вучняў, а не двух ці трох зубрылаў. Гэта не значыць, што мяне цікавяць тыраж і грошы як такавыя, мне некалькі разоў прапаноўвалі пісаць праектную літаратуру, але я нязменна адмаўлялася. (Ды і ўвогуле, калі б хацела лёгкай славы, дзяўбла б да апошняга Вольху). Проста не хачу працаваць дарэмна, мне важна, каб мяне пачулі і зразумелі.

Прыязджаю додому, выходжу ў сеціва, а там: «*Стараюсь работать на аудиторию, писать легкие книги — отдачи гораздо больше, — говорит Громыко на встрече с читателями*». СОРАМ.

## ДЗВЕ ГАДЗІНЫ ШАРКАННЯ<br>АСАДКАЙ

Чамусьці некаторых людзей вельмі абурыў той факт, што я не люблю масавыя прэзентацыі. Маўляў, не паважаю сваіх чытачоў, не жадаю мець з імі стасункаў, сорамна павінна быць… Маўляў, няма чаго тут выдурвацца — радавацца павінна, што мяне любяць і шануюць!

Што маю з гэтага я? Дзве гадзіны шаркання асадкай, пасля якіх баліць галава і адвальваецца рука. Каму што падпісвала, я не памятаю. Асабліва калі гэта «прыдумайце нешта арыгінальнае незнаёмцу за 10 секунд».

Што маеце вы? Дзве гадзіны стаяння ў чарзе ці на задворках натоўпу, куды даносяцца адарваныя словы. Асабіста я па гэтай прычыне не пайшла на аўтограф-сесію ні да Гарысана, ні да Сапкоўскага. Бо проста не бачу сэнсу ў такім баўленні часу, лепш кніжку пачытаю. Іхнюю ж. Там пісьменнік са мною сам-насам.

Меркаванне чытачоў пра мае кнігі я выдатна буду ведаць з сеціва. Піяр мяне таксама

не цікавіць — на прэзентацыю ўсё роўна ідуць тыя, хто кніжкі ўжо прачытаў. Фанатства, калі людзям патрэбен сам факт: «Я жывога пісьменніка бачыў!», я не люблю і не вітаю. Дык навошта мне туды ісці? Толькі дзеля задавальнення. І атрымаць яго магу, як высветлілася, толькі ў Мінску — у добрай кампаніі, з прасторнай аўдыторыяй, з вядучай, якая чытала і любіць мае кнігі, з дзвюма гадзінамі жывой размовы з залай.

Так што падумайце, дарагія чытачы, чаго вы сапраўды жадаеце ад сустрэчы з пісьменнікам: «фота з малпачкай» ці ўсё ж гурток па інтарэсах.

### ЕДУ Я ПА ВУЛІЦЫ, НІКОГА НЕ ЧАПАЮ, РАПТАМ СВЯКРУХА ТЭЛЕФАНУЕ

Еду я па вуліцы, нікога не чапаю, раптам свякруха тэлефануе. Гарнітуры ў мяне няма, таму ігнарую. Раз ігнарую. Другі. На трэці пачынае да мяне даходзіць: у свякрухі сядзіць мой дзец, раптам што здарылася?

Раблю «бландынку» — стаўлю аварыйку пасярод дарогі і здымаю трубку.

— Оля!!! — голасам любімай свякроўкі можна вызваць Службу Выратавання да Нацыянальнай Бібліятэкі. — Оля, ты занятая?

— Я за рулём. А што здарылася?

— Ой, тады не буду табе перашкаджаць, пазвані адразу як прыедзеш, — і кладзе трубку.

Вы б змаглі ў такой сітуацыі працягваць рух? Перазваньваю.

— Што здарылася? Што з дзіцём?

— З дзіцём усё ў парадку. Оля, прабач мяне!!!

— ШТО?!

— Оля! — свякруха нарэшце набіраецца рашучасці, ледзь не плача. — Оля, мне толькі сёння сказалі! Я не ведала!

— ШТО?!

— Што трэцяга сакавіка, аказваецца, быў дзень пісьменніка! А Я ЦЯБЕ НЕ ПАВІНШАВАЛА!


Міхась Башлакоў

Янку Купалу

Нібыта ветрам выдзьмула душу...
Ні цеплыні... Адно пустое поле...
Знясіліўся... Чаго ў жыцця прашу?
Што хоча птах, які жыве ў няволі?..

Мы дажыліся: мовы ўжо няма,
Той самае, якую нёс Купала...
Скавала вусны доўгая зіма,
А значыцца, і нас ужо не стала...

„Тут беларусы некалі жылі..."
„А хто цяпер?.."
„Дзе нейкія плямёны!"
Не песнямі засеяны палі —
Беспамяцтвам і векавым праклёнам...

Чужую світку ношу, не сваю:
Чужая мова — як душа чужая...
Не збераглі мы спадчыну тваю,
Апошнія астаткі прапіваем...

О Божа светлы, Божа, памажы...
Яшчэ трымціць слязінкай
наша слова...
Ні ратнікаў... Стаю на рубяжы...
А вецер на шматкі ірве замову...

Тут беларусы некалі жылі...

18.07.2013 Міх. Б[illegible]

З цыкла „Гасподзь выбірае паэта..."

*Алена БАБІЧ*

# ХАЙ СТАНЕ МАЛЕННЕМ ВЕРШ



***Алена БАБІЧ нарадзілася 7 ліпеня 1989 года ў горадзе Баранавічы. У 2012-м скончыла філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы па спецыяльнасці «Журналістыка». Працуе галоўным рэдактарам моладзевага часопіса «Пакаленне».***

## НОЧ

Усё губляе ўласную значнасць,
Калі цень валадарыць над светам.
І салодка, і горка, і смачна
Ноч адчуць палахаючым летам.

Гучна цокаюць вострыя крокі,
Лісце шэптам са мной размаўляе,
Поўны месяц глынаюць аблокі:
Ноч жыве, калі дзень памірае.

У глыбіні цягне пустэча
Вочы — быццам у ёй патанулі.
У нябёсах крывавая сеча,
На зямлі — цішыня, ўсе паснулі.

З ветрам музыка льецца паўночная
І дурманяць магічныя водары —
У цемру цягнуць, чароўныя, змрочныя,
У паветры бягуць карагодамі.

Усё знікае ў нябесным амшары,
Людзі ў чорным блукаюць, ім цесна,
І з’яўляюцца новыя твары,
І старым не знаходзіцца месца.

Ноч дарue свае таямніцы,
Усё, вядзьмарка, чаруе над свечкай,
Напаўняе сухія крыніцы
Бедных вераю душ чалавечых.

## ІНАКУ МІКАЛАЮ

Ты казаў: «Хай стане маленнем — верш!»
Хай так.
Пра мяне памаліся,
Інак.
Пра душу маю самотную грэшную,

Ля Крыжа сабраную па рэштках.
Вершам альбо не вершам —
Хоць сказам завершаным:
«На мяжы, Божа, дапамажы».
Хай інак у малітве памяне.
Мой Божа, вырашы за мяне!

## ДА ТВОРЦЫ

Запалі вастравокія зоркі
Там, дзе дзень адыходзіць ў стагоддзі,
Каб не знікла, не згасла, не згоркла
Існаванне жыцця ў прыродзе.

Каб да кожнай хвіліны туліўся
Асаблівы, прызначаны момант,
Каб няспынна са смерцю радзіўся
Кожны раз безумоўны патомак.

Каб змяняла хвіліну хвіліна,
І каб іншая сталася новай,
Каб ламіла надвор'е галіну
І радзіла ў калысцы вясновай.

Каб адразу за горкай пакутай
З краю вуснаў вялася б усмешка,
І на баль апраналіся хутка
Усе, хто крочыў пакутнаю сцежкай.

І каб поўніўся келіх латунны,
І за бок выліваліся віны,
І каб клавішы пелі і струны,
Не спыняючы вечнай гадзіны.

І рукою сваёю уладнай
Ахіні з двух бакоў ты няспыннасць,
Каб кіпела ў варыве ладным,
Каб стварала святую павіннасць.

* * *

У поплаве туманы
Залілі вяршыні траў.
Імгла да сівой сцяны лясной
Вярталася.
Хто браў
У рукі магутнасць
Над гэтым лесам і полем?
Хто стаў, па сутнасці,
Гаспадаром?
Хто здолеў?
Забяром
Багнамі шэрымі,
Дрэвамі гострымі,
Адною вераю
Свой востраў.

Стогнамі не выманіш з дому,
Мячом не выкалеш волі,
Бо й не аддавалі яе нікому.
Ніколі.

## ПРЫЧАШЧЭННЕ, АБО ВЕРШ ПРА ДРЭННАЕ НАДВОР'Е

У гэты дзень прычасціўся кожны
Снегу вострага, ветру вольнага,
Парасоны схаваўшы ў ножны —
Бо стыхіі стрымаць не здольныя.

У гэты дзень не было абраных:
Ні святых не было збяднелых,
Ні герояў каранаваных,
Ні бяздольных варонаў белых.

У гэты дзень раскідала неба
Што хацела, куды глядзела,
Гонар ўшчэнт разляцеўся аб глебу,
І ад болю здурнела цела.

Разрывала надвор'е грудзі,
Каб на волю пусціць сумленне,
Каб з пакутамі сталі людзі
У духу новым садзіць насенне.

Нам не пяць, а не менш за тысячу
Ранаў дробных наканавана,
Каб на целе няверным высечы
Пакаяння святога рану.

Вікторыя ФЕДЗЬКОВІЧ

# ЯБЛЫКІ

*Аповесць*



***Вікторыя Федзьковіч нарадзілася 19 жніўня 1986 года ў Наваполацку. Па адукацыі гісторык-археолаг. Працуе ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Вырашыла напісаць аповесць, калі зразумела, што акрамя сур'ёзных навуковых тэкстаў шмат яшчэ цікавага ёсць у свеце. Для поўнага шчасця цяпер засталося толькі прывесці дамоў жоўценькага лабрадора.***

Ці ўдзячны вы таму чалавеку, які вынайшаў будзільнік? Тысячы, мільёны гадзіннікаў сходзяць з канвеераў вытворцаў, каб потым кожны ранак бязлітасна выцягваць вас з утульных ложкаў ды канап. І, думаю, не надта памылюся, калі скажу, што звон такіх маленькіх прыватных монстраў, якой падманліва-мілагучнай не была б мелодыя, не аднойчы прымушаў непрыемна здрыгануцца сваіх уладальнікаў. Здрыганулася ў гэту раніцу і Вера. Некалькі імгненняў яна яшчэ не магла зразумець, што адбываецца, ды і салодкі сон не хацеў адпускаць яе з абдымкаў. Так даволі часта бывае: да нас у снах-марах прыходзіць адчуванне незямной асалоды, якую немагчыма ўцiснуць у межы вядомых чалавеку слоў, і фантастычныя вобразы запаўняюць усё навокал. Але ж будзільнік... Ён як сапраўдны вартаўнік сусветнага парадку вырваў Веру з яе сноў і вярнуў у рэальнасць, якая сустрэла дзяўчыну халодным паветрам ды цемрай за акном. Ну, і як, скажыце мне, можна падняцца ў такую рань? Не, лепш так… Які дурань аднойчы ўсвядоміў патрэбу ў тым, каб уставаць у шэсць раніцы? Колькі разоў, загадзя ведаючы адказ, мы пасылалі гэтыя бездапаможныя пытанні невядомаму адрасату? Ёсць такое асабліва непрыкметнае і на першы погляд зусім не страшнае слова — праца. Гэта, як кажуць вучоныя мужы ды тэарэтыкі, адзіны шлях да грамадскага прагрэсу, які недзе ў аддаленай перспектыве абавязкова гарантуе ваша ўласнае шчасце. Праўда, Веры зранку чамусьці было не да такіх высокіх і складаных матэрый. Яна ледзь прымусіла сябе вылезці з-пад цёплай коўдры і, не ўключаючы святла, з заплюшчанымі вачыма паплялася ў ванну. Халодная вада вярнула яе да жыцця, і дзяўчына канчаткова прачнулася. Думкі, якія толькі-толькі пачалі прымаць выразныя абрысы, падсцерагала ўжо небяспека ў выглядзе шэрагаў планаў на дзень. Як жа добра было стаяць пад гарачым патокам вады. Ёй зусім не хацелася выключаць душ, бо адразу ўспаміналася прыкры холад у пакоі і па целе пачыналі прабягаць дрыжыкі. Але Вера адчувала, што зноў затрымалася больш, чым магла сабе дазволіць, а трэба збірацца. Яна абгарнулася махнатым мяккім ручніком і вылезла з ванны. Дзяўчына не паленавалася апрануць на сябе ўсю

тую кіпу адзення, якую на аўтамаце захапіла з сабой, і пайшла на кухню. Там яна звыкла і, здаецца, ужо абсалютна безэмацыйна пачала ладзіць сабе сняданак. Аднак пры ўсёй штодзённасці і зацёртасці рытуалу, Вера вельмі любіла гэты час. Заўсёды адметны і чаканы пах кавы з вяршкамі аказваў на яе магічнае ўздзеянне. А калі яшчэ была якая-небудзь пухленькая булачка з хрусткай скарыначкай ці пірог, то жыццё ўвогуле ўдавалася. Гэта было не проста ў радасць, а быў смак хоць чагосьці непахіснага. Свет на некалькі хвілін заміраў, і не заставалася нічога, акрамя кубка, рэчкі і дрэў за акном. Думкі станавіліся спакойнымі і разважлівымі. Толькі сёння ёй замест салодкай выпечкі прыйшлося задаволіцца тварагом з багетам. Якніяк, а сацыяльныя стандарты прымушалі сачыць за сваім рацыёнам. Вось так дарослае жыццё амаль незаўважна наклала лапу на лепшыя рэчы на свеце. Не пазбег сумнага лёсу і жаданы круасан — ён цяпер сярод ворагаў здароўя. Веры гэта тэорыя не надта падабалася, яна не разумела забарон, ды і каго пакіне раўнадушным добрая ежа. Праўда, грамадства… І Вера зноў і зноў ішла на кампраміс: тварог — для здароўя, а багет — для шчасця. Але гадзіннік яе павольныя роздумы пра жыццё мала хвалявалі, і Вера ўбачыла, што ўжо спазняецца. Кожны раз дзяўчына абяцала сабе больш дакладна разлічваць час, не губляючы такія каштоўныя зранку хвіліны. Але цяга да вады і геданістычны сняданак амаль заўсёды прымушалі яе потым лётаць па кватэры, не ведаючы за што перш-наперш хапацца: ці то за валасы і твар, ці то за адзенне. Вера ўспомніла, што абяцалі пахаладанне, і падышла да тэрмометра. Так і ёсць — мінус дваццаць пяць. «І калі ж гэта скончыцца?» — падумала яна. Вера зусім не любіла халоднае надвор'е, а калі да гэтага дадаць яшчэ зімовую цемру ды неабходнасць некуды ісці, то станавілася вельмі складана прыдаць дню хоць нейкі пазітыўны настрой. Яна не магла вырашыць, як жа апрануцца ў такі мароз. Праз пятнаццаць хвілін у калідоры стаяла і разглядала сябе ў люстэрка закутаная з ног да галавы жаночая постаць, якая мала чым паходзіла на дробненькую дзяўчыну пад душам. Зіма, аднак. Людзі на вуліцы апошнімі днямі нагадвалі Веры нейкіх бясполых іншапланетных стварэнняў, бо за іх адзеннем, шапкамі і шалікамі не было бачна нічога акрамя вачэй ды насоў. Ідэальны камуфляж для інтравертаў. Вера абулася і пазвала: «Герман, я пайшла! Праводзіш мяне?». Даволі хутка ў калідоры з'явіўся сонны малады мужчына. Ён пацалаваў дзяўчыну і зачыніў за ёй дзверы.

* * *

Вера выйшла з пад'езда і адразу апынулася ў палоне ледзянога паветра. Яна адчувала сябе ледзь не голай, зусім безабароннай перад стыхіяй. Дзяўчыне падабаўся звычайна ўмераны, без катаклізмаў, клімат краіны, і таму такія выбрыкі прыроды падаваліся ёй чымсьці анамальным. «Да прыпынку ісці хвілін дзесяць», — яна аж паморшчылася ад сваёй думкі. Вера ведала кожны сантыметрык на гэтай дарозе і магла з дакладнасцю да секунды вызначыць, колькі ёй спатрэбіцца часу, каб дабрацца да любой больш-менш заўважнай кропкі на яе шляху: да школы, да медыцынскай лабараторыі, да парку. Яна выходзіла на працу рана, калі раён яшчэ спаў, і кампанію ёй складалі бадай што толькі суровыя бацькі, якія ледзь не сілком цягнулі сваіх дзяцей у садок. Вера раўнадушна адносілася да такіх выпадковых сяброў па няшчасці, але нават ёй было шкада малых, бо вельмі рэдка яны з задавальненнем ішлі за сваімі праважатымі. Дзяўчына не магла зразумець, як у бацькоў хапае духу пакідаць заплаканых чатырохгадовых дзяцей у садку. Ёй гэта здавалася нейкім агульнапланетарным падманам і несправядлівасцю: спачатку нараджаць, а потым аддаваць на выхаванне чужым людзям. Хіба што гадзіна-другая вечарам гэта тое, для чаго іх і планавалі.

— Вера! — пачуўся жаночы голас з-за спіны. Яна павярнулася і зразумела, што звярталіся не да яе, а да вялікай і паважнай аўчаркі, і шпарка пакрочыла далей. Ужо амаль каля прыпынку дзяўчына ўбачыла патрэбны ёй трамвай і паспяшалася да яго. У салоне было холадна, але калі параўнаць з тым, што адбывалася на вуліцы, то тут мажліва нават крыху сагрэцца. Вера села каля акна і пачала назіраць за людзьмі. Гэта ўлюбёны занятак дзяўчыны ў транспарце. Публіка ў трамваі ў плане цікавасці заўсёды выйгравала, асабліва адносна тралейбуса, які меў выразна пралетарскае аблічча. Жанчыны ў капялюшыках і паліто, акуратненькія і чысценькія пенсіянеры, мужчыны са скуранымі партфелямі і пафігісты студэнты… Усіх іх аб'ядноўвала нейкая агульная інтэлігентнасць знешняга выгляду, што для непатрабавальнага грамадскага транспарту не заўсёды ўласціва. Вера таксама любіла знаходзіць сярод людскога натоўпу выразныя жаночыя твары. І калі ў дзяўчыны атрымлівалася заўважыць адпавядаючы яе эстэтычныму густу аб'ект, яна радавалася свайму адкрыццю нібы сапраўдны знаток. Аднак у гэты ранак ёй не пашанцавала. У трамваі было шмат людзей, і ўбачыць каго-небудзь акрамя дзвюх даволі таўставатых суседак гадоў пяцідзесяці ў смешных і недарэчных шапках-кацялках Вера так і не змагла. Яна задумалася і ледзь не прапусціла свой прыпынак.

У офісе Веру ўжо чакалі. Галоўны рэдактар хацеў даручыць ёй нейкае важнае інтэрв'ю з вядомай спартсменкай. Дзяўчына падышла да свайго стала і падумала, як жа шмат усяго трэба зрабіць. Часопіс выходзіў кожны месяц, таму працы звычайна было болей, чым трэба. Вера не магла нават дакладна сказаць, ці падабаецца ёй гэта. З аднаго боку, цікава, добрыя перспектывы для развіцця ды і асалода ад адчування ўпэўненасці ва ўласных сілах і магчымасцях. Гэта той яшчэ допінг. Але Веру засмучала тое, як шмат праца забірала ў яе, не пакідаючы аніякай вольнай прасторы ў жыцці. Яе ўжо не задавальнялі вартыя жалю рэшткі часу на сябе і сям'ю. Яна ўключыла камп'ютар і пачала працаваць. Славалюбства ды невынішчальная рэінкарнацыя выхавання зноў святкавалі перамогу над чалавечай натурай.

Калі Вера скончыла артыкул для чарговага нумара, на гадзінніку было дванаццаць. Яна так паглыбілася ў тэкст, што не заўважыла, як праляцеў час. Дзіўна, але сёння ёй так лёгка ўдалося засяродзіцца і адмежавацца ад размоў калег і шуму ў рэдакцыі. Бывалі дні, і яна з задавальненнем станавілася часцінкай гэтага гулу. Але, калі дзяўчына пачынала пісаць, яна змянялася да непазнавальнасці. Калегі не раз заўважалі, што Вера, звычайна даволі эмацыйная і жартаўлівая, у час працы рабілася сур'ёзнай і стрыманай, а ў голасе з'яўляліся халодныя ноткі. Мала хто рашаўся турбаваць яе ў такія моманты. Але нягледзячы на пэўныя падводныя камяні, Вера адчувала сябе ў рэдакцыі цалкам камфортна. Ёй былі даспадобы адносіны паміж супрацоўнікамі без залішніх складанасцей і ўмоўнасцей. Можа, толькі адсутнасць схільнасці да прылюднага абмеркавання асабістага жыцця прыносіла ёй крыху дадатковага клопату.

Вера перачытала артыкул і адправіла яго рэдактару. Цяпер можна расслабіцца. Яна паставіла чайнік і адкрыла на маніторы навіны. Дзяўчына з маленства мела незвычайна моцную сувязь з тым месцам, дзе нарадзілася, і ўпарта працягвала лічыць абыякавасць у адносінах да яго, смяротным грахом. Калі цябе не цікавіць твой дом — гэта праява маладушша ці сведчанне непрабіваемай абмежаванасці. І першае, і другое — канец асобы. Можа, тое, што яна любіла пасядзець і падумаць пра жыццё каля магілак сваіх прапрадзедаў, і вызначыла яе непарыўнасць з уласнымі каранямі.

— Вера Паўлаўна, зайдзіце да мяне, — паклікаў галоўны рэдактар.

Яна зайшла ў кабінет, і ў тую ж хвіліну зазваніў тэлефон. Рэдактар зняў трубку, паспеўшы толькі прамовіць:

— Пачакайце, калі ласка, пару хвілінак.

— Добра, Алег Аркадзьевіч. Я нікуды не спяшаюся, — адказала Вера і падышла да велізарных, на ўсю вышыню пакоя, вокнаў, за якімі адкрываўся шыкоўны выгляд на парк і будынкі з сучаснай архітэктурай. Кабінет поўніўся светам і свежым паветрам. Сонца свяціла так ярка, аж Веры нават не верылася, што звонку цяпер мароз і сцюжа. Яна грэлася ў промнях і ледзь заўважна сачыла за рэдактарам. На яго прыемна глядзець. Алегу Аркадзьевічу гадоў сорак ці крыху менш. Ён выглядаў маладзейшым за свой узрост, але яго выдавалі першыя пасівелыя прышэльцы ў цёмных і густых валасах. Рукі, скулы, цела — усё аблічча мужчыны было да жудасці прыцягальным. У кожным руху адчувалася самадастатковасць і ўпэўненасць. Дзяўчына магла так прастаяць і гадзіну ў задуменні, але голас рэдактара вярнуў яе на зямлю:

— Вы памятаеце пра інтэрв'ю?

— Так. З мадам «першай ракеткай», — Веры прыйшлося прыкласці пэўныя намаганні, каб яе замілаванне не было зусім відавочным.

— Усе афіцыйныя моманты ўжо вырашаны, таму рыхтуйцеся праз тыдзень.

— Магу і раней.

— Не ўпэўнены. Здымкі і інтэрв'ю пройдуць у Манака, — яго інтанацыя не змянілася ні на кроплю.

— Вы гэта сур'ёзна? — Верын голас загучаў значна вышэй.

— Абсалютна. Нам патрэбна добрая вокладка.

— Можна, я пайду, пакуль вы не перадумалі?

— Ідзі, — і на сур'ёзным твары Алега Аркадзьевіча з'явілася цёплая ўсмешка. — Пагавары толькі з фатографам і кампаніяй.

Вера выйшла з кабінета і асцярожна, нібы баючыся спалохаць удачу, зачыніла за сабой дзверы. Яна яшчэ доўга потым прыгадвала навіну і роўны голас свайго галоўнага рэдактара.

* * *

Алег Аркадзьевіч устаў з-за стала і пачаў хадзіць па пакоі. На яго твары не засталося і знаку ад таго паважна-нядбайнага спакою, які ён дэманстраваў у прысутнасці Веры. Вось ужо два гады як гэта дзяўчына з'яўлялася галоўнай прычынай перыядычнага вэрхалу ў яго галаве. Ён жа так і не здолеў прыдумаць хоць нейкую назву сваім пачуццям. Алег Аркадзьевіч не ведаў, што адчуваў да яе. Гэта не каханне, але і не проста фізічнае жаданне. Гэта невядома што. Ён не сустракаў іншай жанчыны, у якой бы прырода так спакусліва спалучыла востры, па сутнасці мужчынскі, розум з норавам коткі. Яе незвычайны твар і гнуткае цела не аднойчы яўляліся яму ў марах, але іх жа ён бачыў і ў кашмарах. Алег Аркадзьевіч лепей бы адрэзаў сабе палец, чым паказаў каму-небудзь, а тым больш ёй, сваю слабасць. Яму было сорамна за гэту празмерную ўразлівасць нават перад уласным ладам жыцця. Ён — Алег Аркадзьевіч, дырэктар медыяхолдынгу, які сярод шмат чаго яшчэ іншага належаў яго сям'і. А дома жонка і дзве дзяўчынкі з залатымі валасамі. Ні разу за гады шлюбу яго не наведала думка пра развод. У асяроддзі Алега Аркадзьевіча так ніхто не рабіў і гэта цалкам задавальняла ўсе зацікаўленыя бакі. Рэпутацыя, ад якой у пэўным сэнсе залежаў фамільны бізнес, у яго сістэме каштоўнасцей мела бясспрэчнае значэнне. Стала сумна — грошы і жанчыны ці што-небудзь іншае за грошы. Зручная будова свету і аніякіх залішніх хваляванняў. Ды і ўвогуле, ён да

гэтага часу заставаўся на пасадзе галоўнага рэдактара выдання толькі з-за свайго сентыментальнага фетышызму — менавіта тут калісьці пачалася кар’ера. Таму цяпер Алегу Аркадзьевічу было асабліва складана прызнаць, што нехта можа вось так проста ўнесці сумяціцу ў жыццё, дзе няма месца нечаканасцям. Ён не раз абяцаў сабе звесці ўсе кантакты з Верай да мінімуму, але потым зноў і зноў шукаў сустрэч з ёй. Адным сваім існаваннем у гіпатэтычнай дасягальнасці дзяўчына дадавала колераў новаму дню, а гэтага дастаткова, каб ведаць, што ён усё яшчэ жывы. Алег Аркадзьевіч зрабіў Веру прыватным сакрэтам, які збольшага мог кантраляваць у адпаведнасці з уласнымі ўяўленнямі.

* * *

«Добра, што сёння пятніца», — падумала Вера і набрала нумар Германа.

— Як ты там? — запытаўся прыемны мужчынскі голас на іншым канцы правады. І Веры адразу зрабілася неяк спакайней. Калі яна чула Германа ці знаходзілася побач з ім, то невядома адкуль у яе з’яўлялася безумоўная ўпэўненасць, што ўсё абавязкова будзе добра, і страхі ды хваляванні адпускалі яе. Калі яны шукалі якоенебудзь незнаёмае месца ці прыязджалі ў новы горад, Вера не старалася самастойна знайсці дарогу, а проста ішла за Германам. Яна ўжо не магла ўявіць сваё існаванне без гэтага чалавека.

— Нармальна. Нешта стамілася. Што з нашымі планамі на вечар?

— Нічога не змянілася. Сустракаемся, як і дамаўляліся, у «Еўропе» ў сем.

— Дзіўна. Як гэта ў такое надвор’е ніхто не перадумаў? — Вера была задаволена.

— І не кажы. Можа, пятніца ва ўсім вінавата?

— Ага. Думаю, дзеля парачкі бакальчыкаў у гэты дзень і мароз не ахвяра.

— Заеду за табой у чатыры, — па летуценна-цягучых нотках у голасе Веры ён беспамылкова вызначыў, што яна паспела ўявіць, які напой будзе перад ёй.

— Добра. У мяне ёсць навіны.

Рэшту дня Вера правяла ў чаканні яго завяршэння. Ранішняя размова з Алегам Аркадзьевічам і надыходзячыя выходныя не спрыялі працоўнаму настрою. Яна выйшла з рэдакцыі і накіравалася да чорнай Volvo, якая праз пару хвілін везла сваіх гаспадароў па замёрзлых вуліцах горада. Незвычайная пара, на якую складана было не звярнуць ўвагу. Яны сапраўды выглядалі як ажылыя героі фільма якога-небудзь рэжысёра-класіка. Можа, Лелуша. Ці Рэнэ. Стройныя і падцягнутыя фігуры, цікавыя твары, з густам падабранае адзенне. Перад такім прывабным знешнім вобразам мала хто мог утрымацца. Людзям было лёгка і проста з гэтай парай, з-за чаго іх дом нярэдка станавіўся прытулкам для жадаючых пагаварыць. Але калі б хто запытаўся ў сяброў, што яны ведаюць пра адносіны Веры і Германа, то тыя наўрад ці змаглі даць нейкі лагічны адказ. Ды што сябры. Бацькі не ведалі, як жывуць іх дзеці. Як толькі яны пазнаёміліся, адразу зразумелі, што іх сусвет будзе толькі для дваіх і ў ім не знойдзецца месца іншым. Сваякі не раз папракалі за адасобленасць, але міналі гады і станавілася зразумела, што менавіта такім чынам Вера і Герман пазбавілі сябе велізарнай колькасці бязглуздых і нікому не патрэбных праблем. Калі гэта ўвогуле магчыма, то іх шлюб можна было назваць гарманічным. Сэрца дзяўчыны па-ранейшаму змяняла рытм, як толькі чула побач з сабой знаёмы пах парфумы Германа. І калі не лічыць крыху даўжэйшых, чым прынята, поглядаў на галоўнага рэдактара, Вера да гэтага часу заставалася зачараванай мужам. У яе таксама амаль не было канкурэнтак. Акрамя яго працы. І дзяўчыне вельмі не хацелася, каб аднойчы Герману прыйшлося выбіраць паміж ёй і ўласнымі амбіцыямі.

* * *

У бары было шматлюдна. Вера зняла паліто і прысела ў самым закутку століка. Герман размясціўся насупраць. Яна добра бачыла ўсіх прысутных, але сама пры гэтым заставалася амаль незаўважнай. У яе не было асаблівага настрою размаўляць, і дзяўчына засяродзілася на церпкім смаку глінтвейну. Вера слухала павольныя расповеды сяброў, назіраючы за імі са сваёй зручнай схованкі. Гарачы напой саграваў яе і расслабляў цела. Дзяўчына адкінулася на спінку канапкі і заплюшчыла вочы. Амаль фізічна адчувала, што турботы і напружанне адпускаюць яе. Але пакуль не атрымлівалася спыніць шалёны калейдаскоп у галаве. Розум заўсёды здаваўся апошнім, старанна абараняючы сваю ўласнасць — мешаніну з думак ды фантазій.

— Вера, не спі, — Тоня не мела настрою на далікатнасць.

— Не, я вас слухаю.

— Раскажы лепей, куды сабралася праз тыдзень?

— У Германа язык доўгі? — Вера з жартаўлівым дакорам паглядзела на мужа.

— Ага.

— Ну, не ведаю. Я пачынаю ўжо бачыць у гэтым гісторыю з пасткай і бясплатным сырам. У чым падвох? — цяпер яна казала ўжо сур'ёзна.

— Вера, перастань. Ты едзеш таму, што разумная і як ніхто іншы заслугоўваеш такога падарунка.

— Але вельмі нечакана. З нашым босам можна з глуздоў з'ехаць. Ён калі мне казаў пра інтэрв'ю, у яго быў такі каменны выраз твару, нібы я на суседнюю вуліцу, а не ў Манака за матэрыялам збіраюся.

— Уладальнік заводаў, караблёў, параходаў… Што цябе здзіўляе? Ён за сваё жыццё там разоў дваццаць быў. Ты ж ведаеш, што гэта за сямейка.

— Так. Але я ўсё яшчэ не магу зразумець, як можна заставацца такім халодным. Мне часам здаецца, што ён толькі прыгожая статуя, а не чалавек.

— Не засумуеш з тваім дзядзечкам, — Тоня хацела сказаць нешта яшчэ, але прынеслі іх заказ, і размова перарвалася. Потым узніклі іншыя тэмы і гісторыі. Вера зноў адасобілася. Яна паглядзела на Германа, які даволі жвава нешта тлумачыў сябрам, на астатніх, якія паспелі падзяліцца ўжо на групкі, і зноў задумалася. Як абсалютна чужыя людзі становяцца сябрамі? Вера ўжо не раз сутыкалася з дасканаласцю гэтай сувязі, часта больш бескарыслівай і шчырай, чым кроўная роднасць. Яны аднойчы разважалі з Германам, што было б нядрэнна на старасці год стварыць нешта накшталт сяброўскай камуны для блізкіх па духу людзей.

Апошнім прыйшоў Антон: — Прабачце, гэта дурная праца мяне калі-небудзь заб'е.

— Не перажывай. Думаю, яна зробіць тое ж самае з кожным з нас, — адказ Германа прагучаў больш рэзка, чым ён разлічваў.

— О, гляджу, нехта добра ўладкаваўся, — звярнуўся Антон да Веры. — Пасунься, я да цябе.

— Давай, — адказала дзяўчына і зразумела, што яе адасабленне скончана. Але яна радавалася Антону. Калі дзяўчына ўбачыла яго, у вачах адразу з'явіліся вясёлыя чарцяняткі. Яны ведалі адно аднаго яшчэ са школьных гадоў, але гэта іх не стамляла. Герману не падабаліся такія занадта блізкія, на яго погляд, адносіны. Неяк ён не ў зусім ветлівай форме выказаў жонцы сваё меркаванне пра яе сябра, на што атрымаў ад звычайна мяккай і незлаблівай дзяўчыны жорсткі адказ. Сам таго не разумеючы, Герман не мог дараваць Антону простай рэчы — той займаў шмат месца ў жыцці Веры, а гэта было выключна яго прэрагатывай.

* * *

Герман прачнуўся першым. Сонечнае святло паспела ўжо пранікнуць у пакой. Ён паглядзеў на Веру. Такая безабаронная і сапраўдная. Яму хацелася пабудзіць яе, але Герман пашкадававаў. Ён ціхенька вылез з ложка і пайшоў на кухню зрабіць кавы.

Герман — малады хірург з вялікай будучыняй. Удзячныя пацыенты не раз казалі, што яго рукі — дарунак Божы. Чамусьці яны не жадалі бачыць за паспяховымі вынікамі аперацый упартай і знясільваючай працы чалавека над сабой. Бясконцыя даследаванні і вопыты, канферэнцыі. Сваркі і спрэчкі з Верай з-за начэй і выходных, праведзеных не дома, а ў выніку — Божы дарунак. Цяжка сказаць, ці была апантанасць Германа працай, выключна праявай любові да чалавецтва. Так, ён не дазваляў свайму раўнадушшу да чужых пакут і болю разрастацца і ўсё яшчэ адчуваў гіпертрафіраваную адказнасць за лёс тых, хто апынуўся на яго стале. Але меліся ў гэтай самаадданасці і зусім іншыя матывы. Тыя, што прымушалі яго яшчэ ў школе гадзінамі сядзець над падручнікамі, каб потым паказаць лепшы вынік у класе, ці да знямогі трэніравацца ў басейне дзеля перамогі над сапернікамі. З гадамі асабліва нічога не змянілася, толькі мэты выраслі разам з Германам — ад дзіцячай сутычкі з хлопцамі ў садку да барацьбы за званне лепшага з лепшых дактароў сучаснасці. У Веры атрымлівалася крыху стрымліваць яго перфекцыянізм. Як толькі яны пазнаёміліся, Герман адышоў ад пастаяннай барацьбы за новыя вяршыні, але звычка зрабіла сваё, і з часам ён зноў пачаў змагацца за Алімп. Вера магла толькі здагадвацца, як шмат азначае для яе мужа такое спаборніцтва. Сам Герман гэта старанна хаваў і, дарэчы, у яго няблага атрымлівалася.

— Чаму не разбудзіў мяне? — Герман пачуў за спінай голас Веры. Яна стаяла босая, у яго любімай кароценькай і такой прыемнай на дотык чорнай кашулі. Герман пасадзіў дзяўчыну на калені і наліў кавы з вяршкамі.

— Толькі ты можаш так бессаромна падняць чалавека з ложка.

— Мне сумна адной, таму і падымаю, — прамовіла Вера і пацалавала яго ў няголеную шчаку. — Ты рады, што я еду ў Манака?

— Канешне. Гэта павінна пацешыць тваё славалюбства. А значыць, у цябе будзе добры настрой і ты дасі мне пару дзён пажыць спакойна.

— Хто б казаў, — парыравала Вера. — Давай лепей вырашым, чым будзем сёння займацца.

— Добра, цяпер прыму душ, і пагаворым.

Герману прапанавалі кантракт у адной з клінік Швейцарыі. Статус, грошы, прызнанне — яго мары здзяйсняліся. Каб не Вера, ён бы пагадзіўся ў тую ж секунду, а з ёй яму спатрэбілася цэлая хвіліна. Увесь ранак ён думаў, як сказаць жонцы пра навіну. Герман добра разумеў, што для Веры пераезд азначае істотнае запавольванне кар'ернага росту. Але ён быў маральна гатовы падштурхнуць яе да такога рашэння. Не таму, што ён не дастаткова кахаў яе. Проста Герман лічыў гэта правільным. Падаўленне пэўных якасцей характару патрабуе ад асобы тытанічных намаганняў, на якія мала хто здольны. І Герман не быў у іх ліку. Ён зусім не жадаў бачыць у сваім паляванні на зоры парок ці пагрозу для чысціні сумлення. Цяпер яго больш хвалявала не магчымая страта Веры, а яе супраціў. Герман ведаў, што яна не пазбаўлены амбіцый чалавек і так проста ад іх не адмовіцца. Але ён ведаў і тое, што яго жонка за гады шлюбу абсалютна развучылася існаваць самастойна і наўрад ці адважыцца жыць без сям'і. Гэтай перавагай і планаваў скарыстацца Герман. Ён, як і належыць добраму хірургу, без лішніх слоў і рухаў выбраў найбольш удалы варыянт далейшых дзеянняў і вырашыў пагаварыць з ёй пасля вяртання з Манака.

* * *

Вера выйшла з гатэля. Ёй зусім не спадабалася сустрэча з тытулаванай спартсменкай. Спалучэнне інтэлектуальнай беднасці і знешняй пасрэднасці субяседніцы аказалі на яе самае негатыўнае ўражанне. Вера навучылася паважаць добрыя манеры і вытанчанасць, якія замянялі людзям з грашыма і статусам філасофскія разважанні пра жыццё, але тут не было і гэтага. Тэнісістка падалася абсалютна пустой і нават у нечым агіднай. На прыканцы размовы Вера ўвогуле не магла пазбавіцца ад думкі, што ёй трэба стварыць з гэтай абмежаванай і непрыемнай жанчыны ідэальны вобраз паспяховай прадстаўніцы свайго часу.

— І як табе? — запытаўся фатограф.

— Мне трэба выпіць і памыцца, — у Веры не было больш сілы стрымліваць сябе.

— І мне спадабалася, — здзекліва дадаў ён.

— Глеб, лепей бы яна ніколі не здымала спартыўны касцюм. Ён надае хоць нейкі сэнс яе існаванню.

— Так… Сустрэнемся вечарам. Не хачу, каб адзіным успамінам пра Манака была гэта мадам. Трэба абавязкова нечым разбавіць расчараванне.

Вера вярнулася ў свой нумар і адразу пайшла ў душ. Ёй нясцерпна хацелася змыць з сябе паследак інтэрв'ю. Вечарам дзяўчыну запрасілі на свецкую тусоўку, і цяпер яна гэтаму радавалася. Вера зняла ручнік і стала каля люстэрка, нібы жадаючы ўпэўніцца ў сваёй фізічнай дасканаласці, а потым, не спяшаючыся, з асалодай пачала збірацца. Глеб абяцаў зайсці ў шэсць.

Вялікі асабняк, дзе праходзіла вечарынка, быў як змаляваны з фотаздымка стагадовай даўніны. Вера не бачыла раней такіх. У першыя хвіліны ў дзяўчыны ўзнікла адчуванне, што яна і сама стала кропкай на старым кадры. Яе дзіўная ўласцівасць як належнае ўспрымаць усё навокал абараніла Веру і цяпер. На твары дзяўчыны не бачылася ні разгубленасці, ні празмернай уражанасці, якія часта выдаюць чужынцаў у падобным асяродку раскошы. Здаецца, што калі б перад ёй з'явіўся які-небудзь манарх, яна і не здзівілася б. Паўсюль было шмат шампанскага, нязвыклых і таму яшчэ цікавых людзей. Потым зноў шампанскае. Атмасфера дома па дурманячым уздзеянні на розум мала ў чым саступала пеністаму напою. Вера і не заўважыла, як апынулася побач з тым, пра што потым, раніцай, абавязкова шкадуюць. Колькасць выпітых бакалаў перасягнула ўсе магчымыя межы, і яна разам з вясёлай кампаніяй з асабняка трапіла ў клуб. Побач пастаянна знаходзіўся нейкі мужчына. Захмялела Вера не адразу, змагла ацаніць пікантнасць моманту. Праўда, гэта не перашкодзіла ёй замест гатэля выбраць танцпол. Там яе і знайшоў Алег Аркадзьевіч.

— Вера, давайце я вас адвязу ў гатэль.

Затуманеная алкаголем свядомасць усё ж падала дзяўчыне сігнал, што дрэнна, калі кіраўніцтва бачыць падначаленых у такім стане. Вера паспрабавала зрабіць больш сур'ёзны выгляд.

— Добра, — гэта ўсё, на што яе хапіла.

Вера прачнулася ад тэлефоннага званка. Яна расплюшчыла вочы і адразу адчула моцны галаўны боль, што, здавалася, праз хвіліну галава разваліцца на сотні маленькіх кавалачкаў. Пакрыху яна стала ўзгадваць падзеі мінулай ночы. Але, як толькі дзяўчына ва ўспамінах дабіралася да таго месца, калі на танцполе з'явіўся Алег Аркадзьевіч, яе ахоплівала пачуццё больш непрыемнае, чым ранішняе пахмелле. «Як я магла такое ўтварыць?! Ён дакладна мяне звольніць. Я б звольніла!» — трэціравала сябе Вера. Не без намаганняў яна паднялася і паспрабавала замаскіраваць

хаця б знешнія прыкметы ўчарашняга вяселля. Вера не памятала, як апынулася ў нумары, і вельмі спадзявалася, што дабралася да яго самастойна.

Вечарам яна вярталася дамоў, а яшчэ трэба сустрэцца з калегамі, каб скончыць справы. Вера разлічвала, што тыя раскажуць ёй хоць што-небудзь пра яе ўчарашняе фіяска. Яна спусцілася ў нумар да фатографа, але аднаго погляду на яго хапіла, каб зразумець усю дарэмнасць сваіх надзей. Было абсалютна відавочна, што вечар ён правёў не горш за Веру. Пакуль Глеб збіраўся, яна прыйшла да высновы, што адзіным сведкам яе прыгод быў галоўны рэдактар. «І прынёс жа яго чорт у гэты бар. Не мог знайсці сабе іншы», — па дарозе ў студыю Вера адшукала вінаватага. Алег Аркадзьевіч быў ужо там. Веры хацелася праваліцца скрозь зямлю, але яна была б не яна, каб дазволіла яму заўважыць гэта. Дзяўчына прымусіла сябе паглядзець на Алега Аркадзьевіча. На яго твары не чыталася ні воднай падказкі, якая б дапамагла Веры высветліць фінал учарашніх падзей, альбо стаўленне галоўнага рэдактара да іх. Ён падышоў да яе і, нібы нічога не здарылася, сказаў:

— Вера, завяршайце ўсе справы. Сустрэнемся на наступным тыдні. Я яшчэ затрымаюся тут. Да свайго прыезду чакаю гатовы матэрыял.

Яна бачыла, што калі сама не запытаецца, то ніколі і не даведаецца, чым усё скончылася.

— Алег Аркадзьевіч, у мяне да вас пытанне, — як жа ёй цяжка было выціснуць з сябе словы.

— Так, калі ласка.

— Як я ўчора трапіла ў нумар?

— Я вас аднёс, — прамовіў Алег Аркадзьевіч. — Прабачце, але мне трэба ісці.

Вера так і засталася стаяць пасярод пакоя. Яна не магла зварухнуцца. Даўно не адчувала такога пякучага сораму. І абражанага самалюбства. І, здаецца, апошняе даймала яе больш за ўсё іншае. Гэта быў удар ніжэй пояса. Потым ужо, у самалёце, імкнучыся знайсці для сябе апраўданне, Вера спрабавала ўбачыць у абсалютна нейтральных словах галоўнага рэдактара смяротную крыўду. Але разумела, што гэтыя слабыя і няўпэўненыя пошукі не ў стане супакоіць яе расхваляванае і прыніжанае эга.

У аэрапорце яе сустракаў Герман.

— Ну, як?

— Супер! — усміхнулася Вера і пацалавала мужа. Яна і не думала распавядаць яму пра свае прыгоды.

* * *

Мінуў тыдзень перад тым, як Герман вырашыў, што надышоў зручны момант для размовы з Верай. Ён добра падрыхтаваўся і стараўся звяртаць увагу нават на дробязі: словы, аргументы, яе рэакцыя. Але калі настаў час дзейнічаць, Герман усё роўна пачаў хвалявацца, і яго, здавалася б, татальны кантроль над сітуацыяй захістаўся. Ён так імкнуўся да гэтай размовы, не спыняўся ні перад чым, а тут на табе — расхваляваўся. Швейцарыя без Веры радавала яго значна меней. Ён не мог цяпер і ўявіць, што жыў калісьці без яе. Яна была тым чалавекам, якому ён прыносіў свае медалі, для Германа было неабходным, каб Вера іх бачыла.

Ён яшчэ з паўгадзіны збіраўся з духам і ўрэшце звярнуўся да жонкі:

— Вера, ты паедзеш са мной у Швейцарыю?

— Табе прапанавалі кантракт? — яна запыталася першае, што прыйшло ў галаву.

— Так. І на вельмі прыемных умовах, — у Германа з’явілася спадзяванне, што не ўсё так дрэнна.

— Калі? — голас Веры стаў больш рэзкім.

— Восенню.

— На колькі? — яна не давала Герману магчымасці перавесці дух.

— Для пачатку гады на два.

— І што я там буду рабіць?

— Насалоджвацца жыццём. Знаёміцца з краінай, — яго прапанова гучала чамусьці не так пераканаўча, як планавалася першапачаткова.

— Ну, я думаю, мне гэтага хопіць максімум на год. А што далей? — Вера спрабавала адначасова і схавацца за пытаннямі, і выйграць час.

— Вывучыш мову і знойдзеш сабе які-небудзь занятак.

— А мне здаецца, што я ўжо дастаткова ў сваім жыцці вучылася, — яна ўсё больш раздражнялася.

— Вера! Кантракт — добрая магчымасць, і ты цудоўна пра гэта ведаеш, — жончына вымушаная злосць была для Германа сігналам да наступлення.

— Я не супраць. Проста хачу разабрацца, навошта яно мне? І табе.

— Адкуль такія дурныя пытанні? Ты не ўпэўнена, што быць хірургам у Швейцарыі лепей, чым тут?

— Добра. Навошта гэта табе, я больш-менш зразумела. А што наконт мяне?

І тут Германа чакала непазбежная сустрэча з бессэнсоўнасцю ўсёй яго падрыхтоўкі. Вера шмат для яго значыла, каб ён змог вось так проста вырашаць за яе. Яму зрабілася сорамна за свае думкі. Герман адчуваў сябе раздаўленым і пераможаным.

— Таму што мы сям'я, — толькі і змог прамовіць ён. — Вера, ты паедзеш са мной?

— Не ведаю. Пакуль не гару жаданнем. Ну, скажы, чаму нейкая паперка з двухгадавым кантрактам для цябе больш каштоўная, чым я, наш дом, тая ж калекцыя часопісаў на паліцах, якую мы збіралі не адзін год і якую ты не забярэш з сабой? Усё гэта тваё жыццё і яно сапраўднае, — Вера не ведала, адкуль гэтыя словы з'явіліся ў яе галаве.

— Я разумею ўсе плюсы і мінусы. Але хацеў бы паспрабаваць. Ты мяне падтрымаеш? Ты абяцала, — гэта быў яго апошні аргумент.

— Герман, трэба думаць. Для мяне гэта больш складанае і сур'ёзнае рашэнне, чым для цябе. Кактэйлі каля басейна, канешне, цуд. Але больш падыходзяць для мар.

— Вера...

— Давай пагаворым крыху пазней.

Вера ўстала і пайшла ў ванну. Навіна заспела яе знянацку. У поўнай разгубленасці яна сядзела на падлозе і глядзела, як льецца з крана вада. Вера адчувала, што калі-небудзь сутыкнецца з падобным, але ўсё роўна не была да гэтага падрыхтавана. Яна і цяпер асабліва не хацела прызнаваць факт, перад якім яе паставілі. Вера, як і шмат хто на зямлі, не любіла вырашаць праблем, а калі сутыкалася з імі лоб у лоб, то спадзявалася на цудадзейнае ўмяшальніцтва вышэйшых сіл. Да восені ж шмат часу, і ўсё можа змяніцца.

* * *

Яе зноў зацягнуў звыклы лад жыцця. Ды і Герман больш не спрабаваў вяртацца да папярэдняй размовы. Сама ж Вера была так занята на працы, што і не заўважыла, як дрэвы маладой лістотай заявілі пра надыход вясны. Неяк яна выйшла з рэдакцыі і здзіўлена паглядзела навокал сябе: «І калі яны толькі паспелі вырасці?» Дзяўчына адчувала сябе стомленай і выматанай. «Можа, і праўда паехаць у Швейцарыю на

кактэйльчыкі», — разважала яна сама з сабой па дарозе дамоў. Але цяпер Вера чакала крыху іншага. Звычайна летам яны з Германам пару тыдняў праводзілі за горадам, у бабулі Веры. Яна любіла збягаць туды ад халоднай зімы і доўгіх працоўных дзён у офісе. Хаця б у марах. Вера заплюшчвала вочы і ўяўляла рыбалку на старой драўлянай лодцы. Яна бачыла, як хвалі ледзь заўважна калышуць паверхню вады, і да яе можна амаль дакрануцца. Бязмежжа вольнай прасторы і паветра. Гэта была свабода, а значыць, і магчымасць дыхаць на поўныя грудзі. Там яе персанальная Мека.

* * *

Вера расплюшчыла вочы, калі ўвесь пакой запоўніўся сонечным святлом. Гадзіннік паказваў толькі сем раніцы. Дзяўчына не пераставала здзіўляцца таму, як рана прачынаецца ў вёсцы. Вера ўстала з ложка і прыслухалася да гукаў на двары. Птушкі. Машкара. І бабуліны куры. «О, так! Як жа мне вас не хапала». Яна выйшла на ганак і адразу апынулася ў невялікім і ўтульным яблыневым садзе. Першыя дні адпачынку Вера ўсё яшчэ не магла паверыць, што сапраўды тут. Ніяк не магла супакоіць уласныя эмоцыі і пачуцці. Яна падышла да адной з яблынь і дакранулася рукой да шурпатай кары дрэва. Падалося, што яна адчувае жыццё, якое бруіцца ў яблыні. Па старой звычцы Вера вырашыла праверыць свае ўладанні і падышла да агародчыка, дзе па-ранейшаму раслі бабуліны півоні. Ружовыя, белыя і ярка бардовыя. Ды і клубніцы падрыхтаваліся да нашэсця няпрошаных гасцей. Яна глянула на ягады і ўсміхнулася сабе — бабуля ні раз выганяла яе адсюль за клубнічны разбой. Дзяўчына абышла дом і спынілася каля другога ўвахода. Там яна заўважыла Германа, які грэўся ў пяшчотных промнях ранішняга сонца.

— Ідзіце есці, — у дзвярах паказалася бабуля. Яны накрылі летні столік і ледзь усадзілі старую, якая лічыла ежу на двары непатрэбнай празмернасцю і адчайна супраціўлялася. Але ўзрост прыгладзіў мінулую ўпартасць, і яна ўсё ж далучылася да ўнукаў у садзе.

Пасля сняданка Вера прыбрала са стала і задумалася, чым бы заняцца. Дома яна не магла прымусіць сябе вымыць посуд, а тут падабалася фізічная праца. Ды і Герман змяняўся да непазнавальнасці. Для іх гэта быў час адзінства з наваколлем, якое абое пакінулі недзе ў далёкім дзяцінстве і якому велікадушна раз на год дазвалялі нагадаць пра сваё існаванне. Яны спрабавалі касіць, палоць, садзіць, насілі ваду і выпальвалі ў лазні. Бабуля з паблажлівай усмешкай назірала за няўмелымі спробамі гаспадарання, але не замінала.

— Герман, давай з’ездзім на роварах да возера. У мяне ёсць бутэлечка неблагога віна.

— Ооо! Я не супраць.

— Гадзіны ў чатыры ці пяць, — Вера і не чакала іншага адказу.

— Ты чым будзеш цяпер займацца?

— Дапамагу бабулі з раслінамі. А ты? — ёй сапраўды было цікава.

— Пафарбую плот. Ува мне прачнуўся мастак, — па інтанацыі Германа здавалася, што хутчэй прачнуўся вялікі шкоднік, а не Манэ.

— Трымай сваю фантазію ў руках, а то даканаеш бабулю.

— Ага. Я пайшоў, — Герман ужо не слухаў, што яму кажуць і засяродзіўся на фарбе.

Прыблізна так яны праводзілі і ўсе астатнія дні ў вёсцы. Удзень імкнуліся прыдумаць сабе які-небудзь занятак, а потым проста адпачывалі. У адзін з пікнікоў

Вера засяроджана даследавала змесціва кошыка з ежай, і калі Герман вылез з возера, запыталася:

— Сёння які дзень?

— Пятніца.

— Не… Не… Гэта што нам ужо ў нядзелю назад? — здзіўленне было шчырым.

— На жаль.

— Не хачу, — Веры здавалася, што яе моцна падманулі.

— І я, — Герман зноў падышоў да вады. На яе роўнай і празрыстай паверхні можна было разгледзець свой твар і дрэвы, якія раслі каля берага. Ён стараўся дакладна запомніць тое, што бачыў, каб потым у зручны момант выцягнуць са схованкі прыемны ўспамін.

У нядзелю Вера замест таго, каб збіраць рэчы, збегла ў сад. Толькі цяпер яна заўважыла, якога насычана-зялёнага колеру трава. Не бледная, ці жаўтаватая, а сапраўды зялёная! Моцная і чыстая. Вера ніяк не магла развітацца з бабуляй. Яе не пакідала пачуццё, што кожная іх сустрэча можа апынуцца апошняй, што трава ў яе садзе больш ніколі не будзе такой зялёнай. І нават седзячы ў машыне, Вера ўсё глядзела і глядзела на свайго волата духу, зняволенага ў слабым і нядоўгавечным чалавечым целе. Іх адхланнё скончалася, і ўжо вечарам Вера з Германам былі ў горадзе.

* * *

Імкліва набліжаўся дзень ад’езду. Вера да апошняга моманту спадзявалася, што нешта здарыцца і планы зменяцца. У яе не мелася жадання зноў гаварыць пра гэта з Германам і, калі непазбежнасць пераезду стала відавочнай, думкі Веры засяродзіліся зусім у іншым кірунку. Яна чамусьці вырашыла, што самае галоўнае цяпер для яе — сказаць на працы пра сваё звальненне.

Вера прыехала ў рэдакцыю, але Алега Аркадзьевіча яшчэ не было. Яна спусцілася ў бар і заказала кавы. Дзяўчына зашылася ў самы закутак памяшкання, дзе можна было схавацца ад людзей і раздражняльнага шуму. Яна не магла ўявіць, як праз дзесяць хвілін скажа рэдактару, што звальняецца і едзе невядома куды. Кідае ўсё, чаго дасягнула і да чаго імкнулася. Ёй не падабалася прымаць такое радыкальнае рашэнне. Але акрамя страху парушыць звыклы лад жыцця Веру непакоіла адчуванне, што яна губляе нешта больш істотнае. У нейкі момант прыйшло разуменне, што не толькі пра страчаныя кар’ерныя перспектывы яна сумуе. З галавы не выходзіў цёплы і глыбокі погляд на выразным твары галоўнага рэдактара, за якім яна так любіла назіраць употай. Вера нават спалохалася сваіх думак. Яна заўсёды на інтуітыўным узроўні старанілася начальніка, бо добра адчувала небяспеку, якую ўяўляў для яе гэты харызматычны мужчына. Вера ніколі не дазваляла сабе шчыра адказаць на пытане: як жа яна сапраўды да яго адносіцца. Але цяпер... Цяпер пачуцці і думкі, якія раней надзейна прыхоўваліся, ніхто не стрымліваў. Вера дапіла каву, не адчуўшы яе смаку. Незразумелы адчай прымушаў яе бязмерна хваляваццa.

Алег Аркадзьевіч прыехаў у рэдакцыю а дванаццатай. Да гэтага часу Вера так знервавалася, што ўжо была не здольна хоць на нейкія эмоцыі. Яна зайшла ў кабінет рэдактара і сказала:

— Алег Аркадзьевіч, я звальняюся.

— Што здарылася?

— Мой муж будзе працаваць у іншай краіне, і я еду з ім. У Швейцарыю, — Вера старалася не збіцца.

— А вы чым збіраецеся займацца?

— Гатаваць катлеты і піць марціні, — тут вытрымка журналістку падвяла.

— Вам гэта цікава? — на твары галоўнага рэдактара з'явіліся заўважныя зморшчынкі, якія выдавалі разгубленасць. Але Вера была занадта занята сваімі ўласнымі пачуццямі, каб прыкмеціць, што з ім адбываецца.

— Відаць, што так, калі звальняюся.

— Вы не абавязаны гэта рабіць, калі не жадаеце! — Алег Аркадзьевіч усё яшчэ стараўся выглядаць староннім суддзёй. — Шмат сарказму ў вашых кулінарных планах.

— Не ведаю. Але пытанне ўжо вырашана, — Веры хацелася хутчэй выбрацца з кабінета.

— Добра. Калі катлеты будуць з'едзены і марціні выпіта, можаце напісаць парачку матэрыялаў для нас.

— Сур'ёзна? Дзякуй. Абавязкова. Алег, дзякуй, — зашчабятала яна, праўда, амаль адразу спахапілася і дадала: — Аркадзьевіч. Але гэтых секунд было дастаткова, каб Вера заўважыла імгненную рэакцыю галоўнага рэдактара на яе агаворку. Яму не трэба было больш анічога казаць, бо Вера ўжо ўбачыла яго слабасць і цудоўна зразумела яе прычыну. Быццам бы спалохаўшыся таго, што яе пачуцці падзяляюць, дзяўчына маланкай выскачыла з-за стала і спынілася толькі ля самых дзвярэй. Яна павярнулася і паглядзела на Алега Аркадзьевіча. Вера ведала, што гатова стаяць так бясконца. Вочы галоўнага рэдактара пазбаўлялі яе пачуцця рэальнасці. Здаецца, што калі б ён цяпер прамовіў хоць слова, яна б нікуды не паехала.

* * *

Калегі вырашылі арганізаваць для Веры развітальны вечар. Тым больш, што галоўны рэдактар прапанаваў скарыстацца ягоным загарадным домам і сам паабяцаў прыняць удзел у развітальнай вечарыне. Вера ж падрыхтоўку да мерапрыемства скарыстала, як магчымасць пераключыць увагу, бо пастаянныя думкі пра пераезд не давалі спакою. Ніколі ў жыцці яна не траціла столькі часу на выбар адзення, абутку ды макіяж. Калі журналістка злавіла сябе на думцы, што нядрэнна было б схадзіць у спа, то перастала «спісваць» сваю нястрымнасць выключна на імкненне змяніць абстаноўку. Апошнія два тыдні з галавы не выходзіла размова з Алегам Аркадзьевічам. Яна ўсё спрабавала прааналізаваць яго паводзіны, як і тое, што сама была занадта ўзрушанай для падначаленай. Шэф часта сніўся ёй па начах. Сны не ведалі забароны, і гэта прымушала Веру пачувацца няўтульна. Зрабілася яшчэ непрыемней, калі аднойчы раніцай яна прачнулася і зразумела, што шкадуе. Шкадуе, што гэта толькі сны. Не магла Вера зразумець аднаго: ці прычынай таму сапраўдныя пачуцці да Алега Аркадзьевіча, ці гэта імкненне адчуваць сябе вінаватай перад Германам. Так альбо інакш, але галоўны рэдактар не выходзіў з галавы, і падрыхтоўка да вечара крыху супакойвала. У гэтыя дні яна амаль не размаўляла з Германам. Ёй было няёмка глядзець на яго, і Вера старалася пазбягаць сустрэч з мужам. Зрабіць гэта аказалася не складана, бо Герман амаль увесь час займаўся планаваннем пераезду ды справамі на працы, якія патрабавалі завяршэння. І сам ён быццам адмежаваўся ад наваколля і не заўважыў, што з Верай нешта не так.

— Калі ж ваша развітанка? — запытаўся Герман, калі жонка легла побач.

— Заўтра.

— Значыць ужо не перадумаеш.

— Дакладна. Канешне, было б цікава патусіць у боса на дачы, а потым сказаць, што нікуды не еду, — не вельмі лагодна адказала Вера.

— Як добра, што гэтыя дурныя звычаі ўсё яшчэ існуюць. Яны не пакідаюць табе задняга ходу, і я магу цяпер спаць спакойна, — Герман пацалаваў жонку і выключыў святло. Але Вера не спала. Як і апошнія два тыдні, яна думала пра сустрэчу з шэфам ў светлым і вялікім пакоі.

* * *

Вера ніколі не была ў загарадным доме галоўнага рэдактара, але ёй з першага погляду спадабаўся драўляны будынак у лаканічным скандынаўскім стылі. У ім адчувалася шмат паветра. Веру чакалі. Ёй была прыемна ўвага людзей, якія даўно ўжо сталі часцінкай яе. Дзяўчыне зусім не хацелася адпускаць сваё мінулае. Алега Аркадзьевіча пакуль не бачылася, але Вера не сумнявалася, што ён прыедзе. Яна размаўляла з сябрамі, крыху выпівала. Аднак алкаголь не мог суняць унутранае хваляванне дзяўчыны, і сэрца калацілася як у спалоханага звяркa. Калі ля брамкі з'явілася машына Алега Аркадзьевіча, Вера перастала што-небудзь чуць акрамя пульсацыі крыві ў сваіх венах. Як і заўсёды, рэдактар выглядаў проста бездакорна. Ён аднолькава прывітаўся з усімі, выпіў шампанскага за Веру і яе шчаслівую будучыню. Потым зрабіў пару ўдалых кампліментаў арганізатарам вечарыны і пажадаў рэдакцыі добра павесяліцца. Калі афіцыйная частка скончылася, шэф падышоў да Веры і нешта сказаў ёй, але дзяўчына так старалася супакоіцца, што амаль усё прапусціла паўз вушы, і толькі абрывак апошняга сказа вярнуў яе на зямлю:

— Калі спатрэблюся, буду яшчэ з паўгадзіны ў сябе ў кабінеце.

Яна хвілін дваццаць разгублена хадзіла па гасцінай, потым на некалькі секунд спынілася і ўжо без усялякіх сумненняў накіравалася на пошукі Алега Аркадзьевіча. Дзяўчына хутка знайшла патрэбны пакой і ўвайшла без папярэджання.

— Вера? — голас Алег Аркадзьевіча цяпер не быў такім роўным.

— Я хутка з'язджаю, — адказала яна і зачыніла за сабой дзверы.

Вера прачнулася вельмі рана. Яна адчула на сабе руку Алега Аркадзьевіча. Дзяўчына чакала, што вось-вось адбудзецца сустрэча з уласным сумленнем, але нічога падобнага не адбылося. Наадварот, ёй пачувалася прыемна і ўтульна побач з гэтым мужчынам, ад якога нават у сне сыходзіла ўпэўненасць і супакой. Здалося, што вось так яна прачыналася з ім ужо тысячы разоў. Не мелася ні кроплі той прыпозненай сарамлівасці, што з'яўляецца пасля ночы з выпадковым чалавекам. Вера не варушылася, каб не разбурыць тое, што ёй цяпер так падабалася. Хвілін дзесяць яна моўчкі глядзела на Алега Аркадзьевіча, і ён, мабыць, адчуўшы на сабе ўважлівы позірк, расплюшчыў вочы:

— Ты даўно не спіш? — ён быў рады, што Вера не збегла раней.

— Не. Адвязіце мяне ў горад.

— Выпі спачатку кавы.

— Добра. У вас тут прыгожа, — ёй хацелася, каб Алег Аркадзьевіч абавязкова пачуў гэта ад яе.

— Вера, якое «ў вас»?

— Хм... Сапраўды. Але тут усё роўна прыгожа.

— Ты ўпэўнена, што хочаш пераехаць?

— Я ні ў чым не ўпэўнена, — адказала Вера і паднялася з ложка. Ранішняе святло адразу пасябравала з яе аголеным целам. Алег Аркадзьевіч адчуваў сябе падлеткам, які ўпершыню ўбачыў не прыкрытае нічым жаночае цела.

Вера апранулася і села ў зручнае і мяккае крэсла насупраць велізарнага акна, у якое бачыўся хваёвы лес. Яна піла каву, Алег Аркадзьевіч сядзеў побач. Потым ён, як і прасіла Вера, адвёз яе ў горад.

* * *

Герман адчыніў дзверы. У кватэры было ціха. І толькі раскіданыя па пакоі Верыны рэчы парушалі гармонію і парадак у доме.

— Ты яшчэ спіш? — схіліўся ён над жонкай.

— Герман? А колькі часу?

— Гадзіна. Я заехаў па дакументы.

— Прачынаюся, — скрозь сон прамовіла Вера, але ўсё ж такі расплюшчыла вочы. Побач прысеў Герман. Вера таксама села. Яна не адразу паверыла ўласным адчуванням. Упершыню за апошні час у яе не было жадання пазбегнуць ні самога Германа, ні яго позірку. Яна глядзела на яго без той прыхаванай злосці і непаразумення, што з'ядалі яе ў апошнія месяцы. Муж зноў быў не ворагам, а часткай яе. Нябачная сцяна рассыпалася і знікла.

— Я прынёс квіткі. Праз тры тыдні.

— Герман, а ў іх ёсць зефір у шакаладзе? — сур'ёзна запыталася Вера.

— Вера, ты як заўсёды, — засмяяўся Герман. — Калі няма, я табе адсюль прывозіць буду.

— Будзеш?

— Буду.

— Ну, тады можна ехаць.

Герман прыгладзіў скамечаныя пасля сну валасы Веры і пайшоў па свае паперы. Такая зменлівасць настрояў непакоіла яго і нараджала супярэчлівыя думкі. Але адна з іх была цяпер больш празрыстая і мацнейшая за астатнія — нешта дрэннае і цёмнае паміж імі сёння знікла ў мінулым. І ён не збіраўся высвятляць, што гэта была за хімера.

— Герман, табе машына трэба? — запыталася Вера са спальні.

— Не.

— Я вазьму.

— Толькі будзь уважлівай, — папрасіў ён і выйшаў. Вера ўстала з ложка і адкрыла акно. З вуліцы ў пакой разам са свежым паветрам завіталі бадзёрасць і сіла. Ужо праз гадзіну дзяўчына сядзела ў машыне і тэлефанавала сябру.

— Антон, гэта я.

— Я чую, Вера.

— Да цябе можа? — па яе голасе было зразумела, што пытаецца яна толькі для выгляду.

— Адказ «не», я так разумею, не разглядаецца? — перапытаў Антон.

— Не.

— Калі будзеш?

— Хутка.

— І за што мне такое шчасце? — хлопец, здаецца, і не спадзяваўся пачуць адказ на сваё пытанне.

— Я набяру, як пад'еду, — папярэдзіла Вера, і Антон пачуў у трубцы гудкі. Праз хвілін пятнаццаць ён убачыў, што знаёмая чорная машына прыпаркавалася каля офіса, і выйшаў на вуліцу. Ва ўсім выглядзе Веры ўгадвалася нешта незвычайнае, і Антон, доўга не думаючы, прапанаваў прайсціся.

— Слухай, я тут зрабіла адну рэч, якая не вельмі ўпісваецца ў партрэт ідэальнай жонкі, — няўпэўнена пачала Вера.

— Што, праўда? — ён здзівіўся такому прызнанню.

— Ну, — адказала яна і нечакана змоўкла.

— Так… І дай адгадаю, хто табе ў гэтым дапамог? — ён спецыяльна паддзеў Веру, бо ведаў, што інакш з яе нічога не выцягнеш.

— Антон! — раззлавалася яна.

— Вось і давярай вам пасля гэтага, — ён бачыў, што рухаецца ў патрэбным кірунку, і працягваў выводзіць Веру з сябе.

— Ну-ну. Скажы яшчэ, што ты за Германа перажываеш. Я чакала ад цябе больш злараднасці на яго конт.

— Не, тое, што ён асталоп — факт вядомы. Але ж, папраўдзе, не думаў, што ў цябе на *такое* дастаткова смеласці знойдзецца, — ужо сур'ёзна прамовіў хлопец.

— Я і сама не думала. Але ведаеш, я сёння ўпершыню паглядзела на яго як і раней, без нічым не вытлумачальнай крыўды і чарнаты. Такое адчуванне, нібы я вярнулася з доўгай і адзінокай вандроўкі. Мы зноў разам, — у Веры больш не існавала праблем з патрэбнымі словамі.

— Вырашала каварна адпомсціць за няспраўджаныя надзеі? Нічога дзіўнага тут няма. Вельмі па-жаночы.

— Вось і мне так падалося. А яшчэ дзень таму я была ўпэўнена ў светлых пачуццях да… карацей, сам ведаеш да каго.

— І як ён? Старычок, — хлопец зноў пачаў здзекавацца.

— Антон, ты ў лоб хочаш атрымаць? — Вера засмяялася тым залівістым смехам, які Антон добра памятаў з дзяцінства.

— Ты такая дзіўная. Усё ясна як божы дзень. Табе пераезд быў не даспадобы, вось і вырашыла напакасціць яго ініцыятару замест таго, каб сказаць, што сапраўды думаеш. Ну, і хто ты пасля гэтага? Ці ж вы не вартыя адзін аднаго?

— Герман ужо і кветкі прынёс.

— Як ты? — Антон уважліва паглядзеў на сяброўку.

— Мне сапраўды палягчэла. Я ведаю, што гэта няправільна і так нельга, але з мяне нібы тона камянёў звалілася, — шчыра прызналася Вера.

— Вы справіцеся. Цяпер я ў гэтым не сумняваюся, боцікі з адной пары, — у голасе Антона не адчувалася ні кроплі іроніі.

* * *

Вера не магла адвесці вачэй ад дома з рудым чарапічным дахам і вялікімі вокнамі. Гэта была любоў. Яго сметанкова-крэмавыя сцены і вішні, што раслі побач, вабілі цеплынёй і ўтульнасцю. Здавалася, што калі прыслухацца, то можна нават пачуць іх павольнае дыханне.

— Герман, неверагодна! Менавіта так выглядае казка, — Вера не магла не ўсміхацца.

— А ты не хацела, — Герман быў цалкам задаволены тым уражаннем, якое аказаў на жонку яго выбар.

— І гэты дом. Адкуль ты заўсёды ведаеш, што мне патрэбна? — па-дзіцячы шчыра здзівілася яна.

— Я стараюся, Вера, — усміхнуўся Герман.

— Праўда, вельмі прыгожы дом. Ён нібы сышоў з мар маленькай дзяўчынкі.

— Можа, ты ўрэшце абрадуешся пераезду? — Герман хацеў убачыць вочы жонкі.

— Я буду старацца.

Да выхаду на працу ў Германа заставаўся тыдзень. А столькі ўсяго трэба было зрабіць за гэты час! Ды і яму зусім не хацелася пакідаць Веру сам-насам з побы-

тавым вар'яцтвам, якое суправаджае і самы нязначны пераезд. Тым больш, што Вера добра не ведала ніводнай з моў Швейцарыі. Гэты іх тыдзень быў настолькі насычаны падзеямі, што ні ў Веры, ні ў Германа не знайшлося і вольнай хвіліны, каб пабыць у адзіноце са сваімі думкамі. Мэбля для дома, знаёмства з Цюрыхам, гастранамічныя вопыты... Увесь гэты час дзяўчыну не пакідала адчуванне, што яна тут толькі ў адпачынку. Усё наўкол нязвыкла і зусім не так, як дома. Прыгожа, але занадта ўпарадкавана. Дзяўчына лічыла сябе прыхільніцай яснасці і сістэматызаванасці, а калі сустрэлася, мабыць, з самым хрэстаматыйным прыкладам, то чамусьці адчула выразнае непрыняцце. Але з ёй быў Герман і таму, як заўсёды, яна магла дазволіць сабе асабліва ні пра што не думаць. Праўда, у тую раніцу, калі Герман упершыню пайшоў на працу, а Вера засталася адна ў прыгожым доме, у дзяўчыны з'явіліся пэўныя сумненні наконт бесклапотнай будучыні. Вера адчувала небяспеку такой пустаты. Дзяўчына ніколі не пакутавала ад адсутнасці фантазіі, вось і цяпер яна не падвяла. Уяўленне малявала для сваёй гаспадыні вобразы каларытных бясполых істот за камп'ютарам. Адрозніваліся гэтыя прывіды бадай толькі якасцю сваёй дэградацыі. У адных пацярпела знешнасць, у іншых — розум. Праўда, спакуса скарыстацца момантам і ўдосталь насалодзіцца адсутнасцю мэт і сэнсу была занадта моцнай. Таму Вера не змагла сабе адмовіць у тыдні-другім такога жыцця. Гэтага хапіла, каб дакрануцца да яго разбуральнай моцы і ацаніць перспектывы. Пустое існаванне палохала дзяўчыну сваёй вядзьмарскай сілай. Не прайшло і месяца, калі Вера прачнулася з думкай, што выбрала сабе саперніка не па зубах і не варта жартаваць з лёсам. Дзяўчына насцеж расчыніла вокны ў сваім пакоі і падумала, што дзень падыходзіць для больш блізкага знаёмства з новым светам. Яна з задавальненнем адзначыла дабрабыт вакол сябе. Гэта цешыла ейную не надта аскетычную натуру. Вера без асаблівых шкадаванняў з галавой акунулася ў залатое жыццё, якое прытупляла жаданне думаць пра тое, што не ўсё на свеце так проста. Дзяўчына не была пазбаўлена натуральнай для чалавека прагі да матэрыяльнага камфорту, а тут яна атрымала гэта ў такой колькасці, якая перавышала патрэбы. Праца больш не выматвала, а ператварылася ў выключна прыемнае баўленне часу. Парачка артыкулаў у месяц надавала неабходны статус і зусім не абцяжарвала. Спачатку Вера спрабавала знайсці ў швейцарцах праявы нелюбові да замежнікаў, якую ім упарта прыпісвалі чуткі. Можа, яно і было так у выпадку звычайных працоўных мігрантаў, але да Веры і Германа гэта краіна адразу павярнулася самым прывабным бокам. Уік-энды, опера, горы... Дзяўчына была ўдзячна мужу за такое жыццё. Не было ніводнай прычыны, з-за якой бы Вера вырашыла адмовіцца ад усяго гэтага.

* * *

— Герман! Праз тыдзень Каляды, а ў нас яшчэ нічога не гатова, — з заклапочанай узрушанасцю ў голасе звярнулася Вера да мужа.

— Ты без фанатызму, а то ў мінулы раз атрымалася амаль як на прыёме ў англійскай каралевы, — Герман абрадаваўся, што яму не прыйдзецца снедаць у адзіноце.

— Нейкі настрой тады быў дзіўны. Хацелася нечага феерычнага, — Вера на некалькі секунд задумалася. — А памятаеш нашы першыя Каляды тут?

— Так… — Герман таксама задумаўся і амаль адразу дадаў: — І мне ранейшыя спадабаліся значна больш.

— Я нават цяпер памятаю смак таго шакаладнага торта і гарачай кавы. І пах! Пах марозу ў Альпах. Пры ўсёй маёй павазе да англійскай каралевы…

— Яна асуджана на паразу. А я чамусьці часта ўспамінаю пах крыху вільготнага дрэва на руках, — у Германа быў такі выгляд, нібы ён і цяпер яго адчувае.

— Мы тады былі зусім адны. Я раней думала, што калі ў цябе дастаткова грошай, то ты можаш паслаць увесь свет да чорта. Але не. На Каляды мы арганізоўваем святочны прыём. Ніхто, канешне, не прымушае. Аднак… Усе і не чакаюць іншага, — з капрызлівасцю ў голасе сказала дзяўчына.

— Вера, ты ж ведаеш, што на двух крэслах не ўседзець. Альбо прыёмы, альбо кінематаграфічна-казачнае адасабленне і больш сціплыя патрэбы. Нешта мне падказвае, што ты запаўняеш дом дарагімі сукеначкамі ды туфелькамі не для таго, каб дэманстраваць іх вясковым каровам. Яны ж не ацэняць. Для гэтага патрэбны госці на прыёме, — Герман строга, але без злосці выказаў свае адносіны да супярэчлівых разважанняў жонкі.

— Я разумею. Але гэткае падваенне замінае нармальна жыць. З аднаго боку, хочацца прастаты і міру з сабой, а з другога — разумееш, што сацыяпатам можна быць толькі пры наяўнасці людзей навокал. Сярод кароў гэта значна складаней. Але так не можа цягнуцца бясконца. Рана ці позна прыйдзецца прыняць нейкае рашэнне. І, шчыра кажучы, я зусім не ўпэўнена, што мне калі-небудзь хопіць духу адмовіцца ад гэтага буржуазнага дабрабыту.

— Можа, і не трэба? — Герману падабалася схільнасць Веры да самакрытыкі, якая часам нахлынала на яе. Праўда, кожны раз яму прыходзілася даволі доўга чакаць чарговага прыступу.

Вера наліла сок у шклянку і падала Герману:

— Пабачым. Дарэчы, гэта ўжо трэція нашы Каляды тут. Куды знікае ўвесь страчаны чалавекам час? Трэба абавязкова знайсці гэта месца. І абрабаваць.

— Так, Вера. У мяне сёння аперацыя. Настрой павінен быць пазітыўным, — Герман не чакаў ад жонкі такой гаварлівасці зранку.

— Прабач. Ты сёння падаруеш каму-небудзь гэты самы час? — дзяўчына стала больш стрыманай.

— Хацелася б.

— Я ўсё яшчэ з-за гэтага губляюся. Праз пару гадзін у тваіх руках будзе жыццё, а мы размаўляем пра калядныя прыгатаванні. Неяк недарэчна.

— Ты даўно павінна перастаць так на гэта рэагаваць. Але цябе голымі рукамі не возьмеш. У аперацыйнай усё змяніцца. Я забудуся пра размовы, пра сябе і людзей, якіх ведаю. Усё знікне. Застануцца толькі цела на стале і інструмент у маіх руках.

— Я зусім не ведаю цябе такім, — сказала Вера і ўважліва паглядзела на мужа. — Твае эмоцыі і звычкі ў аперацыйнай. Любая медсястра, здаецца, ведае цябе значна лепш. Яны ж разумеюць цябе без слоў.

— Так і павінна быць. Я ж не ведаю цябе ў тваім занятку, — Герман быў само цярпенне.

— Мне здаецца, што гэта не проста твой занятак. Гэта і ёсць увесь ты. Цябе і гэты страшны белы пакой немагчыма ўявіць паасобку.

— Не драматызуй. І не будзь такой эгаістычнай. Я не сумняваюся, што ты не супраць моцна трымаць у сваіх руках кожную часцінку мяне.

— Ідзі ўжо, — Вера і на гэты раз не змяніла сабе, і як толькі размова пачала набываць непажаданы для яе кірунак, хуценька перавяла тэму на іншае. — Мне трэба заняцца прыёмам.

— Вера, — засмяяўся Герман.

— Ідзі.

* * *

Вера ўжо не першы раз займалася арганізацыяй свят. І заўсёды яна адчувала нейкую дваістасць у дачыненні да свайго занятку. Дзяўчына ні на імгненне не сумнявалася ў штучнасці гэтай дзеі, але не магла не заўважаць і тое задавальненне, якое атрымлівае ад сваёй ролі. Выбар страў і музыкі, шампанскае ў бакалах з тонкага і дасканала апрацаванага крышталю… Усё гэта прыносіла ёй нейкую хваравітую асалоду. «Мільёны людзей не маюць вады, каб задаволіць смагу, а я патрабую срэбныя сталовыя прыборы з правільным узорам для вечара. Што са мной робіцца?», — разважала яна па дарозе да любімага горадам рэстаратара. Вера так засяродзілася на ўласных думках, што ледзь не збіла з ног немаладога клерка з акуратным партфельчыкам у руках. Яна ўжо сабралася ісці далей, але выпадкова заўважыла незвычайную жанчыну ў парку. Тая сядзела на заснежанай лаўцы, а вакол яе на зямлі былі раскіданы альбомныя аркушы. Вера стаяла даволі далёка, каб разгледзець, што на іх. Яна падышла крыху бліжэй. Жанчына плакала. Вера звярнула ўвагу на яе вопратку: дарагое паліто расшпілена і зверху абыяк абматана шалікам. Вера не сумнявалася, што ў незнаёмкі здарылася нешта сур'ёзнае. Жанчыны ў такім адзенні тут проста так не плачуць. Тым больш на вуліцах. Вера адчула неадольнае жаданне сагрэць і абараніць ад ветру гэту сагнутую, нібы прыбітую да зямлі постаць. Яна доўга не магла рашыцца падысці да незнаёмкі, так і стаяла пасярод дарогі, не адводзячы позірку ад абыякавага да ўсяго твару жанчыны. Менавіта так ва ўяўленні Веры выглядалі самазабойцы. Яна не ведала, на якой мове звярнуцца да жанчыны, і выбрала нямецкую.

— Ці магу я чым-небудзь дапамагчы? — усё ж такі запыталася Вера, і яе позірк спыніўся на аркушах ля ног жанчыны. Гэта былі малюнкі. Дзіцячыя малюнкі.

— Мне? — у пытанні жанчыны адчувалася непаразуменне. — У чым?

— Прабачце, — Вера ўжо шкадавала, што пачала размову, але было позна адступаць. — Я разумею, што вы мяне абсалютна не ведаеце. Можа, вам трэба з кім-небудзь пагаварыць? — зусім няўпэнена скончыла дзяўчына і падумала, якой ідыёткай выглядае са сваімі прапановамі.

— Вы ж не швейцарка?

— Не, — Веры цяпер стала цікава, чым усё скончыцца.

— У нас так не прынята рабіць. Гэта вас выдае. Нават больш, чым акцэнт, — голас жанчыны прагучаў адчужана.

— Я беларуска. Славянка, — па інтанацыі жанчыны Вера зразумела, што ўсё ж такі не памылілася.

— А я немка, — раўнадушна адказала незнаёмка.

— Не жадаецце выпіць кавы? — Вера зрабіла яшчэ адну спробу.

— Жаданне? — жанчына так паглядзела на няпрошаную субяседніцу, што тая ледзь не праваліліся пад зямлю ад свайга нахабнага ўмяшальніцтва. Вера больш не спрабавала шукаць патрэбных слоў ды і не бачыла ў гэтым аніякага сэнсу. Яна проста села на лаўку побач з жанчынай. Так сядзелі, здавалася, цэлую вечнасць. Вера не бачыла аніякіх намёкаў хоць на нейкую адкрытасць ад незнаёмкі і ўжо не чакала што-небудзь ад яе пачуць. Жанчына і сапраўды не збіралася нічога казаць, але ўрэшце загаварыла. І хутчэй з жалю да пасінелай ад холаду дзяўчыны, чым ад жадання апранаць свае пачуцці ў словы, якіх заўсёды мала.

— Я ішла сустракаць яго са школьнай экскурсіі. Ён вельмі хацеў пірага. У тыя хвіліны, калі я разлічвался ў кандытарскай, іх аўтобус ляжаў на дарозе ўгару коламі. Я так і засталася чакаць яго з гэтым пірагом у руках. Майму сыну было сем.

Вера бачыла, як з кожным прамоўленым словам у жанчыны зноў і зноў разбураецца ўсё яе мінулае. Яна не магла зразумець пачуцці маці, але ведала боль і яго аднолькава бязлітасны да ўсяго жывога нораў.

— Можна я правяду вас дамоў?

— Не трэба, — жанчына паднялася і пайшла да выхаду з парку. Вера некалькі імгненняў сядзела ў нерашучасці, але потым хуценька падхапілася, сабрала малюнкі і пачала даганяць жанчыну. Тая пачула паскораныя крокі Веры і азірнулася, але не спыніла хады. Яна ішла, і здавалася, што цяжар усяго свету лёг на яе плечы. Вера крочыла следам. Яна ні пра што не магла думаць. Ні пра час, ні пра тое, дзе знаходзіцца. Яна бачыла толькі бязмежную чалавечую роспач. Ёй падалося, што яны ішлі даволі доўга, але неўзабаве жанчына спынілася і павярнулася да Веры. Прыйшлі. Незнаёмка не сыходзіла. Яна чакала Веру, і калі тая наблізілася, упершыню за ўвесь час уважліва паглядзела на яе чыстым і ясным позіркам. Неяк зусім нечакана запыталася:

— Вы прыйдзеце сюды заўтра?

— Калі вы не супраць, — з палёгкай адказала Вера.

— Не.

— Я буду заўтра. Я Вера.

— Гертруда, — адказала жанчына і ўвайшла ў дом. Вера засталася стаяць пасярод вуліцы з дзіцячымі малюнкамі ў руках. Потым зразумела, што нават не ведае, дзе знаходзіцца, і пачала шукаць шыльдачкі на дамах.

* * *

Калі Вера вярнулася дамоў, было даволі позна. Герман сядзеў на кухні і чакаў, пакуль яна распранецца. Ён ужо ва ўсю цешыўся тым, як пажартуе над жончынай апантанасцю ў падрыхтоўцы да свята. Дзяўчына ж адразу дакладна вызначыла месцазнаходжанне мужа і накіравалася да яго. Германа адразу нешта насцярожыла ў яе незразумелым выглядзе: узрушаным і разгубленым адначасова. І зусім не паходзіла на тое, каб прычынай таму сталі калядныя клопаты.

— Вера, што здарылася? — звярнуўся Герман да жонкі.

— Нічога.

— Вера! — ён крыху павысіў голас.

— Праўда, нічога. Проста зусім нечакана сустрэла чалавека на вуліцы.

— І знікла цікавасць да Каляд? — Герман не мог зразумець прычыны дзіўнага настрою Веры.

— Я не думала пра гэта.

— А што за чалавек? — ён усё спрабаваў дакапацца да вытокаў.

— Проста чалавек. Не зробіш мне кавы? — усім выглядам Вера дала зразумець, што не мае намеру працягваць размову.

— Зраблю. Сядай у сваё крэсла.

— Дзякуй. Як аперацыя? — Вера старалася выглядаць зацікаўленай.

— Добра. Будзе жыць.

— Калі цагліна заўтра не зваліцца яму на галаву, — са злым сарказмам дадала яна.

— Не паверыш, але і так бывае, — адказаў Герман і са здзіўленнем паглядзеў на яе.

— Веру. Немагчыма не верыць, — прабубніла сабе пад нос дзяўчына і засяродзілася на каве.

Яна не магла заснуць. Варочалася ў ложку, а сон не прыходзіў. Толькі пад ранак стомленасць перамагла і ў Веры атрымалася крыху задрамаць — пара гадзін неспакойнага забыцця. Як толькі Герман пачаў збірацца, яна адразу ж прачнулася. Вера пачакала, пакуль муж выйшаў з дому, і хуценька ўстала. Залезла ў інтэрнэт і знайшла на карце горада месца, дзе ўчора была. Высветлілася, што гэта вельмі багаты раён з дарагімі дамамі. «Як мала чалавек можа зрабіць, каб абараніць сябе ад чагосьці сапраўды сур'ёзнага», — падумалася ёй ў гэты момант. Вера асабліва не затрымлівалася ні ў душы, ні на кухні. Яна нацягнула на сябе першыя, якія патрапілі пад руку, рэчы і выбегла на вуліцу. Цяпер Вера дабралася да дома Гертруды значна хутчэй. Была толькі палова дзясятай, але яна не хвалявалася, што прыйшла рана. Наўрад ці цяпер хто-небудзь спіць у гэтым доме. Дзяўчына падышла бліжэй да будынка. Вера адзначыла, як па-добраму прыгожа і дагледжана ён выглядаў. Гэты кавалачак рэчаіснасці, які лічыцца неадушаўлёным, увесь быў прасякнуты святлом ціхага шчасця, што давялося пераажыць яго гаспадарам. Цяпер яго вымусілі стаць маўклівым сведкам іх страты. Вера падышла бліжэй да дома і рашуча пагрукала ў дзверы. Праз некалькі хвілін на парозе з'явілася Гертруда — жанчына з тонкім арліным носам і вялікімі карымі вачыма. Немка без слоў запрасіла Веру ўвайсці. Так яны і знайшлі адна адну. Чалавек чалавека. Падтрымку і надзею на заўтрашні дзень.

* * *

— Герман! Ты дзе? Тэлефанавалі Кохі. Яны запрашаюць нас на выходныя, — гучна сказала Вера як толькі скончыла размову.

— А я хацеў пабыць з табой, — не хаваючы расчаравання адказаў Герман з гасцінай.

— Не атрымаецца, — у голасе Веры таксама не чулася асаблівай радасці.

— Добра, гэта ўсё дробязі. Раскажы лепей, як твой інстынкт працягнення роду пажывае? — Вера і заўважыць не паспела, калі ён са сваім пытаннем апынуўся перад ёй.

— Нармальна. Спіць, — несур'ёзна адказала дзяўчына, збітая з толку такой рэзкай пераменай тэмы.

— Вера! — нечакана ўскіпеў Герман.

— Гэта ж Швейцарыя, — яна ўсё яшчэ старалася звесці размову да жарту. — І да таго ж я не збіраюся выконваць твой ідэальны план. Хоць нешта павінна выводзіць цябе з сябе.

— Ммм… Як жа з табой цяжка.

— А з табой?

— Дык што там Кохі? — Герман вырашыў не працягваць.

— Запрасілі нас на выходныя. Герман, не крыўдуй. Я несур'ёзна. Ты ж ведаеш?

— Ведаю-ведаю, — буркнуў ён сабе пад нос і выйшаў з дому.

Герман сеў у садзе і паспрабаваў супакоіцца. Раскласці эмоцыі і пачуцці па палічках логікі. Але не надта атрымлівалася. Калі ён пачынаў аналізаваць паводзіны жонкі як чужы чалавек, то здавалася, што ўсё станавілася зразумелым. І прычыны, і следствы. Але як толькі даходзіў у разважаннях да галоўнага і самага набалелага, нібы пераключацель спрацоўваў, і чалавечыя эмоцыі зноў бралі сваё. Ён нават страчваў ілюзію хоць нейкай аб'ектыўнасці. Герман пачынаў крыўдзіцца і перажываць. Можа, і не так моцна ён хацеў дзяцей, але ўпартасць Веры рабіла з'яўленне нашчадкаў нечым неабходным. Яму было крыўдна. Крыўдна за тое, што жонка прымушала яго сумнявацца. У сабе, у ёй, ва ўсім. Яна проста не хоча дзяцей? Ці не

хоча ад яго? Ці не хоча пакуль? І як толькі Герман спрабаваў наблізіцца да адказаў, Вера надзейна закрывала дарогу да іх. Гэта злавала неверагодна. Але было яшчэ нешта іншае. Учора ў аперацыйнай ён зноў не мог пазбавіцца ад думкі, што яго кроў аднойчы застанецца высыхаць у мёртвым целе. А яна ж павінна пацячы далей, каб хоць неяк перамагчы смерць. Жыццё. Ён вяртаў яго незнаёмым людзям, але цяпер яму хацелася выратаваць сваё.

* * *

Ужо жывучы ў Швейцарыі, Вера неаднойчы спрабавала прыгадаць, чым займалася ў апошнія тры тыдні перад сваім ад'ездам. Але чамусьці ёй успаміналіся толькі неістотныя дробязі. Яна памятала, як гадзінамі праседжвала за камп'ютарам і гугліла ўсё, што прыходзіла ў галаву. Ёй самой было смешна ад тых пошукаў кшталту «жизнь в Швейцарии» ці «менталитет швейцарцев», але Вера гатова была і не на такое, абы не вяртацца да рэальнасці. Герману гэта не вельмі падабалася, але па нейкай прычыне менавіта тады падалося, што ён не мае права ўмешвацца. Лепшае рашэнне — пакінуць жонцы як мага болей вольнай прасторы для асабістага. Але, не. Быў усё ж адзін незвычайны і асабліва дарагі для Веры ўспамін, і ён не патрабаваў ад дзяўчыны ніякіх намаганняў. І калі б яе паднялі з ложка пасярод ночы, Вера надзвычай дакладна прыгадала б кожную дэталь і свае адчуванні. Колькі разоў, здавалася б зусім без прычыны, ён раз-пораз усплываў у памяці — яе апошні паход у цырульню дома. Вера не магла растлумачыць, чаму гэта месца так моцна на яе ўздзейнічала і закранала самыя глыбіні. Варта было апынуцца ў памяшканні, насычаным церпкімі і аб'ёмнымі пахамі касметыкі і цыгарэт, як яна адразу ж трапляла ў палон уласнага абаняння. Такі прыцягальны саюз несумяшчальнага меў над ёй па-сапраўднаму чароўную ўладу. Для Веры гэта быў той адзіны пах, які сустрэўшы аднойчы, потым будзеш паўсюль шукаць. Прыемныя дотыкі рук майстра канчаткова ператваралі свет у салодкую бязважкасць. Яна любіла гэта дома. У Швейцарыі Вера палюбіла беларускія цырульні яшчэ больш. Сустрэць падобнае ў стэрыльным і выхалашчаным грамадстве было вельмі цяжка. Здавалася, што з таго часу мінула вечнасць. Цяпер усё было зусім не так.

Герман выйшаў з душа і ўбачыў, што Вера сядзіць за камп'ютарам і засяроджана нешта чытае.

— Што робіш? — прамовіў ён жонцы.

— Нічога асаблівага. Працую над новым матэрыялам.

— Ты так увесь дзень праседзець збіраешся? — спытаў з усмешкай Герман.

— Ага. Я адмаўляюся сёння займацца чым-небудзь іншым, — усім выглядам Вера дэманстравала гатоўнасць выканаць дадзенае абяцанне.

— Не дапаможа. Віншаванні знойдуць цябе, куды б не схавалася, — Герману было нават крыху сорамна разбіваць такую хісткую самаабарону Веры.

— Герман! Не здзекуйся. Другую палову дня я збіраюся праплакаць, — яна ўсё яшчэ спрабавала выратаваць свой план адступлення.

Герман быў не ў стане стрымаць смех і з пяшчотай абняў Веру:

— Ты ў мяне яшчэ зусім маладая. Учора табе было не больш за васямнаццаць.

— Не. Толькі не гэта. Ніякіх лічбаў. Божачкі! Трыццаць. Я адмаўляюся ўспрымаць гэта сур'ёзна.

— Вера, ты галоўнае да вечара прыдзі ў сябе, — жартаўліва папрасіў Герман і хацеў падхапіць яе на рукі, але ў гэты момант жонка неяк няўдала павярнулася,

і яны з усяго размаху грукнуліся на падлогу між канапай і сталом. На імгненне ў пакоі павісла цішыня, якую змяніў звонкі і па-дзіцячы нястрымны смех. Яны так і засталіся ляжаць на падлозе, пільна ўзіраючыся адно ў аднаго.

— Герман, я вельмі рада, што аднойчы сустрэла цябе. Ты гэта ведаеш?

— Ммм… Кажы пра гэта часцей, — яму відавочна падабаўся такі ход размовы.

— Ты ж казаў, што ведаеш.

— Ведаю, але час ад часу сумняваюся. Ды і ты не надта песціш мяне прызнаннямі.

— Добра. У дзень свайго трыццацігоддзя я ўрачыста і з усёй адказнасцю заяўляю, — з голасу Веры зніклі жартаўліва-несур'ёзныя ноткі, і яна ўважліва паглядзела на Германа. — Я бязмежна шчаслівая, што сустрэла цябе, што прачынаюся кожны дзень і бачу побач з сабой чалавека, які не стаў для мяне прачытанай кнігай. Што ты даеш мне магчымасць ганарыцца табой. Чакаць цябе. Герман, я не памылілася з выбарам.

— А можна такое кожны дзень?

— Ну, канешне! Да добрага хутка прывыкаеш.

— Эх! — Герман быў падобны да вялікага чорнага ката, якога пагладзілі па бліскучай поўсці ў правільным кірунку.

— Табе ўжо трэба ісці. Сустрэнемся вечарам. Цікава, усе ў трыццаць год становяцца такімі непрыстойна-саладжавымі падхалімамі?

— Вера! — зноў засмяяўся Герман. — Умееш ты ўпрыгожыць момант. Добра, я паехаў.

Вера дачакалася, пакуль яго машына выехала за брамку і пайшла на кухню зварыць сабе кавы. Яна ўключыла кававарку і збіралася ўжо дастаць вяршкі, але нейкае незразумелае адчуванне прымусіла яе спыніцца. Вера ледзь паспела дабегчы да ракавіны. «Не, ну, чаму сёння? Што гэта за здзек такі», — толькі і паспела падумаць яна перад чарговым прыступам ірвоты.

* * *

«Не, не, не…», — шаптала яна сваім падазрэнням у галаве, перабіраючы паліцу з лекамі, але так нервавалася, што не магла знайсці патрэбнае. А калі ўсё ж знайшла, то даволі доўга не магла наважыцца скарыстаць па прызначэнні. Чамусьці яна не сумнявалася ў выніку. Так і ёсць. Станоўча. Вера села на крэсла і нерухома праседзела з паўгадзіны. У галаве ж круціўся такі хаатычны віхор з думак і эмоцый, што і ўявіць складана. Дзіўна гэта — абсалютны знешні спакой і поўны вэрхал у галаве. Спачатку яна злавалася, потым прыйшла разгубленасць. Скончылася ўсё тым, што Вера адчула непазбежнасць і натуральнасць новай рэальнасці, на барацьбу з якой зусім не варта траціць сілы. У яе ідэальным уяўленні яна, канешне, павінна была даведацца пра гэта як-небудзь прыгожа. А на твары абавязкова прысутнічалі б непахісныя доказы душэўнага прасвятлення ад навіны. А тут ніякіх табе: «Дарагі, я буду матуляй!» У жыцці заўсёды ўсё шыварат на выварат. Вера не адчувала ні радасці, ні расчаравання. Поўная абыякавасць. Жанчына пачала разважаць, што яна павінна рабіць. І першае, што прыйшло ў галаву — наведаць доктара. І неаднаразова. Яе аж скаланула ад такой думкі. Урэшце вырашыла пакінуць усё як ёсць і падараваць сабе яшчэ адзін бесклапотны дзень. Калі не сёння, то калі? Трыццаць год. Яна шмат пра гэта думала. З чым прыйшла да іх і з чым будзе рухацца далей. Нам заўсёды нечага не хапае. Кожнаму рознага. Грошай, пяшчоты, сябе. Інакш не бывае. Вера ж не магла сказаць, чаго

не хапае асабіста ёй. Здавалася, што ўсё няблага ў жыцці, але яна разлічвала на большую яснасць і адназначнасць. Думала, што ўнутраная згода з правіламі гульні і грамадскай дамовай на «празрытасць» светабудовы прыйдзе з гадамі. Аказваецца, памылілася, хоць і ведала яе гаючыя здольнасці. Як толькі прамінуў першы шок ад навіны пра цяжарнасць і да Веры вярнулася здольнасць глядзець на рэчы больш-менш спакойна, яна выразна адчула, што нешта зменіцца. Што ўсталяваны статус-кво апошніх гадоў яе жыцця назаўсёды застанецца ў мінулым. Ад такіх пагрозлівых прадчуванняў зрабілася крыху не па сабе. Але не сёння… Сёння Герман, сябры і смачная ежа. Герман…Ты будзеш вельмі рады.

* * *

На вуліцы ліў дождж, і неба, здаецца, назаўсёды збіралася застацца такім шэрым і зацягнутым хмарамі. Не было канца гэтаму няспыннаму патоку вады. Герману зусім не хацелася вылазіць з ложка, ды і ў клініцы не было нічога неадкладнага. Ён лянотна пацягнуўся і хацеў нешта сказаць Веры, але са здзіўленнем заўважыў, што яе няма ў пакоі. Не апрануты і заспаны, Герман адправіўся на пошукі жонкі. Вера сядзела на тэрасе і піла каву.

— Чаму не спіш?

— Не ведаю. Прачнулася і зразумела, што хачу дамоў, — Вера павярнулася і ўбачыла соннага, з ускудлачанымі валасамі, і такога безабароннага мужа.

— Гэта нешта новенькае.

— Нічога новенькага. Тое, што пытанне не абмяркоўваецца, зусім не азначае адсутнасць яго ўвогуле, — без злосці адказала Вера.

— Вера, ну, зноў дзіцячы садок нейкі. Куды ты сабралася ехаць?

— Здаецца, у нас розныя погляды на гэта. Абсалютна сур’ёзная рэч для мяне ў тваім уяўленні ператвараецца ў дзіцячы садок, — яна не збіралася спыняцца.

— Я не бачу ніводнай больш-менш вытлумачальнай прычыны, па якой мы павінны кудысьці цяпер ехаць, — Герман быў абсалютна шчырым.

— Калі памятаеш, то гадоў пяць таму ты мне святочна абяцаў, што гэта толькі вандроўка. Знаёмства са светам. І не больш. А што атрымалася ў выніку? — Вера не зводзіла вачэй з Германа і напружана чакала адказу.

— Табе тут дрэнна?

— Не, — Вера старалася не паказаць свайго расчаравання.

— Вера, я цябе часам зусім не разумею, — Герман быў засмучаны такім пачаткам дня.

— Добра. Не бяры да галавы, — пяшчота перамагла, і Вера вырашыла больш не даймаць мужа.

— Гэта з-за надвор’я?

— Можа. Табе не трэба на працу? — у яе часам вельмі ўдала атрымлівалася рабіць выгляд, што праблема вырашана.

— Хутка паеду. Прыму душ і пайду.

Крыху збянтэжаны Герман зайшоў у дом і падняўся да сябе ў пакой. Размова заспела яго знянацку. Колькі разоў ён пільна ўглядаўся ў твар жонкі ў пошуках прыкмет чарговага «хачу дамоў», а тут сама пачала, ды ў той момант, калі Герман зусім не быў падрыхтаваны да адпору. І новы кантракт прапанавалі. Як цяпер пра яго сказаць? Звычайна ўся гэта істэрычна-настальгічная эпапея займала пару тыдняў. А кантракт трэба падпісаць у бліжэйшыя дні. Сказаць ёй цяпер — самому сабе даражэй. Ды і ў планах зусім не маячыла вяртанне.

* * *

Веру так і падмывала патэлефанаваць Гертрудзе. Яна проста не магла трымаць навіну ў сабе, але яны ніколі не размаўлялі пра дзяцей. Негалоснае табу, якое ўтварылася само сабой, ніхто не наважваўся парушыць. Але жаданне падзяліцца перажываннямі ўсё ж такі ўзяло верх над страхам зрабіць сяброўцы балюча.

— Гертруда, ты не занята сёння? — Вера надала пытанню самую бесклапотную інтанацыю, на якую толькі была здольна ў гэты момант.

— А што здарылася? Яшчэ толькі дзевяць гадзін, — сяброўку нялёгка падмануць.

— Хацела з табой пагаварыць.

— Я ўвесь дзень буду дома.

Вера скончыла размову і вярнулася ў гасцёўню. Ёй раптам стала неймаверна сорамна за тое, што не сказала Герману, хаця збіралася. Гэта нязручнае пачуццё нястрымна расло ў яе галаве, бязлітасна знішчаючы ўсе магчымыя апраўданні. І Вера не прыдумала лепшага выратавання, чым пайсці на кухню.

Калі Герман спусціўся, ён спачатку не паверыў вачам. На стале стаялі яго любімыя бліны з абрыкосавым джэмам і кава.

— Вера, што гэта з табой сёння? — разгублена запытаўся ён. — Ты нешта дрэннае зрабіла? — паводзіны жонкі парушалі ўсе вядомыя яму варыяцыі.

— Не. Проста дзень сёння такі. Ты лепей менш размаўляй ды паспрабуй ці такія, як раней.

Герман адкусіў вялікі кавалак бліна, з якога на стол і на рукі непаслухмянымі струменьчыкамі стараўся выцячы джэм. Знаёмы смак вяртаў яго ў нейкія вельмі далёкія і даўнія месцы. Вера раней пякла такія. І ў яе была смешная піжама з мядзведзяняткамі.

* * *

Гертруда была ў садзе, калі пачула, што нехта нецярпліва грукае ў дзверы. Яна не сумнявалася, што гэта Вера, і, не спяшаючыся, паставіла гаршчок са свежаперасаджанай геранню на чырванаватую плітку аранжарэі. Вось толькі прычына ранняга з’яўлення сяброўкі пакуль была загадкай. Яна адчыніла дзверы і сапраўды ўбачыла Веру на парозе. Гертруда нават разгубілася.

— Мы так і будзем стаяць? — Вера не магла зразумець, чаму Гертруда застыла на месцы.

— Ты што цяжарная? — сяброўка з цікавасцю глядзела на яе.

— Адкуль ты ведаеш? — здзівілася Вера, якая зусім не чакала такой звышхуткай празорлівасці Гертруды.

— Я і не ведаю. Знаёмы выраз твару. У мяне быў такі ж, — прамовіла Гертруда і зачыніла за сабой дзверы.

— Ты не супраць пагаварыць? — Вера з няўпэўненасцю зірнула на яе.

— Не. А павінна? Праходзь ты ўжо.

— Проста мы ніколі з табой не размаўлялі пра дзяцей, — Вера яшчэ крыху сумнявалася, ці варта працягваць.

— Вера, размова не ў стане зрабіць горш, чым ёсць. Гэта назаўсёды. Ты сказала Герману? — Гертруда заўважыла, што Вера апусціла вочы.

— Не.

— Чаму гэта мяне не здзіўляе?

Вера спрабавала вызначыць, якое крэсла ёй сёння падабаецца больш, і не спяшалася з адказам:

— Не ведаю, Гертруда, я збіралася. Але потым быццам нейкі ступар напаў. Пачала несці ўсялякую лухту. Што хачу дамоў, — яна радавалася, што ёсць на свеце чалавек, якому можна проста, без усялякіх доўгіх тлумачэнняў, сказаць, што на самай справе цябе непакоіць.

— А ты хочаш? — Гертруда як заўсёды задавала толькі самыя істотныя пытанні. Тым больш, што сёння ёй выпала крэсла псіхааналітыка.

— Я не думала пра гэта раней. Але, калі даведалася, то нешта змянілася. Я больш не бачу сябе тут, але яшчэ не ўяўляю і там. Нейкая разгубленасць.

— Разгубленасць і нявызначанасць — непазбежнасць у нашым жыцці. Асабліва, калі шмат пра тое думаеш. Вера, не чакай ад сябе пачуццяў, якія ты нібы павінна адчуваць. Усё прыйдзе. Не спяшайся і жыві. Бо ніколі не ведаеш, ці надыдзе заўтра.

— Прабач, — побач з Гертрудай Вера адчула спакой і ўпэўненасць.

— Усё нармальна. Я рада за цябе. Ты атрымаеш значна больш, чым можаш цяпер сабе ўявіць. Але чаму не сказала Герману? Ты ж яго кахаеш, — Гертруда з нагамі забралася ў крэсла і чакала, што скажа сяброўка.

Вера лічыла квадрацікі на абіўцы і маўчала. Пытанне патрабавала ад яе вялікіх намаганняў:

— Бываюць дні, калі здаецца, што гатова аддаць за яго жыццё і ні секунды не сумнявацца. Майму каханню няма межаў. Але здараюцца і іншыя дні. Тады я гляджу на Германа і думаю: як жа гэты чалавек апынуўся побач са мной? Бо нічога не адчуваю.

— Разумею цябе. Але ўсе розныя. Для кагосьці размытыя межы дабра і зла — выключна праявы дрэннага выхавання страчаных пакаленняў. І хто ведае, можа, яны і не так моцна памыляюцца, як нам здаецца? — Гертруда пачакала пакуль яны сустрэнуцца вачыма і дадала: — Але, Вера, дзіця ні пагоршыць, ні палепшыць гэтыя твае адчуванні. Ды і вашы бацькоўскія ролі мала залежаць ад уласных пачуццяў. Пытанне толькі ў тым, чаго ты сама хочаш. Дай сабе час, і хутка ўсё стане на свае месцы.

— Гертруда, чаму вы з Полем разышліся? — Вера таксама ведала толк у складаных пытаннях.

Гертруда спачатку нічога не адказала, але потым усё ж такі рашылася:

— Можа таму, што імгненняў, калі я была гатова аддаць за яго жыццё, стала зусім мала. А смерць Томаса зрабіла гэта занадта відавочным.

* * *

Размовы з Гертрудай заўсёды супакойвалі Веру. Вось і цяпер яна больш не бачыла свет такім складаным і варожым. Ёй так захацелася зірнуць на Германа, што не вытрымала і павярнула да клінікі. Той вельмі здзівіўся, калі ўбачыў жонку на парозе свайго кабінета.

— Ты не заняты? — з непрыхаванай надзеяй у голасе запыталася яна.

— Не. Нешта здарылася? — Герман пачынаў хвалявацца.

— Герман, прабач за раніцу, — Вера вырашыла пачаць з галоўнага.

— Ды ўсё нармальна. Вера, што з табой сёння? Апошні раз ты была ў клініцы год таму, — ён спрабаваў знайсці хоць нейкую падказку на твары жонкі.

— Мне стала так няўтульна ад таго, што я цябе пакрыўдзіла. Проста думка пра тое, што я прыношу табе боль, даймае мяне. Таму і не магла дачакацца вечара. Не па тэлефоне ж табе гэта казаць.

— Вера, ты такая стрэмка часам, — Герман абхапіў ейны твар рукамі і пільна паглядзеў у вочы. — Што робіцца ў тваёй галаве? Нешта мне падказвае, што лепей гэтага не ведаць.

Вера таксама паклала свае далоні яму на твар і нечакана ўпэўнена прамовіла:

— Лепей не ведаць. Адзінае, што варта ведаць — я не зраблю табе балюча, бо сама адчую кожную кропельку гэтага болю. Ты частка мяне. Хачу я ці не, але ад гэтага нікуды не падзецца.

У пакой зайшла сястра і паклікала Германа да пацыента.

— Ідзі, пагаворым дома. Галоўнае я сказала, — апярэдзіла Вера Германа, які, здавалася, збіраўся застацца з ёй. — Праўда, ідзі.

— Тады да вечара? — усё яшчэ ў нерашучасці ён стаяў пасярод пакоя.

— Да вечара, — Вера падышла да мужа і пацалавала. — У нас усё добра.

Герман стаяў і глядзеў у акно, пакуль машына Веры не знікла за паваротам. Дзіўны дзень. Але на сэрцы паспакайнела. Ён больш не сумняваўся ні ў ёй, ні ў яе думках. Як лёгка ўсё змяняецца. Варта было цяпер дадаць да размовы не вельмі ўдалы сказ, і зноў усё зрабілася б непрыстойна падазроным.

* * *

— Герман, ты падпісаў новы кантракт? — Вера не зводзіла вачэй з мужа.

— Адкуль ведаеш? — шляхоў да адступлення ў яго не мелася.

Вера падышла яшчэ бліжэй да Германа:

— Я бачыла паперы.

— Прабач. Я збіраўся пагаварыць з табой, — паралізуюча-халодная інтанацыя ў голасе Веры зусім не пакідала яму надзеі на хуткае перамір’е.

— Калі? Калі падпісаў? — не без расчаравання запыталася яна.

— Вера, прабач, — ён не ведаў, што яшчэ ёй адказаць.

— Добра. Я еду да Гертруды на выходныя.

Яна мела цвёрды намер пакінуць цяпер мужа аднаго і павярнулася ўжо да яго спінай, каб выйсці з пакоя. Герман паспрабаваў зрабіць першы крок да прымірэння:

— Ты не паедзеш з намі? Мы збіраліся крыху палазіць па гарах.

— У наступны раз, — рэзка адказала яму жонка.

— Вера...

— Давай пагаворым пра гэта пазней. Я занадта злая для мілых сямейных выходных.

Герман стаў перад дзвярамі:

— Выпі хоць кавы са мной.

— Давай паспрабуем, — Вера пра нешта вельмі напружана думала, але гэта не замінала ёй пільна сачыць за кожным рухам мужа са свайго крэсла. Здавалася, што калі хто-небудзь цяпер дакранецца да яе, яна ўзарвецца як паветраны шарык, у якога адбылася нечаканая сустрэча з вострым прадметам. Герман заўважыў яе нацягнутасць ды ўзрушанасць, але палічыў гэта праявай крыўды за кантракт.

Яна моўчкі выпіла каву. Не было асаблівага жадання нешта высвятляць ці абмяркоўваць. Вера хуценька сабрала рэчы і патэлефанавала Гертрудзе. Ужо каля самых дзвярэй нейкая незразумелая сіла прымусіла яе вярнуцца назад. Герман быў яшчэ на кухні. Яна падышла да яго са спіны і вельмі асцярожна дакранулася да валасоў:

— Патэлефануй мне вечарам. І Макс паедзе?

— Так, — у Германа як камень з душы зваліўся. — Ты дакладна не паедзеш?

— Не, Герман. Гэта не лепшая ідэя. Праўда. Ды і нам з Гертрудай ёсць пра што пагаварыць. Толькі не забудзься мне патэлефанаваць, — яшчэ раз папрасіла яна.

— Абавязкова.

* * *

Ехаць да загараднага дома Гертруды было зусім не далёка. Вера любіла гэту дарогу і добра ведала кожны яе кіламетр. Палі з жоўтымі кветкамі і вясковыя домікі сярод невялікіх узгоркаў. Вера не магла прымусіць сябе арыентавацца па ўказальніках і звычайна лічыла пясчаныя прасёлкавыя дарожкі, якія як прамяні адыходзілі ад галоўнай. Вось і яна — дзявятая, а значыць, і паварот да Гертруды. Вера пакінула машыну каля брамкі і пайшла шукаць сяброўку. Яна не заходзіла ў дом, а адразу завярнула ў сад.

— Я думала, ты прыедзеш пазней, — Гертруда заўважыла Веру першай.

— Чым ты тут займаешся?

— Кветкі. Сёння нарэшце супалі мой настрой і надвор'е, — Гертруда зняла пальчаткі і падышла бліжэй да Веры. — А ты не збіралася правесці гэтыя выходныя з Германам?

— Збіралася. Але хто можа ўстаяць перад тваімі кветкамі і добрым вінам? — прыемная дарога зрабіла яе куды лагодней, чым яна была пару гадзін таму.

— Канешне-канешне, — усміхнулася Гертруда.

— Добра, займайся раслінамі, а я прыгатую што-небудзь на абед.

Вера вярнулася да машыны за прадуктамі. Яна ведала, як няўдала складваліся адносіны сяброўкі з кухняй, таму сама вырашала, што і як яны будуць есці. Рыба, крэветкі, рыс, вяршкі... Зеляніна маецца ў Гертруды. Здаецца, усё. На свежым паветры не хацелася нічога складанага. Вера сабрала прадукты ў адзін вялікі папяровы пакет і адразу накіравалася на кухню. Яна адчыніла вокны, якія выходзілі ў сад, і яны маглі добра бачыць адна адну.

— Хутка будзе гатова. Ты скончыла? — Вера гучна запыталася ў сяброўкі.

— Амаль. Потым завяршу. Нешта прагаладалася. У садзе сядзем? — Гертруда падышла да акна.

— Так.

— Ты сказала яму? — у лоб запыталася Гертруда.

Вера толькі мацней сціснула нож, і памідорам, якія ляжалі на дошцы, прыйшлося прыняць удар на сябе:

— Не. Ён падпісаў кантракт. Зноў.

— Ты сапраўды хочаш вярнуцца?

— Ведаеш, Гертруда, не тое, каб гэта было так крытычна. Я адчуваю, што быццам пражываю не сваё жыццё. І не спрабую несці за гэта адказнасць, ускладаю ўсё на Германа і ствараю з яго нейкага монстра. Можа, усё ж такі трэба вырасці? — здаецца, сама ў сябе запыталася Вера.

Гертруда ўважліва сачыла за рухамі Веры.

— Цікавы ты выбрала час. Ці справішся?

— Не ведаю. Але не хачу, каб ён ехаў са мной з-за дзіця.

— Ты не будзеш яму казаць? — у голасе Гертруды не чулася ні непаразумення, ні асуджэння.

— Я ведаю, як ён хацеў яго. Калі Герман даведаецца, то ні за што не пакіне мяне адну. А яму падабаецца тут. Не хачу займацца шантажом. З таго моманту, як даведалася пра цяжарнасць, мяне не пакідае думка, што я не змагу тут даць дзіцяці тое, чаго сапраўды хацела б для яго. Я не хачу гадаваць швейцарца. Я не швейцарка. Маё дзіця не будзе разумець сваю маці? Хто яна і што кіруе яе думкамі і ўчынкамі.

— Ты гатова пакінуць сваё дзіця без бацькі? Не баішся, што зробіш памылку? — Гертруда хацела ўпэўніцца, што Вера добра разумее, да чаго могуць прывесці такія планы.

— Баюся. Але здаецца, што я ўсёй душой да яе імкнуся, — Вера нечакана для сябе самой агучыла тое, пра што ўжо не першы дзень забараняла сабе нават і думаць.

— Нешта мне падказвае, што самы час для абеду.

— Самы, — Вера ўдзячна зірнула на сяброўку за тое, што тая ведала, калі трэба скончыць няпростую размову.

Пасля абеду вырашылі пабыць яшчэ крыху ў садзе. На вуліцы хоць ясна ды сонечна, але другая палова жніўня паспела прынесці з сабой адчувальны халадок. Гертруда пайшла ў дом за гарачымі напоямі, і Вера засталася ў адзіноце. Яна сядзела ў драўляным крэсле, якое нечым нагадвала шэзлонг, і бяздумна глядзела наперад. Раптам позірк дзяўчыны зачапіўся за нешта вельмі цёплае і светлае. Недалёка ад яе пад дрэвам стаяў кошык спелых, з чырвонымі бачкамі, яблык. Зусім як дома, у бабулі. Забытае, але такое жаданае пачуццё згоды з сабой цалкам авалодала жанчынай. У адно імгненне знайшліся, згубленыя недзе на вялікай дарозе, шчырасць і сэнс. Яна больш не сумнявалася і ведала, што трэба рабіць. Няпрошаны тэлефонны званок нахабна ўварваўся ў яе разважанні.

— Вера?

— Так, — адказала, а ў самой усё ўнутры перавярнулася ад інтанацыі ў голасе сябра Германа.

— Гэта Макс. Тут… Герман...

— Што? Што з Германам? Макс, не маўчы! — Вера адчувала шалёныя ўдары пульсу ў скронях.

— Вера, Герман зваліўся… Ён загінуў. Вера?

Ёй здалося, што яна адарвалася ад зямлі і перанеслася ў нейкае іншае вымярэнне. Параліч ахапіў кожную клетачку цела, а свядомасць адчайна супраціўлялася пачутаму. Усё змяшалася і некуды паплыло — Гертруда, Макс, тэлефанаванні, дзень, ноч.

* * *

— Вера, трэба ехаць, — як з-пад зямлі пачула яна голас Гертруды.

— Куды?

— Развітацца з Германам, — тое, што яна бачыла, прымушала Гертруду хвалявацца.

— Гертруда, не. Не. Не. Я не паеду, — затарможаная рэакцыя Веры змянілася на бездапаможную істэрыку.

— Вера. Паслухай мяне. Я ведаю, пра што кажу. Калі не развітаешся з ім, ты будзеш пра гэта вельмі шкадаваць, — Гертруда вырашыла, што павучальныя словы павінны дапамагчы.

— Гертруда, як? Як я буду жыць? Як жыць без яго, ведаючы, што ніколі не пачую ад яго ані слова. Ні гука. Яго больш няма на зямлі. Я не змагу ўбачыць яго. Як бы ні хацела. Ніколі.

— Вера, паслухай мяне! Ты павінна жыць, і табе нават з часам зробіцца лягчэй, але гэта назаўсёды застанецца з табой. Цябе яшчэ чакаюць хвіліны бязмежнага шчасця і радасці, у якія будзе ўрывацца такі ж бязмежны і здольны разарваць сэрца сум. Але мы да апошняга нашага ўздыху павінны выбіраць жыццё, таму што гэта адзіная сапраўды чагосьці вартая рэч на зямлі. Ты ўсё сама потым зразумееш, а цяпер трэба ехаць, — сказала Гертруда і ўзяла Веру за руку.

Усю дарогу Вера спрабавала засяродзіцца і прывесці думкі ў нармальны стан. Здавалася, што яшчэ крыху — і яна канчаткова страціць чысціню розуму. Калі машына

спынілася, Вера ледзь не запыталася ў кіроўцы, навошта ён яе сюды прывёз. Але варта было выйсці і ўбачыць усіх тых людзей, якія глядзелі з такім непадробным паразуменнем, як адразу на яе навалілася безвыходнасць. Гертруда правяла яе ў пакой, дзе праходзілі цырымоніі развітання. Вера ўбачыла труну, але не магла рашыцца падысці і на крок бліжэй. Яна зноў быццам забылася на ўсё і прыйшла ў сябе толькі тады, калі адчула, што нехта спрабуе расчапіць яе рукі, якія з усёй сілы ўчапіліся ў касцюм Германа.

— Вера, можа ты не пойдзеш? Калі не можаш, то не варта. Усе зразумеюць, — прамовіў нехта з прысутных.

— Пайду. Пайду, — ледзь чутна мармытала Вера. І зноў усё паплыло перад вачыма, рэчаіснасць згубілася недзе ў мінулым, а з галавы адчайна спрабавала вырвацца безліч хаатычных думак: «Я не пагаварыла з ім. Божа, я не пагаварыла з ім. Не сказала. Дурная. Якое глупства. Усё такое глупства. А цяпер позна. Няма каму казаць. І нікому не цікава. Той, каму было цікава, больш не існуе. Германа няма, а графік яго аперацый ёсць. Ёсць ягоны фэйсбук. А тут яго няма. Няма. Я ніколі не думала, што яго можа не быць».

* * *

Вера дрэнна памятала, што адбывалася ў першы месяц пасля пахавання. Усё злілося ў адзін бясконца доўгі дзень. Ці ноч… Цела, здавалася, жыло сваім уласным жыццём. Гертруда ўвесь час спрабавала нечага ад яе дабіцца, але Вера не вельмі разумела, чаго сяброўка ад яе хоча і ўвогуле, што адбываецца навокал. Свядомасць балансавала на небяспечнай мяжы, а ад думак, якія не жадалі змяшчацца ў галаве, хацелася біцца ілбом аб сцяну, каб хоць крыху стала лягчэй. Вера зусім не была ўпэўнена, што фізічная абалонка, у якой яна існуе, сапраўды ёй належыць. І нават, калі страціла дзіця, асабліва не адчула, што гэта неяк яе датычыцца. Ва ўсім і паўсюль быў толькі Герман, і Вера спрабавала за яго ўхапіцца. Яна сотні разоў падыходзіла да кухні ў спадзяванні, што вось цяпер адчыніць дзверы і ўбачыць мужа там з кубкам у руках. І здаецца, што каб не ўпартасць Гертруды, то Вера і сапраўды даволі б хутка сустрэлася са сваім Германам.

* * *

Набліжалася зіма. Яе ледзяны і непрыемны подых адчуваўся паўсюль. У паветры і ў дрыготкай распранутасці дрэў, якім здавалася і холадна, і сорамна адначасова. Сонца схавалася, нібы яго ніколі і не было на гэтай зямлі. Алег Аркадзьевіч са злосцю наступаў на мокрае апалае лісце пад нагамі. Зусім не хацелася ісці ў офіс. Нікуды не хацелася ісці. Што гэта? Зіма? Ці проста стомленасць? Кожны новы дзень — недарэчная копія мінулага. Колькі так працягнецца? Да самага канца? Тады не вельмі цікава дажыць да глыбокай старасці. Пара дзясяткаў гадоў падобнай брыдоты зашмат. Можа, гэта сапраўды проста зіма, жывуць жа неяк людзі. Але хіба так і жывуць? Алег Аркадзьевіч спыніўся каля ўвахода. Было сыра і зябка. Ён ніяк не мог знайсці сваю запальнічку. Нарэшце… Знаёмы смак крыху супакоіў. Адна з нешматлікіх радасцей, якая заўсёды з табой.

На адзінаццаць была прызначана сустрэча, і Алег Аркадзьевіч нехаця зайшоў у будынак. У кабінеце панавалі цемра і няўтульнасць. Ён адразу ж уключыў камп'ютар і ўзяўся за паперы. Разважанні пра жыццё цяпер былі яму патрэбны менш за ўсё. Ды і навошта? Лепш накіраваць незадавальненне ў канструктыўнае

рэчышча. Ну, напрыклад, давесці свой цынізм да ідэалу. Калі зазваніў тэлефон, ён як раз гэтым і займаўся. Алег Аркадзьевіч спачатку не хацеў падымаць, але нумар быў міжнародны і незнаёмы.

— Але.

— Добры дзень, — жаночы голас. — Мяне завуць Гертруда Юнг. Мы не знаёмы, але ў вас працуе мая сяброўка Вера. Вера Верас. Гэта асабістае, таму калі не варта пачынаць, скажыце адразу. Прабачце за фамільярнасць, але ў мяне няма іншых варыянтаў.

— Чым магу дапамагчы? — спакойна запытаўся Алег Аркадзьевіч.

— Загінуў блізкі для Веры чалавек, і ў мяне не вельмі атрымліваецца паспрыяць сяброўцы. Вы мая апошняя надзея, бо я проста не ведаю, што яшчэ магу зрабіць, — Алег Аркадзьевіч чуў у голасе жанчыны няўпэўненае спадзяванне, але маўчаў. — Не ведаю, чаму я патэлефанавала вам і ці правільна зрабіла, але цяпер гэта не мае аніякага значэння. Калі можаце чымсьці ёй дапагчы ці ведаеце як гэта зрабіць — зрабіце.

Ён адказаў не адразу:

— Дзякуй, што пазванілі.

Алег Аркадзьевіч паклаў трубку. Вера… Цяпер зразумела, чаму з ёй апошнім часам не атрымлівалася ніяк звязацца. Ён не памятаў, калі яны апошні раз бачыліся. Можа, гады два таму. Сустрэньце аднаго і таго ж чалавека праз пяць гадоў — ёсць магчымасць і не пазнаць. Яе артыкулы, як метэарыты з іншай планеты, асвячалі ў памяці ўжо размытыя вобразы, якія даўно не патрабавалі ўдзелу рэальных людзей і жылі сваім асобным жыццём. Яны нагадвалі яму пра яго. Пра іншага яго і пра іншую Веру. Пра тых людзей, якіх сёння ўжо не існуе. І што цяпер рабіць? Зноў. У кагосьці дрэнны гумар, але дастаткова ўлады над лёсам. Алег Аркадзьевіч схаваўся ў крэсле і глядзеў на чорныя камлі дрэў за акном. Чым я збіраюся займацца? Сёння, заўтра, паслязаўтра. Кантракт, яшчэ адзін кантракт, пятніца і тэніс у суботу. Што я з гэтага хачу? Нічога. Дзе  хачу прачнуцца заўтра? Мне ўсё роўна. Па кім я буду плакаць, калі яго не стане? Алег Аркадзьевіч зняў трубку і набраў сакратарку:

— Забраніруйце мне на пятніцу квіток да Цюрыха.

* * *

Алег Аркадзьевіч сядзеў недалёка ад дома Веры і ніяк не мог вырашыць, ці варта заходзіць. Ім зноў авалодала апатыя, і паездка здавалася зусім бязглуздай. Алег Аркадзьевіч закурыў, і дым непрыемна апёк прастуджанае горла. Ён ужо наважваўся вярнуцца ў гатэль, але ўстаў і пайшоў у бок дома. Алег Аркадзьевіч пагрукаў у дзверы. Ніхто не адчыніў. Ён пагрукаў яшчэ. На гэты раз яго пачулі. Па абрысах ён пазнаў Веру. Яна моўчкі адчыніла. Амаль не змянілася, толькі цёмныя плямы пад вачамі рабілі страту відавочнай. Трэба было нешта сказаць. Словы спачування, якога, па-шчырасці, і не адчуваў. Ён цяпер не змог прыгадаць той момант, калі чужыя перажыванні перасталі кранаць яго. Алег Аркадзьевіч стаяў і маўчаў. Вера загаварыла першай:

— Я хачу дамоў.

— У цябе прыгожы сад. Пакажаш? — яго самога бянтэжыла ўласная чэрствасць.

— Пойдзем, — раўнадушша было адзіным, ад чаго мозг жанчыны цяпер не ўзрываўся.

Вера села на лаўку і без мэты ўпілася позіркам у голыя дрэвы. Алег Аркадзьевіч моўчкі назіраў за ёй. Колькі чалавек у стане вынесці? Было бачна, што сяброўка не

перабольшвала і жыццё сапраўды пакідала яе. Ён сеў побач з Верай. Яна спачатку насцярожылася, а потым супакоілася і абапёрлася на яго. Ён не бачыў яе твар, але здагадваўся, што Вера плача. Ад холаду на вуліцы мерзлі рукі, і пальцы нібы разрасталіся ў памерах. У Алега Аркадзьевіча не было сіл шкадаваць кагосьці, але ў душы нараджалася не зусім уцямнае адчуванне, што ён знайшоў чалавека, з якім зможа падзяліць сваё расчараванне.

— Вера, давай выпьем кавы, — нарэшце ён вырашыў, што хопіць.

У доме было цёпла і прыемна. Алег Аркадзьевіч зрабіў кавы і прынёс кубак Веры. Ён заўважыў, як механічна яна высмактала тое, што раней піла са смакам. Холад і слёзы зрабілі сваё. Як толькі напой сагрэў цела, Вера амаль адразу заснула.

Алег Аркадзьевіч прайшоўся па доме. Паўсюль адчувалася прысутнасць Германа. Рэчы, фотаздымкі, карціны. Усё было пакінута на сваіх месцах. «А кажуць, што рэчы — нішто. Як па мне, дык яны больш жывучыя, чым іх гаспадары», — падумаў ён, уважліва разглядаючы мужчынскі гадзіннік. Калі Алег Аркадзьевіч спусціўся, Вера сядзела ў гасцінай і зноў піла каву.

— Ты ўжо прачнулася? — ён здзівіўся, бо знаходзіўся наверсе зусім не доўга.

— Я мала сплю.

— Ты ведаеш, што я добра гатую? — яму не хацелася казаць якую-небудзь прыдуманую лухту, таму Алег Аркадзьевіч прапанаваў толькі тое, што сапраўды мог даць.

— Праўда? — з ценем цікавасці запыталася Вера.

— Дакладна. Можа, паспрабуеш?

— Давай. Адкуль ты даведаўся? — да жанчыны дайшло, што яна яшчэ не пачула ад шэфа ніводнага слова пра Германа.

— Твая сяброўка патэлефанавала. Гертруда Юнг.

— Я так і падумала. Яе ўпартасці можна пазайздросціць.

— Не хочаш з’ездзіць куды-небудзь? — ён не бачыў іншых шляхоў.

— Не, — рэзка адказала Вера і пачала думаць пра нешта сваё.

— Ты не зможаш тут, — Алег Аркадзьевіч не настойваў.

— А хто табе сказаў, што я хачу змагчы? Адзінае, чаго я хачу, дык каб знікла адчуванне, што нехта кожны дзень адкусвае ад мяне па кавалку, — Вера паставіла кубак на стол і паднялася да сябе.

Алег Аркадзьевіч не мог прыдумаць сабе занятку. Ён зноў хадзіў па доме. Дэталі, якія адразу і не заўважыш, пры бліжэйшым разглядзе раскажуць пра ўладароў галоўнае. Дом яшчэ не пранікся стратай, і ўсё сведчыла пра тое, што ў ім жывуць двое. Тут адчувалася Вера. Яе густ і характар. Быў таксама і Герман.

Алег Аркадзьевіч апрануўся і выйшаў на вуліцу. У гатэль вяртацца не хацелася. Ён патэлефанаваў прыяцелю, якога не бачыў ужо сто год, і дамовіўся сустрэцца, але ў апошні момант перадумаў і вярнуўся да Веры. Не здымаючы паліто, падняўся да яе ў пакой. Вялікі ложак быў акуратна засцелены, а Вера сядзела за начным столікам і глядзела на сябе ў люстэрка.

— Табе абавязкова спаць у гэтым пакоі? — раздражнёна запытаўся ён у Веры. Тая нават здрыганулася.

— Не ведаю, — яна збіралася ўжо легчы на невялікую тахту, на якой, відаць, і спала ўвесь апошні час, але перадумала і разаслала ложак. Алег Аркадзьевіч спусціўся ўніз і зрабіў сабе кавы. Вар’яцкі дзень. Ён зноў выключыў святло і сеў у мяккае крэсла. У галаве не было аніводнай думкі. Але ў гэтым крэсле і ў гэтым доме было так утульна. Побач жа з Верай яшчэ ўтульней. Нават цяпер ад яе зыходзіла святло, якога яму не хапала. Ды і не было куды ісці. Гэта згубленая дзяўчына на другім паверсе была яго адзінай надзеяй.

Ён дапіў каву і пайшоў наверх. Вера ляжала спінай да ўвахода, і Алег Аркадзьевіч не бачыў, ці спіць яна. Ён кінуў паліто на тахту і лёг на другі край ложка. Вера ніяк не адрэагавала. Здавалася, што яна сапраўды спіць. Але не спала. Яна павярнулася тварам да Алега Аркадзьевіча і паглядзела на яго. Такі позірк бывае толькі ў тых, каму ёсць што сказаць. Сваёй непрыкрытай праўдай ён забярэ твае апошнія сілы і ўсё, што ты можаш зрабіць, каб адпомсціць — адказаць тым жа.

Алег Аркадзьевіч прачнуўся ад незразумелага гуку. Першыя секунды ён усё не мог зразумець, дзе знаходзіцца. У ваннай шумела вада. Ён устаў і падышоў да дзвярэй.

— Вера, ты там? — не дачакаўшыся адказу, ён зайшоў. Вера сядзела на падлозе. Ён толькі цяпер заўважыў яе хваравітую худабу. — Што ты тут робіш?

— З’есці б які энерджайзер.

Алег Аркадзьевіч даверыўся інстынкту і нібы параненага салдата аднёс яе ў ложак.

— Гэта другі раз, — з сумнай усмешкай прамовіла Вера.

— Што другі раз? — не адразу зразумеў ён.

— Калі ты нясеш мяне. Першы я не памятаю.

— Аааа… Калі гэта было? — Алег Аркадзьевіч таксама ўсміхнуўся.

— Падобна на тое, што гэта было не проста ў мінулым жыцці, а некалькі жыццяў таму.

Алег Аркадзьевіч застаўся. Яны мала размаўлялі і, здавалася, што спрабуючы перамагчы ўласных дэманаў, нават не заўважалі адно аднаго. Верын дом стаўся прытулкам, дзе можна было схаваць сваю згубленую душу. Іх сумеснае адзіноцтва давала жыццю хоць нейкі кволы шанец. Дзень, два, тры… Час пераможа. Галоўнае, каб яго хапіла.

* * *

Вера прачнулася, калі было яшчэ цёмна. Зноў сніўся Герман, і як толькі паспрабавала дакрануцца да яго, сон скончыўся. Кожны раз яна спрабавала дакрануцца да яго і не атрымлівалася — Герман знікаў. Сёння Вера нават узрадавалася, што гэта толькі сон. Яна паднялася і па звычцы пайшла шукаць свайго маўклівага суседа. Алег Аркадзьевіч знаходзіўся на кухні.

— Са святам, — Вера заспела яго знянацку. — У мінулым годзе, здаецца, я нават не павіншавала цябе.

— І цябе са святам, — хутчэй па інерцыі, чым шчыра адказаў Алег Аркадзьевіч.

— Нічога, што ты сустракаеш Раство тут?

— А дзе яго павінен сустракаць? — здзівіўся Алег Аркадзьевіч.

— Можа, з сям’ёй? — няўпэўнена запыталася Вера.

— Вера, а тое, што я жыву тут невядома колькі, па-твойму, хоць неяк упісваецца ў сямейныя каштоўнасці? — ён павысіў голас, і каля вачэй з’явіліся глыбокія зморшчынкі.

— Не вельмі. Не бяры да галавы. І я не ведаю, што рабіла б, каб цябе не было ўвесь гэты час побач.

— Святочныя прызнанні?

— Гэта іронія? — Вера не зразумела яго інтанацыі.

— Не, — ужо больш мякка сказаў Алег Аркадзьевіч.

— Здаецца, мяне сталі крыху абцяжарваць пастаянныя дыялогі з уласнай віной.

— Віной? — цяпер настала чарга Алега Аркадзьевіча нешта не разумець.

Вера асяклася і адразу перавяла тэму:

— Якія ў цябе планы на сёння?
— Ніякіх. А што?
— Да мяне прыйдзе Гертруда. Можа, пабудзеш з намі?
— Дзякуй, але як-небудзь у наступны раз.
— Як хочаш, — яна не ўгаворвала.

* * *

Алег Аркадзьевіч сутыкнуўся з Гертрудай на парозе.

— Вы не павячэраеце з намі? — з цікавасцю паглядзела яна на Алега Аркадзьевіча.

— Не, але дзякуй за прапанову. Вера вас чакае.

Невядома якім чынам, але суіснаванне з гэтым чалавекам вяртала Веру на зямлю, а на большае Гертруда і не замахвалася. Тое, што яна зрабіла тады апошнюю спробу і не здалася, давала цяпер Гертрудзе магчымасць жыць у згодзе з сабой. Яна зайшла ў дом і распранулася.

— Вера, ты дзе? — гучна паклікала Гертруда. — Чаму твой працадавец такі нясветлівы?

— А ты яго ведала іншым? — запыталася Вера з кухні.

— Не. Але ён усё больш становіцца падобным да чалавека, а не да абскубанага ваўка. Ты што, гатуеш? — здзівілася Гертруда.

— Сёння ж Раство. Ды і ты не часты госць цяпер.

— У цябе і так неблагая кампанія.

— Ну-ну… Абскубаны воўк менавіта тое, што мне трэба, — засмяялася Вера.

Гертруда глядзела на сяброўку і ўспамінала той дзень, калі сама прачнулася і зноў убачыла свет вакол сябе. Калі новыя спадзяванні перамаглі безвыходнасць. Яна не ведала, ці ёсць у гэтым пастаянным коле паўтарэнняў хоць нейкі сэнс, але не магла дапусціць, каб Вера страціла шанец на свой дзень вызвалення. Цяпер Гертруда бачыла, што яе справа зроблена і можна скласці зброю.

— Гера, дзе ты лунаеш? — перарвала яе думкі Вера.

— Нідзе, на цябе гляджу.

— Няўжо так будзе заўсёды? Жыць, а ў галаве трымаць усё гэта. Ён заўсёды будзе недзе побач? — нечакана, але абсалютна спакойна, запыталася Вера ў Гертруды.

— Здаецца, заўсёды. Проста не так моцна, як спачатку, — спакойна, нібы яны размаўлялі пра ёлачныя цацкі, адказала Гертруда.

— Чаму, каб нешта зразумець, мне спатрэбілася так шмат? — да Веры вярталася здольнасць бачыць істотнае.

— Таму, што ты адна з тых, да каго марудна даходзіць, — невядома каму адказала Гертруда — ці то сяброўцы, ці то сабе.

— Толькі вось расплаціцца прыйшлося Герману. Вельмі няўтульна ад такой думкі.

— Ты лічыш, што толькі яму? Мне здаецца гэты рахунак у вас на дваіх.

— Магчыма. Ведаеш, я сёння асабліва адчула, што мне патрэбна маё жыццё, каб хоць крыху выправіць памылку, ад якой цяпер нікуды не дзецца.

— Час, Вера, не вернеш. Застаецца толькі жыць, і гэта адзіны шлях апраўдацца, калі ты сапраўды хочаш.

— Чаму здаецца, што я пражыла нашмат больш, чым на самай справе? — Вера не збіралася працягваць і зрабіла развітальны рэверанс прывідам.

— Нічога. Раскажы лепей, чым у цябе пахне, — Гертруда была рада яе падтрымаць.

— Твой люмібы пірог. Здаецца, настаў яго час, — Вера ўзяла нож і адрэзала для сяброўкі вялікі роўны кавалак.

* * *

Алег Аркадзьевіч вярнуўся позна. Ён здзівіўся, што Вера яшчэ не спіць. Яна сядзела ў крэсле спінай да ўвахода.

— Ты вярнуўся?

— Як бачыш.

— Чым збіраешся займацца заўтра?

— Нічым асаблівым.

— А паслязаўтра?

— Адкуль сёння столькі пытанняў?

— Нельга? — Вера ўважліва паглядзела на яго.

— Можна. Проста за гэты дзень ты запыталася больш, чым за ўвесь мінулы год. Неяк нязвыкла, — Алег Аркадзьевіч не памыліўся з адказам.

— А ты як заўсёды, — з'едліва заўважыла Вера.

— А ты цяпер вельмі падобна да таго чалавека, якога я калісьці ведаў.

— Мне цікава, колькі ты збіраешся тут са мной сядзець? — пытанні і не думалі станавіцца прасцейшымі.

— Выганяеш? — цяпер прыйшла яго чарга ўважліва глядзець.

— Што ты гаворыш?

— Нічога такога, — ён таксама пачуў тое, што хацеў.

— Я, канешне, не адрозніваюся асаблівай назіральнасцю, але твае спробы працаваць з гатэля не заўважыць толькі сляпы.

— У цябе ёсць прапановы? — проста запытаўся Алег Аркадзьевіч.

— Пара вяртацца дамоў.

* * *

Алег Аркадзьевіч сядзеў на траве і спрабаваў дапамагчы дзяўчынцы гадоў трох скласці пірамідку з яблык. Малая дзелавіта адмаўлялася ад дапамогі. Але калі яблыкі пачыналі рассыпацца, яна з надзеяй падымала на яго вочы, бо была ўпэўнена, што гэты чалавек можа ўсё на свеце. І Алег Аркадзьевіч цярпліва чакаў наступнай капітуляцыі дзіцяці. Ён выглядаў спакойным і задаволеным у сваёй несур'ёзнасці. Трава пад нагамі і дом за спінай даравалі прыемную павольнасць думак і разважанняў. Зоры ўрэшце вырашылі, што пройдзена дастаткова, і паказалі дарогу туды, дзе сама бессэнсоўнасць набыла сэнс. Гэта малеча была яго свабодай, летнім ветрам, які прыносіць палёгку ў спёку і пяшчотна кранае валасы. Доказ іх з Верай існавання. Заблукаўшыя шчаслiўцы, якіх сам сусвет вырашыў узнагародзіць шанцам на яшчэ адну спробу сустрэць новы дзень з расплюшчанымі вачыма.

— Як вашы поспехі? — Вера назірала за тым, што адбываецца ў садзе, схаваўшыся ў зялёнай альтанцы, якую з усіх бакоў абступалі высокія, з аранжава-шафранавымі галоўкамі, кветкі. Яна магла бясконца глядзець, як Алег Аркадзьевіч гуляе з дачкой. Гэтыя двое давалі ёй сілы моцна стаяць на зямлі і бачыць прыгажосць. Такую ж простую і дасканалую, як сонца, дождж і белы-белы снег. І толькі яблыні ў бабуліным садзе не дазвалялі забыць, што снег часцей бывае брудным, а дождж халодным. Вера не хацела думаць, што чакае наперадзе, і берагла галоўнае — час. Ён цяпер у іх з Германам быў адзін на дваіх.

*Міхась БАРАНОЎСКІ*

# ПАДАРОЖЖА ДА СЯБЕ



***Міхась Бараноўскі нарадзіўся 1 снежня 1984 года ў Мінску. Па спецыяльнасці гісторык. Працуе ў музеі Максіма Багдановіча. Аўтар праекта маладых творцаў «Вежа міру» на базе музея. Цікавіцца творчасцю ў розных яе праявах, спортам, псіхалогіяй. Паспяхова кіруе музычным гуртом «Нельга забыць». Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць».***

* * *

За імгненне да таго, як разгарнуць Майн Кампф…
За імгненне да таго, як рэзаць касой цялё…
За імгненне да таго, як напіцца пракіслага малака…
Я веру ў справядлівасць сусвету і справядлівы лёс…

За імгненне да таго, як сцяг паляціць у гразь…
За імгненне да таго, як на месцы сумлення заструпянее мазыль…
За імгненне да таго, як да Магамета не пойдзе гара…
Я веру ў цуда каляднай зоркі і ў неруш каляднай казы…

За імгненне да таго, як затвор праглыне патрон…
За імгненне да таго, як злодзей аголіць нож…
За імгненне да таго, як хам узбярэцца на трон…
Я веру, што можна па шклу ісці басанож…

За імгненне да таго, як праўда разбурыць сцены ілжы…
За імгненне да таго, як на паперы заззяе верш…
За імгненне да таго, як любоў асвеціць неба тваёй душы…
Здараецца так, што ўжо нічаму не верыш…
Я веру.

* * *

Так лёгка згубіцца
У чаргаванні
Палосак на сцяжках і штандартах.
Так лёгка заблытацца
У сімвалах веры,
Прымацаваных на шчыт.
Так проста сфальшывіць,
Калі песня перамогі і мілажалю
Ліецца не шчыра…

Калі гэтая вярэда табе не дае спакою
І сэрца шукае, да чаго прытуліцца —

Выйдзі на вуліцу.
І неба над галовой
Будзе твой сцяг…
І жменя зямлі пад нагамі
Будзе сімвалам тваёй веры…
І птушыны гоман
Будзе тваім гімнам…

Калі ты возьмеш упершыню
Дзіцёнка на рукі,
Падумай, якое слова яму сказаць.
Першае слова, якое будзе яму — Бог…
Слова, з якім ён зробіць першыя крокі
Па Роднай зямлі…
Слова, з якім ён ніколі не будзе
пачуваць сябе сіратою на выспе слёз…

* * *

А песні новыя пішуцца…
І сонца глядзіць ў акно…
І словамі не надыхацца…
Пад пошчак шчаслівых нот…

Вы чуеце: яна верціцца…
Скрозь пальцы далоў бяжыць…
Разгубленыя ў паняверцы…
Схавайце свае нажы…

Імя сваё перакрэсліце…
Замоваю ад бяды…
Падоранае на хрэсьбіны…
Паўторанае…
На дзяды…

* * *

Самае цёплае адценне шэрага —
вясновае.
Вясной ужо не шкада
Снег, які падае з неба ў роспачы
на зямлю.
Гляджуся ў вясновы горад,
Нібы ў люстэрка:
Ён такі ж няголены і памяты.
У вачах яго жыхароў
Я бачу тое, што адчуваю ў сябе ўнутры.
Раней увесну адзначалі Новы год.
Здаецца, продкі ведалі, што рабілі.

* * *

Прырода адпачывала
На мне,
Адпачывала з размахам.
Пустыя шклянкі ў пакоі
Звінелі
На ўсе галасы,
І цела,
Нібы не маё,
Варочалася пад пакрывалам.
А ўчора, здавалася,
Узялі мала,
А сёння
Нават мама
Сказала,
Які ў яе
Бесталковы сын.
Надвор’е дрэнь,
Але, як заўсёды, адпавядае
Унутранай палітыцы
І
Сітуацыі ў свеце,
І застаецца толькі адна надзея:
На вецер.
Старыя людзі
Казалі,
Што вецер
Вельмі не любіць смецця.
А думкі, нібы пчолы,
Роіліся ў маёй галаве.
Калі я правільна палічыў,
Іх было цэлых дзве,
Што для раніцы ўжо занадта.
Напэўна, учора я ўсё ж такі даў маху:
Прырода адпачывала на мне,
Адпачывала з размахам.

* * *

На крыжы іржа.
Вастрыё нажа
Цягнецца гнуткай шыі.

Нож у маёй руцэ
Кроўю на малацэ
Пранцы заваражылі.

…

Чорны кот як чорт
Разявае рот,
Седзячы на пыльнай дарозе…

Цені на дне ракі
Уважліва сочаць, на кім
Спыніцца яго позірк…

Сплюнь тры разы
На вымя казы
Саланаватай жыжкай…

Ад спуду і слез
Зорнага пылу нябёс…
Хопіць сталовай лыжкі…

Ідзі на поўнач…
Ноч на поўню…
Чытай сівыя замовы…

Цалуй воўчы след…
І няхай белы свет…
Здрыганецца ад тваіх словаў…

…

На крыжы іржа.
Вастрыё нажа
Цягнецца гнуткай шыі.

Нож у маёй руцэ
Кроўю на малацэ
Пранцы заваражылі.

* * *

Вада бяжыць у мора
Па ўзорыстых рэчышчах тваіх далоней.
Рака жыцця…
Рака сэрца…
Лёсу…
Розуму…

Ты не можаш спыніць гэтай плыні.

Колькі не сціскай пальцы ў кулак,
Пырскі часу ўсё роўна праліюцца
на зямлю…

Але прыслухайся…
Чуеш?..
Гэта вецер шукае ветразь…
Ён заве ў падарожжа…
Самае цікавае падарожжа,
якое ты мог уявіць —
Падарожжа да сябе...

* * *

Я не ведаю, якое заўтра
будзе надвор’е…
Бура, альбо мёртвы штіль...
Таму хвалююся, як дзіця…

Пажадай мне ні пуха ні пер’я…
І каціся да чорта…

У пошуках выспы Сонца
Мой карабель хаваецца
за гарызонтам…

*Яўген МАРТЫНОВІЧ*

# КРАСАВІК

## *Абразкі з вясновага сшытка*



***Яўген Мартыновіч нарадзіўся 3 красавіка 1985 года ў Мінску. Скончыў БДПУ імя М. Танка, працуе ў сярэдняй школе № 201 настаўнікам па гітары. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Вожык», «Вясёлка», газетах «Туризм и отдых», «Перья». Галоўнае для яго — не азірацца з зайздрасцю на людзей, што робяць нешта лепей, а самому паспрабаваць зрабіць нешта такое, за што не было б сорамна.***

**1**

У красавіку так лёгка складаць вершы і вымаўляць словы! Радкі нібыта самі кладуцца на паперу, а ты толькі паспявай іх занатоўваць. Яны так смачна пахнуць маладым вясновым небам і дрэвамі…

Але па-сапраўднаму гэтыя вершы будзе здольны ацаніць толькі кастрычнік! А зануда-лістапад ужо трошкі пазней спытае: «Якія вершы? Вы здурэлі! Зіма ж на носе, газ зноў падаражэў! А вы мне пра вершы! Вар'яты!»

Але пакуль ты ўпэўнены, што менавіта ў гэты момант усё, што бачыш, і ёсць тое «сапраўднае і непераможнае», што яшчэ трымае цябе на гэтай зямлі ў красавіку.

І ты ўсімі магчымымі сродкамі расцягваеш гэты красавік (на тысячы кіламетраў, на светлавыя гады). Ты не спіш… Ты п'еш каву і курыш у адчыненую фортку, як ніколі не піў і не курыў у астатнія месяцы года, каб толькі яшчэ больш расцягнуць яго… Каб не спаць!

Гэты безнадзейна вар'яцкі красавік ты хочаш падарыць усім жыхарам горада! Усім без выключэння. І ты ўпэўнены, як апошні рамантык, у сваім імкненні зрабіць гэты свет прыгажэйшым, больш чуллівым і светлым… Няхай гэтая ўпэўненасць больш не пакідае цябе. Хаця б у красавіку.

**2**

Першага красавіка…

Вось калі ўжо можна адвесці душу і пажартаваць досыць. Але ты не можаш прыдумаць жартаў кшталту фільма «Гульня» з Майклам Дугласам, таму задавольваешся: «Ой, што гэта ў цябе на спіне?»… «Гы-гы-гы».

Першага красавіка — такі смешны дзень…

**3**

У адной з букіністычных крам жанчына-прыёмшчыца кніг бярэ ў рукі «Неверагоднае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі» С. Лагерлёф. Гартае яе. Кніга трошкі

неахайная: вугалкі вокладкі кімсьці пагрызены, некаторыя старонкі скамечаны ці ўвогуле адсутнічаюць… Прыёмшчыца звяртаецца да мужчыны:

— Што, мышы пагрызлі?

— Не, унучка… Ужо вырасла.

Жанчына расплываецца ва ўсмешцы і працягвае далей прымаць кнігі.

І неяк усім становіцца ўтульней ад гэтых слоў… І людзі таксама ўсміхнуліся разам з гэтай жанчынай. На хвілінку…

**4**

У красавіку мы абуджаемся і абуджаем! І ўжо толькі за гэта я люблю яго — мой красавік…

**5**

Год — цэлае жыццё! Больш нічога не будзе новага. Усё паўторыцца зноў і зноў, каму як пашанцуе! Але чаму чалавек чапляецца за гэтыя «паўторы», хоць і ведае, што наперадзе яго чакае?

Мабыць, яшчэ не прыйшла «тая самая вясна, тое самае лета…» Не ведаю. Можна толькі здагадвацца, адкуль такая прага.

І дарослыя, як дзеці, будуць чакаць працягу гэтай казкі, добра ведаючы яе змест. Але для кожнага яна будзе гучаць па-свойму.

**6**

…І ніхто нікому не зайздросціць у красавіку! Бо ўсе вакол багатыя! Багатыя СОНЦАМ і ЦЕПЛЫНЁЙ! Як жа ўсё проста…

**7**

Мой дзень нараджэння — 3 красавіка!

У дзяцінстве я з такой нецярплівасцю чакаў яго. І нараджаўся кожны год па-новаму. І я адчуваў гэтае нараджэнне ў кожным сваім руху, у кожным глытку паветра.

3 красавіка — мой дзень нараджэння…

Я з раніцы ўжо не ў сілах цярпець сон і коўдру… Так хочацца падарункаў і цудаў. І ўсё гэта было! А як інакш? Я дакладна памятаю: цуд быў...

Мама з раніцы так па-добраму ўсміхалася:

«З днём нараджэння, сына».

Як жа прыемна… Да дрыжыкаў.

А я ціхенька (з прасоння) ёй адказваў:

«Дзякую, мама».

Трэцяга красавіка — дзень майго нараджэння!

«Дзякуй табе, мама…»

* * *

Памятаю, калі мне споўнілася дванаццаць год — на вуліцы яшчэ ляжаў снег. А я так яму радаваўся. Амаль у сярэдзіне вясны я яшчэ магу пакатацца на санках!

Вось гэта цуд дык цуд! Пасталеўшы, я стаў называць гэты ЦУД, як і ўсе дарослыя: «анамалія» (і пры гэтым рабіць разумны такі выгляд).

**8**

Кожны год напрыканцы красавіка я катаюся ў парку Горкага на «Коле агляду». Гэта мой маленькі рытуал, які дапамагае мне бліжэй убачыць «наступствы» вясны. Адчуць яе па-сапраўднаму… Удыхнуць яе на ўсе грудзі!

Я бачу горад, людзей на лаўках. Хтосьці п'е піва (ці квас — не разбярэш), а нехта застыў у салодкіх абдымках. І тым, і другім так добра і ўтульна гэтым вечарам, у гэтым красавіку…

Трошкі загледзеўся — і вось ужо сярэдзіна майго маршрута. Самая высокая кропка. Так хочацца застыць у гэтай вышыні, паназіраць за дрэвамі і птушкамі, за горадам (а там, удалечыні, зноў нешта збудавалі?), за тым вось параходзікам, на якім катаўся з бацькамі ў дзяцінстве… Ад лішку пачуццяў перахоплівае дыханне, хочацца з кімсьці падзяліцца гэтым. Толькі навошта? Усім і так добра. І ўсе ў красавіку добрыя.

*** * ***

Але на гэтую паездку выдадзены толькі адзін квіток. І я сыходжу з майго «чортава кола», да новай сустрэчы ў наступным красавіку.

**9**

Раней мой красавік раздаваў так шмат абяцанняў! Але кожны раз трошачкі ашукваў.

Што жадаў я пачуць ад яго, тое і чуў.

Што жадаў я зразумець, тое не разумеў!

І ў гэтым быў увесь красавік: прапахлы дымам і бярозавікам.

Лепш наогул нічога ў яго не пытаць. Хай будзе так, як ёсць. Можа, тады і прыйдуць тыя самыя адказы?

Застаецца толькі спадзявацца…

*** * ***

Цяпер мой красавік не любіць даваць абяцанняў.

І мы з ім зноў сябруем!

## ЗАМАЛЁЎКІ

### Смак

Крым. Феадосія. Цёплы паўднёвы вечар. Жанчына ў захапленні ад украінскіх страў не можа знайсці слоў, каб з нечым параўнаць смак толькі што з'едзенага сала. Мужу:

— …Вова, ну гэта не сала! Гэта не сала, а проста нейкі эклер!

**Зімні вечар**

Суботні вечар. Звычайны, як амаль усе зімовыя вечары. Хочацца нейкага, ну хоць маленечкага, свята. Але «свята» можа прапанаваць толькі тэлевізар: аголеныя зоркі расійскага «шоубізу» скачуць па сцэне, як звар'яцелыя малпы. Брыдка.

Я выключаю гэтае «істэрычна-сінтэтычнае» відовішча і спрабую дачытаць аповесць, да якой усё аніяк не дойдуць вочы. Але і гэтае простае жаданне застаецца нездзейсненым: суседзі не падтрымліваюць мой маленькі пратэст і на ўсю моц працягваюць слухаць-глядзець гэтую брыдоту. Засяродзіцца на аповесці не атрымліваецца. Вушы прыслухоўваюцца да гукаў. Вушам жа трэба ежа! Нават такога таннага кшталту. Здраднікі…

Я не вытрымліваю і выходжу пакурыць на балкон.

Выратавальная цішыня! Фууу… Як цудоўна. Адразу ўспамінаецца лецішча і бабуліна вёска, дзе так спакойна і ціха, што можна пачуць нават ходу стрэлак маленькага гадзінніка; гэта тое месца, дзе можна адчуць голас сваіх думак. І гэтыя думкі не змрочныя… Не, зусім не змрочныя.

Трошкі супакоіўся.

Да вясны застаецца ўсяго дванаццаць дзён.

**Дранікі**

З дзяцінства люблю пах дранікаў, які застаецца пасля абеду ў кватэры. Калі я адчуваю яго, то ўпэўнены, што сёння ўсе будуць дома і нічога дрэннага не адбудзецца. Ну як можа здарыцца нешта дрэннае, калі ўсе пад'елі хрумсткіх дранікаў?

**Шчаслівы посуд**

Мы перабілі посуду на пяць год наперад… На пяць шчаслівых год.

**Самападман**

І зноў корак плавае ў бутэльцы. І зноў сам сабе абяцаеш набыць штопар, каб больш не ўзнікала такіх вось форс-мінораў. Вось ён — самападман.

**Урывак са сну**

Сумныя людзі сабраліся ў сумным месцы, як бетонныя пліты ў спальным раёне горада N. Людзі без імя і звання; людзі без розніцы і без прычыны; людзі без жадання і праблемы! Імя ім легіён...

**Касірка**

У краме, пасля таго, як усе тавары прайшліся па «ленце» і былі «прабіты», касірка пытае ў мяне:

— 1.150 рублёў ёсць?
— Няма.
— 150?
— Таксама няма.
— 50?
— …. — я паціскаю плячамі…

З сумным уздыхам, як быццам на яе зваліўся ўвесь цяжар сусвету, яна адлічвае 3.850 рублёў з маёй «нешчаслівай соткі» і праводзіць мяне, нібы злодзея, сваімі прыўкраснымі зялёнымі вачыма.

У наступны раз я буду больш прадбачлівым і спецыяльна «разаб'ю» буйныя купюры, каб не злаваць касірак і пачуць запаветнае: «Дзякуй, што без рэшты». Але да зеленавокай прыгажуні, на жаль, я больш не падыду.

**Дзверы**

Калі я ў дзяцінстве хадзіў з бацькамі ў госці, мне здавалася, што за чарговымі дзвярамі адкрыецца штосьці невядомае, нейкі іншы казачны свет (са сваімі сакрэтамі і правіламі). І гэта ўсё адкрывалася — гэта таямніца чужой хаты! Пах, рэчы, фотаздымкі, карціны, чорнае піяніна з вазачкамі і белымі сурвэткамі, сабака, які спрабаваў «падпяваць» пад гукі гэтага піяніна; незлічоныя скарбы, якія былі шчодра раскіданы па ўсёй кватэры, прыцягвалі мяне і прымушалі шкадаваць пра тое, што не я з'яўляюся іх уладальнікам!

Але цуд знікаў з прыходам да гэтых дзвярэй у другі раз… А ў трэці — дык наогул не хацелася ісці ў гэты сумны «разгаданы свет», куды нас клікалі на ўсе знакавыя святы года. Гэта ўжо было пакараннем нейкім. Хацелася новых таямніц і скарбаў! Такая вось капрызлівая дзіцячая душа.

Але заставаліся мільёны іншых дзвярэй: драўляных, жалезных, абабітых дэрмацінам, з якіх тырчала нейкая незразумелая брудная вата… Яны вабілі мяне сваёй недасягальнасцю. Мільёны дзвярэй. Мільёны таямніц, на разгадку якіх не хапіла б і 1000 жыццяў. І мне станавілася так шкада, што я не паспею знайсці тыя самыя-самыя галоўныя дзверы, за якімі ўжо не прыйдзецца шукаць іншыя…

…Тое было ў дзяцінстве.

**Багацце**

Сэрца супакойваецца, калі я гляджу на прыемную сінь тамоў збору твораў А. П. Чэхава. Вось яно — сапраўднае багацце!

**Кубікі**

Што мы робім усё жыццё? Толькі і складаем словы. Я памятаю гэту гульню яшчэ з дзяцінства, калі бацькі мне падарылі кубікі з літарамі.

Што можа скласці з гэтых кубікаў дзіця? «Маці, лес, дом…» Такія вось простыя словы, такія добрыя словы... Тады ўсё было проста. Не патрабавалася кагосьці здзіўляць. Ніхто ж не скажа дзіцяці, што словы «мама» ці «тата» — гэта неарыгінальна. Не, усе здзіўляюцца і радуюцца вакол цябе, як быццам гэтыя словы былі прыдуманы менавіта табою ўпершыню. І сапраўды, мне, дзіцяці, так і падавалася.

А потым кожны дзень з’яўляліся новыя словы… Незразумелыя, прыгожыя, дрэнныя, моцныя, калючыя, балючыя… Калі і што (пры якіх абставінах) выкарыстоўваць, «падкажуць» бацькі, выхавацелі, настаўнікі, сябры, кнігі. Шмат кубікаў і слоў. І ты не ведаеш, што з гэтым багаццем рабіць!

Тады я ўспамінаю гэтыя самыя першыя словы, самыя значныя для мяне словы: мама, тата, лес, дом. І на некалькі хвілін супакойваюся…

**ІМПРЭСІІ**

**Дні віна і руж**

У тую пару мы не ведалі (ды і не жадалі ведаць), што нас чакае наперадзе. Нас вабілі дарогі і падарожжы, цікавыя людзі і віно… Віно! Яно аднекуль само бралася, знаходзіла нас і трапляла на наш святочны стол. І ніхто не лічыў, хто колькі выпіў. Кожны стол быў для нас святочным… Кожная гутарка была самай непаўторнай, самай шчырай ды важнай. Тады ўсё было САМАЕ-САМАЕ! У дні віна і руж.

Мы дарылі кветкі… Нашыя ружы з шыпамі і свежымі трапяткімі пялёсткамі траплялі ў самыя пяшчотныя рукі, у самыя любімыя рукі, у самыя цёплыя рукі… Гэта было так проста і звычайна, як уплятаць у валасы зоркі і трымаць у далонях туман Млечнага Шляху. У дні віна і руж.

У гэтыя дні ўсё было дазволена!

Межы?

Гэтакая ўмоўнасць!

Сорам?

Хай сароміюцца тыя, хто выдумаў гэты сорам.

Мы былі багатыя гэтымі ружамі і віном. А большага нам і не трэба.

Але былі тыя, хто гаварыў нам, што ружы нашы завянуць ды высахнуць, а віно пракісне і ператворыцца ў воцат; што ўсё гэта хутка знікне і мы станем звычайнымі… як мае быць.

Так вам бы і хацелася?!

Так бы вам было зручней?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Вяртанне**

Пачатак вясны. Ноч. Пад нагамі хлюпота. Ён вяртаўся дадому ад свайго даўняга сябра. Колькі ўжо было вось такіх вяртанняў? Ён і не памятаў. Але ў гэты раз так не хацелася ісці ў холад і слоту. Падэшвы не вытрымалі іспыту і ўсмакталі некалькі глыткоў гэтага брудна-салёнага кісялю. Якая непрыемнасць…

На прыпынку бязлюдна. Надзея, што нешта з транспарту пад’едзе, раставала з кожнай хвілінай чакання. Але ў апошні момант, калі ён вырашыў ісці пешкам, удалечыні выплылі два жоўтыя трамвайныя вочкі.

* * *

У трамваі ўжо не было так брыдка на душы. Выратавальная цеплыня ахутвала яго. Трамвай упэўнена скарачаў шлях дадому. Грукат колаў закалыхваў. І ён нават усміхнуўся нейкай сваёй прыемнай думцы.

* * *

Яна ўвайшла ў трамвай разам з ветрам: зусім нячутна і лёгка. Ён адразу і не зразумеў, што да яго нехта падсеў, таму і не паспеў яе як след разгледзець.

Пустых месцаў было дастаткова, але дзяўчына прысела менавіта каля яго (капрызлівая Фея). Яму на хвіліну падалося, што ўжо недзе бачыў яе. Але ж дзе? Яму хацелася спытаць пра гэта. Аднак было неяк боязна і няёмка. Таму вырашыў маўчаць («тактыка» да болю знаёмая).

«Усё роўна ведаеш наперад, што будзе. Колькі пераўжыў ужо такіх вось маленечкіх «падарожных раманчыкаў»? Калі нешта казалася… Навошта тады ўсё псаваць?» — вырашыў ён.

І яны працягвалі моўчкі ехаць. Ён адчуў, як ад валасоў яго выпадковай спадарожніцы пахла смачнай ванільнай прахалодай і нечым яшчэ, што праняло яго наскрозь. Але ён не наважваўся разглядаць дзяўчыну… І проста дыхаў гэтым чароўным водарам.

За акном плылі ліхтары, якія выхоплівалі з цемры двароў дрэвы і адзінокія шкілеты арэляў ды турнікоў з дзіцячых пляцовак; на мігаючае жоўтае святло светлафора праносіліся рэдкія машыны… Горад спаў.

Праз прыпынак дзяўчына сышла. Ён праводзіў яе танюткую постаць позіркам, але так нічога і не прамовіў услед.

* * *

Трамвай працягваў сваю шумную хаду — упарта і нястомна. А ягоныя думкі засталіся з той дзяўчынай. Перад ім усплывалі шматлікія вобразы з нейкага далёкага, амаль ужо нерэальнага, жыцця. Ён нават і не здагадваўся, што яны яшчэ настолькі жывучыя. Нічога не сцёрлася з памяці. Ён успомніў яе…

…Ён успомніў, што калісьці вучыўся разам з пасажыркай у адной школе. Да сярэдзіны восьмага класа. Успомніў, як упершыню ўбачыў яе. Яна адразу ўразіла яго сваёй лёгкасцю і глыбінёй трошкі вільготных вачэй. Гэта было тое самае першае каханне! Наіўнае і трапяткое… Ці яму тады так падавалася? Хто яго ведае? Ён нават наважыўся напісаць ёй ліст і падкінуць з трыма каштанамі ў яе рукзак, бо быў упэўнены, што сустрэў нешта сапраўднае і шчырае, да чаго так хацелася дакрануцца і не адпускаць. А на наступны дзень яна прынесла яму гэтыя каштаны. Усміхнулася (цёпла-цёпла) і моўчкі паклала іх на ягоную парту.

Тады гэта быў самы шчаслівы момант у яго жыцці! Ён не мог паверыць, што гэта адбываецца менавіта з ім.

Потым яны ўжо разам збіралі каштаны, калі шпацыравалі па парках. Не хапала месца ў кішэнях, каб уся гэтая прыгажосць умясцілася ў іх. А выкідваць было шкада гэты скарб. Ён паказаў ёй усе свае любімыя месцы ў горадзе, якіх было так шмат. А яна ніколі не крыўдзілася на яго за гэтыя шматгадзінныя падарожжы. Яны доўга глядзелі на падаючае лісце і на Свіслач, якая зносіла яго кудысьці на поўдзень, кармілі печывам тлустых качак. Яны без супынку нешта гаварылі адзін аднаму і нешта абмяркоўвалі. І шмат было абяцанняў (хапіла б на тры жыцця, а можа, і болей). Так шмат, што ўжо і не прыгадаць…

Але напрыканцы лютага яна з бацькамі з'ехала кудысьці. Гэта было так нечакана, што ён тады адразу нічога і не зразумеў. Толькі праз некаторы час да яго дайшло, што яны больш не ўбачацца.

Потым ён амаль месяц не хадзіў на заняткі. Шукаў яе… Распытваў суседзяў. Гадзінамі сядзеў каля тэлефона і яе пад'езда, але ўсё было дарэмна (ніякіх вестак

ад яе не было). Злыя языкі пляткарылі, што гэта ўсё з-за яе бацькі. Маўляў, з'ехалі з-за даўгоў (нейкі бізнес у яго быў, ды прагарэў). Але ён не верыў чуткам! Прычына была ў нечым іншым. Але ў чым? Ён не мог на гэта адказаць. Заставаліся толькі меркаванні ды сумненні. А потым ён захварэў.

Як жа гэта было даўно!

Яго штурханула ад рэзкага тармажэння трамвая…

* * *

На апошнім прыпынку яго разбудзілі. Ён з цяжкасцю прыпомніў сваю нядаўнюю мрою.

Нечый голас упэўнена зрабіў выснову:

«Відно, што п'яны».

Ён не спрачаўся. Навошта? Лепш проста выйсці, без аніякіх праблем на сваю галаву. Вось ён і пайшоў сабе ціхенька. А што заставалася рабіць?

Праз некалькі крокаў ён на момант спыніўся і нешта намацаў у кішэні паліто: гэта былі тры каштаны… ссохлыя, але яшчэ даволі важкія. Тыя самыя… Не, не яны. Проста заваляліся з восені. Праваліліся ў дзіравую кішэню за падкладку. Але яму так хацелася верыць!..

Цяпер ён ужо не спяшаўся дадому. Ён проста крочыў і спадзяваўся, што сустрэне яе яшчэ раз. Толькі дзе і калі? Гэта ўжо не так істотна. Бо ён быў упэўнены… і шчаслівы.

### Пакетны чалавек

Жыў-быў чалавек. І была ў гэтага чалавека жарсць! Мабыць, нават і не жарсць, а адно захапленне — ён вельмі любіў збіраць пакеты і пакецікі. Напэўна, шмат у каго з нас ёсць такі куток у хаце, дзе ляжыць адзін *галоўны* пакет, а ў ім з дзясятак пакетаў больш «нізкіх чыноў». Але ў гэтага чалавека гэтых «куткоў» было значна больш!

Кожны дзень яго бачылі з новым пакетам.

На Пакетнага чалавека (у хуткім часе яму далі такую мянушку) звярталі ўвагу часцей за ўсіх маленькія дзеці. Здаралася так, што яны нават дражнілі яго. Але не па-злому. І гэта часам прыцягвала ўвагу дарослых, якія абрывалі сваіх дзяцей са словамі: «Не злуйце Пакетнага чалавека, інакш ён прыйдзе да вас уначы і знясе ў адным са сваіх пакетаў». На што дзеці адразу супакойваліся і праводзілі гэтага дзіўнага чалавека вялікімі ад страху вачыма. Як вы здагадаліся — нікога Пакетны чалавек яшчэ не забраў... Таму што ён не трымаў ні на кога злосці.

У яго былі даўнія сябры: Бутэлечны чалавек і Кардонны чалавек. Часам іх шляхі перасякаліся. І кожнаму з іх было пра што распавесці іншаму, але яны маўчалі. Яны віталі адзін аднаго лёгкімі кіўкамі і разыходзіліся, кожны ў свой бок. І гэта цешыла Пакетнага чалавека: навошта марнаваць час на непатрэбныя размовы, калі яшчэ так шмат трэба зрабіць. Такт вышэй за ўсё!

* * *

Пакетны чалавек знік за паваротам і яшчэ доўга чулася шабуршанне яго пакетаў, а мо апалага лісця?..

*Фелікс БАТОРЫН*

# АДРОЗНІЦЬ ГОДНАСЦЬ АД ГАРДЫНІ



***Фелікс Баторын нарадзіўся 5 лютага 1948 года ў Мінску. Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, працаваў урачом. Аўтар пяці паэтычных кніг. Перакладае з ідыш, нямецкай, рускай, польскай моў.***

* * *

Плачам надрыўным смяецца сава.
Змрок раскатурхвае рэха.
Росы п'ючы, падрастае трава,
Плоць у бабоў і арэхаў.

І прабіваецца ў цемры начной
Думка наіўная тая,
Што і ў мяне пад маёй шкарлупой
Вартае штось падрастае.

* * *

У вечнасці, адзіна існай,
Імгненны пераліўны рух —
Так бліснеш ты, і я так бліснў,
І сем мільярдаў звыш нас двух.

У марнай мітусні кірмашнай
Да змроку ночы ад відна
Ламаны грош — гардыні нашай
Як ёсць найкрасшая цана.

О, Творца цвердзі, хлябі й сіні,
Што нас вядзеш праз рубяжы!
Адрозніць годнасць ад гардыні
За міг жыцця мой памажы.

* * *

Прыйшоў маляр, што ўсё фарбуе белым,
А з ім каваль, што ўсё куе з вады.
І, радыя рабінным гронкам спелым,
Зусюль гілі злятаюцца сюды.

А я прынёс даўжэзныя драбіны.
На чвэрць у снег убіліся яны.
І я з драбін падзёўбваю рабіны,
Ад горычы салодкае п’яны.

Наўкол палі, што толькі што
з-пад пэндзля,
І рэкі з рук умельца-каваля.
А словы самі складваюцца ў песню.
І гэтай песняй поўніцца зямля.

## ДУМКА

Заблудзілася роспачна думка
Сярод шэрых фіёрдаў мазгоў.
І шукае яна віядукаў,
Пераходаў, праходаў, мастоў.

Птушкай б’ецца ў каменнае неба,
Што змыкаецца сферай над ёй.
І не бачна нікому, і нема
У цяснінах радзімы сваёй.

Хоць было б з кім параіцца можна,
Ды з сабою заўсёды адна —
Як ёй страшна, сумнеўна, трывожна:
Ці камусьці патрэбна яна?

Як жа вольна яна панясецца,
Быццам пыл, атрасаючы страх,
Калі вырвецца ўрэшце праз сэрца
У бязмежны духоўны прасцяг.

## * * *

Мая мясцовая айчызна —
Даўнейшай Ратамскай двары,
Дзе, расхрыстаўшыся, бялізна
Капітулюе на вятры,
Дзе гарадскія пеўні-дурні
Гадзіны блытаюць штораз
І дзе паперкі міма урны
Шпана шпурляе напаказ,
Дзе партызана з паліцаем
Прыгрэў у хліпкай хатцы ЖАКТ
І абяцае, абяцае,
Складаючы за актам акт...
Дзе хмельныя Антон і Міша
Бязглузда б’юцца кол на кол,
А дзед Андрэй даносы піша
На ўсё, што дыхае вакол,
Дзе на вадзе бліны пякуцца,
Дзе ў скоках не шкадуюць ног,
Куды так хочацца вярнуцца,
Куды вярнуцца — не дай Бог.

## РАЗВАЖАННІ НА КОЛІШНІМ КОТЛІШЧЫ

Прысеў на пачарнелы студні зруб.
Гляджу на ўзлобак. Там, як і калісьці
Штораз адважна кідаецца дуб
У бойку з ветрам, закасаўшы лісце.

І там, і тут — зламаныя сукі,
Бо не слабыя ўсё ж гулі віхуры,
І вострыя былі, відаць, клінкі
Маланак не ў адной шалёнай буры.

Мне бур такіх, на шчасце, лёс не слаў.
Павесіў ён на шула мне падкову.
Пазногці я хіба сабе ламаў —
І то не ў барацьбе, а выпадкова.

І ўсё ж у цягу дробнай валтузні
Бываў я часта з немаленькім гузам,
Лез на ражон упарта дзень пры дні,
Ігнараваўшы грозьбы і спакусы.

У пекла пнуўся, абмінуўшы рай,
Я сам, таму няма чаго злавацца.
Выпрабаванняў жорсткіх, Бог, не дай!
Ну, а дасі — тады не дай зламацца!

## РЭЧКА МАЛЕНСТВА

Бераг мурожны. Гусей чарада.
Пахне жалезам рудая вада.

Пахне балотам зрыжэлы чарот.
З красак ліловых струменіцца мёд.
Дзе мае вуды даўжэзныя, дзе?
Тут печкуры, як кілбасы ў вадзе,
Бляск залаты акунёвай кірзы,
А пад карчамі стаяць ментузы.
Белыя плоткі з чырвоным пяром.
Ёршыкаў-горшыкаў мы не бяром!..
Ходзіць маленства маё па вадзе.
Толькі ж я сам немаведама дзе...

**РАЗВАЖАННІ
ПЕРАД ТВАІМ ФОТА
ПАДЧАС НАВАЛЬНІЦЫ**

*Як заўжды, Ані*

Налёт віхур зніштожыў
І сінь, і далячынь
І стогне кветак сад ад градабою.
Няма і быць не можа
Гармоніі ні ў чым,
Апроч кахання нашага з табою!

* * *

Ноч гадуе дбайна цені
Змроку чорным малаком.
Найапошняе праменне
Гасіць захад за ляском.
Залюляны дол туманны
Ціхай лісця варажбой.
І вядзе па небе Панна
Дзвюх Мядзведзіц за сабой.

**СЛАНЕЧНІК**

Унурыў сланечнік у слоту
Сваёй галавы пазалоту.
І сніцца сланечніку: сонца
Развесіла ў голлі красёнцы,
І сетку закінула ў рэчкі,
І ў травах расставіла свечкі…
Я брат твой, сланечнік: у скрусе
У слоту я сонцу малюся.

**РАЗВАЖАННІ
ПРА ДВАІСТАСЦЬ**

Азорыць радасны прамень
Зямлю, ратуючы ад стыні.
А ўслед надарыцца сухмень,
Жывому шанцаў не пакіне.

Пральюцца шчодрыя дажджы
Зямлі засмяглай на патолю.
Але з бязлітаснай пращчы
Ударыць град, здратуе поле.

Няма гармоніі ні ў чым,
Спрэс пераборы, перахлёсты.
Адольваць зло, кахаць жанчын —
Усё двaіста і няпроста.

І з той двaістасцю нам жыць,
І з той двaістасцю памерці.
А НЕдвaіста — прах ляжыць
У скрынцы па стандартнай мерцы.



Генадзь АЎЛАСЕНКА

# КАСМІЧНАЯ БАГІНЯ ПАЛЯВАННЯ

*Апавяданне*



***Генадзь Аўласенка нарадзіўся 16 жніўня 1955 года ў вёсцы Ліпнікі Ушацкага раёна. Па адукацыі біёлаг, доўгі час працаваў сельскім школьным настаўнікам. Цяпер займае пасаду рэдактара ў «Маладосці» — займаецца разам з новымі калегамі рэбрэндынгам часопіса «Бярозка». Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей і дарослых.***

## 1

— Да вас наведвальнік! — весела аб'явіла мне маладзенькая санітарка, зазірнуўшы ў палату. — Пусціць?

— Ні ў якім разе! — прасіпела я, марна спрабуючы прыдаць ахрыпламу голасу хоць нейкі элемент уладнасці. — Не жадаю нікога бачыць!

— Як скажаце! — разгублена прашаптала санітарка, асцярожна зачыняючы за сабой дзверы.

— І не ўздумай усё ж пускаць! — сабраўшы апошнія сілы, гыркнула я наўздагон. — Аклямаюся — заб'ю!

Я ўжо здагадвалася, што гэта за наведвальнік, а праз імгненне ўпэўнілася, што ні на ёту не памылілася, бо ён ужо ўваходзіў у палату.

Той, бачыць каго мне хацелася цяпер менш за ўсё.

Мой глыбокапаважаны шэф.

Выглядаў ён на здзіўленне бадзёра і элегантна. Зрэшты, шэф заўсёды так выглядаў. А яшчэ ён быў д'ябальскі абаяльным.

Не прывабным, а менавіта абаяльным. Ён літаральна зачароўваў сваім абаяннем усіх дурненькіх і наіўных асобін супрацьлеглага полу і зачароўваў да такой ступені, што гэтыя прасцячкі проста гублялі галовы. Я сама прайшла праз усё гэта ў свой час і таму перадумала забіваць маладзенькую санітарку, якая асмелілася, нягледзячы на катэгарычную маю забарону, упусціць у палату гэтага гнюснага тыпа.

— Салют! — данёсся да маіх вушэй сакавіты барытон (хоць, у дадзены момант я аддала б перавагу злавеснаму змяінаму сыканню). — Слухай, а ты малайцом!

Стараючыся трымаць сябе ў руках, я адразу ж выказала ўладальніку сакавітага барытону ўсё, што ў дадзены момант думаю. У думках выказала, а не ўслых…

Зрэшты, я зусім забылася, што мой шэф, калі верыць плёткам, здольны чытаць думкі.

— Скадзі, Скадзі! — уздыхнуў ён, падыходзячы бліжэй да ложка. — Ты такая ж прыгожая, як Фрэйя, але чаму ў цябе няма яе здольнасці да самаахвярнай уседаравальнай любові?

Наш шэф — вялікі знаўца і гарачы прыхільнік скандынаўскай міфалогіі. Але ягоны любімы герой — не Одзін і не Тор, а хітрамудры і каварны Локі. Што, дарэчы, нікога і не здзіўляе…

А яшчэ шэфу вельмі падабаецца Фрэйя, багіня кахання і прыгажосці.

Але ж я не Фрэйя, а Скадзі! Так, між іншым, называлі скандынаўскую багіню палявання…

— Успомні, як Фрэйя аднойчы, каб атрымаць каралі Брысінгамен, правяла чатыры ночы кахання з брыдкімі карлікамі, — працягваў развіваць любімую тэму шэф. — А я, здаецца, і няблага выглядаю, і прапанаваць табе магу куды больш, чым нейкія там старажытныя каралі. Гэта не тое, каб намёк, але…

— Ты лепш успомні, што зрабіла сапраўдная Скадзі з тваім любімым Локі, калі ён яе канчаткова дастаў! — перабіла я шэфа. — Гэта таксама, не тое, каб намёк…

— Добра, не будзем пра сумнае! — адразу ж змяніў тэму шэф. — Дарэчы, магчыма, табе будзе цікава даведацца, што толькі за сённяшні дзень да нас, у Цэнтр, паступіла не менш як дзесяць тысяч электронных паштовак з віншаваннямі і пажаданнямі ў твой адрас. У першую чаргу, каб ты хутчэй пайшла на папраўку…

— А ці не пайшоў бы ты сам куды далей! — …прасіпела я, адкінуўшы ўсялякую дыпламатыю. — Думаў купіць мяне на гэткую туфту?!

— Ды не, з чаго ты ўзяла? — прагаварыў шэф, і выраз ягонага твару зрабіўся крыху разгубленным. — Проста я лічыў, што табе будзе прыемна пачуць, як ты патрэбна людзям і як усе шчыра жадаюць хутчэйшага твайго вяртання ў строй…

— Ніякага вяртання! — з самых апошніх сіл прасіпела я і адразу ж ледзь не страціла прытомнасць ад страшэннага болю ў скронях і патыліцы. — Так што можаш топаць адсюль на ўсе чатыры бакі!

Але шэф топаць (тым больш, на ўсе чатыры бакі) пакуль што не спяшаўся. Замест гэтага ён нетаропка прайшоўся па палаце, потым зноў павярнуўся да мяне.

— Якія яшчэ будуць пажаданні? — весела пацікавіўся ён. — Акрамя таго, каб я топаў адсюль.

— Пацалуй мяне ў адно месца! — адразу ж прапанавала я. А потым падумала крыху і дадала, куды канкрэтна…

— Мая даўняя і, на жаль, пакуль што неажыццявімая мара! — уздыхнуў шэф, акідваючы крытычным позіркам бясформеннае нагрувашчанне гіпсу, бінтоў і ваты, якое я з сябе ў гэты момант і ўяўляла. — Тым больш цяпер, у дадзенай канкрэтнай сітуацыі… Дарэчы, а табе не хацелася б максімальна паскорыць працэс выздараўлення?

— Ні ў якім разе! — зларадна ўхмыльнулася я. — Хачу загадзя папярэдзіць, што лячыцца збіраюся традыцыйным спосабам! І адразу ж пасля гэтага назаўсёды змываюся з вашай паршывай канторы!І не ўздумай мяне адгаворваць!

— Не збіраюся нават! — сказаў шэф, паціскаючы плячамі. — Незаменных у нас няма!

Вось у гэтым ён глыбока памыляўся!

Я — адна з тых, каго цяжка замяніць, бо такія трапляюцца надзвычай рэдка. Дзесьці адзін шанец на дзесяць мільёнаў. Прытым, не ўсе з патэнцыяльных кандыдатаў здольныя на гэтую д’ябальскую працу.

І не ўсе з тых, хто здольны, на яе згаджаюцца…

Так што я — адна з незаменных!

Але што зробіш, калі я зламалася!

І не толькі фізічна, хоць адных пераломаў на маім целе ўрачы налічылі больш як два дзясяткі, але і маральна. Маральна — у першую чаргу!

Гэты апошні паядынак… ён мяне даканаў!

— Ну што ж! — прамовіў шэф прымірэнча. — Не — дык не!

Пасля гэтага ён засунуў руку ў бакавую кішэню курткі, доўга там корпаўся і нарэшце выцягнуў з яе пляскатую шкляную бутэльку з такім знаёмым іскрыстым змесцівам.

Кактэйль «Зорны пыл»… любімы мой кактэйль!

— Прабач, што не прапаную! — прагаварыў шэф, зрабіўшы глыток. — Але за тваё будучае здароўе не грэх і выпіць!

Я горда прамаўчала, адчуваючы, як засмяглы рот павольна напаўняецца слінай.

— І вось яшчэ, ледзь не забыўся! — шэф на імгненне змоўк, зноў прыклаўся да бутэлькі. — Твая малодшая сястрычка, я чуў, падала заяву пра перавод на другую лінію…

— Навошта ты мне гэта кажаш? — прасіпела я, насцярожыўшыся.

Сапраўдная размова пачыналася толькі цяпер — гэта я выдатна разумела. А ўсё, што было да гэтага — так, размінка. Прэлюдыя, як кажуць музыканты…

— На якую канкрэтна?

— На якую?

Шэф задумаўся. Ці, хутчэй, зрабіў выгляд, што задумаўся.

— Канкрэтна не ведаю, але, здаецца, на адну са знешніх. «Зямля—Тытан» ці «Зямля—Ганімед»…

— Што?!

Менавіта на трасе «Зямля — Ганімед» і адбылася тая, ракавая для мяне, сустрэча з касмазаўрам. І касмазаўр, як гэта не сумна, ледзь не выйшаў з яе пераможцам…

— Вы гэта спецыяльна падстроілі, хіба не так?! Вам проста неабходна ў мінімальна сціслыя тэрміны вярнуць мяне ў строй, а для гэтага ўсе сродкі падыходзяць, так?!

Замест адказу шэф моўчкі прыклаўся да «Зорнага пылу». Здаецца, перад гэтым ён самазадаволена ўсміхнуўся, што канчаткова вывела мяне з сябе.

— Майце на ўвазе, — прасіпела я з пагрозай, — калі з маёй сястрычкай хоць што-небудзь здарыцца…

— А калі гэта здарыцца з якой-небудзь іншай сцюардэсай?! — з нечаканай злосцю выгукнуў шэф. — Тады ўсё ў парадку, так?! Дачка маёй сястры — другі пілот на трасе «Зямля—Тытан»! А мой унук праходзіць стажыроўку на адным з патрульных караблёў у поясе астэроідаў! І хачу, каб ты ведала: сястра твая сама пажадала перавесціся на знешнія лініі, нягледзячы на тое, што яе ўсяляк спрабавалі ад гэтага адгаварыць…

Шэф змоўк, так і не скончыўшы фразы, а я на яго пазірала і марна спрабавала зразумець, што гэта было? Чарговы шахматны ход… ці ўсё ж…

Часам мне вельмі цяжка зразумець шэфа…

— Добра! — прасіпела я на здзіўленне спакойна. — Твая зноў узяла! Даю згоду на паскораную тэрапію! Але сястрычку маю вы вернеце на лінію «Зямля—Венера»!

— Сёння ж вернем, як бы яна не брыкалася. Тым больш, што іх лайнер пакуль яшчэ на перазагрузцы! — паабяцаў шэф, імгненна выхопліваючы з кішэні і падносячы да майго знявечанага носу партатыўны прыбор пад сціплай назвай «Натарыусаўтамат». — А ты, калі ласка, зноў паўтары сваю згоду на паскораную тэрапію! Толькі выразна і зразумела!

— Як умею! — агрызнулася я і сіплым голасам пачала паўтараць сваю згоду…

Згоду на яшчэ адзін год вар'яцкага жыцця, з якога я, здаецца, так ніколі і не вырвуся!

Да самай сваёй пагібелі…

**2**

Спрытна манеўруючы сярод касмічных лайнераў і фрэгатаў, мой маленькі караблік павольна набліжаўся да аднаго з галоўных выхадаў з арбітальнага дока. Вядома ж, гэта быў зусім іншы караблік, бо ад яго папярэдніка застаўся толькі варты жалю камяк касмічнага смецця…

І ў той жа час галоўная частка карабля захавалася ранейшай, і гэтая частка…

Гэтая частка — я!

Я — гэта карабель, карабель — гэта я! Мы з ім — адзінае цэлае!

А яшчэ мы — самая магутная і самая дасканалая зброя з усяго, што створанага калі-небудзь чалавечым розумам.

Да прыкладу, я магу знішчыць любы з гэтых лайнераў альбо фрэгатаў усяго за некалькі імгненняў. А за некалькі хвілін — звышмагутны баявы крэйсер. Нават эскадру, калі толькі пастаўлю перед сабой падобную мэту…

Вось толькі мэты ў мяне зусім іншыя, бо я…

Я — касмічны паляўнічы на касмазаўраў!

Праўда, гэта не зусім звычайнае паляванне, бо ў той час, калі паляўнічы спрабуе высачыць чарговага касмазаўра, касмазаўр, у сваю чаргу, актыўна высочвае самога паляўнічага. І, на жаль, даволі паспяхова…

У сярэднім касмічны паляўнічы паспявае за сваё нядоўгае жыццё знішчыць двух-трох касмазаўраў, перш чым чарговы касмазаўр заспее яго знянацку.

Але гэта «ў сярэднім»…

З пяці стажораў пасля першага ж палявання (часцей за ўсё беспаспяховага) у жывых застаюцца толькі трое. Радзей — чацвёра…

І толькі пасля гэтага ім урачыста надаецца званне «касмічнага паляўнічага»…

Двое з кожных трох, што засталіся ў жывых, катэгарычна адмаўляюцца і ад ганаровага звання і ад усіх прывілеяў, што непасрэдна з ім звязаны…

Але затое застаюцца жыць!

Тыя ж, хто адважваюцца працягнуць паляванне, паспяваюць за нядоўгае касмічнае жыццё знішчыць аднаго ці двух (радзей — трох) касмазаўраў.

Такая вось невясёлая статыстыка!

Але няма правілаў без выключэнняў.

На маім баявым ліку, да прыкладу, ужо сямнаццаць гэтых касмічных монстраў, а я ўсё яшчэ…

Усё яшчэ жывая…

Апошні з касмазаўраў зрабіў, здавалася б, усё магчымае, каб выправіць абуральную супярэчнасць паміж мной і статыстыкай, але…

Але я ўсё роўна засталася жывой, а ён…

Ён стаў сямнаццатым маім трафеем…

Бо я — Скадзі, багіня палявання ў старажытных вікінгаў! А таксама — пагроза для ўсіх касмазаўраў і апошняя надзея чалавецтва…

Упершыню пра касмазаўраў людзі даведаліся гадоў трыццаць таму (яшчэ да майго нараджэння). На лініях знешніх планет пачалі раптам бясследна знікаць касмічныя караблі. Дакладней, не зусім бясследна, бо экіпажы некаторых з іх паспявалі ўсё ж у апошні момант перадаць у эфір панічныя паведамленні пра гіганцкіх вогнедышных монстраў, якія іх атакавалі. На гэтым, у большасці сваёй, паведамленні і абрываліся…

На Зямлі спачатку вырашылі, што гэта чарговы (пасля зацяжнога спаду) усплёск піратскай экспансіі. Уражвала толькі незвычайная бязлітаснасць піратаў, не про-

ста рабуючых (як здаралася і раней), але і поўнасцю знішчаючых караблі разам з людзьмі… А потым сюды прыляцелі, каб здацца ўладам, адразу некалькі дзясяткаў пірацкіх фрэгатаў з экіпажамі, перапалоханнымі да паўсмерці…

Менавіта ад іх на Зямлі і даведаліся, з якой новай навалай сутыкнулася чалавецтва…

Вучоныя да гэтага часу не высветлілі, адкуль, з якіх таямнічых касмічных глыбінь прыйшлі да нас гэтыя монстры. Яны аблюбавалі для свайго жыхарства пояс астэроідаў, што размяшчаецца, як вядома, паміж арбітамі Марса і Юпітэра. Тут, сярод тысяч і тысяч каменных астэроідаў, маюцца і жалезна-нікелевыя… Менавіта гэтыя два металы, як высветлілася, і прыцягваюць касмазаўраў. З-за іх касмазаўры на нас і нападаюць…

Іх цікавяць не самі людзі, а толькі метал іх караблёў. Праўда, людзям ад гэтага аніяк не лягчэй…

Хто такія касмазаўры? Сярод вучоных у гэтым пытанні няма адзінага меркавання. Адны з іх лічаць касмазаўраў гіганцкімі робатамі далёкай і пакуль невядомай нам цывілізацыі. І дадаюць пры гэтым, што касмазаўры не харчуюцца металам, а ўсяго толькі яго… перапрацоўваюць. А потым нейкім загадкавым чынам перапраўляюць звышчыстыя зліткі жалеза ці нікеля сваім непасрэдным гаспадарам.

Гэтыя вучоныя ўпэўнены, што гаспадары, адпраўляючы робатаў-металургаў у наш сектар Галактыкі для пошуку і распрацоўкі металічных астэроідаў, зусім не хацелі нанесці хоць нейкую шкоду людзям. І калі наладзіць сувязь з сапраўднымі гаспадарамі касмазаўраў ды ўсё ім добранька растлумачыць…

Вучоныя літаральна са скуры вылузваюцца, толькі б даказаць правільнасць свайго пункта гледжання.

На жаль, жывога (ці, як яны лічаць, спраўнага) касмазаўра вывучаць даволі праблематычна, бо добраахвотнікаў для гэтай справы пакуль што не знайшлося. Таму вучоныя мужы рупліва збіраюць усё тое, што застаецца ад чарговага касмазаўра пасля паспяховай сустрэчы з ім касмічнага паляўнічага. А потым вывучаюць мізэрныя рэшткі ў сваіх лабараторыях. Без асаблівых вынікаў, дарэчы…

Вось чаму мне больш даспадобы пункт гледжання тых вучоных, якія лічаць касмазаўраў своеасаблівай касмічнай формай жыцця. Небялковай і неразумнай, вядома ж, але ніяк ад гэтага не менш небяспечнай…

Гэтым, дарэчы, тлумачыцца і разбежка ў памерах паміж касмазаўрамі, бо сустракаюцца сярод іх асобіны амаль кіламетровай даўжыні і куды больш сціплыя экзэмпляры. Я асабіста знішчыла трох кіламетровых гігантаў, уключаючы і апошняга, які ледзьве не атрымаў перамогу ў нашым з ім паядынку. Яшчэ пяць «трафеяў» крыху не дацягвалі да гэтых памераў. А самы «мініяцюрны» мой касмазаўр і на паўкіламетра не прэтэндаваў…

Колькі касмазаўраў знаходзіцца ў раёне пояса астэроідаў? Гэта, як кажуць, пытанне з пытанняў, і адказу на яго не існуе. Ва ўсялякім разе, пакуль што не існуе. Вядома толькі, што касмазаўра, які знаходзіцца ў здранцвенні (гэта значыць, скруціўшыся ў шчыльны клубок), немагчыма адрозніць ад звычайнага астэроіда нават на мінімальна блізкай адлегласці.

Дарэчы, менавіта дзякуючы такой іх асаблівасці і ўзнікла яшчэ адна тэорыя раптоўнага з’яўлення вялікай колькасці касмазаўраў на знешніх касмічных трасах. Маўляў, гэтыя монстры доўгія мільёны (а магчыма, і мільярды) гадоў знаходзіліся ў глыбокай спячцы сярод пояса астэроідаў, пакуль людзі безразважным выхадам у космас іх ад гэтай спячкі не абудзілі. Гіпотэза, што і казаць, цікавая і, вядома ж, мае сваіх гарачых прыхільнікаў. Але на галоўнае пытанне — робаты гэта ці ўсё ж своеасаблівыя жывыя істоты — гэтая тэорыя таксама адказу не дае…

**3**

У адкрытым космасе мой караблік можа перамяшчацца доўгімі імклівымі «скачкамі», а можа і павольна (па касмічных мерках, зразумела) баражыраваць па канкрэтна вызначаным маршруце. Вось і цяпер, здзейсніўшы цэлую серыю «скачкоў», я дабралася, нарэшце, да зыходнай пазіцыі, пра што адразу ж і паведаміла на Цэнтральную станцыю навядзення. У адказ мне параілі набрацца цярпення і, рухаючыся з мінімальна дапушчальнай хуткасцю, чакаць напарніка, а таксама далейшых указанняў.

Выказаўшы Цэнтру ўсё тое, што я думаю пра напарнікаў і ўказанні, я ўсё ж падпарадкавалася і пачала цярпліва чакаць, скінуўшы хуткасць карабліка да пяці кіламетраў у секунду. Паблізу зямной арбіты хуткасць гэтая лічыцца больш чым значнай. Тут жа, сярод касмічнай пустэчы, — не болей, чым занудлівае таптанне на месцы…

За больш чым трыццаць гадоў барацьбы з касмазаўрамі, людзі многае пераспрабавалі і шмат чаму навучыліся. Да прыкладу, пры дапамозе шматлікіх сродкаў касмічнага высочвання (як стацыянарных, так і тых, што знаходзяцца ў свабодным палёце) мы здолелі даволі дакладна засякаць месцазнаходжанне любога касмазаўра, які актыўна перамяшчаецца ў касмічнай прасторы. І не проста засякаць, а адразу ж перадаваць ягоныя каардынаты: прыблізную хуткасць і напрамак руху на экраны бліжэйшым паляўнічым. Вось толькі вучоныя, на жаль, так і не змаглі зразумець і растлумачыць дзіўную здольнасць касмічных монстраў раптоўна знікаць у адным месцы прасторы і амаль імгненна з’яўляцца ў іншым, часам на адлегласці ад першага на сотні тысяч і нават мільёны кіламетраў.

Нашы караблікі таксама могуць пранізваць прастору, «здзяйсняць скачок», але ў «скачках» касмазаўраў выкарыстоўваецца нейкі іншы прынцып, пакуль што нам невядомы…

Здольнасць касмазаўраў раптоўна выкідваць з пашчы доўгія (часам, на некалькі кіламетраў) языкі распаленай плазмы, небяспечнай нават для звыштрывалай карабельнай брані, — гэта таксама пакуль ніяк не тлумачыцца нашымі вучонымі мужамі…

У барацьбе з новай касмічнай навалай даволі добра праявілі сябе аўтаматычныя караблікі-прынады, здольныя прыцягнуць да сябе ўвагу касмазаўра і тым самым значна палегчыць паляўнічым іх пошук. Вось толькі ўсе спробы начыніць гэтыя «прынады» выбуховым рэчывам (у тым ліку і ядзерным) пацярпелі фіяска. Пасля першага (і адзінага) поспеху, з вялікай помпай адзначанага ў Цэнтры, гэтыя «нафаршыраваныя» караблікі пачалі самаадвольна ўзрывацца, як толькі да іх набліжаўся чарговы касмазаўр.

З гэтай жа прычыны тэрмінова адмянілі практыку «фаршыравання» выбуховымі рэчывамі саміх паляўнічых караблікаў…

Паглыбіўшыся ў невясёлы роздум, я не адразу заўважыла, як яшчэ адзін паляўнічы караблік вырваўся з апошняга «скачка» і завіс нерухома непадалёку ад мяне. На левым ніжнім маніторы адразу ж высвецілася ягоная павялічаная выява і нумарны знак.

Мяркуючы па нумары, маім сённяшнім напарнікам быў той самы хлопчык, з якім пазнаёмілася тыдзень таму, у першы ж вечар вяртання на базу. Тады маё вяртанне адзначылі з небывалым размахам: спачатку грандыёзны банкет, потым шыкоўны танцавальны вечар… вось тады хлопчык і асмеліўся запрасіць мяне на танец…

Вярнуўшыся з першага свайго палёту, хлопчык не толькі застаўся ў жывых, але і адчувальна дапамог свайму больш вопытнаму напарніку ў знішчэнні мацёрага касмазаўра і вельмі тым ганарыўся. Відаць, таму і асмеліўся на гэтае запрашэнне…

Справа ў тым, што я была для хлопчыка не проста кумірам, а ягоным боствам, і ў паляўнічыя ён пайшоў дзеля таго, каб хоць зрэдку, хоць здалёк бачыць мяне, як кажуць, ужывую. Калі б не банкет, дзе разнастайныя напоі ліліся ракой, і калі б не той факт, што я, па словах самога хлопчыка, аказалася прыгажэйшай, чым на стэрэавыявах, то наўрад ці асмеліўся б ён проста наблізіцца да мяне, не тое, каб…

Пра ўсё гэта я даведалася ад самога хлопчыка ўжо ноччу, калі мы ляжалі, цесна абняўшыся, у ложку. У маёй уласнай спальні, вытанчаная раскоша якой уразіла беднага хлопчыка больш, чым мая прыгажосць.

Але ўсё гэта было потым, ноччу, а тады, запрашаючы на танец, новаспечаны «касмічны паляўнічы» выглядаў такім перапалоханным, што я не змагла яму адмовіць. Ну, а правесці сумесную ноч — гэта была ўжо мая ўласная ініцыятыва…

Ноч прайшла цудоўна… але раніцай я рассталася с хлопчыкам без усялякага шкадавання. Такое маё цвёрдае правіла: расставацца з партнёрам пасля першай жа сумеснай ночы. Гэтага правіла ніколі яшчэ я не парушыла…

І вось цяпер мне навязваюць гэтага жаўтароціка ў напарнікі! Мне, касмічнай багіні палявання! Падазраю, што без інтрыг глыбокапаважанага шэфа тут не абышлося.

Я не вельмі люблю напарнікаў. Калі шчыра, цярпець не магу, бо з самага першага палёту прызвычаілася дзейнічаць самастойна, ні за кога, акрамя сябе самой, не адказваючы і ні на кога, акрамя сябе, не спадзеючыся.

Не люблю напарнікаў, але калі іх усё ж навязваюць, а такое здараецца не так і часта, я не пратэстую. Проста поўнасцю іх ігнарую… Разумеючы гэта, у апошні час мне дазваляюць выходзіць у свабодны пошук у гордай адзіноце.

Таму я не стала ні злавацца, ні пратэставаць. Проста паслала выклік шэфу.

— Прывітанне, Скадзі! — амаль адразу ж адгукнуўся ён, з’явіўшыся на цэнтральным экране і шырока ўсміхаючыся. — Адразу ж спяшаюся адказаць на тваё маўклівае пытанне: я тут ні пры чым! Ён сам напрасіўся. Са слязьмі на вачах, між іншым! Калі табе гэта так непрыемна — можаш паслаць яго падалей!

У думках я паслала самога шэфа і адключыла лінію. Затым, крыху павагаўшыся, звязалася з караблікам напарніка.

— Касмічны паляўнічы К-22 на сувязі! — пачуўся з дынаміка ўсхваляваны голас хлопчыка. Ніяк не атрымлівалася ўспомніць ягонае імя, хоць хлопчык і называў яго ноччу. — Чакаю загаду!

Адказаць я не паспела. Імгненна засвяціліся, ажылі ўсе без выключэння экраны, фіксуючы з’яўленне касмазаўра. Зусім побач, на адлегласці не больш як трыста тысяч кіламетраў.

На такой адлегласці касмазаўр ужо здольны адчуць такую металічную «дробязь», як паляўнічы караблік. Тым больш, што іх тут два!

— А-3, я — К-22! — зноў пачулася з дынаміка. — Да бою гатовы! Якія будуць указанні?

— Заставацца на месцы і не рыпацца! — працадзіла я праз зубы. — І, галоўнае, не перашкаджаць мне!

Я рыхтавалася да бою. Чыста псіхалагічна. Ва ўсім астатнім мой караблік быў у поўным парадку.

Вось толькі забыцца б, з якім жудасным хрустам ламаюцца косці ўласных ног пад сплюшчаным у гармонік металам. І як непрыемна захлынацца ўласнай крывёю ў той час, калі карабельныя сцены пачынаюць прапальваць знадворку плазмай у тры мільёны градусаў…

І гэта цуд, што ў апошні момант я паспела-такі задзейнічаць лазерны меч левай рукі! Адзіную сваю зброю, якая яшчэ заставалася непашкоджанай…

Я рыхтавалася да бою, а касмазаўр па невядомай мне прычыне нападаць пакуль не спяшаўся. Больш таго, карабельныя прыборы зафіксавалі павелічэнне адлегласці паміж монстрам і маім караблікам.

Гэта было неверагодна, але касмазаўр вырашыў пазбегнуць паядынку. Ён павольна аддаляўся.

— А-3, я — К-22! Прыкрый, атакую!

Гэта было яшчэ больш неверагодна! Пакуль я вагалася і раздумвала, наваспечаны знішчальнік касмазаўраў рынуўся ў атаку!

Было ўжо занадта позна яго спыняць, і я, вылаяўшыся праз зубы, накіравалася следам. Хлопчык рухаўся даволі ўпэўнена, хуткімі кароткімі «скачкамі»… і, магчыма, быў здольны самастойна расправіцца з касмічным монстрам. Таму я вырашыла даць хлопчыку такую магчымасць, тым больш, што адчувала сябе перад ім крышачку вінаватай…

Як я ўжо адзначала, тая наша ноч прайшла цудоўна, але, калі раніцай растлумачыла хлопчыку прычыну, па якой мы не павінны больш сустракацца, — ён у гэта ні кропелькі не паверыў. І ўцямяшыў сабе ў галаву, што проста не апраўдаў маіх спадзяванняў, расчараваў мяне гэтай першай і адзінай нашай ноччу. І як ні спрабавала пераканаць яго ў зваротным, хлопчык так і застаўся пры сваім меркаванні…

І вось цяпер, атакуючы ў адзіночку касмазаўра, ён, дурненькі, разлічваў такім вось рызыкоўным чынам аднавіць у маіх вачах сваё рэнамэ.

Ніколі яшчэ ні адзін касмазаўр не ўхіляўся ад схваткі з паляўнічым. А гэты з усіх сіл спрабаваў адарвацца ад паляўнічага карабліка, хоць шанцаў на гэта ў касмічнага монстра не мелася аніякіх. Яшчэ крыху — і касмазаўр апынецца ў зоне дасягальнасці дальнабойных плазменных установак карабля…

Не майго, зразумела ж… карабля хлопчыка. К-22…

І ў гэты самы момант ніадкуль, з вугальна-чорнай касмічнай пустэчы ўзнік другі касмазаўр. І ўзнік ён непадалёку ад карабля хлопчыка, які толькі што завяршыў чарговы «скачок».

Гэта быў сапраўдны гігант, у даўжыню больш чым кіламетр. З такімі велізарнымі касмазаўрамі ні мне, ні камусьці іншаму з паляўнічых яшчэ не даводзілася сутыкацца…

Гэта само па сабе кепска, але яшчэ горш было тое, што касмазаўр заспеў караблік у момант завяршэння «скачка», у самым бездапаможным ягоным стане!

Не дзіўна, што хлопчык запанікаваў. Напэўна, я б і сама захвалявалася на ягоным месцы, але пры ўсім гэтым наступныя мае дзеянні былі б чыста аўтаматычныя, адпрацаваныя да дробязей і ў баях, і на шматлікіх трэнажорах…

Нічога такога ў хлопчыка яшчэ не выпрацавалася. У ягоных дзеяннях было шмат лішняга і непатрэбнага.

Хлопчык ударыў у касмазаўра адразу ж з чатырох бліжніх плазменных установак. Чаго рабіць нельга ані ў якім разе! Патрапь ён у свайго праціўніка хоць адным з гэтых залпаў — у хлопчыка мелася б яшчэ магчымасць увесці ў дзеянне астатнюю зброю. Але касмазаўр яму такой магчымасці не прадставіў…

Той, хто ніколі не назіраў касмазаўра ў момант атакі, нават уявіць сабе не можа, з якой хуткасцю і грацыяй перамяшчаецца ў прасторы гэтая агромністая і, на першы погляд, няўклюдная махіна!

Мудрагеліста выгнуўшы доўгае змеепадобнае цела, касмазаўр без усялякага намагання ўхіліўся ад усіх чатырох плазменных залпаў. І ўдарыў сам… раз… потым яшчэ раз…

Усе падрабязнасці паядынку я магла назіраць праз шматлікія экраны. Я імчалася на дапамогу хлопчыку, але адлегласць між намі была вельмі значнай. Я спазнялася. Безнадзейна спазнялася!

Караблік напарніка, скамечаны і пашкоджаны, бездапаможна куляўся ў касмічнай пустэчы, а касмазаўр, не прыбягаючы нават да свайго полымя, усё працягваў і працягваў дабіваць яго магутнымі ўдарамі хваста. І я ўяўляла сабе стан хлопчыка там, унутры металічнай скрынкі… дакладней, я проста старалася не думаць пра гэта цяпер…

Самае лепшае для хлопчыка ў дадзены момант было б страціць прытомнасць, і, магчыма, так яно і адбылося…

Але тут здарылася нечаканае!

Зламаны, скалечаны караблік К-22 выкінуў раптам з сябе лазерныя мячы. Адразу абодва!

Здараюцца ж у жыцці моманты неверагодных удач, асабліва ў навічкоў…

Хлопчык, прыводзячы ў дзеянне лазерныя мячы, відаць, дзейнічаў усляпую. Я была проста ўпэўнена, што экраны ягонага карабліка выйшлі са строю ў выніку бязлітасных удараў монстра. І, тым не менш, адчайны ўзмах аднаго з мячоў усё ж дасягнуў мэты.

Лазерны прамень прайшоўся якраз па хваставой частцы касмазаўра. Я знаходзілася ўжо непадалёк і магла назіраць, як шарахнуўся скалечаны касмазаўр.

Вядома ж, гэта была яшчэ не перамога.

Але я знаходзілася ўжо зусім побач…

Спярша я ўдарыла з дальнабойнай плазменнай устаноўкі. Адразу ж чаргой з некалькі дзясяткаў зарадаў. А потым, залажыўшы круты віраж, кінулася ў атаку, пачаргова выпускаючы па монстру залпы з усіх чатырох плазменных установак бліжняга бою…

Страціўшы хвост і згубіўшы значную долю ранейшага спрыту, касмазаўр, тым не менш, заставаўся грозным праціўнікам. Вузкія языкі полымя, якія вырываліся з ягонай пашчы, літаральна паласавалі прастору вакол майго карабліка… а я, паспяхова ад іх ухіляючыся, усё працягвала і працягвала ўсаджваць зарад за зарадам у бугорчатае цела монстра. Праўда, адлегласць між намі была яшчэ даволі значнай, і большая частка плазменных зарадаў расцякалася па звыштрывалай каменнай брані касмічнага гіганта. Але варта было мне толькі падабрацца бліжэй і задзейнічаць уласныя лазерныя мячы…

І, нібыта зразумеўшы гэта, касмазаўр кінуўся наўцёкі. Не знік, імгненна перамясціўшыся ў прасторы, а проста задаў лататы, нібыта перапалоханы заяц.

Я кінулася, было, наўздагон, але ўспомніла пра хлопчыка, які сцякаў крывёю ў разбітым карабліку. Нічым дапамагчы яму я не магла, акрамя, як выклікаць дапамогу, але і ў гэтым не было аніякай неабходнасці…

Увесь наш паядынак, вядома ж, фіксаваўся на шматлікіх экранах Цэнтра, і тэхнічны крэйсер ужо спяшаўся сюды, пранізваючы прастору… Пра што мне адразу ж ветліва паведамілі…

А потым яшчэ больш ветліва выказалі пажаданне, каб я ўзнавіла пагоню за падбітым касмазаўрам, для канчатковай ягонай ліквідацыі…

«А пайшлі б вы! — агрызнулася я ў думках. — Самі б хоць раз паспрабавалі!»

Але гэта ў думках…

— Вас зразумела! — прамовіла ўслых, але, перад тым як пачаць выконваць загад, пераключылася на бліжнюю сувязь. — К-22, я — А-3! — прагаварыла ў мікрафон. — Ты мяне чуеш?

Я не чакала пачуць хоць штосьці, але адказ прыйшоў. Хлопчык мне адказаў:

— А-3, я — К-22! — прашаптаў ён. — Падчас бою атрымаў значныя пашкоджанні і часова выбыў са строю!

Я паспрабавала ўсё ж прыгадаць імя хлопчыка, але так і не ўспомніла.

— Трымайся, К-22! — сказала я ў мікрафон. — Дапамога побач ужо, так што не ўздумай паміраць! З цябе выйдзе класны паляўнічы, і нам будзе пра што паразмаўляць у будучым!

Адключыўшы ўсялякую сувязь, я зрабіла першы «скачок». І касмазаўр адразу ж апынуўся непадалёк. Але бою і цяпер не прыняў, працягваючы адступленне…

А ўдалечыні, у тым жа напрамку, куды ён імкнуўся, ледзь праглядваўся на экранах расплывісты сілуэт яшчэ аднаго касмазаўра. Таго, з якога, уласна кажучы, усё і пачалося…

Быў ён нейкім дзіўным і незразумелым, гэты касмазаўр, але менавіта гэтага ніяк не магла вызначыць. Тым больш, з такой адлегласці…

Вырашыўшы, што ўсяму свая чарга, я выкінула перыферыйнага касмазаўра з галавы. Тым больш, што бясхвосты ягоны калега спыніўся і вырашыў прыняць бой.

Бачылася, што ён сур'ёзна паранены. Рухаўся касмазаўр цяпер бокам, манеўраваць не мог зусім, і прыкончыць яго не з'яўлялася сур'ёзнай праблемай. Галоўнае — ухіліцца ад плазменных струменяў… але з гэтым як-небудзь спраўлюся…

Здзіўляла і насцярожвала тое, што касмазаўр па-ранейшаму не спрабаваў знікнуць, імгненна перамясціўшыся ў прасторы. Магчыма, згубіўшы хвост, ён страціў і гэтую дзіўную ўласцівасць?

З дапамогай дальнабойных установак я разабралася з касмазаўрам так лёгка і хутка, што адчула нават нейкае расчараванне. Поўная паляўнічага азарту, паімчалася ў пагоню за касмазаўрам нумар два, хоць яго больш правільна было б называць першым нумарам.

Гэты касмазаўр, нягледзячы на павольнае перамяшчэнне, паспеў аддаліцца на такую адлегласць, што можна было без рызыкі здзейсніць некалькі «скачкоў». І я іх здзейсніла. Дакладна, амаль ювелірна вынырнула з апошняга «скачка» і ўбачыла праціўніка непадалёку. На адлегласці двухсот кіламетраў, не больш…

І зразумела, нарэшце, што ў ім было дзіўнага.

Ён меў пры сабе дзіцянё. Маленькага касмазаўрыка, памеры якога ледзь перавышалі памеры майго карабліка…

Дык вось чаму дарослы касмазаўр (дакладней, касмазаўрыха) рухалася так павольна, вось чаму яна не спрабавала знікнуць, пранізваючы прастору…

А той, першы касмазаўр… той, якому адсек хвост хлопчык, а потым за справу ўзялася я і літаральна разнесла яго на кавалкі.

Ён мог застацца жывым, здзейсніўшы адзін толькі «скачок», але замест гэтага вырашыў прыняць бой, абараняючы самку з дзіцём.

Я абавязана была аддаць яму належнае за такую самаахвярнасць. Магла таксама пашкадаваць гэтую касмазаўрыху, якая зусім нядаўна стала маці… і я на самай справе яе шкадавала…

Тым больш, вартае жалю было дзіцянятка, якое кранальна і бездапаможна прыціскалася да браніраванага боку маці…

Ды толькі ўсё гэта анічога не змяняла!

Я не магла пакінуць іх жывымі, бо сваім міласэрным учынкам асудзіла б на смерць тысячы і тысячы людзей у недалёкай будучыні.

Напэўна, касмазаўрыха і сама зразумела, што літасці не дачакаецца. І таму, засланіўшы сабой дзіця, першая рынулася ў бой…

**4**

Гэты бой аказаўся цяжэйшы за папярэдні, хоць памеры касмазаўрыхі былі даволі сціплымі: метраў шэсцьсот, не болей. Але яна, як усялякая маці, абараняла сваё дзіцяня!

Усяго каля дваццаці хвілін прайшло ад пачатку паядынку, а я ўжо страціла дзве з чатырох плазменных установак бліжняга бою. Корпус шматпакутнага майго караблік быў прапалены не менш, чым у дзесяці месцах. Адтуліны гэтыя, зразумела ж, адразу запаўняліся аварыйнай металічнай пенай, але ўнутраныя пашкоджанні аднавіць было не так проста. І, што самае непрыемнае, адзін з плазменных струменяў касмазаўрыхі пашкодзіў мне левую руку. Не вельмі адчувальна, але цяпер, нават прарваўшыся ў бліжні бой, я магла задзейнічаць адзін толькі правы лазерны меч.

Касмазаўрысе таксама здорава дасталася. Яе браніраваная скура была пашкоджана ў многіх месцах і звісала з тулава рванымі шматкамі. Галаву касмічнага монстра я раскурочыла так, што плазменныя струмені з пашчы білі ўсяго метраў на сто, не далей. Рухі касмазаўрыхі зрабіліся хаатычнымі і нескаардынаванымі…

Тым не менш, нават у такім стане касмазаўрыха самаахвярна спрабавала засланіць ад мяне сваё дзіцяняці. І я была б апошняй дурніцай, калі б не скарысталася гэтай самаахвярнасцю…

Заклаўшы занадта круты віраж вакол монстрыхі, я рынулася ў напрамку да маленькага касмазаўрыка. Дакладней, стварыла ў касмазаўрыхі падманнае ўражанне. І калі яна таксама памкнулася ў той бок, безразважна падстаўляючы безабаронную шыю, мне хапіла і аднаго правага мяча…

Лазерны прамень імгненна адхапіў галаву няўдачлівай маці… Я спаліла яшчэ жывую галаву серыяй кароткіх плазменных імпульсаў. Потым надышла чарга для тулава, якое працягвала імпульсіўна і хаатычна скалынацца. Знішчала яго метадычна, па частках, выкарыстоўваючы то меч, то плазменныя ўстаноўкі. А калі, нарэшце, з касмазаўрыхай усё скончылася і аднаго толькі плазменнага зараду было дастаткова, каб спапяліць яе асірацелага нашчадка, я раптам зразумела, што не змагу гэтага зрабіць…

Проста не змагу!

Я — паляўнічы, а не забойца!

Але і адпусціць маленькага касмазаўрыка таксама не магла, проста не мела права гэтага зрабіць!

І не таму, што дзіцянё гэтае наўрад ці выжыла б адно ў чужым і жорсткім для яго свеце. Куды важней было тое, што гэта першы жывы касмазаўр, які патрапіў у палон да людзей.

Калі я паведаміла пра гэта ў Цэнтр, там літаральна ўзвылі ад задавальнення. І загадалі ўсяляк ахоўваць малечу да прыбыцця тэхнічнага транспартніка. Пры гэтым нават не пацікавіліся маім самаадчуваннем, крэтыны!

Здароўем пацікавіўся шэф, які адразу ж са мной звязаўся. І, не чакаючы адказу, з захапленнем павіншаваў з новым рэкордам: давядзеннем ліку баявых перамог да круглай лічбы «дваццаць».

Але я адразу паставіла яго на месца.

— Васямнаццаць! — прамовіла я такім тонам, што шэф і не думаў пярэчыць. — Гэтая малеча не ў лік, знішчэнне ж першага касмазаўра — цалкам заслуга К-22. Я яго проста дабіла…

— Проста дабіла! — насмешліва хмыкнуў шэф. Потым памаўчаў крыху і дадаў: — Можа, аформіць калектыўную перамогу?

— Ніякіх калектыўных! — гаркнула я ў мікрафон. — Цярпець не магу нічога калектыўнага! Перамогу — караблiку К-22! І ўсё, кропка!

— Як скажаш, Скадзі! — прымірэнча буркнуў шэф. — Рычард і на самай справе малайчына!

І толькі цяпер я ўспомніла, што хлопчыка завуць Рычардам, хоць тады, ноччу, я называла яго проста Дзікам…

— Як ён? — пацікавілася ў шэфа.

— Поўны парадак! Перш, чым канчаткова страціць прытомнасць, адразу ж папрасіўся на паскораную рэабілітацыю.

— Хто б сумняваўся, — мармытнула я, адключаючы сувязь.

Левая рука гарэла так, нібыта яе ўсё яшчэ працягвала пячы полымем. Можна было б прыняць што-небудзь абязбольваючае, але ў мяне меўся куды лепшы сродак.

Выцягнуўшы з патаемнай шуфлядкі бутэлечку з «Зорным пылам», я адразу ж да яе прыклалася. Адначасова зірнуўшы на экраны, вышукваючы маленькага касмазаўрыка.

А ён нікуды і не дзеўся. Вісеў сабе на ранейшым месцы, у пустой касмічнай прасторы, звыкла спрабуючы прыціснуцца то да аднаго, то да другога абломка… Гэта было ўсё, што засталося ад ягонай пяшчотнай і любячай матулі. Выглядаў маленькі касмазаўрык пры гэтым такім няшчасным і адзінокім, што нават у мяне штосьці здрыганулася ў душы. Міжволі захацелася падвесці караблік ушчыльную да гэтага дзіцяняці, даць яму прыціснуцца да майго карабліка, каб…

Каб што? Замяніць яму маці?

І дзе гарантыя, што гэтая маленькая пачвара не ўспрыме металічную абшыўку карабліка, як чарговы дармавы пачастунак?

І дзе, дарэчы, гарантыя, што нашы высакалобыя карыфеі ад навукі не выпатрашаць малечу, разабраўшы на самыя дробныя кавалачкі?

— Уцякай, дурнічка! — нечакана для сябе самой прашаптала я. — Бяжы, я не стану за табой гнацца!

Але, шэпчучы так, я і сама не верыла ў тое, што шаптала…

Гэта Фрэйя, багіня кахання і прыгажосці, мае права на дабрыню і міласэрнасць. Скадзі ж, суровая і бязлітасная багіня палявання, проста не можа дазволіць сабе падобнай раскошы.

*Віктар ЯРАЦ*

# ЦВІТУЦЬ ВЯСЁЛКІ РАННЯЙ ВОСЕНІ



***Віктар Ярац нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт (сёння — ГДУ імя Ф. Скарыны), дзе і працуе на кафедры беларускай літаратуры. Беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар паэтычных кніг «Добрыца», «Уваходзіны» і інш.***

* * *

Разам з небам
Паміраць і ўваскрасаць,
Разам з ветрам
Пасівець, але застацца
Не сляпым —
Глядзі, як гоіць ліст раса,
Не глухім —
На сэрца сэрцам адгукацца.

* * *

Ты разбудзіла жаўранка — і ён
Альбом красавіка наноў гартае, —
Там адрасы і досвіткі ўсіх дзён,
Дзе цёплы гук вядзе за небакраі.

На першы ліст бярозы і вярбы
Ляцяць сакрэты вышыні спрадвечнай,
Што ўмее выпраўляць журбы гарбы,
Каб весялеў і голас чалавечы.

* * *

Да губ тваіх праз вокны юны месяц
Данесці хоча пацалунак свой —
Яго прызнанні ловяць Сож і Бесядзь,
Прычалы з водарам жывіцы баравой.

Пакуль ты спіш — чый успамін салодкі
Данінаю і цішы і вятрам?
…Далёкую вясну вартуюць лодкі
На хвалях Прыпяці, на быстрыні Дняпра.

## РАМАНС БЕЗ ЗАРУЧАЛЬНАГА ПЯРСЦЁНКА

Не знаю: ведзьмы ці не ведзьмы
Шляхі заблытвалі вясны
Да губ тваіх, з якімі мець бы
Мне споведзь днём і ў час начны.

На аганьках і зор, і станцый
Ці ж вецер варажыў адзін
Пра лёгкі дотык светлых пальцаў
Пад веццем з квеценню рабін?

І птахі ўсё ў сваёй манеры
Імя выснoўвалі, а ім
Хрышчоны быў зялёны бераг
Пад небам юным — не сівым.

І на тваё ішлі дыханне
І ціш, і гук, і век, і міг,
Спавітыя высокай тайнай
Грудзей тваіх.

* * *

Знаёмым голасам зарэчным
Плыло гуканне цягніка.
А свет святлом наскрозь прасвечваў
Маўчанне жоўтага лістка.

Расстайным водарам ранеты
Прыгадвалі мядовы Спас,
І дзень, яшчэ цяплом сагрэты,
Павольна адцвітаў і гас.

Плылі аблокі, як замовы,
Што перасьпелі над зямлёй, —
Ім нечы боль і ў час зімовы
Лячыць, суцешваць вышынёй.

І свежасцю рачнога плёса
Натольваў смагу вецярок,
І над атавай у пакосах
Прамень завязваў вузялок

На згадку пра пчалу і квецень,
І пра вясла вясёлы ўзмах —
Там пырскі абмывалі ў леце
Твой пацалунак на губах.

* * *

Калі на дне маўклівай чашы
Не адгукаецца віно
І снег нічога не адкажа,
Дыхнуўшы холадна ў акно,
Калі без голасу світанне
Пытае пра чые сляды
І тчэцца ціха развітанне
Імгненняў — ніцяў нематы, —
Бяссонне сноў і зор бяссонне,
Я зведаў вашу вышыню.
А боль так плавіцца павольна,
Як свечка моліцца агню.

* * *

Зноў усё паўторыцца аднойчы:
Вечаровы яблыневы сад,
Зоры варажбіткі — летняй ночы,
Над зямлёю ростаняў і страт.
Зноў усё паўторыцца, і ўсё-ткі
Для кагосьці стане адкрыццём
Першы пацалунак — найсалодкі,
Сэрцаў двух суладнае біццё.

* * *

У зімы сцюдзёнай ёсць глыбіні
Цеплыні, індыйскіх вод цяплей,
Пад густой, у гронках, арабінай,
На якой гасцюе верабей.
Ты прыходзіш — музыкаю боскай
Шорсткі снег і подыхі вятроў.
Верабей, частуйся і не бойся
Тых, каму спатканні грэюць кроў.

* * *

У край якіх сустрэч вядзе дарога
З характарам то роўным, то крутым?
І моліцца за ўсіх расстайны дым
То мякка і спагадліва, то строга.

## ТОЛЬКІ ТЫ

Адгукаецца імем і дыханнем тваім
Яблынь цвет і зімой праз віхурныя
танцы,
І хвалююць святлом, як вясна, маладым
Аганькі ўсіх вакзалаў, паўстанкаў
і станцый.

Толькі ты да святліц, дзе звініць вышыня,
Як блакіту бакал, да краёў наліваны,
Падбіраеш ключы давідна — там да дна
Будзе выпіта ростань на губах
цалаваных.

Толькі ты без журбы і ў мароз салаўёў
Запрашаеш на золку на голас сініцы
Прылятаць да акон з тых краёў,
дзе любоў
Кожнай ноччу ім песняй
вясельнаю сніцца…

## ДЗВЕ ВОСЕНІ

Над лугам ціхім і над соснамі
Зарэчных векавых лясоў
Цвітуць вясёлкі ранняй восені
З узорам шлюбных паясоў.

Пад крыламі дняпроўскай чаіцы
Ажынай позні свет прапах.
Яшчэ агні кастроў вітаюцца
І жар жаданняў не ачах.

Цалуецца дыханне воблака
З лістком, што заляцеў на плёс.
А ты і ў восень светла воблікам,
Хоць лёс не залацей бяроз.

І гром, ні гукам не зайздрослівы,
Такі лагодлівы ў той міг,
Калі сыходзяцца дзве восені
На сцежках ростаняў зямных.

## КРУГАБЕГ

Ці думаў ты, што хутка так гады
Закружацца, гукаючы здалёку
Вясёлыя прысады, і сады,
І хмельны бэз, што заглядаў у вокны.

На станцыях, вакзалах, на шляхах
Якія лашчаць сонечныя кроны,
Ці ж ты чакаў, што пасівелы птах
Так рана ўквеціць маладыя скроні?

Гады не толькі з ветрам невады,
Гады не толькі з рэхам вёснаў сеці
Цягнулі дружна ў сховы нематы,
У даўнія, як дол, маўчання клеці.

Жаданні ў жмені заціскалі дні,
Як дарагія рэдкія манеты, —
А імі ты разлічваўся са светам,
Дзе давяраў паглядам дабрыні.

І ў гэтай кругаверці ты спасціг,
Што жылкай трапяткой, гарачай б'ецца
Твой кожны праведны, твой кожны
грэшны міг
На віражах бяссонніцы і сэрца.

* * *

Зноў плыве над выссю
серабрыстай поўні
Май — паром зялёны, галасамі поўны.

Стыне зорны выдых у рачных затоках.
Месяц гаціць гаці на вірах глыбокіх.

Для каго ў прасторы чуйнай, звечарэлай,
Спеў ліецца звонкі спевам
самым смелым?

І мацнее повязь гнёздаў з верай веццю.
Свету ў патаемным сэрца прызнаецца.

*Алена ШЧАРБАК*

## ДУБ

У дуба-матулі багата сыночкаў:
Прыгожых зялёных малых жалудочкаў.
Штодня іх ад ветру яна захінае,
Штоноч — калыханку пяшчотна спявае.
Растуць яе дзеткі, гуляюць, дурэюць
І з кожным дзянёчкам ўсё болей сталеюць.
Ды час развітання няўмольна прыходзіць.
Тут меншы сыночак размову заводзіць:
«Матуля мая, цябе шчыра люблю.
Прашу, не скідай ты мяне на зямлю.
Вельмі баюся я вышыні!
Я ж разаб'юся! Абарані!»
Сцялася сэрца ад болю за сына:
«Не бойся, мой хлопчык, цябе не пакіну!»
Сама ж разумее, што час развітацца:
Хоць хочацца сыну з матуляй застацца,
Ды хто застанецца — той ссохне, загіне,
Нашчадкаў сваіх на зямлі не пакіне.
Матуля — да ветра: «Ты моцна не дзьмі,
Сыночкаў маіх, я прашу, барані!»
Дзяцей загарнула яна ў павуцінку,
Іх вецер узняў і… ужо праз хвілінку
Пяшчотна на дол апусціў жалудкі…
Хай вырастуць з іх маладыя дубкі!

*Аляксандр ВАШЧАНКА*

# ROCK FOREVER, альбо ЧАТЫРЫ ПАДАРОЖЖЫ Ў МІНУЛАЕ*

*Аповесць*

## ПАДАРОЖЖА ТРЭЦЯЕ. ІГАР

Ад Лепеля да Полацка рукой падаць. Алесь пасля сытнага сняданку драмаў на заднім сядзенні, Дзіма па плэеры слухаў музыку, а я зноў уключыў адваротную перамотку ўспамінаў. Ігар, да якога мы ехалі, граў на іоніцы. Ён быў на год маладзейшым за нас, маленькага росту, меў пузік і падпольную мянушку Алег Папоў, бо быў вельмі падобны да знакамітага тады клоўна. Да таго ж меў нядрэнныя артыстычныя здольнасці. Яго бацька, падпалкоўнік-ракетчык спартыўнага выгляду, служыў у Германіі і, здавалася, саромеўся свайго няўклюднага сына, якога сплавіў на выхаванне да бабулі. Старая любіла адзінага ўнука і дазваляла яму рабіць што заўгодна. Яе старэнькая двухпакаёўка была месцам нашых сустрэч і застолляў. Пасля адлічэння з універа Ігар трапіў на службу ва ўнутраныя войскі. Чырвонапагоннікаў нідзе не любяць. Да таго ж беднага хлопца накіравалі ў вайсковую часць, якая ахоўвала асуджаных. Аднойчы трое зэкаў напалі на пост аховы, забілі аднаго з салдат і забралі аўтамат з камплектам боепрыпасаў. Дваіх палажылі з вышкі, а трэцяму ўдалося збегчы. Байцоў кінулі ў ачапленне. Ігар сядзеў у засадзе. На яго і выскачыў зэк. Яны адначасова ўскінулі аўтаматы. Ігар стрэліў на імгненне раней. У якасці ўзнагароды яго адпусцілі на тыдзень дадому. Мы сабраліся ў рэстаране «Нёман». Ігар спачатку харахорыўся, але пасля трэцяй чаркі размяк і заплакаў.

— Хлопцы, я забіў чалавека! Як гэта перажыць? — усхліпваў ён, зноў ператварыўшыся ў маленькага хлопчыка, якому за гэты час не было магчымасці выплакацца на чыім-небудзь плячы. Мы, як маглі, суцяшалі сябра, казалі, што калі б не ён, то яго, але той стрэл пакінуў незагойную рану ў тонкай душы Ігара…

Пасля службы ў войску ён паступіў у «кулёк» (універсітэт культуры) на факультэт арганізацыі відовішчных мерапрыемстваў і пасля таго знік з майго поля зроку. Як ён апынуўся ў Полацку?

Раздумваючы над гэтым пытаннем, я даехаў да горада, уключыў навігатар і знайшоў патрэбную вуліцу. Шэры пяціпавярховы будынак на фоне шэрага неба. Пафарбаваць бы яго ў ружовы колер, можа, у жыхароў было б меней восеньскіх стрэсаў…

— Сябры, выходзім, прыехалі! Як паспаў, Алесь?

— Цудоўна! Змарыў мяне фаршыраваны шчупак. Мой страўнік, Дзіма, перадае табе словы шчырай падзякі за незабыўны кайф.

— І ад мяне прывітанне вашаму гераічнаму страўніку, дзядзька Алесь!

— Чаму гераічнаму?

— Таму што за апошнія гады ты правёў над ім эксперыментаў не менш, чым доктар Менгеле над вязнямі канцлагера, — адказаў я.

— Што праўда, то праўда, — уздыхнуў Алесь.

Мы зайшлі ў другі пад'езд, падняліся на трэці паверх, кватэра 58. Я націснуў на кнопку званка. Цішыня. Яшчэ тры доўгія званкі. Нарэшце пачулася шарканне тапак па падлозе,

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 8, 2013. г.

дзверы адчыніліся, і ў нас утаропіўся твар няголенага суб'екта ў трусах і майцы, выгляд якога яўна гаварыў пра тое, як добра яму было ўчора і як дрэнна сёння.

— Што трэба? — прасіпеў ён.

— Добры дзень! — прывітаўся я. — Цябе ў школе ветлівасці вучылі? Ці этап выхавання не ўвайшоў у склад тваёй біяграфіі? Ігар дома?

— А пайшлі вы…

Не паспеў ён вылаяцца, як я схапіў яго за руку і рвануў на сябе. Праз хвіліну Алесь і Дзіма надзейна трымалі аматара ненарматыўнай лексікі ў сваіх дужых руках. Не даўшы апамятацца, я мыском чаравіка паволі сцягнуў з яго трусы. Нахабнік, страціўшы ваяўнічы запал, спалохана глядзеў то на нас, то на свой брудны аксесуар бялізны.

— Ты рэкламу «Тайда» бачыў? Дык вось, мы прыйшлі да цябе. Будзеш рыпацца — выкінем на вуліцу без бялізны. А пачнеш весці сябе культурна і ветліва — памыем у ванне разам з тваёй бялізнай. І нават півам пачастуем. Ферштэйн?

— Я, я, — прамармытаў ён.

— Бач ты, па-нямецку загаварыў, паліглот полацкі, — рагатнуў Алесь. — Можа, табе, Зміцер, запатэнтаваць новую стрэсавую методу навучання іншаземным мовам?

— Падумаю, сябрук, над тваёй прапановай. Дзе Ігар? — звярнуўся я да затрыманага.

— Ды ў дурцы ён… Жонка здала.

— Атака ззаду! — крыкнуў Дзіма.

Я інстынктыўна выпрастаўся на цэментную падлогу і закрыў галаву рукамі. Праз мяне з віскатам пераляцела нейкая кудлатая істота, спатыкнуўшыся, выпусціла патэльню, якой, пэўна, хацела мяне атаварыць. Яна бразнулася на калені і для раўнавагі ўчапілася рукамі ў клубы свайго знаёмца. Відовішча магло быць вельмі эратычным, калі б выканаўцы мелі лепшую фізічную форму.

— Зміцер, — гукнуў Алесь, — хопіць валяцца на брудным цэменце, лепш зрабі фотаздымак. «Плэйбой» заплаціць добрыя грошы.

— Яны яшчэ не зрабілі варыянта часопіса для дэкласаваных элементаў, — адказаў я, падымаючыся з падлогі.

— Хопіць здзекавацца, «Мішкі» сраныя, — уступіла ў размову кудлатае стварэнне. — Вас саміх за п'янку выперлі з універа. Няўжо вы так паразумнелі за дваццаць гадоў, што кінулі піць? Нешта не верыцца…

Нічога сабе! Яна нас ведае?

— Назаві сябе, чароўнае стварэнне, — папрасіў я.

— Стэла я, з групы Ігара, — адказала жанчына, — з-за цябе, казла, толькі калені пазбівала.

— За казла адкажаш, ластаўка мая. Пойдзем у кватэру, пагутарым.

— Я вас у госці не запрашала.

— А мы самі прыпёрліся. Пойдзем. Каралеўскага прыёму ад цябе не чакаем, але пагутарыць трэба.

— Чорт з вамі. Заходзьце. Толькі Вадзіка адпусціце.

— Ты б яму хоць бялізну памыла.

— Пераб'ецца, у мяне самаабслугоўванне. Праходзьце на кухню, я апрануся.

У двух пакоях і на кухні кватэры, куды мы зайшлі, як кажуць, конь не валяўся. Пачуўся грукат дзвярэй і імклівыя крокі па лесвіцы. Гэта Вадзік, не дачакаўшыся абяцанага піва і памыўкі ў ванне, даў дзёру. Хай сабе, здаравейшым будзе.

— Алесь, ты ўспомніў гэтую Стэлу?

— Успомніў, але не пазнаў.

— У яе ж быў закаханы Ігар, чытаў вершы Блока і Мандэльштама. Казаў, што яна такая ўзнёслая, так яго разумее…

— Зміцер, уся паэзія заканчваецца за дзвярамі загса. Потым ад мужа патрабуюцца грошы і праца па хатняй гаспадарцы: мужык гатуе ежу, прыбірае кватэру і нават мые бялізну. А для сексу яны знаходзяць вось такіх вадзікаў.

— Адкуль вы гэта ведаеце, дзядзька Алесь? — засмяяўся Дзіма.

— З горкага вопыту, сынок. Эх, Розы, Клары і эмансіпацыя давялі славянскіх мужыкоў да стану рабоў. Выхаванню жанчын трэба вучыцца ў мусульман. Калі б мне скінуць дзясятак гадоў ды знайсці трыццаць тысяч долараў, я б купіў сабе ў Егіпце жонку. Яна б рабіла ўсю хатнюю працу, вечарам паказвала мне танец жывата, а я сядзеў бы на беразе Чырвонага мора, паліў кальян з гашышам і, як Аладзін, лётаў на дыване-самалёце…

— Звалішся, Рашыд лепельскі, — голас Стэлы груба абарваў летуценныя мары Алеся.

Яна за дзесяць хвілін паспела прывесці сябе ў адносна належны выгляд, нават нейкі макіяж зрабіла, але маршчыны на твары, патухлыя вочы і лёгкі трэмар рук былі няўмольнымі сведкамі пэўнай стадыі алкагольнай залежнасці.

— Што з Ігарам? — запытаўся я.

Стэла запаліла цыгарэту і загаварыла рэзка і нервова, глытаючы канчаткі слоў і зрываючыся на крык:

— Ты, самазадаволены бізнесмен, успомніў пра Ігара?! А дзе ты быў раней? Калі вы разам ігралі ў гурце і пілі «чарніла», усё было цудоўна, а потым, калі пачаліся жыццёвыя складанасці, кожны з «Мішак» схаваўся ва ўласнай бярлозе і пачаў смактаць лапу. Ды толькі не ў кожнага было што смактаць… Вы ведалі, што бацькі Ігара загінулі ў аўтааварыі, што памерла яго бабуля? Што ваш аднакурснік Юрка (каб ён здох!), які працаваў загадчыкам адміністрацыі парку Чалюскінцаў, уцягнуў Ігара ў аферу з правядзеннем «левых» канцэртаў і латарэй, за што абодва трапілі за краты? Што Ігару, каб разлічыцца з даўгамі, прыйшлося прадаць бабуліну кватэру? Хто-небудзь з вас яму дапамог?

Я, апусціўшы галаву, слухаў словы гнеўнай водпаведзі, якія перуновай маланкай білі прама ў сэрца. Таму што былі праўдай… Праўдай злой і няўмольнай.

— Як вы апынуліся ў Полацку? — спытаў Алесь.

— За аднапакаёўку, якая дасталася Ігару пасля смерці бацькоў, мы выменялі двухпакаёўку ў Полацку, таму што тут знайшлася праца для Ігара. Але турма яго зламала… Вы ведаеце, што робяць зэкі з былымі чырвонапагоннікамі? Яшчэ ў Мінску Ігар ляжаў на Бехцерава, потым у Навінках. І вось у Полацку ён ужо другі раз трапляе ў дурку.

— А ты ў гэты час п’еш гарэлку і спіш з Вадзікам, аматарка Мандэльштама.

> Дано мне тело — что мне делать с ним,
> Таким единым и таким моим?
>
> За радость тихую дышать и жить
> Кого, скажите, мне благодарить?

Дык ты вырашыла, Стэла: цела ў дзела, а мужа ў псіхушку?

Відаць, я перагнуў палку атрутнага красамоўства, бо Стэла схапіла пустую бутэльку і замахнулася, збіраючыся праверыць моц майго чэрапа. Дзіма паспеў выхапіць гэты самы пераканаўчы аргумент хатніх сварак з яе рукі, а Алесь схапіў

фурыю за плечы і не вельмі далікатна пасадзіў на стул.

— Вон з маёй кватэры! — крычала яна, у адно імгненне зноў ператварыўшыся ў дзікую котку.

— Мы пойдзем, але заўтра вернемся з Ігарам, а ты зоймеш ягонае месца! — завяршыў я нашу «далікатную» размову.

Пад праклёны і лаянку Стэлы мы выйшлі з кватэры.

— Не ўмееш ты, сябра, весці дыпламатычныя перамовы, — уздыхнуў Алесь.

— Дыпламатыі я вучыўся ў галоўнага героя «Пятага элемента», а ён да трох ніколі не лічыў. Пра што з ёй размаўляць? Калі жонка замест таго, каб дапамагчы мужу, здае яго ў псіхушку, значыць, ён ёй больш не патрэбны. Ведаеце, самае крыўднае тое, што мы з вамі занадта ганарлівыя і лічым за лепшае загнуцца, чым патрывожыць былых сяброў… А Ігару мы дапаможам!

— Кроў з носу! — падсумаваў Дзіма.

Я дастаў мабільнік, даведаўся тэлефон псіхіятрычнай бальніцы і пазваніў у рэгістратуру.

— Ігар зараз на прагулцы. Едзем?

— Едзем!

Праз пятнаццаць хвілін мы былі на месцы. Свабодна прайшлі праз турнікет. Пажылы ахоўнік у шкляной будцы піў гарбату, еў бутэр з доктарскай і толькі акінуў нас лянівым позіркам. Яму не хацелася пакідаць свой маленькі цёплы рай і выходзіць у золкую восень. Між шэрых карпусоў дажываў свой век запушчаны парк. У канцы алеі я заўважыў калону людзей, якая паволі набліжалася да нас. Яны ішлі як палонныя немцы. Але чаму немцы? Палонныя любых нацыянальнасцей ходзяць аднолькава. Прыніжана і забіта. А гэтыя людзі не вытрымалі змагання з жыццёвымі складанасцямі. Паглушаныя антыдэпрэсантамі, апранутыя ў шэрыя фуфайкі, яны, апусціўшы галовы, бязвольна шаркалі падэшвамі па мокрым асфальце. Малады хлопец, рукі якога паторгваліся, як у зламанай завадной лялькі, спрабаваў паглядзець уверх, але тут жа вінавата апускаў галаву ўніз. Падбілі, гады, падбілі!

Ігара я пазнаў не адразу. Ён ішоў трэцім. Куды падзеўся яго пузік і пульхныя ружовыя шчокі? На галаве была зімовая салдацкая шапка, на якой нават штучны мех пад адарванай зорачкай паспеў выцвісці, на шыі матляўся брудны шалік, а растаптаны абутак, які на Віцебшчыне завуць «срайходамі», быў прыдатны хіба на тое, каб хадзіць у хлеў. Хворыя падышлі бліжэй, але не звярнулі на нас аніякай увагі. Я аклікнуў:

— Ігар!

Ён паволі павярнуў галаву. Ніякіх эмоцый, ніякага водгуку. Я падбег і абняў старога сябра. Ніякіх рухаў у адказ, хаця бачыў, што ён мяне пазнаў. Раптам нехта бесцырымонна рвануў мяне за плячо. Я азірнуўся. Стакілаграмовы санітар нахабна глядзеў у вочы, і яго гнілое дыханне сведчыла пра тое, што на рэкламе «Blend-a-med» увагі ён не засяроджваў. Санітар быў з тых, хто адчувае сваю поўную беспакаранасць і, што яшчэ горш, каму падабаецца здзекавацца з псіхічна хворых пацыентаў.

— Што трэба? — надзіва высокай фістулай спытаў ён.

Ага! Ты, паразіт, што ў старажытных егіпцян азначала бясплатнага мыйшчыка трупаў, пэўна, еўнух. І з-за адсутнасці магчымасці фізічнага кахання да жанчыны растуць карані твайго садызму.

— Мы сябры Ігара, — даволі ветліва адказаў я.

— Наведванне ў нас з сямнаццаці гадзін, а зараз валіце адсюль!

Ну не! Гэта ўжо занадта нават для такога цярплівага чалавека, як я.

— Было ў бацькі тры сыны, усе трое Васілі, і абодва хамы! — праспяваў я. — Чуў такую песню? Сам прыдумаў! Яна пра цябе, haedus! Гэта па латыні, а па-беларуску — казёл!

Санітар вырачыў вочы, хворыя спыніліся і падышлі бліжэй. Але раптам пачуўся гук, які выдаюць капыты каровы, калі яна вылазіць з балота на сухі бераг. Гэта Алесь сваім брудным чаравікам прылажыўся да неабдымнага зада медыцынскага работніка.

— Гэта табе падсрачнік! — крыкнуў ён.

Санітар павярнуўся, каб кінуцца на крыўдзіцеля, але ў гэты час Дзіма красоўкай, якая была не чысцей за чаравік Алеся, зрабіў аўтограф на ўжо асвоенай вялізнай мішэні.

— А гэта паджопнік!

На тварах пацыентаў з'явіліся ўсмешкі. Як жа! Крыўдзяць і здзекуюцца з істоты, якая глумілася над імі.

— А гэта каралеўскі пендаль! — выгукнуў я, ад душы паставіўшы сваё кляймо паверх аўтографаў сяброў.

Хворыя смяяліся, а санітар быў разгублены. Упершыню насміхаліся з яго, некалі грознага і недатыкальнага. Я глядзеў на Ігара. Зараз на яго твары адлюстраваліся нейкія пачуцці. Ён крыкнуў: «Зміцер, атас!» Ды было позна. Моцны ўдар адкінуў мяне на тры метры і прыляпіў да ствала старой таполі. Але гэта быў не ўдар кулаком, а нешта іншае. Я ўспомніў, як у студэнцкія гады ўзяўся рамантаваць разетку і мяне шандарахнула токам. Цяпер было нешта падобнае, толькі ў некалькі разоў мацнейшае. З вачэй пасыпаліся іскры, ад якіх можна было падкурваць цыгарэту. І праз гэтыя іскры я бачыў, як на санітара кінуўся Ігар, як той дакрануўся да яго нечым, падобным на кароткі дручок, як мой сябра пакаціўся па пажоўклай траве, як патухлі ўсмешкі на тварах хворых, як Дзіма стаў перад санітарам у баявую стойку. Але хопіць валяцца! Я крыкнуў:

— Сынку, я сам! Дай адвесці душу!

— Баця, у яго электрашокер. Мадэль «Скарпіён». Распрацаваны для супрацоўнікаў ахоўных агенцтваў. Мае першы клас магутнасці, прабівае адзенне да трох сантыметраў, таму не падстаўляйся. І помні першае правіла прапара Мурашкі!

Гм, ён назваў мяне бацем. Прыемна, чорт вазьмі! Але і падкалоць не забыўся. Таксама мая школа! Да мяне падбег юнак, які ніяк не мог саўладаць са сваімі рукамі, і крануў за рукаў:

— Дзядзька, ён б'е нас гэтай палкай. Адбяры ў яго палку!

Мая душа перавярнулася. Хворых электрашокерам?!! Ну трымайся, паскуда!

Я абняў юнака і, стрымліваючы слёзы, прамовіў:

— Не бойся, Птаха. Ён больш нікога біць не будзе!

— Хадзі, і табе выпішу! — праверашчаў санітар.

Краем вока я заўважыў, як сябры паднялі Ігара і прывялі ў прытомнасць. Пара! Трэба супакоіцца. Мясіць гэтага кабана кулакамі бессэнсоўна. Трэба нешта іншае… У вас ёсць план, містэр Фікс? Ужо ёсць! У ім дзве галоўныя дзеючыя асобы: айкідо і народны гумар.

— Мальцы, — звярнуўся я да хворых, — вы ведаеце, чаму гэты кабан такі тоўсты, а голас мае як у дзеўкі? Яго вылегчылі!

Хворыя засмяяліся.

Кабан не вытрымаў. З нечаканым спрытам ён кінуўся на мяне. Я ўхіліўся і выпісаў яму пендаля. Хворыя рагаталі, як на канцэрце Райкіна. Санітар развярнуўся і, размахваючы шокерам, рынуўся ў атаку. Пара! Я перахапіў і зафіксаваў у паветры

руку з дубінкай, падставіў сцягно і, калі туша, узляцеўшы ў паветра, пачала пузам уверх апускацца на зямлю, прысеў і падставіў калена пад руку санітара вышэй локця. Спачатку пачуўся хруст, а потым віскат. Не, канцэрт альціна нам не патрэбны. Час даць заспакаяльнае. Я дакрануўся «Скарпіёнам» да нагі санітара і націснуў кнопку. Той тарганууся, выключыў віскат і заціх. Хай адпачывае. Хворыя спалохана маўчалі. Юнак падбег да мяне:

— Дзядзька, вы яго не забілі? Не трэба забіваць…

— Не, Птаха, хутка ён ачуняе. Але біць вас больш не будзе.

— Тады добра!

Такія ўжо мы людзі, беларусы, — шкадуем нават сваіх кáтаў!

— Дзіма, забяры шокер. Можа, яшчэ спатрэбіцца. Вы з Алесем пабудзьце з хворымі, а мы з Ігарам пойдзем да доктара.

— Ігар, вядзі мяне да свайго доктара. Як яго завуць?

— Рамуальд Самойлавіч.

— Добра, пайшлі! Калі цябе павінны выпісаць?

— Заўтра.

— Нічога, выпішуць сёння.

— Наўрад ці…

— Ты дрэнна ведаеш свайго сябра.

За размовай мы падняліся на трэці паверх і спыніліся ля кабінета доктара.

— Ігар, размову буду весці я. Ты толькі ўсміхайся і падтаквай.

Зайшлі ў кабінет. Доктар перадпенсійнага ўзросту ўважліва акінуў мяне позіркам сваіх вочак-маслін.

Я прыклеіў да твару галівудскую ўсмешку, упэўненым крокам падышоў да яго і моцна паціснуў руку.

— Рамуальд Самойлавіч, я бізнесмен з Мінска Зміцер Аляксеевіч! Вельмі рады вас бачыць! Дарэчы, вам прывітанне ад Людмілы Генрыхаўны з камітэта.

— Дзякуй. Адкуль вы яе ведаеце?

— Цётка мая, маміна сястра.

Твар доктара адлюстраваў пачцівасць.

— Рамуальд Самойлавіч, я хацеў бы пагутарыць з вамі пра майго сябра Ігара.

— Добра, хай ён пачакае нас у калідоры.

Ігар з палёгкай на твары выйшаў з кабінета.

— Ведаеце, Зміцер Аляксеевіч, Ігара можна вылечыць… Не, вылечыць — гэта занадта моцна сказана. Але падтрымліваць яго жыццё ў належным камфортным стане, каб ён перастаў трапляць да нас, можа толькі ўтульная хатняя атмасфера і нейкае творчае захапленне. Да сваёй жонкі яму лепш не вяртацца. Дарэчы, скажу вам па сакрэце — яна лячылася ў нас ад алкагольнай залежнасці, але зноў сарвалася.

— Я ўсё зраблю для таго, каб дапамагчы Ігару. Вось вам мая візітоўка.

Пад візітоўку я паклаў складзеную ўдвая стадоларавую купюру. Доктар гэта бачыў.

— Рамуальд Самойлавіч, я прашу, каб вы сёння выпісалі Ігара. Забяру яго з сабой у Мінск, пакуль ён не скасуе шлюб і не размяняе кватэру. А мая фірма зробіць для вас бясплатны буклет і шыкоўныя візітоўкі.

— Наогул, тэрмін яго выпіскі заўтра, але калі вы так настойваеце, то можна і сёння. Я скажу, каб яму выдалі адзенне. Няхай пераапранаецца, я за гэты час аформлю паперы. Яшчэ выпішу рацэпт на лекі, якія Ігар павінен прымаць.

— Вялікі дзякуй, Рамуальд Самойлавіч!

Я паціснуў доктару руку і выйшаў у калідор.

— Ігар, пераапранайся! Потым забяры паперы — і на выхад. Мы будзем цябе чакаць. На ўсё пра ўсё табе пятнаццаць хвілін!

— Пастараюся!

Вось ужо і радасныя ноткі з'явіліся ў голасе. Цудоўна!

Я вярнуўся да сяброў. Санітар ужо ачуняў і змучана стагнаў. Я схіліўся над ім:

— Што, баліць?

— Ты за ўсё адкажаш!

— Адказваць буду толькі перад сваім сумленнем, а табе — кіпець у смаляным катле. Вось табе абязбольваючае.

Я адкаркаваў чакушку гарэлкі і падаў санітару.

— Не буду! — піскнуў ён.

— Дзіма, падай шокер!

— Не трэба! — узмаліўся санітар.

— Пі, паскуда!

Санітар у некалькі глыткоў асушыў чакушку, крактануў і занюхаў рукавом. Школа!

— Мальцы, звярнуўся я да хворых, — скажаце, што гэты кабан напіўся, паслізнуўся і зламаў руку. Згода?

— Згода! — загулі хворыя.

Я супакоіўся толькі пасля таго, як мы сустрэлі Ігара, прайшлі вяртушку, селі ў машыну і пакінулі тэрыторыю бальніцы.

— Ігар, у цябе ключы ад кватэры ёсць? — спытаў сябра.

— Ёсць.

— Ты хочаш скасаваць шлюб са сваёй кобрай, або будзеце співацца разам? Толькі ведай, што жанчыны больш вынослівыя за нас, мужчын. Яна перажыве цябе і пару вадзікаў у дадатак.

— А што, яна з Вадзікам?

— Муж, як заўсёды, пра ўсё даведваецца апошнім. Зараз сам пабачыш.

— Алесь, замок у дзверы ўрэзаць зможаш?

— За дваццаць хвілін, але патрэбны інструменты.

— Знойдзем!

Я заехаў у гаспадарчую краму і купіў надзейны замок. Потым мы пад'ехалі да кватэры Ігара і падняліся на трэці паверх.

— Мальцы, тут можа быць Вадзік, таму размяркуем абавязкі. Алесь і Дзіма — нейтралізуеце Вадзіка, а мы з Ігарам прыгледзім за Стэлай, хаця я і памяняўся б з вамі месцамі.

— Першае слова даражэй за другое, — засмяяўся Дзіма.

— Ігар, давай ключы.

Я акуратна ўставіў ключ у замок і, стараючыся не шумець, павярнуў два разы. Дзверы ціхенька рыпнулі, і мы зайшлі ў кватэру. Я прыклаў палец да вуснаў і зазірнуў на кухню. Дзве пустыя «бомбы» з-пад «чарніла» і недапітая паўтарачка піва гаварылі пра тое, што пахмелле плаўна перацякло ў чарговую п'янку. Мы падышлі да спальні, я рыўком адчыніў дзверы і голасам Джыгурды зароў:

— Рукі ўгору! Мордай у падлогу! Крок у бок лічыцца пабегам, страляю без папярэджання!

Вадзік, які ў тых жа брудных трусах ляжаў на ложку, закінуўшы нагу на п'яную Стэлу, падскочыў і кінуўся да дзвярэй. Алесь з Дзімам былі напагатове. Ігар, забыўшыся, што ён павінен сачыць за Стэлай, падбег да Вадзіка і пачаў хвастаць таго па твары. Галава полацкага дон Хуана матлялася, як флюгер пад парывамі ветру.

— Хопіць, — спыніў я сябра, — ты прымаўку памятаеш: сучка не захоча — кабель не ўскоча? Яна пра тваю жонку.

— Я заб'ю гэтую лярву!

— І зноў сядзеш. Тым больш, што твая аматарка паэтаў срэбнага веку яўна перабрала. Смерць у сне для яе будзе занадта высокай узнагародай. Мы зробім інакш.

Стэла бязвольнай гумавай лялькай валялася на ложку, і яе некалі прыгожае цела цяпер нічога акрамя агіды не выклікала.

— Ты рэкламу «Тайда» бачыў? — звярнуўся я да Вадзіка. — Дык вось мы прыйшлі да цябе. Пойдзем у ванны пакой.

Я затыкнуў адтуліну ў ванне і на поўную моц уключыў халодную ваду.

— Цёпленькая не пойдзе, не спадзявайся, — звярнуўся да Вадзіка, які бязвольна боўтаўся ў дужых руках хлопцаў. — А дзе ж наш «Тайд»? Няма… Бачу — твая каханка падтрымлівае айчынных вытворцаў. Ёсць «Лотас» фірмы «Бархім», што азначае Барысаўскі завод бытавой хіміі. Выдатны сродак! Калі раптам пачнецца вайна і нас акупуюць войскі НАТА, гэтага парашку будзе дастаткова, каб адправіць дамоў усіх амерыканскіх салдат.

Я сыпануў парашку ў ванну. Пена ўзнялася да самых краёў.

— Сябры, падсобце малайцу!

Некалькі дужых рухаў — і Вадзік, ускрыкнуўшы ад ледзяной вады, ужо сядзеў у ванне, і я кінуў яму мачалку.

— Мыйся, каб маці не лаялася! І трусы памый.

Вадзік калаціўся, як асінавы ліст, і ляскаў зубамі, але загады выконваў.

— Зміцер, — сказаў Алесь, — не заводзь эксперымент занадта далёка, бо Стэла не ў тым стане, каб яго адагрэць.

— Добра.

Я дастаў затычку, уключыў гарачую ваду і накіраваў дожджык на Вадзіка. Ён аж зажмурыў вочы ад задавальнення. Вось бомж марцовы! Я кінуў яму ручнік.

— Выцірайся! І трусы выкруціць не забудзься. Ты дзе прапісаны, хлопча?

— У вёсцы Замошша. Там маці жыве.

— А што ты тут забыўся? Захацеў далучыцца да культурных каштоўнасцей славутага града Полацка?

— Ды Стэла мяне сама запрасіла…

— А ты рады старацца. Выпіць на халяву ды каля бабы пагрэцца. А ты ведаеш, што Стэла замужам?

— Ведаю.

— Дык вось, Вадзік, слухай мяне ўважліва, я двойчы паўтараць не буду. Зараз ты аддасі нам ключ ад гэтай кватэры і забудзеш сюды дарогу. Потым вернешся ў роднае Замошша. Падымай калгас. Другі варыянт — міліцыя. Трэці — ЛПП. Што выбіраеш?

— Дамоў паеду.

— Правільна. Тры хвіліны на зборы. Час пайшоў.

Вадзік сабраўся за дзве.

Ігар знайшоў долата, малаток і нават электрадрыль. Алесь узяўся за справу.

— Сябра, збяры самыя неабходныя рэчы. Да размену кватэры ты будзеш жыць у мяне, — звярнуўся я да Ігара.

— Добра.

Праз пятнаццаць хвілін замок быў урэзаны. Мы зачынілі пакой і выйшлі з кватэры. Стэла так і не прачнулася.

Я зайшоў у гастраном, купіў ежы, і мы селі ў аўто.

— Мальцы, пабываць у Полацку і не павітацца з Сафіяй было б вар'яцтвам, таму — да гістарычных каштоўнасцей!

Белая прыгажуня-царква на фоне свінцова-шэрага неба выглядала выратавальнымі дзвярамі ў тую райскую краіну, куды кожны ўпотай марыць патрапіць, а ўзвышша, на якім яна велічна стаяла, сведчыла, колькі намаганняў трэба прыкласці для гэтага.

Мы падняліся па прыступках і падышлі да Барысава каменя.

— Пакладзіце далоні на камень, заплюшчыце вочы і загадайце сваё самае патаемнае жаданне, — параіў я і сам так зрабіў.

Шурпаты валун, які на сваёй магутнай спіне прынёс сюды ледавік з далёкай Скандынавіі, памятаў маладосць нашай планеты і ўбачыць яе апошнія хвіліны. Што для яго чалавечы лёс? Імгненне. Але мудрая веліч і моц знакамітага каменя надалі нам спакою і рашучасці, бо, калі я расплюшчыў вочы, на мяне глядзелі сябры, гатовыя ісці са мной да канца.

## ПАДАРОЖЖА ЧАЦВЁРТАЕ. ЛЁВА

Выехаўшы з горада, мы зрабілі прыпынак на беразе невялікага ляснога возера. Пачынала змяркацца. Сонца, перад тым як патануць у азёрнай глыбіні, на хвіліну жар-птушкай вызірнула з-за аблокаў. Агністая сцяжынка на люстраной гладзі возера запрашала пабегчы па ёй да барвовага дыска, але розум не дазволіў паддацца жаданню: па вадзе мог хадзіць толькі Ісус… А чаму нам не дадзена? Можа, Усявышні альбо прышэльцы, якім была патрэбна танная працоўная сіла, стварылі адмысловы абмежавальнік здольнасцей чалавека? Таму тыя з нас, каму цесна ў межах існавання, па баках якога стаяць тры вялікія ахоўныя вежы: Праца, Ежа, Сон — і адна маленькая (ну вельмі маленькая!) — Секс, спрабуюць вырвацца адтуль з дапамогай алкаголю, тытуню, пяёту і медытацыі? Рэлігія (у гэтым я цалкам згодны з класікам марксізму-ленінізму) — адзін з дазволеных варыянтаў наркотыкаў і крылаў чалавеку не дае. Але досыць філасофіі, бо, занадта паглыбляючыся ў адвечныя пытанні, можна патрапіць у Навінкі… або на могілкі.

— Мальцы, вунь абсталяванае месца для бівака, таму збіраем голле! Хто назбірае больш, атрымае першы кавалак смажанага мяса. За працу! — загадаў я.

Сябры пастараліся, і хутка вогнішча, патрэскваючы і кідаючы ў паветра феерверкі іскраў, ласавалася сухім голлем. Раскладны мангал, рашотку для смажання мяса і пакунак вуголля я заўсёды трымаю ў машыне, таму ўжо праз паўгадзіны над мангалам шкварчэла мяса, даймаючы нас апетытным пахам.

— Зміцер, слінай сыду! Давай мяса! Мя-а-а-са хачу! — роў Алесь.

— Пачакай, бо калі з'ясі недасмажанага мяса, то сыдзеш не слінай, а нечым іншым.

Тым часам я расклаў аднаразовы посуд, выняў смажанага судака, марынаваныя гурочкі, трохлітровік соку і хлеб. Павагаўшыся, паставіў бутэльку гарэлкі. Для выпрабавання. Нарэшце мяса было гатовае. Адкаркаваў бутэльку полацкай гарэлкі, якую купіў толькі таму, што мне спадабалася назва «Пятровіч». Наліў Дзіму, Ігару і спытаў у Алеся: «Можа, табе наліць? Сербанеш сотку?» Алесь, які апошнія хвіліны пазіраў на бутэльку, як малпа на Каа, ірвануў у лес, і адмысловыя гукі, якія данесліся адтуль, сведчылі, што вожык аддаў сваё жыццё не дарэмна… Мы пачакалі, пакуль Алесь схадзіў да возера, памыўся і з бледным тварам сеў ля вогнішча.

— Калі яшчэ хто-небудзь прапануе мне гарэлкі, я таго гада…

— Фэйсам аб тэйбл! Зразумела, дружа. Але табе трэба навучыцца быць абыякавым да празрыстага і не вельмі празрыстага зелля, бо абыякавасць у гэтай справе — прыкмета ўпэўненасці ў сабе. Прабач за дурную прапанову. А піць мы з табой будзем сок. Маркоўны. З полацкіх палёў і агародаў. У ім столькі караціну, што нават ноччу ты будзеш бачыць, як філін. Сябры, — працягваў я весці свой рэй, — сёння з намі наш стары сябра. Ігар, я не Воланд, але няхай франтавыя сто грамаў будуць тым цудадзейным эліксірам, які вярнуў да жыцця Майстра, а табе дапаможа забыць твае праклятыя апошнія гады. За цябе!

Ігар з Дзімам выпілі, і мы ўзяліся за мяса. Я схапіў бутэльку з недапітай гарэлкай, падышоў да возера і шпурнуў у цёмную люстраную роўнядзь. Булькнуўшы, яна пайшла на дно.

— Зміцер, ты нейкага карася-небараку зрабіў алкаголікам. Навошта спойваць падводны свет? — выдаў Алесь.

— Вадзянік за ім прыгледзіць. «Мішкі», з гэтага моманту ў нашым гурце ўводзіцца рэжым поўнай цвярозасці. Ён будзе дзейнічаць да дня нашага канцэрта.

— Якога канцэрта? — запытаўся Ігар.

— Па дарозе ўсё раскажам.

Мы павячэралі і моўчкі сядзелі, гледзячы на агонь. З усіх стыхій, на мой погляд, агонь самая чароўная, прыцягальная і неўтаймаваная. Гэты дар Праметэя дапамог першабытнаму чалавеку выжыць сярод дзікай прыроды, і ён жа заўсёды ўтрымлівае ў сабе смяротную пагрозу. Ён, як котка з казкі Кіплінга, жыве сам па сабе. Але з двух варыянтаў канца жыцця любой істоты — згніць альбо згарэць — я выбраў бы агонь.

Мы прыбралі смецце, селі ў машыну, я запусціў рухавік, уключыў фары і па прасёлачнай дарозе выехаў на шашу Полацк — Віцебск. Алесь з Ігарам ціхенька размаўлялі, Дзіма даваў храпака, а я на хуткасці 70 кіламетраў ехаў да абласнога цэнтра. У ночы свае правы, яна не шкадуе легкадумных і патрабуе павагі да сябе. І яшчэ: яна хавае пачвар, якія жывуць у нашых галовах…

На FM злавіў «Мелодыі веку» і з задавальненнем слухаў старыя хіты. Неўзабаве на небе паўночным ззяннем высвеціўся сполах вялікага горада, а потым мірыядамі светлякоў стаў бачны і сам Віцебск. Я паехаў паралельна трамвайным рэйкам, пакінуў з правага боку вакзал, звярнуў налева, праехаў мост праз Дзвіну і спыніўся ля гасцініцы «Лучоса».

— Ці ёсць свабодныя нумары? — спытаўся ў адміністратара, калі мы зайшлі ў фае.

— Ды ў нас толькі на «Славянскім базары» аншлаг, а цяпер ціха. Два двухмесныя нумары на сёмым паверсе з выглядам на Дзвіну вас задаволяць?

— Канешне. Афармляйце.

— Мальцы, я з Ігарам, а Алесь з Дзімам. Згода?

— Згода, хаця я б выбраў суседства з Анджалінай Джалі, — адказаў Алесь.

— Бач ты, пасля харчовага прачнуўся і сексуальны апетыт. Але гэта ўсё інстынкты, а я чакаю, калі ў цябе прачнецца апетыт да творчасці.

— Ды я заўтра ж з сухастоіны зраблю тваю скульптуру.

— Па-першае, сухастоіна гучыць не вельмі эстэтычна, а па-другое, ты лепш зрабі з вішні некалькі пар барабанных палачак для Дзімы, бо ў крамах іх кошт такі, быццам выраблены яны з гандураскага махагону.

— Паспрабую. Але мне патрэбен такарны станок.

— У Мінску знойдзем, а вішнёвых дрэў у наваколлі хапае.

Так за размовамі мы падняліся на сёмы паверх.

— А цяпер, адбой! Заўтра сустрэнемся з Лёвам і вырашым, што рабіць далей. Добрай ночы!

— І вам салодкіх сноў з відэафільмам пра гарэм турэцкага султана! — адказаў Алесь.

— Не зваліся з ложка, Асман Вялікі!

Наш пакой быў звычайным і безаблічным, але ацяпленне працавала, мелася гарачая вада і чыстая бялізна. Што яшчэ патрэбна стомленаму падарожніку?

— Зміцер, я прыму душ, бо дома не паспеў, — вінавата прамармытаў Ігар.

— Канешне, сябра. З-за вадзікаў нікуды не паспяваеш, проста бяда!

— І не кажы.

Ігар знік у ванным пакоі, а ў мяне зазваніў мабільнік. Я пачуў голас Томы, і хваля пяшчоты і жадання прабегла па маім згаладалым па каханні целе.

— Добрай ночы, любы! Ты пра мяне зусім забыў…

— Томачка, радасць мая, я так сумую без цябе!

— А пабачыць мяне хочаш?

— Вядома! Але як гэта зрабіць?

— Я стаю на Смаленскай вуліцы.

— Дзе?!

— Вядома, не ў Карагандзе, а ў Віцебску.

— Цудоўна! Праз пятнаццаць хвілін мой чатырохколавы конь цябе падбярэ. Перайдзі на правы бок вуліцы.

— Чакаю!

Я пастукаўся ў дзверы ваннага пакоя.

— Ігар, я на сустрэчу да каханай. Не чакай мяне!

— Поспехаў!

Матор «Пежо» яшчэ не паспеў астыць. Зноў праз мост, вакзал пакідаю злева. Вось і Смаленская вуліца. Збаўляю ход і пад ліпай з абляцелай лістотай бачу адзінокую постаць. Тармажу. Выбягаю. Сціскаю ў абдымках каханую, і пацалунак чароўным скафандрам пяшчоты адгароджвае нас ад замерзлага начнога горада. Хутчэй у машыну. Пара рухаў — сядзенні злажыліся і стварылі канапу, не такую шыкоўную, як у офісе, але лепшую, чым якая-небудзь раскладушка. Прэлюдыю скароцім да мінімуму — яна даўно пракручана ў нашых галовах. Маэстра, музыку! Нябачны дырыжор узмахнуў палачкай, і ў тэмпе lento загучала першая частка сімфоніі кахання. Andante другой часткі плаўна перайшло ў allegro moderato. Allegro! Presto!! Vivo!!! Vivace!!!! Coda!!! Сэрца, якое трапяткой ластаўкай ірвалася ў вырай, пачало супакойвацца і нарэшце знайшло ўтульнае гняздзечка ў груднай клетцы.

Нехта пастукаў у бакавое шкло. У цьмяным святле начнога ліхтара я заўважыў тры постаці міліцэйскага нарада. Апусціў бакавое шкло. У салон прасунулася галава маладзенькага сяржанта.

— Што тут адбываецца? Чаму гайдаецца машына і чутны крыкі?

— Мяне забіваюць… — гаротна прашаптала Тома.

— Вам патрэбна мая дапамога?

— Не, няхай забіваюць далей, мой жэнераль!

Сяржант пасвяціў ліхтарыкам. Тома бессаромна павольна расхінула свае малочна-белыя калені. Міліцыянер грукнуўся галавой аб дзверы машыны і істэрычна праверашчаў: «Вы што гэта? Вы што сабе дазваляеце?! Не паложана!»

— Мы едзем у гасцініцу. Праз дзве хвіліны нас тут не будзе, камандзір. Прабачце маю жонку за нястрыманасць. Яна ў мяне такая…

— Ла-а-дна, — прамармытаў сяржант, яшчэ раз коса зірнуўшы на Томіна харыство. — Каб, гэта, быў парадак!

— Парадак будзе. Дзякуй за пільнасць!

— Стараемся.

Я падняў шкло і, стрымліваючы прыступ рогату, прашаптаў:

— Томачка, ну ты д'ябаліца! Беднага сяржанта ледзьве да інфаркту не давяла.

— Мур-р-р!

— Мя-а-аў!

Я ўпоцемках пералез на сядзенне кіроўцы і крануўся з месца.

За сняданкам я пазнаёміў Тамару са сваімі сябрамі.

Надышоў час тэлефанаваць Лёву.

Аказалася, што пра Лёву ніхто нічога не ведае.

— Та-ак, тэлефон яго ў мяне толькі хатні.

Трубку знялі даволі хутка.

— Добры дзень! Можна запрасіць да тэлефона Льва Сямёнавіча?

— Я слухаю.

Голас амаль не змяніўся.

— Лёўка, здароў, сябра! Гэта Зміцер, твой універсітэцкі таварыш з «Мішак». Памятаеш такога?

— Памятаю. А ты адкуль тэлефануеш?

— Ды мы зараз у Віцебску ўсім нашым былым гуртом. У гасцініцы «Лучоса». Можам закаціць да цябе!

— Зміцер, я зараз заняты, — прамармытаў Лёва, — а вечарам буду іграць у рэстаране той жа «Лучосы». Прыходзьце, там і сустрэнемся.

— Добра. Да сустрэчы!

Не адчуў я радасці ў ягоным голасе. Не адчуў.

— Што, Зміцер, бачу Лёўка нам не вельмі рады? — спытаўся Ігар.

— Пэўна… Але калі ён не захоча прыняць удзел у канцэрце, на нашым мерапрыемстве можна ставіць кропку. Тлустую.

— Ды мы сыграем і без яго! — выказаўся Алесь.

— Вядома, але па ўмове кантракта мы павінны выступіць у ранейшым складзе. Таму вечарам перамовы будзем весці вельмі далікатна. Я буду гаварыць, а вы падтаквайце.

— Які ты дыпламат, мы ўжо бачылі. У Полацку, — уздыхнуў Алесь.

— Нічога, я выпраўлю свае памылкі і буду хітрым, як Дызраэлі. А цяпер у нас вольны час. Пагуляем па горадзе.

Мы выйшлі з гасцініцы і спыніліся ля моста праз Дзвіну.

— Нешта не надта падобна да жанчыны гэтая дзікая рака, — выказалася Тома.

— Розныя жанчыны бываюць, мая радасць. Але тут ты маеш рацыю: раней рака называлася Рыдван, або Эрыдан. Вунь на той пляцоўцы з правага боку, па легендзе, спынялася княгіня Вольга.

— Гэта тая «міласэрная» жанчына, якая так жорстка адпомсціла драўлянам за смерць свайго мужа? — спытаўся Ігар.

— Так. А яе мужа, дарэчы, твайго цёзку, яны забілі з-за ягонай сквапнасці: яму падалося, што звычайнай даніны мала, і таму вярнуўся, каб зноў яе сабраць. Тады драўляне вырашылі, што калі воўк панадзіўся ў статак, то трэба ад яго пазбаўляцца. Сагнулі дзве бярозы, прывязалі да іх вершалін ногі Ігара і адпусцілі дрэвы. І атрымаліся са сквапнага князя дзве палавінкі…

— Жах які! — уздыхнула Тома.

— Па заслугах! — сказаў Дзіма.

— Але ж княгіня ім жорстка адпомсціла, — дадаў Алесь. — Спачатку яна першых паслоў драўлян, якія прыплылі да яе сватаць свайго князя Мала, у якасці вялікага гонару прыняла на ладдзях, якія неслі слугі, а потым тыя ладдзі былі кінуты ў загадзя выкапаныя ямы і засыпаны зямлёй разам з жывымі людзьмі. Другіх паслоў драўлян Вольга зажыва спаліла ў лазні, а потым з войскам падышла да іх цэнтра — горада Іскарасценя. Сабраўшы даніну ў выглядзе трох галубоў і трох вераб'ёў з кожнага двара, яна загадала прывязаць кнот да лапкі кожнай птушкі, падпаліць яго і адпусціць птушак. Бедныя птахі жывымі факеламі вярнуліся да родных гнёздаў і спалілі горад. Хаця мне здаецца, што з палаючым або нават тлеючым кнотам птушкі не праляцелі б і дзесяці метраў. Але прыгожая легенда назаўсёды застанецца легендай.

— Адсюль пытанне: лепш адразу скарыцца або змагацца, нават ведаючы, што прайграеш? — спытаў я.

— Вядома, змагацца! — усклікнуў Дзіма.

— Гэта твой юначы максімалізм, сынку, — уздыхнуў я. — За часы прыгнёту і тыраніі, рабства для беларусаў стала нацыянальнай рысай, ад якой мы толькі цяпер пачынаем пазбаўляцца… Я ўсё думаю: чаму ў трыццаць сёмым годзе, калі вынішчалі нашу інтэлігенцыю, ніводзін не аказаў супраціўленне? У многіх жа мелася ўзнагародная зброя. Чаму яны ішлі ў чорныя «варанкі», як бараны пад нож?

— Зміцер, шмат у каго былі сем'і, дзеці. Арыштанты хацелі сваёй ахвярай зберагчы родных ды блізкіх, хаця ў большасці выпадкаў гэта не дапамагала, і жонкі ішлі ў Сібір, а дзеці — у дзіцячыя дамы, дзе ім нават прозвішча мянялі, — уздыхнуў Ігар.

— Навошта мяняць прозвішча? — спытаўся Дзіма.

— Каб роду свайго не ведаць! Бязродны чалавек — быдла. А быдла лёгка сагнаць у статак, даць п'янага пастуха, які будзе сцёгаць бізуном тых, хто занадта далёка адыдзе ўбок. А калі б ты ведаў, што твой продак быў шляхціцам, які пад Грунвальдам штабялямі клаў крыжакоў, то ўжо адно гэта не дазваляла б табе схіляць галаў перад рознай свалотай! — выгукнуў я.

— Крамольныя рэчы гаворыце, в'юнаша! — хмыкнуў Алесь.

— Але справядлівыя!

Унутры мяне пачынаў закіпаць чайнік. Тома гэта адчула. Яна абняла мяне, пацалавала і прашаптала:

— Супакойся. Вакол сябры, я цябе кахаю — і гэта галоўнае. А мінулае мы не ў стане выправіць…

— Але было б добра, каб мы на памылках мінулага вучыліся і двойчы ў тую ж ляпёху не ступалі.

— Мы ўсё жыццё па ляпёхах топчамся, — падаў сумны голас Ігар.

— Давайце лепш таптаць вінаградныя гронкі і рабіць хванчкару!

— Правільна, сябра! — усклікнуў Алесь.

— Толькі для цябе вінаградны сок, а не віно.

— Згода! — засмяяўся ён. — Сваю цыстэрну я ўжо выпіў. Дарэчы, на тым беразе ракі Дом-музей Марка Шагала. Зойдзем?

— Абавязкова!

Шагал — мастак, якога адразу можна пазнаць з тысяч іншых. Пачаўшы з рэалізму, ён выпрацаваў свой непаўторны стыль з закаханымі, якія лунаюць, пеўнямі і каровамі ў блакітна-сінім каларыце любімых валошак. Яго палотны — гэта парыжскія сны пра віцебскае юнацтва.

Пасля наведвання музея Дзіма сказаў: «Я не зразумеў яго жывапісу…» Алесь супакоіў: «Хлопча, каб зразумець Шагала, трэба пачаць з наскальнага жывапісу, ікон, эпохі Адраджэння, дайсці да рэалізму, перайсці да імпрэсіянізму, мадэрнізму, прымітывізму, потым пазнаёміцца з яго біяграфіяй і творчым шляхам — толькі тады можна нешта зразумець, хутчэй — адчуць. Калі не супраць, я займуся тваёй мастацкай адукацыяй».

— Вядома, не супраць!

— Як вы думаеце, ці лічылі сябе беларусамі мастакі знакамітай віцебскай школы: Шагал, Кандзінскі, Пэн? — спытаў Алесь.

— Вядома, — упэўнена зазначыў Дзіма, — яны ж тут нарадзіліся!

— Наіўны ты хлопча, — уздыхнуў Ігар, — любы яўрэй, нават калі ён нарадзіўся ў Афрыцы, сваёй радзімай лічыць Ізраіль.

— Давайце не будзем абмяркоўваць яўрэйскае пытанне, — засмяяўся я, — на ўсё вам адкажа Лёва. Вечарам.

— А я думаю, — умяшалася Тома, — што сваёй радзімай любы творца лічыць тую краіну, якая дала магчымасць раскрыцца яго таленту, таму французы лічаць Шагала сваім нацыянальным мастаком. Як, дарэчы, і Суціна.

— Магчыма, ты маеш рацыю, мая радасць, але чым тады называць месца нараджэння? Альбо для творцаў увесці асобную тэрміналогію? Тут пытанне складанае… Цябе паслухаць, дык беларусы зусім застануцца без творцаў.

— А мы! — усклікнуў Алесь.

— Вось іменна, дружа!

Мы яшчэ з гадзіну пагулялі па горадзе, але пачаўся нудны дождж і прыйшлося вярнуцца ў гасцініцу.

Увечары мы сядзелі за столікам рэстарана. Я разглядваў наведвальнікаў, спрабуючы вызначыць іх сацыяльны статус. Усіх можна было ўмоўна падзяліць на тры катэгорыі. Да першай адносіліся бізнесмены сярэдняй рукі з палюбоўнікамі. Зручна: можна павячэраць, патанчыць і зняць нумар на ноч. А правіла: хто нас вячэрае, той і танчыць — яшчэ ніхто не адмяняў. Да другой катэгорыі адносіліся былыя і будучыя зэкі. У краіне, дзе сядзеў кожны чацвёрты, зэкі складаюць адмысловае сацыяльнае саслоўе з уласнымі законамі, канстытуцыяй і нават індустрыяй адпачынку. Яшчэ былі гандляры з рынку, большасць якіх складалі каўказцы. Яны не стаяць за прылаўкамі і не возяць садавіну з родных мясцін. Іх невялікія гандлёва-закупачныя фірмачкі аформлены на беларусаў. Яны жывуць у адзінокіх жанчын, якія на іх працуюць і спяць з імі, радуючыся такому жаночаму шчасцю. Іх можна сустрэць на аптовых рынках і базах, дзе яны купляюць наш, беларускі, тавар і потым нам жа прадаюць. Толькі ўдвая даражэй. Іх яшчэ можна пабачыць у банках, дзе яны мяняюць нашы грошы на долары і адсылаюць сваім сем’ям у родны Баку. Ну і, вядома, у рэстаранах.

— Цікава, а калі б беларус прывёз на Каўказ машыну бульбы альбо антонавак, ці зрабіў бы ён там бізнес? — запытаўся я.

— Ты пра што, каханы? — адазвалася Тома.

— Гэта так, — засмяяўся я, — думкі ўголас.

— Вяртаўся б ты адтуль, хлопча, не на ўласнай машыне, а ў цынкавай труне, — прамовіў Алесь.

— На чым? «Чорныя цюльпаны» ўжо не лятаюць.

— На чорнай кабыле.

— Кіньце свой чорны гумар! — гэта Тома спыніла нашу з Алесем пікіроўку.

Тым часам на невялікай сцэне з’явіліся музыкі. Клавішы, саксафон і гітара. Для кабакоў самае то. Загучала папуры з папсовых хітоў.

— А ў нашага Лёўкі неслабы мамон вырас, — заўважыў Алесь.
— І лысіна блішчыць, — дадаў Ігар.
— Многія жанчыны лічаць лысіну прыкметай сексуальнасці, — прамурлыкала Тамара.
— Не ведаў, што ты западаеш на лысых, — выказаўся я.
— Жанчына — гэта суцэльная загадка, — уздыхнуў Ігар.
На сцэне з'явілася салістка сярэдніх гадоў у бліскучай сукенцы з бакавым разрэзам да самай таліі, і паліліся песні. Айчынная і замежная папса, цыганскія і блатныя хіты — музыка, якая дапамагала разгарнуцца не толькі п'янай душы, але і кішэням. Браткі з суседняга століка ўжо двойчы замаўлялі «Владимирский централ». Алесь не вытрымаў. Ён падбег да Лёвы, абняў яго і прашаптаў нешта на вуха. Той усміхнуўся і аб'явіў у мікрафон:
— Сябры, нашы адпачываючыя заўважылі, што сярод нас ёсць не толькі тыя, хто пабываў ва «Уладзімірскім цэнтрале». Для Алеся з азёрнага Лепеля гучыць «Таганка». — Лёўка, імітуючы голас Круга, зацягнуў:

— Таганка, все ночи, полные огня.
Таганка, зачем сгубила ты меня?
Таганка, я твой бессменный арестант,
Погибли юность и талант в твоих стенах.

Афіцыянт паставіў на наш стол бутэльку шампанскага і, паказаўшы галавой на браткоў ля сцэны, сказаў: «Вам прывітанне ад тых хлопцаў». Прыйшлося адказаць тым жа. А мы адпачывалі: пілі шампанскае (на сённяшні вечар я адмяніў «сухі закон»), падпявалі прывабнай салістцы, танчылі. Нават Ігар запрасіў Тому на павольны танец. Час ляцеў непрыкметна. Бліжэй да поўначы музыкі развіталіся і пакінулі сцэну. Лёва падсеў за наш столік. Пасля абдымкаў, прывітанняў і роспытаў я закінуў вуду з пакуль што голым кручком:
— Лёва, ты ведаеш, што праз месяц юбілей універа?
— Няўжо?
— Дарэчы, нас запрасілі выступіць.
— Каго гэта «нас»?
— «Мішак». Можа, адновім праграму і ўрэжам рокам па бездарожжы?
— Ды кіньце вы, сябры! Парыцца дзеля аднаго выступлення? Мы ж не Led Zeppelin. Ці, можа, потым зробім сусветны тур?
— Лондан і Парыж не абяцаю, затое па аграгарадках пранясёмся каметай, — выдаў Алесь. — Даяркі будуць табе пляскаць у далоні, а камбайнеры налізваць самагнёт.
Позіркам я папрасіў Алеся памаўчаць. Пара прычапіць прынаду.
— Дарэчы, спонсары абяцаюць заплаціць пяцьсот долараў…
— Усім?
— Кожнаму.
Вось ужо і вочкі загарэліся. Рэдкая рыба адмаўляецца ад залатога кручка.
— А як з рэпетыцыямі? — запытаўся Лёва.
— Нам здымуць залу з апаратурай.
— Я не магу пакінуць працу… — прамармытаў ён.
— Давай дамовімся так: ты ж у нас профі высокага палёту (ад лісліваці яшчэ ніхто не паміраў). Таму скіну па электроннай пошце ноты тваіх партый, а ты пару разоў прыедзеш да нас на рэпетыцыі. За гэта спонсары накінуць табе яшчэ сотку баксаў. Згода?

— Згода!

Алесь падміргнуў мне і непрыкметна паказаў узняты ўверх вялікі палец.

–Yes-s-s!

## ПАДРЫХТОЎКА ДА КАНЦЭРТА

Бліжэй да полудня мы ўжо былі ў сталіцы. Па дарозе я заехаў у Барысаў і пакінуў там Дзіму, дамовіўшыся, што паведамлю яму пра бліжэйшую рэпетыцыю. Хлопцаў завёз на сваю кватэру і загадаў адсыпацца, Тому падкінуў у офіс, а сам патэлефанаваў Насці:

— Добры дзень! Вас вітае гурт «Мішка касалапы».

— Ой, вельмі прыемна! Гэта Зміцер?

Жаночы голас быў нізкім і аксамітным. Многія мужчыны ад падобнага кантральта губляюць розум. Па маёй спіне прабегла нейкая незразумелая энергетычная хваля.

— Так, гэта я. Хацелася б сустрэцца, пагутарыць…

— А зараз можаце?

— Магу.

— Цудоўна. Прыязджайце. Чакаю вас!

Яна паведаміла адрас. Ужо праз чвэрць гадзіны пад’ехаў да шыкоўнага офіса вядомай фірмы. Ахоўнік спытаў да каго і, пачуўшы прозвішча, без размоў прапусціў мяне. Падымаюся на трэці паверх. Вось і кабінет, дзе на шыльдзе пад словамі «Намеснік галоўнага дырэктара» красавалася прозвішча Насты. Я пагрукаў у дзверы. Ветлівая сакратарка ўсміхнулася, пачуўшы маё прозвішча, і правяла ў кабінет сваёй кіраўніцы. Насустрач мне з-за пісьмовага стала выйшла жанчына. Не, не жанчына, хутчэй, каралева. Строгі дзелавы касцюм васільковага колеру не хаваў, а падкрэсліваў прыгажосць фігуры і вельмі пасаваў да рудых валасоў. У галаве закруціліся словы песні з матулінай кружэлкі:

Рыжая, рыжая,
Ты на свете всех милей.
Рыжая, рыжая,
Не своди с ума парней.

Цікава, чаму мужчыны так западаюць на рыжых? Мо таму, што спалучэнне рудых валасоў са скурай Снежнай Каралевы вельмі сексуальнае? Але хопіць разважаць, бо ў сваёй руцэ я адчуў цёплую далонь Насты і не ўтрымаўся, каб яе не пацалаваць. Я зірнуў у зялёную бездань вачэй і прамовіў:

— Вось так непрыкметна з юных прынцэс вырастаюць каралевы!

— Дзякуй за камплімент, Зміцер, але, мабыць, вы хацелі сказаць з брыдкіх падлёткаў, бо на прынцэсу вы, пэўна, звярнулі б увагу?

— Не, Наста. Я зразумеў, што толькі з узростам пачынаеш цаніць і разумець прыгажосць…

— Але мы не ў стане вярнуць тое, што згасла… Таму толькі наперад!

— Згодны!

— Можа, кубачак кавы?

— Было б нядрэнна…

Мы селі на канапу, і сакратарка падала нам каву.

— Наста, скажу шчыра, ваша пасланне ўскалыхнула ўва мне нешта даўно забы-

тае. Мы ўсё жыццё даказваем некаму, што на нешта здатныя. А ўрэшце хочацца даказаць самому сабе, што ты не нікчэмнасць, а чалавек. Вядома, у студэнцкія гады мы не былі анёламі, і алкаголь быў не лепшым сродкам выражэння ўнутранай свабоды, але другіх мы не ведалі… Але досыць філасофіі. Карацей, я сабраў хлопцаў. Мы гатовы рэпеціраваць. Толькі замест Валеры, калі вы не супраць, будзе іграць ягоны сын, бо Валеру забілі…

— Жах які! Я не ведала… Перадайце мае спачуванні яго жонцы і сыну. І, вядома, я не супраць, каб іграў сын Валеры. Зміцер, у мяне ёсць адрасы некаторых рэпетыцыйных залаў з узмацняльнай апаратурай і мікрафонамі. Праедзьцеся з сябрамі, паглядзіце і паведаміце мне, што вам спадабалася. Я буду дамаўляцца пра ўмовы. І яшчэ: у мяне пустуе дача на Мінскім моры. Пэўна, вашым сябрам патрэбна жытло — вось ключы. З усімі праблемамі звяртайцеся да мяне.

Мы развіталіся, але я адчуваў, што за звычайнымі словамі нашага дыялогу хаваўся нейкі пакуль што незразумелы мне патаемны сэнс…

Увечары мы з Алесем і Ігарам праехаліся па дадзеных Настай адрасах. Кропкі ў гаражах і маленькіх памяшканнях мы адмялі адразу — нам была патрэбна зала, па памерах падобная да канцэртнай залы ўнівера. Нарэшце ў адным з дамоў культуры знайшлі добрае памяшканне з прыстойнай апаратурай.

— Сябры, — звярнуўся я да Алега і Ігара, — давайце параімся: у нас месяц часу. Колькі раз на тыдзень будзем збірацца?

— Ды хаця б разы тры, — уздыхнуў Ігар, — бо «давно не брал я в руки шашек».

— І па тры гадзіны, — дадаў Алесь.

— Што ж, тры — лічба сакральная, а калі яшчэ ў квадраце! Так і вырашым. Заўтра прыводзім у баявы стан свае музычныя інструменты, мяняем струны, успамінаем былы рэпертуар, а паслязаўтра першая рэпетыцыя!

Мы ўдакладнілі графік рэпетыцый з адказным па зале і вярнуліся ў маю аднапакаёўку.

— Сябры, сёння неяк перакантуемся ў мяне, а заўтра вы пераедзеце ў загарадны дом.

— Ты што, капіталіст, паспеў асабняк адгрохаць? — з’едліва спытаў Алесь.

— Вядома, з сухастоіны.

Вечарам мы елі смажаную бульбу, разглядвалі студэнцкія фотаздымкі, слухалі «Бітлоў» і ўспаміналі, успаміналі…

Пасля ранішняй кавы зайшлі ў «Гіпа», купілі халасцяцкі харчовы набор з ёгурту, пельменяў ды кавы, і я накіраваў свой «Пежо» да кальцавой. Вось і дарога на Мядзел. Яшчэ трыста метраў — і паварот направа. Аднапалосная дарога шэрым вужом вілася між рыжавата-зялёных соснаў. Праязджаем мост, паварот налева, потым направа — і з-за дрэў лэд-зэпелінаўскім свінцовым дырыжаблем паказалася раззлаванае Мінскае мора. Нябачны валадар вадаёма гнаў да берага паслухмяныя хвалі, якія на сваіх пеністых плячах неслі ўсё тое, чым «аддзячыў» яму чалавек за летні адпачынак. Камякі хімічнай пены, падобныя да мёртвых белых лебедзяў, гойдаліся на прыбярэжным трыснягу, пластыкавыя бутэлькі і пакеты вар’яцкім дыванам высцілалі пляжны пясок, тысячы малькоў, плаваючы на спіне, глядзелі ў шэрае неба мёртвымі вачыма. Крыкі чаек, падобныя да галашэння маці па забітым сыне, стваралі гукавое аздабленне гэтага палатна сюррэалізму эпохі канца свету.

— Сумна і лакрымозна, — прашаптаў Алесь.

— Проста нейкі сі бемоль мінор, — дадаў Ігар.

— У нас на Віцебшчыне такога яшчэ няма, — выказаўся Алесь.

— Будзе. Мы з вамі ў дзяцінстве маглі напіцца з ручая або рэчкі, а цяпер? У Афрыцы людзі паміраюць ад смагі, а мы свае крынічныя багацці забруджваем з неабмежаванай хуткасцю. Ужо нават з артэзіянскіх свідравін піць ваду небяспечна. Праз два дзясяткі гадоў пітная вада будзе каштаваць даражэй за нафту, але на той час у нас яе ўжо можа не быць! — завёўся я.

— Ды я сёння сербануў вадзіцы з твайго крана. Ад хлоркі нават слёзы з вачэй паліліся! — сказаў Алесь.

— А без вады і ні туды, і ні сюды! — азваўся Ігар.

— Вось і тэма для песні. Мальцы, здаецца, вунь там дачны пасёлак. Паехалі!

Паўсотні двухпавярховых катэджаў было пабудавана ў адным стылі і нядрэнна суадносілася з навакольным ландшафтам. Мы пад'ехалі да будкі ахоўніка і пагрукалі ў дзверы. Адчыніў даволі жвавы мужчына.

— Настасся Пятроўна мне тэлефанавала. Праходзьце, калі ласка. Яе катэдж нумар 15 з левага боку.

— Дзякуй. А вада ў вас адключана?

— Чаму? Халодная ёсць. А яшчэ стаяць бойлеры, можна ўключыць ацяпленне, а можна і дровы ў каміне запаліць. Будзе цёпла! Дарэчы, нам патрабуецца ахоўнік. У вас няма надзейнага чалавека?

Я зірнуў на Ігара.

— Дык вось вам кандыдат. Некалі ў ахове служыў. А які ў вас графік?

— Суткі праз трое. Плацяць трыста баксаў. Ёсць тэлевізар, канапа. Ноччу можна паспаць, калі не дачны сезон. Так што, як будзе жаданне, давайце да нас!

— Дзякуй, мы падумаем.

— А што, Ігар? — запытаўся я, калі прайшлі на тэрыторыю. — Можа, ты за гэты час прыгледзішся, а потым падзяжурыш зімовы сезон, пакуль не знойдзем штосьці лепшае?

— Лепшае мне і не патрэбна. Я згодны.

Сказана гэта было абыякавым тонам. Тонам чалавека, які ад жыцця не чакае аніякіх змяненняў. Жыццё — гэта мары, старасць — успаміны, а абыякавасць і адсутнасць жаданняў — смерць. Патушылі Ігарка, патушылі! Ці атрымаецца запаліць агмень у ягонай душы? Не ведаю…

А вось і катэдж Насты. Аціліндраваныя бярвенні, шклопакеты, дах з чырвонага андуліну, дзесяць сотак зямлі, альпійская горка, басейн з німфеямі і ажурным мосцікам, маладыя яблынькі і грушы. Прыгожа, нават цяпер.

— Прыстойны будынак! — канстатаваў Алесь.

— Гэта табе не якая-небудзь сухастоіна.

— І не кажы, браце…

На першым паверсе дома была зала з камінам і сталовая з невялікай кухняй, на другім — дзве спальні. Зручна і ўтульна. На часопісным століку я заўважыў два фотаздымкі ў прыгожых рамках. На адным была Наста, пэўна, з сынам, а на другім… наш гурт!

— Мальцы, зірніце на гэтае дзіва! Мо пазнаеце каго-небудзь?

— Дык гэта ж мы! — усклікнуў Алесь. — Што гэта быў за канцэрт?

— У інтэрнаце на Энгельса мы выступалі. На Восьмага сакавіка, — удакладніў Ігар.

— Правільна. Сябры, асвойвайце тэрыторыю! Вось вам па мабільніку. Дару! У памяці мой нумар. Калі што — тэлефануйце. Заўтра перад рэпетыцыяй я за вамі заеду. Бывайце!

Наступным вечарам мы сабраліся на першую рэпетыцыю. На сцэне былі ўзмацняльнікі, мікрафоны, ударная ўстаноўка. За дадатковую плату нам прынеслі сінтэзатар «Ямаха».

— Ці зможаце вы знайсці на некалькі рэпетыцый і канцэрт прыстойнага гукарэжысёра? — запытаўся я ў хлопца, які адказваў за апаратуру. — Яшчэ нам трэба будзе выставіць святло і зрабіць якія-небудзь візуальныя эфекты.

— Усё зробім, — усміхнуўся той, — і гукача знойдзем, і дым пусцім, і файершоу забамбім, як на салюце Перамогі. Нават аголеных дзяўчат можам паклікаць у падтанцоўку. Былі б грошы!

— Грошы будуць.

— Зміцер, — звярнуўся да мяне Ігар, — я на сінтэзатары не граў. Мне б падабраць патрэбны тэмбр або знайсці нашу старую іоніку.

— Наўрад ці мы адшукаем такі рарытэт. Ты ж ведаеш, што старыя інструменты спісвалі і разбівалі — быў такі дурацкі закон. Але дадзім запыт у інтэрнэт, а сёння грай на шыкоўным сінтэзатары!

— Братан, а дзе твой знакаміты Fender Stratocaster? — запытаўся Алесь.

— Вось ён, радзімы.

Я расчахліў гітару, якую бацькі маёй сяброўкі некалі прывезлі з самой Кароны. На гэтую прыгажуню залатога 1958 года вырабу прыязджалі падзівіцца рокеры з усёй Беларусі і суседніх краін. Яе непаўторны «шкляны» гук быў ідэалам фэндэраўскага гучання. Пазней я для выразнасці гуку і тэмбравай разнастайнасці дадаў гібсанаўскі гукач хамбакер. Колькі прапаноў аб продажы я адхіліў! А колькі было спроб выкрасці маю прыгажуню!

— А я чуў, што Gibson лепей, чым Fender, — выказаўся Дзіма.

— Сынку, на Fender гралі і граюць Эрык Клэптан, Джэф Бэк, Марк Нопфлер, Рычы Блэкмар. А хто не ведае знакаміты Dlack Strat Дэвіда Гілмара? На магіле Джымі Хендрыкса, лепшага сола-гітарыста ўсіх часоў і народаў, які падчас сваіх каронных рыфаў атрымліваў аргазм, выгравіраваны абрысы гэтай гітары.

— Дарэчы, на онлайн-аўкцыёне зараз выстаўлены чорна-белы Stratocaster, які, нашыраўшыйся ў дым, Курт Кабэйн, разбіў падчас выканання свайго хіта «Smells like teen spirit». Старт — 50 штук баксаў. Гітара паддаецца аднаўленню. Я давёў бы яе да толку. Можа, скінемся па рублю і набудзем? — выказаўся Алесь.

— Я буду збіраць пустыя бутэлькі на беразе Мінскага мора для першага ўзносу, — падаў ідэю Ігар.

— Сябры, мы трындзім, а час ідзе. Прапаную з наступнай рэпы…

— Якой такой рэпы? — запытаўся Алесь.

— Рэпетыцыі.

— Так і кажы! А то развёў тут агарод, мічурынец саматужны.

— Пагавары мне яшчэ, сухастойшчык! Камандаваць парадам буду я! Дык вось, з наступнай рэпетыцыі пачнём збірацца на паўгадзіны раней, каб распецца. Падстроім інструменты. Ігар, дай мі другой актавы. Цяпер — сі. Соль. Рэ. Ля. Мі. Добра! Паіграем секвенцыі. Ігар — мі мажор! Пачынаем з ніжняй адкрытай струны. Пяць гукаў па паўтонах уверх і ўніз. Дзіма — тэмп lento.

— Не зразумеў.

— Павольна. Сёння дам табе метраном. Усе тэмпы да наступнага разу павінны быць у тваёй галаве!

— Сурова, хросны! Але буду старацца.

— Гатовы? Дзіма, тэмп! One, two, three, four! Больш рытмічна! Ігар, A-dur. Тое ж самае з другой струны. Паехалі!

Калі ўсе струны былі пройдзены, практыкаванне паўтарылі ў сярэднім тэмпе, а потым у хуткім.

— Сябра, — узмаліўся Алесь, — што ты нас ганяеш, як сяржант навабранцаў. У басухі ж лады ў два разы шырэй, чым на тваім Fender. Я ўжо ўзапрэў, а памперсы дома забыў.

— Нічога. Паслухаў бы ты, як Мулявін ганяў сваіх «Песняроў»! Затое і вынік быў. Ты ў мяне праз пару рэпетыцый будзеш шаршатку пальцам у дошку заганяць!

— З цябе станецца…

— Успомнім інструменталкі. Рок-н-рольчык у мі мажоры. Тэмп andante. Go!

З горам папалам мы ўспомнілі рок-н-рол для пачаткоўцаў.

— Для падобнага выканання я прыдумаў новае слова: раздырбант! «Щитильней», як казаў Жванецкі, трэба, хлопцы. Дзіма, тваім ударам не хапае моцы, рэзкасці і дакладнасці. На байцовым барабане ёсць маленькая па плошчы кружэлка, якая дае аптымальную якасць гуку. Па ёй і трэба малаціць. Ты ведаеш, як рэпеціраваў Дзямешка?

— А хто такі Дзямешка?

— Эх, моладзь! Ды Дзямешка для Беларусі тое ж, што Рынга Стар для Брытаніі. Пясняр ён. Служыў, дарэчы, у Заслонаве. Дык вось, ён прымацоўваў пяцікапеечную манету да сцяны або калодкі і малаціў па ёй палачкамі да тае пары, пакуль не расплюшчваў пятак у тонкі ліст. На апошняй стадыі ён рабіў гэта з заплюшчанымі вачыма.

— Я на апошняй стадыі не мог патрапіць шклянкай у рот нават з адкрытымі вачыма, — умяшаўся Алесь. — Праўда, не рэпетыцыі, а запою.

— Забудзем пра запоі. Пару пятакоў я табе знайду, Дзіма, дома папрактыкуешся. Добра. Цяпер «Паліцэйскі ўчастак», потым «Малдаўскае віно».

Мы паігралі інструменталкі, потым песні, успомнілі тэксты і танальнасці. Тры гадзіны праляцелі непрыкметна. Пасля нас чакаў сваёй чаргі яшчэ адзін гурт. Калі рэпетыцыі робяцца для сябе, на іх нікога не трэба цягнуць пад прымусам. Гэта патрабаванне душы!

— Сябры, заўтра запрашаю вас на канцэрт у філармонію. Спадзяюся, не забыліся, дзе яна знаходзіцца?

— Знойдзем!

— Хросны, а можна мне ўзяць з сабой дзяўчыну?

— Вядома, можна. Да сустрэчы!

Наступным вечарам я стаяў на прыступках ля ўвахода ў філармонію. Першымі паўночнымі матылямі ў паветры закружыліся сняжынкі. Яны за пяць хвілін модным берэтам упрыгожылі лысіну Якуба Коласа, пасерабрылі бараду дзеда Талаша і пафарбавалі ў белы колер жалейку Сымона-музыкі. З-за мірыядаў белакрылых эльфаў снежнай каралевай узнікла Тома, абвіла маю шыю рукамі і ў захапленні закрычала:

— Зміцер, гэта проста навагодні баль! Шыкоўна!

— Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі за маім акном…
Расчасалі вішні шоўкавыя косы
І ўранілі долу снегавы вянок.

— Зміцер, ты чараўнік! Як ты здагадаўся, што гэтыя радкі круціліся ў маёй галаве?

— Я не чараўнік, я толькі вучуся, але ведаю, што каханыя нават думаюць аднолькава.

— Дай я цябе пацалую, любы мой аднадумца!

Тым часам падышлі Алесь з Ігарам, а потым і Дзіма з прывабнай дзяўчынай. Мы пазнаёміліся. Яе звалі Вольга.

— Пойдзем у філармонію, — прапанаваў я, — пакуль не ператварыліся ў снегавікоў. Сёння будзем слухаць «Паравіны года» Вівальдзі.

— Няўжо? Даўно марыў, — адазваўся Ігар. — «Паравіны года» Вівальдзі і Чайкоўскага самыя лепшыя.

— А мне і Вайцюшкевіч падабаецца, — заўважыў Дзіма.

— Гэта ўжо іншы жанр, але, бадай, яго лепшы дыск. Тут я з табою згодны.

Мы зайшлі ў будынак, распрануліся і падняліся ва ўтульную малую залу. Яна быццам бы спецыяльна створана для гучання камернага аркестра, дзе валадарыць некрыклівыя струнныя. Калі зрабіць параўнанне з жывапісам, то сімфанічны аркестр — гэта «З'яўленне Хрыста народу» Іванава, а камерны — «Гракі прыляцелі» Саўрасава. І яшчэ: калі першы аркестр — першамайская дэманстрацыя, то другі — падарожжа з каханай па восеньскім парку.

Загучалі першыя ўзнёслыя ноты, настройваючы душу на танальнасць яднання з прыгажосцю. Вясна. Сакавік. У сярэднявечнай Італіі, як калісьці і ў нас, новы год пачынаўся менавіта з вясны. І гэта правільна, бо абуджэнне прыроды павінна быць пачаткам усяго новага, у тым ліку і года. Граў моладзевы калектыў. І калі ім дзесьці не хапала майстэрства, то пачуцця было праз край. А гэта ў музыцы галоўнае. Звязаныя срэбным ланцугом агульнага рэфрэну луналі месяцы. Вось і мой любімы жнівень. Трывожныя водгаласы скрыпак і кананнае рэха альтоў абвясцілі набліжэнне навальніцы. Барадаты Пярун пракаціўся па небе на сваёй залатой калясніцы і шпурнуў на зямлю зграю карных маланак. «Хавайцеся, людзі! Бяда!»

Крайком вока я зірнуў на Ігара. Па яго шчаках каціліся слёзы. І ён не саромеўся іх. Яны былі ачышчэннем. Толькі музыка падобнага ўзроўню здатна гаіць нябачную субстанцыю, пасечаную здрадамі, крыўдамі і болем, якая завецца душой.

А музыка гучала. Музыка гучала.
Музыка гучала.
Музыка гучала.
Музыка гучала.
Музыка гучала.
Музыка
гуча-
ла.

— Можа, пойдзем у кафэшку, пап'ём кавы? — прапанаваў я пасля канцэрта.

— Ды не, Зміцер, — адмовіўся Алесь. — Музыка Вівальдзі патрабуе яднання з прыродай. Таму мы з Ігаркам даедзем на электрычцы да Мінскага мора, пройдземся пешшу праз зімовы лес, запалім дровы ў каміне, будзем піць зялёную гарбату з язмінам, глядзець на полымя і марыць...

— І мы спяшаемся на электрычку, — прамовіў Дзіма.

— Ну, тады да заўтрашняй рэпетыцыі!

— Бывайце.

Мы з Томай пагулялі па парку Горкага, прыехалі да мяне, і калі б Снежная Каралева мела тэмперамент маёй каханай, то ў Арктыцы даўно б квітнелі яблыні…

На адну з наступных рэпетыцый прыехаў Лёва. Ён спяваў у нас верхні голас, таму на гэты раз больш працавалі над вакалам.

— Мужыкі, — узяў слова Дзіма, — вы падчас выканання стаіце, нібы муміі, а трэба каўбасіцца.

— Гэта як?

— Весці сябе актыўна і энергічна. Танцаваць, торгацца.

— Хлопча, — выказаўся Алесь, — мы пачыналі каўбасіцца пасля другой бутэлькі «чарніла», а цяпер ужо не той узрост…

— Правільна, — пагадзіўся я, — мы ж не фанершчыкі якія-небудзь, і калі падчас спеваў будзем танчыць, то замест прыгожых акордаў атрымаецца поўны трындзец. Таму дамовімся: ты будзеш каўбасіцца за ўсіх.

— Ды пастараюся ўжо! Дарэчы, якая ў нас будзе канцэртная вопратка? Можа, выступім з аголенымі торсамі?

— Братка ты мой, калі студэнткі ўбачаць Лёўкіна пуза ў спалучэнні з лысінай, то ім ужо будзе не да музыкі! Яны парвуць яго на запчасткі, — выдаў Алесь. — Ды і мы ўжо далёка не Шварцэнегеры…

— Табе мой мамон не даспадобы? — пакрыўдзіўся Лёўка. — На яго жанчыны ліпнуць нібы мухі на мёд. Не ўсім жа падабаюцца жалезныя камякі мускулаў, многім хочацца прыцiснуцца да чаго-небудзь мяккага. А выступаць я прапаную ў чорных касцюмах пры гальштуках, як раннія «Бітлы». Усё ж такі афіцыйнае мерапрыемства.

— Не, не трэба аніякага афіцыёзу, — умяшаўся я, — прапаную блакітныя джынсы і светлыя майкі з кароткім рукавом, на якіх мой знаёмы зробіць лагатып нашага гурта. Лады?

— Лады!

## КАНЦЭРТ

Мы рыхтаваліся да канцэрта ў невялікім памяшканні за сцэнай. Раптам у дзверы пагрукалі, і ў пакой увайшла Наста. Яна была падобна да мадэлі з французскага часопіса, якая рэкламуе адзенне для лэдзі сярэдняга ўзросту.

— Прывітанне, хлопцы! Як настрой?

— Прывітанне. Настрой баявы!

— Цудоўна! Зміцер, можна вас на хвіліну?

Мы выйшлі ў калідор. Наста дастала з сумачкі пакунак і перадала мне: «Вось абяцаны ганарар. Зміцер, я спадзяюся, што пасля канцэрта наша знаёмства не перарвецца. Мне так многа хочацца вам сказаць…» Раптам Наста зрабіла адчайны крок наперад, абняла мяне, моцна пацалавала і імкліва выбегла ў залу. Маё сэрца ўзбуджана закалацілася. Вось гэта паварот сюжэта! Спрацаваў мабільнік і тым самым вярнуў мяне ў рэальнасць. SMS-ка ад Томы: «Каханы, я атрымала вынікі аналізу. У нас будзе дзіця!» Хваля пяшчоты прабегла па маім целе. Вось выбар і зроблены. Кожны чалавек марыць прадоўжыць сваё нядоўгае існаванне на нашай гаротнай і цудоўнай планеце Зямля. Робіцца гэта з дапамогай шэдэўраў прозы, паэзіі, жывапісу, музыкі і гэтак далей. Але дзіця — самы просты і надзейны варыянт неўміручасці. Пэўна, і паміраць не так сумна, калі ведаеш, што твой адбітак працягвае існаванне.

Я вярнуўся да хлопцаў.

— Сябры, пасля канцэрта я аддам вам ганарар, але за гэты час прашу прыняць рашэнне. Вы ведаеце, што Дзіму хутка патрэбна вяртаць доўг за Валеру. Я аддаю яму сваю частку ганарару.

— Я таксама, — падтрымаў Ігар.

— На егіпецкую жонку гэтых грошай усё роўна не хопіць, таму я, безумоўна, далучаюся, — выказаўся Алесь. — Лёва, тваё слова.

Было бачна, што ў сэрцы Лёвы сквапнасць Гарпагона змагаецца з рэшткамі высакародных пачуццяў. І яны перамаглі. «Я з вамі», — сціпла прамовіў ён.

Я зірнуў на Дзіму. На вачах хлопца блішчэлі слёзы. Ён падбег да кожнага з нас, абняў і дрыжачым ад хвалявання голасам вымавіў:

— Я не ўмею прыгожа гаварыць, але ведайце, што ў кожнага з вас цяпер ёсць сын, гатовы аддаць за вас жыццё!

— А што, хлопцы, — выказаўся Алесь, — можа, мы гэтых рэкеціраў паставім на вушы? У лепельскім шалмане мы нядрэнна махаліся, а жыццё без прыгод — проста балота.

— Падумаем, сябрук. А цяпер на сцэну!

Вядучы абвясціў:

— А зараз вы ўбачыце і пачуеце легендарны ўніверсітэцкі гурт «Мішка касалапы», які прыехаў павіншаваць сваю alma mater з юбілеем. Спонсарам хлопцаў з'яўляецца наша былая выпускніца, а сёння паспяховая бізнесвумен — Настасся Пятроўна. Вітаем!

Пачуліся воплескі, заслона распалавінілася і плаўна паехала ў розныя бакі. Я зірнуў на хлопцаў. Алесь з пасівелымі і перахопленымі чырвона-белай стужкай пасмамі доўгіх валасоў трымаў свой самаробны Rickenbacker, які збярог нават падчас шалёных запояў, як Рэмба кулямёт перад атакай в'етконгаўцаў. Ігар са збялелым ад хвалявання тварам нервова перабіраў клавішы іонікі. Лёва, чыя лысіна александрыйскім маяком свяцілася пад промнямі сафітаў, збянтэжана ўсміхаўся і насоўкай праціраў грыф рытмухі. Дзіма, седзячы за нашай шматпакутнай Амаці з малюнкам мядзведзя з гітарай на бас-барабане, круціў між пальцаў барабанную палачку. Усе былі на трэцяй — апошняй — стадыі перадканцэртнага хвалявання. Цудоўна!

Я падміргнуў Дзіму: «Давай, сынку!» Молатам Тора забухала «бочка», а між пальцаў узнятых рук перкусініста прапелерамі закруціліся барабанныя палачкі. Пад зачараваныя позіркі гледачоў яны галубамі ўзляцелі ўверх і праз некалькі імгненняў, якія мне здаліся вечнасцю, паслухмяна вярнуліся ў рукі гаспадара. Збіўка. Прабіўны звон хай-хэта. Срэбнае рэха талерак. Піянерскі водгук малога барабана. Тра-та-тад-тад! Тра-та-тад-тад! Панеслася душа ў рай! Малайчына, Дзімка! Валера б ганарыўся такім сынам. Вось і першыя апладысменты. Я перавёў позірк направа: «Пара, Алесь, твая чарга!» Сябра зрабіў павольнае глісанда знізу ўверх на чацвёртай струне, якое ён называў, а потым пазногцем, узбуджаючы нервы слухачоў да стадыі шаленства, паўтарыў той жа прыём у адваротным кірунку. Гэта ў Алеся называлася «цаглінай па шкле». І вось ужо наша рытмічная секцыя адладжана пульсуе. Лёва мі мажорам далучыўся да агульнага рытму, які міжволі гіпнатызаваў слухачоў, і яны пакрысе пачалі разгойдвацца ў зададзеным тэмпе. Іоніка Ігара сваім непаўторным вібруючым гучаннем вярнула нас на дваццаць гадоў назад. Што ж, пара і мне. Педаль у падлогу — і панеслася! Пройдземся фузам па барабанных перапонках! Цяпер, калі слухачы звязаныя з намі нябачнымі ланцугамі рытму, пара і голас падаць. Я кіўнуў адказнаму за спецэфекты, і чатыры слупы вогненных светлякоў узляцелі пад столь. І з-за гэтай вогненнай стыхіі ў высокім рэгістры ва ўнісон загучалі нашы надрыўныя галасы:

— Мішка касалапы,
Па лесе ён ідзе,
Шышкі там збірае,
Песеньку пяе.

На дадаісцкім прыпеве, геніяльная бессэнсоўнасць якога была вяртаннем у перыяд лепятання немаўляці або эпоху навучання пячорнага чалавека першым гукам, мы раздзяліліся на тры галасы і дадалі ў гучанне джококераўскай хрыпаты:

— А-хулі-пулі,
А-хулі-пулі.
Хулі-пулі, хулі-пулі,
Хулі-пулі!

А вось і наш знакаміты роў пяцярых узбуджаных да стадыі афігення ласёў у перыяд гону:

— Р-р-р-а-а-а-а-ў!!!

Выкладчыкі і старэнькія прафесары пад уздзеяннем выбуху гукавой віягры падскочылі ў сваіх крэслах, а былы старшыня камітэта камсамола па старой звычцы памахаў нам пальцам: «Не фулюганьце!» Алесь паказаў яму выцягнуты сярэдні палец — жэст, значэнне якога сёння ведаюць нават першакласнікі.

А мы працягвалі. Адгучаў другі куплет з прыпевам, уключаем прымочку, і мой верны Fender Stratocaster рыфавым могулам па купінах і пагорках панёс сэрцы слухачоў з вяршыні Джамалунгмы ў бяздонную прорву. Леднікі, скалы, цясніны, паветраныя ямы, дзе перахоплівае дыханне і сэрца падскоквае да самага горла, рызыка імгненнай смерці і кайф палёту без крылаў, п’яным качагарам кідалі ў кроў шуфлі адрэналіну. Дасягнуўшы райскай даліны, я наступіў на хвост макакі, якая задрамала, і яе раз’юшаны віскат страсянуў арэх з какосавай пальмы прама ў рукі ёга падчас медытацыі, які зірнуў у бок Гімалаяў і ўзнёс хвалу за падарунак Крышне:

Харэ, Крышна, Харэ!
Харэ, Харэ,
Харэ, Харэ!
А каму яшчэ па хары?!

На імгненне затрымаемся на каменным плато, дзе на плоскім валуне поўзаюць чырвоненькія казуркі.

— Прывітанне, дон Хуан! Прывітанне, дон Хенаро!

Прамаўчалі знакамітыя магі — яны прайшлі праз шчыліну паміж сусветамі і існавалі ўжо ў іншым вымярэнні.

Цяпер на трыёлях, якія вібрыруюць, панясёмся па бурунах і вадаспадах горнай рэчкі да велічнага акіяна. Уніз! Уверх! Трах! Цібідох! Фы-р-р-р! Бу-у-у-ль! Пырскі! Пена! І нарэшце праз хаос першастыхій велічным утаймавальнікам загучаў сітар Індыйскага акіяна. Coda!

Шквал авацый вярнуў мяне ў рэалію. Алесь непрыкметна паказаў мне вялікі палец: «Саляк быў класны!» Канешне, не Эрык Клэптан, але яшчэ нешта магу. Наста ўскочыла з крэсла і ў захапленні пляскала ў далоні. Мы з хлопцамі перакінуліся задаволенымі позіркамі. Мы змаглі! Дзеля падобных хвілін і варта жыць!

Я падышоў да мікрафона: «Дзякуй! Мы віншуем усіх прысутных з юбілеем нашай alma mater. Жадаем моладзі, каб тыя веды, якія яны атрымаюць, суадносіліся з вартым заробкам. І помніце: усё мінае, а музыка застаецца, бо яна — першы крок да свабоды. Шчасця вам!»

І раптам з дынамікаў загучаў хрыплаваты голас Алеся: «А нашаму быламу старшыні камітэта камсамола, цяпер прафесару і суаўтару, падкрэсліваю — суаўтару, дзясяткаў навуковых прац Аляксандру Васільевічу Цмоляку наша музычнае…» І мы ў тэрцыю ўрэзалі: до-рэ-мі-до-рэ-до.

Што тут адбылося! Твар Цмоліка пабіла барвовымі плямамі — ён ведаў музычную ненарматыўную лексіку. Ведалі яе і студэнты. Пачуўся аглушальны свіст, тупат ног і крыкі: «Ганьба! Ганьба! Ганьба!» Бачна, гэты дзеяч ідэалагічнага фронту сваімі падлянкамі быў вядомы не аднаму пакаленню студэнтаў. Дзіма нечаканым дыры-

жорам, ударамі кардана, прывёў у адладжаны рытм стыхійную гукавую какафонію. Алесь дадаў рыкання басухі, а Ігар смеху іонікі. Мы з Лёўкам дапамаглі гітарамі. Музычна-гукавы мітынг быў прысвечаны знішчэнню подласці і здрады. Раз’юшаны Цмоляк і некалькі яго падхалімаў пад разбойны посвіст гледачоў выскачылі з залы.

— Сябры, а цяпер, калі паветра ў зале стала чысцей, мы граем для вас!

Ласкава і пяшчотна з блюзавымі падцягамі і адхіленнямі загучала мая гітара. Самотнымі ўсхліпамі, у якія была ўкладзена ўся роспач скалечанага жыцця, заплакала іоніка Ігара. Мяккае басовае люлянне Алеся дадало надзеі ў маркоту існавання. Блюз — гэта, калі добраму чалавеку дрэнна. А дрэнныя — блюз не разумеюць. Я заплюшчыў вочы і заспяваў:

— Вось і верас ужо зацвіў, мая каханая.
Фіялетавым агнём палае дол.
Вараць пікты па начах пітво духмянае —
Цёмны мёд, і накрываюць стол.

Кароткі пройгрыш, і Лёўка сваім мяккім тэнарам заспяваў у тэрцыю са мной:

— Мы запрошаны з табой, мая каханая.
Там чакае Конайр, наш кароль.
У рабінавую ноч, у цемру п’яную
Сыдзем. Шлях пакажа геральд-троль.

Яшчэ пройгрыш, і Алесь заспяваў ва ўнісон з намі, толькі на актаву ніжэй:

— Мы не вернемся назад, мая каханая.
Да былога спалены масты.
На шляху да берага жаданага
Будуць воля, верас, я і ты.

Перад маімі вачыма раскінулася бясконцая верасовая пустка, па якой з надзейным мячом у заплечных ножнах крочыў я ў вобліку Конана-варвара. Побач бяжыць прыручаная балотная рысь, а ў бяздонным небе лунае верны сокал. На мяне ласкава пазірае дзяўчына, апранутая ў ваўчыныя скуры, з лукам за спінай. Мы крочым да бурлівага мора, дзе нас чакае карабель з суровымі вікінгамі, каб рушыць да невядомых краін насустрач прыгодам.

Я не ведаю, што нас чакае заўтра. Алесь можа сарвацца ў шалёны запой, Ігар трапіць у Навінкі або тугую пятлю, Лёўка зваліць у Ізраіль, а Дзіма — загінуць у сутычцы з бандытамі. Але гэта будзе заўтра. А сёння мы адзінае цэлае, якое завецца гуртам «Мішка касалапы». І мы граем рок.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# ГІСТОРЫЯ КАХАННЯ І МАЙСТАР-КЛАС

***Федарэнка А. Ланцуг : аповесці / Андрэй Федарэнка. — Мінск : Маст. літ., 2012. — 240 с. — (Беларуская проза XXI стагоддзя).***

## ПІСЬМЕННІЦКАЯ ЎДАЧА

Чарговая кніга Андрэя Федарэнкі змяшчае шэсць аповесцей, вартых уважлівага разгляду.

«З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці» — расповед пра грыбы і літаратуру, пра тое, як проста натрапіць на ўласны твор, напісаны чужым, незнаёмым аўтарам. Паводле жанру тэкст нагадвае хутчэй белетрызаванае эсэ, чым аповесць, ён значна бліжэй да «Мяжы», чым да «Нічыіх»: гэта індывідуальнае выказванне са свабоднай кампазіцыяй і ў дадатак — са значнай колькасцю спасылак на самую розную літаратуру.

«Ланцуг» падаецца спробай пісьменніка па-свойму напісаць «аповесць дэтэктыўна-забаўляльную, з усімі атрыбутамі новага (якое раніцай новае, а ўвечары ўжо старое): рэкетам, прастытуткамі, суперменамі, далярамі». Атрымаўся вострасюжэтны, дынамічны, чытэльны нават для моладзі твор, у якім самымі дарагімі для аўтара сталіся, бадай, добра выпісаныя вобразы паэта Васіля ды хірурга Вінярскага.

Камусьці да густу, магчыма, прыйдзецца больш прадказальны «Дзікі луг»: паслядоўны, рэалістычны расповед з яркімі пейзажамі ды побытавай канкрэтыкай, дзе ў цэнтры — трагедыя маленькай вясковай сям'і, ці, дакладней, парадаксальнасць вясковага стаўлення да чужой бяды, шчасця, з заўсёдным непрыманнем усяго празмернага і адмысловага. Побач са спагадай — жорсткасць і непаразуменне, побач з радасцю за суседа — зламыснасць і зайздрасць. «Не трэба хваліцца шчасцем, яно не любіць публічнасці, яго трэба хаваць, нават саромецца яго; шчаслівыя павінны адгарадзіцца ад астатніх дубовымі дзвярамі, жалезнымі замкамі — хаця б дзеля таго, каб не сурочылі».

Аднак аб'ектам увагі гэтай рэцэнзіі будзе адзіны твор з «Ланцуга» — аповесць «Пра аднаго пісьменніка». Твор даволі складаны па мастацкай задуме, у нейкай ступені ён практыка-арыентаваны і разам з тым спараджае мноства цікавых і супярэчлівых інтэрпрэтацый.

Першая частка аповесці («Кароткае лета») распавядае пра немаладога пісьменніка, які пасля інфаркту прыязджае ў родную вёску — «як стары сабака, што чуе смерць і сыходзіць з воч людскіх». Але паміраць яму не час — Мікола Пятровіч крапчэе і, вядома, раздумвае над сучаснасцю, над справай уласнага жыцця — літаратурай. Ён свядома адносіць свае творы «з ідэалагічнага і граматычнага боку выверанымі» да «літаратуры абслугі», бачыць іх мастацкія недахопы — і адначасова разумее, што заўсёды пісаў з добрымі намерамі і любіў сваю працу.

Сітуацыя сумная, амаль безнадзейная, адзіная неспадзеўка для чытача (дый для героя таксама) — аблічча сучаснай вёскі: «Новыя платы, у агародах — парнікі, замест кінутых развалюх — цагляныя дамкі, з балконамі, верандамі, мансардамі, выштукаваныя, як цацкі. Вёска, пра якую ім столькі было панапісана з жалем расстання, як пра не сёння-заўтра нябожчыцу, раптам засялілася, хоць і чужымі людзьмі, ажыла, памаладзела, папрыгажэла…». У фінале герой захапляецца працай над «новай аповесцю, зусім не падобнай на ўсё сваё ранейшае» (такі вось хэпі-энд) — і другая частка твора прэзентуе «Повесьць», тэкст напраўду вельмі ўдалы як для Міколы Пятровіча, так і для Андрэя Федарэнкі.

«Кароткае лета» можна было б разглядаць як уступ, завязку да «Повесьці» — але абедзве часткі падаюцца даволі аўтаномнымі. У «Кароткім леце» практычна не ідзе размовы пра «высп'яванне» новага твора, гераіня Ліда здаецца несупастаўляльнай з уяўнай Людай, дый «Повесьць» нібыта напісана не Міколам Пятровічам. Тут

няма і следу калгасаў, парткамаў ды веры ў сацыялізм, няма разгубленасці і паныласці, якія так уласцівы хваравітаму, зняможанаму герою першай часткі. Аўтарам «Повесьці» (ці, прынамсі, рэдактарскіх каментарыяў) бачыцца не грузны, прыгорблены, бездапаможны, крыху слязлівы пенсіянер, а ўпэўнены і бадзёры малады мужчына (гады напісання твора 1994, 2006).

## ЯК НЕ ТРЭБА ПІСАЦЬ АПОВЕСЦЬ

«Повесьць» вартая абавязковай увагі кожнага, хто цікавіцца патрабаваннямі да прафесійнага тэксту і сам імкнецца якасна пісаць. Андрэй Федарэнка, заўсёды шчодры на тэарэтычныя разважанні пра літаратуру, дзеліцца тут канкрэтным, практычным досведам — досведам вопытнага рэдактара. І атрымліваецца гэта значна больш займальна, чым падручнік па стылістыцы!

Паводле кампазіцыі «Повесьць» — гэта два паралельныя тэксты, дзе асноўным напачатку з’яўляецца «дылетанцкая» аповесць дыспетчара пуці Людмілы Аляксееўны (пра першае каханне). Твор дасланы ў часопіс і, натуральна, трапляе ў рукі рэдактара. Рэдактар чытае і праз абзац фіксуе свае ўражанні і заўвагі, у выніку атрымліваецца штосьці сярэдняе паміж водгукам, рэцэнзіяй, успамінамі і лістом да новаспечанай пісьменніцы. Неўзабаве рэдактар паведамляе: «Як бачыш, твой “шчыры, амаль біяграфічны” твор прыйшоў па адрасе. Валянцін — гэта я. Гэта я, твой першы хлопец, першае тваё каханне па іроніі лёсу трапіў табе ў рэдактары. Вось як яно ў жыцці бывае!»

Выпадак амаль неверагодны, але пакуль для нас істотна тое, што рэдактар вельмі якасна выконвае сваю працу, хаця бярэцца за яе без асаблівай ахвоты. Напачатку ён нястомна падкрэслівае ў «Повесьці» русізмы, дыялектызмы, паўторы, няправільныя граматычныя формы, непатрэбныя займеннікі — «сэнсавыя, моўныя і стылёвыя хібы». Рэдактар выказвае сваё стаўленне да асобных моўных з’яў, часам з’едліва каментуе памылкі, дае цікавыя пісьменніцкія парады. Гэты прыклад рэцэпцыі тэксту прафесійным рэдактарам можа быць вельмі карысным для пісьменніка, журналіста, блогера, студэнта: недахопы «Повесьці» надзвычай тыповыя, а кожны, хто разлічвае на пэўнага чытача, павінен уяўляць свае магчымыя прыкрыя памылкі.

Праўда, сам рэдактар піша не зусім бездакорна — але нявызначанасць жанру дазваляе размоўную інтанацыю і, адпаведна, русізмы, прастамоўныя выразы, нязграбныя сінтаксічныя канструкцыі. Не абыходзіцца аўтар каментарыяў і без «забягання наперад» — адвечнага літаратурнага прыёму, якім дакарае Людмілу Аляксееўну. Магчыма, такім чынам выяўляецца адноснасць крытычных заўваг: тое, што ў адным творы з’яўляецца недахопам, у іншым застаецца незаўважаным ці нават дапамагае пісьменніку.

Такім чынам, рэдактар і Людміла Аляксееўна выразна супрацьпастаўляюцца як аўтар-прафесіянал і дылетант, пачатковец. Нявопытнасць дэбютанткі, яе аматарскі ўзровень падкрэсліваецца настойлівым блытаннем класікаў. У гэтым пункце Мікола Пятровіч з Андрэем Федарэнкам, здаецца, перагінаюць палку, бо не ведаць аўтара «Вайны і міра» ці абвяшчаць стваральнікам «Рамэа і Джульеты» Бернарда Шоў можа толькі неадукаваны ці абсалютна легкадумны, няўважлівы чалавек. Дакладнасць і яшчэ раз дакладнасць!

Розніца ў пісьменніцкім стажы выяўляецца і на ўзроўні стаўлення да творчасці. Людміла Аляксееўна бярэцца за першылепшы, даўно вядомы сюжэт, стварае чарговы варыянт «Беднай Лізы» (першая сустрэча — закахаліся — на апошнім спатканні «целы спляліся» — у фінале «вяселле з нейкай там гарадской»). Аўтарка імкнецца пісаць узнёсла і рамантычна, у рэчышчы ці то казак пра прынцэс, ці то «жаночых раманаў», але тое, што падаецца ёй выкшталцоным, для рэдактара — агульнае месца, банальнасць. Ён не дачытвае высакамоўныя выразы, без захаплення ўспрымае карцінныя, тэатральныя эпізоды. Насуперак рамантычнай, шаблоннай «Повесьці» — твора мастацкага, «*амаль* біяграфічнага» — рэдактар вырашае прыгадаць, што было «на самай справе», і, адпаведна, піша дакладна і рэалістычна. Героі ягоных нататак больш індывідуалізаваныя, іх паводзіны больш жывыя і непасрэдныя. Дзеянне твора адбываецца на вёсцы — і там, дзе Людміла Аляксееўна імкнецца прыгладзіць, прыхарошыць шурпатае, не заўсёды прывабнае сялянскае жыццё, рэдактар знаходзіць характэрныя дэталі, стварае адмы-

словы каларыт, чарговым разам спыняецца перад праблемай вёскі.

Вёска ў «Повесьці», як і наогул у творчасці Федарэнкі, — гэта зона кантрастаў між прыродай і чалавекам, між чалавечным у чалавеку і пляшкай «Агдама». Аблітыя сонцам родныя краявіды — і брэжнеўскі застой, «цуд — пах вечаровай летняй свежай зямлі» — і «оргіі» ў вагонах бурыльшчыкаў. Невыпадкова «амаль святыя» сябры-бабылі ды Янка-Паэт заўчасна сыходзяць з жыцця, невыпадкова пяцідзесяцігадоваму пісьменніку «ніхто ўжо з той кампаніі не адзавецца». Пра вёску рэдактар распавядае прыкладна столькі ж, колькі пра каханую Люду, і гэтыя ўспаміны для яго не менш важныя.

І вось — вясёлая моладзь, грукат матацыкла, лясная палянка, камары, узаемная сімпатыя, першыя смелыя дотыкі. Здаецца, у кожным юнацтве былі такія вечары, і рэдактар без асаблівага напружання вяртае туды чытача. Твор Людмілы Аляксееўны кранае значна менш, і ў тлумачэнні гэтага — квінтэсенцыя творчага крэда рэдактара. «Спускайцеся хоць зрэдку на зямлю, Людміла Аляксееўна. Вучыцеся шукаць і знаходзіць незвычайнае ў простым. Хаця разумею — гэта не зусім проста, гэта Вам не высмактаны з пальца саладжавы Валянцін…». Прафесійны рэалізм сапраўды лепшы за банальную, дылетанцкую рамантычнасць — вось толькі з'яўляецца яна зусім не выпадкова…

## ДВА ЎСПАМІНЫ ПРА АДНО КАХАННЕ

Такім чынам, рэдактар гартае допіс нейкай Людмілы Аляксееўны і, хутчэй за ўсё, з першых радкоў пазнае штосьці вельмі знаёмае. Амаль такую ж аповесць ён чытаў месяц таму, і на Каляды, і паўгода назад… Рэдактару гэтыя творы, вядома, даўно надакучылі: чаму б жанчынам, якія спрабуюць сябе ў літаратуры, не прыдумаць нешта больш арыгінальнае, нечаканае? Раптам не кожная Людміла Аляксееўна была калісьці да слёз наіўным і ўзнёслым дзяўчом, раптам гісторыя яе першага кахання насамрэч складалася абсалютна інакш? І вось рэдактар уяўляе аўтарку поўнай супрацьлегласцю яе гераіні Ганулькі: менавіта дзявочы ўчынак вызначае нешчаслівы фінал. Ён згадвае ўласную маладосць і пачынае пісаць адначасова за сябе і за пісьменніцу-дылетантку... Але на пэўны час паверым рэдактару, які нібыта згадвае рэальную Люду і сапраўдную сітуацыю іх стасункаў: паводле задумы Міколы Пятровіча, гэта дазволіць разгледзець «Повесьць» як два ўспаміны пра адно каханне.

Галоўным эпізодам абодвух тэкстаў робіцца першы вечар разам — з размовамі, жартамі, шпацырам і нават катаннем на матацыкле. Аўтары апісваюць яго аднолькава ўзрушана і натхнёна, нібы зноў адчуваюць светлую, радасную закаханасць. Падкрэслена празаічнага рэдактара нават цягне на паэтычнасць: «Так, мая "Ганулька", Людачка мая — не цяперашні лысы, пакамечаны жыццём дзядзька мучае цябе і паперу, а ён, той далёкі белагаловы хлапчук з нязвыклай лёгкасцю спісвае з абодвух бакоў старонкі, і яны, кружачыся, засцілаюць падлогу вакол стала…».

Але чым далей, тым больш розняцца ўспаміны: Людміла Аляксееўна збіваецца на стэрэатыпны сюжэт, а рэдактар распавядае пра мілую, але балбатлівую і разняволеную Люду, зусім не падобную да манернай, далікатнай паненкі. Дзяўчына какетнічае, страляе вочкамі, намякае на магчымасць больш блізкіх стасункаў. Але ў гэтым выпадку больш стрыманым і наогул прывабным паўстае хлопец (таксама alter ego аўтара). Апошняй сустрэчы-апафеозу, паводле рэдактара, не адбываецца, затое Люда выпраўляецца па рамантыку да вагончыка геолагаў — а праз трыццаць гадоў невядома чаму пачынае пісаць банальшчыну пра падманутую дзяўчыну і «донжуаністага прайдзісвета»…

Калі б Людміла Аляксееўна ад імя жаночага персанажа распавяла гісторыю, прапанаваную рэдактарам, гэта атрымалася б цікава, смела, эпатажна. Але ў пачынаючай аўтаркі не хапае самастойнасці, а традыцыйны вобраз падманутай паненкі падаецца ёй значна больш прымальным. Стэрэатыпнасць пісьма — праблема вельмі актуальная для пісьменніц-жанчын, і ў вялікай ступені яна тлумачыцца спецыфікай жаночай рэпрэзентацыі. Жанчына ў большай ступені, чым мужчына, імкнецца адпавядаць агульнапрынятым уяўленням, пазбягае адкрыта распавядаць пра свае памылкі, пра незадаволенасць асабістымі стасункамі. Людміла Аляксееўна выбірае тыповую версію расстання, каб выправіцца ва ўласных вачах, каб схавацца за ёю ад сябе

сапраўднай і ад свайго мінулага. З-за няздольнасці прыняць і зразумець сябе атрымліваецца чарговая «Повесьць».

Гэтаксама ўласцівым для жаночага светаўспрымання лічыцца схільнасць да эстэтызацыі жыцця — памкненне да дэкаратыўнай, інтэр’ернай прыгажосці, якое падкрэсліваецца ў творы Людмілы Аляксееўны ўтрыраваным ігнараваннем рэалій вясковага побыту. Аўтарка спрабуе ў марах, ва ўспамінах пражыць больш вытанчанае, прыгожае жыццё — і вось у мясцовай краме галантныя хлопцы «ў строгіх цёмных касцюмах пры гальштуках» п’юць віно з фужэраў. Дэталі ў тэксце пачынаючай пісьменніцы патрэбны як аздоба, упрыгажэнне, і не маюць самастойнага значэння, уласнай каштоўнасці. Невыпадкова ўспаміны абодвух аўтараў змешчаны паралельна — так больш відавочнай робіцца розніца між мужчынскім і жаночым тыпам нарацыі, між прафесійнай і аматарскай літаратурай. Да таго ж з’яўляецца магчымасць супастаўлення, якая не заўсёды ёсць пры лінейнай канстатацыі. У пэўны момант цікавымі робяцца не самі гісторыі кахання, а розніца ў інтэрпрэтацыі рэальных стасункаў, цікава не тое, што апавядальнікі сказалі пра свае адносіны, а тое, што і чаму засталося за тэкстам.

Так, у абодвух творах драматычная развязка атрымліваецца нечаканай, непрадказальнай, галоўныя героі ў аднолькавай ступені адчуваюць сябе падманутымі і абражанымі. Кропак судакранання тут няма — акрамя шкадавання. Натуральна для літаратуры, аўтар знаходзіцца побач з Я-героем, разам з ім бачыць, адчувае, інтэрпрэтуе свет. У выніку чытач глядзіць на падзеі вачыма цэнтральных персанажаў, а ў «Повесьці» Валянцін і Люда цалкам засяроджаны на ўласных праблемах і пачуццях, іншы для іх — terra incognita, незразумелая, нават варожая тэрыторыя. Героі як жаночага, так і мужчынскага аповеду не імкнуцца прааналізаваць свой няўдалы вопыт, каб зразумець іншага — яны робяць гэта, каб выказаць сваю крыўду і абвінаваціць *другога*. У выніку гісторыя няўдалага кахання, якая з'яўлялася сюжэтам абодвух тэкстаў, апынулася нераскрытай, невытлумачанай. Што перашкодзіла быць разам Міколу і Людзе, Ганне і Валянціну, чаму «здрада» іншага заспела галоўнага героя знянацку? У выпадку Люды прычынай абвяшчаецца празмерная разняволенасць гераіні: «на ёй аж шкура гарыць». Гэтая загана, нецікавая для дзяўчыны, робіцца адзінай падставай «грэхападзення» — хаця пэўную ролю магло адыграць і тое, што Мікола падаваўся Людзе надта простым, звычайным і ў выніку нецікавым. Зрэшты, як спалучалася разбэшчанасць з тымі рысамі характару, якія імпанавалі герою ў дзяўчыне? Ці не сталася расстанне вынікам звычайнага *не-паразумення*, яскрава прадэманстраванага ў тэкстах двух ужо сталых людзей?

## «ДАС ІСТ ФАНТАСЦІШ!»

У творчасці Андрэя Федарэнкі наўрад ці знойдзецца яшчэ адзін тэкст, суадносны «Повесьці», дзе жанчына з’яўлялася б галоўным героем і была надзелена ўласным голасам. У творах гэтага аўтара мужчына звычайна ўспрымае жанчыну як «невядомы сусвет, чужароднае цела, іншапланецянку» — і зусім не імкнецца разгадваць таямнічую незнаёмку. Большасць кіруецца прымітыўнай жыццёвай філасофіяй: «Гарэлка дадзена, каб яе піць, жанчыны — каб з імі спаць, электрычка – каб у ёй ехаць, так жа?». З гэтых падстаў у маскулінным мастацкім свеце Федарэнкі жанчыне адводзіцца вельмі сціплае месца.

Гераіня аповесці «Пра аднаго пісьменніка» з’яўляецца шчаслівым выключэннем: яна паўстае ў абліччах нявернай дзяўчыны і дыспетчаркі ў казённай сукенцы, пачынаючай аўтаркі і прататыпа свайго галоўнага персанажа. Мы бачым Людмілу Аляксееўну праз яе ўласны твор — спробу самарэалізацыі і самаінтэрпрэтацыі, назіраем за ёй вачыма былога хлопца, разам з рэдактарам уяўляем жыццё гераіні між першым каханнем і захапленнем літаратурай. І недзе на перасячэнні гэтых тэкстаў ажывае Люда, Людка, Людміла Аляксееўна, — напэўна, самы распрацаваны жаночы вобраз у прозе Андрэя Федарэнкі.

Невялікая, зграбная «Повесьць», напісаная лёгка і неяк нязмушана, дае магчымасць для цікавых супастаўленняў прафесійнай і аматарскай творчасці, мужчынскага і жаночага светаўспрымання. Плюс майстар-клас ад вядомага празаіка і адметны жаночы вобраз. Усё гэта робіць аповесць «Пра аднаго пісьменніка» адным з самых моцных звёнаў у «Ланцугу», і варта думаць, што твор не застанецца ў цені іншых, не менш важных мастацкіх здабыткаў Андрэя Федарэнкі.

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

# УНУТРАНЫ ГОЛАС АНАТОЛЯ ГРАЧАНІКАВА

***Я не адважыўся адмовіць «Маладосці» яшчэ раз сказаць слова пра чалавека, які мог бы ў 75 жыць. І гэтым свядома змушаю сябе многае ўспамінаць, па-новаму асэнсоўваць і нібыта перабінтоўваць сваю не зусім зарубцаваную рану.***



Лёс Анатоля Грачанікава меў шанец скласціся інакш яшчэ тады, калі яго бацька аблюбаваў месца жыхарства і працы ў Кіеве. Але ўсё ж па волі абставін Анатоль з’явіўся ў 1938-м у прыгомельска-сожскай Шарпілаўцы з яе цалкам натуральнымі для палешука краявідамі, сялянскім побытам, своеасаблівай беларускай мовай і рознымі бедамі, у ліку іншых — ваенна-пасляваеннымі. Пэўны адбітак на лёс зрабіла і тое, што ў сям’і Грачанікавых з дзяцей былі адны хлопцы.

Можна шмат пераказваць з успамінаў Грачанікава пра тое, як было нялёгка, калі ён з радаснага, але і цяжкага 1945-га пачаў навучанне, якое ў 1960-м афармілася дыпломам Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту, што меў, калі не памыляюся, усесаюзны кірунак. Многія тыя ўспаміны густа спрасаваны ў яго вершах і паэмах. А што да ўсесаюзнасці кірунку, то пры некаторых яе вабнотах Грачанікаў быў адпраўлены не куды-небудзь у глыб Расіі ці Сярэднюю Азію — яму пашанцавала: застаўся ў Гомелі, на рамонтна-механічным заводзе. Праўда, надоўга ён там не затрымаўся…

## РАМАНТЫКА

У інстытуце не толькі выкладаліся прамудрасці пра метал і розныя механізмы. Там жыватворыла мастацкае слова, шукаючы выйсце і ў паэзіі. Сярод многіх сяброў інстытуцкага літаб’яднання, дзе былі і выкладчыкі, вылучаўся студэнт-шарпілавец. Як вядома, у той час вельмі папулярнай у творчай беларускамоўнай моладзі была газета «Чырвоная змена»: яна дбайна прывячала кожны новы дар, і многія нашы пісьменнікі стартавалі ў літаратуру менавіта з яе. На яе ж старонках у 1957-м Грачанікаў заявіў пра сябе як пра паэта вершам «Мара». Прызнанне не магло не акрыліць — пайшлі новыя публікацыі ў мінскіх і гомельскіх газетах. А ў 1960-м студэнт-выпускнік бярэ планку літаратурнага выдання — часопіса «Маладосць». Нават загалоўкі вершаў падкрэсліваюць тагачасныя яго жыццёвыя і творчыя абсягі. «У жыццё», «Качагар», «Салдат», «На палях Іспаніі», «Я слова для вершаў сваіх не шукаю…», «Маладому камсамольцу», «Я кволы быў. Але не хваравіты». «Дарогай бацькоў», «Рамантыка» і іншыя.

## СПАКУСЫ СВЕЦКІХ ЛЬВІЦ І ЛІТКАР'ЕРА

Малады інжынер-паэт з аптымістычным светапоглядам, абаяльны і тактоўны чалавек, трапіў у поле зроку гомельскіх ідэолагаў. Яго запрашаюць на працу адразу ў гомельскі абкам камсамола, дзе ён хутка падымаецца да адказнай пасады намесніка загадчыка аддзела прапаганды, а далей яму давяраюць ролю лідара Гомельскага гаркама камсамола. Там можна было і затлуміцца ад патрэбнай работы з моладдзю і руцінна-ідэалагічнай дэмагогіі розных масовак адначасова. Але і з работай Грачанікаў спраўляўся, і захаваў у сабе незамутнёнага афіцыёзамі паэта. У 1964-м выдае першы зборнік паэзіі «Магістраль». Яго ўхваляюць сталы Грахоўскі і малады Бураўкін. Другая кніга паэта, «Круглая плошча», выйшла ў 1971-м. Як бачна, перапынак пасля дэбюту немалы. На гэта былі важныя прычыны. Як расказваў Анатоль Сямёнавіч, яго «на іншую жыццёвую пуцявіну» завабіў Іван Шамякін — клапатлівы апякун літаратараў-землякоў (апошняга, праўда, і папікалі тым, што ён пераважна гамяльчан прыладкоўвае ў сваіх мінскіх кватэрах і на «цёплых месцах», чым падмацоўвае, маўляў, сваё апірышча). Ва ўсялякім разе, Шамякін настойліва пераконваў Грачанікава адмовіцца ад камсамольска-партыйнай кар'еры і цалкам прысвяціць сябе літаратуры. А для гэтага нават і філалагічнай адукацыі хапае не ўсім. Значыць, найпершым выйсцем было ехаць у Маскву на Вышэйшыя літаратурныя курсы. Зразумела, трэба было зрабіць няпросты выбар. Ды яшчэ з улікам таго, што камсамольскі важак і паэт быў жанаты з львоўскай красуняй Нэляй, яны ўжо мелі сына. Да таго ж, сярод творчай інтэлігенцыі хадзіла паўмяшчанская пагалоска. Малады, маўляў, творца едзе ў Маскву, значыць, могуць быць дзве рэчы: спакусы свецкіх львіц у атачэнні багемы, а то і раскіданая сям'я. Але маладая Нэля праявіла давер і смеласць. Згадзілася адпусціць на год-два мужа-прыгажуна і паспяховага паэта. І рызыка яе мела сэнс! Сям'я захавалася, папоўнілася дачушкай, вырашылася і кватэрная турбота, і муж пачаў набываць усё большае прызнанне як паэт (на вышэйзгаданую другую яго кнігу аналітычна і хвалебна адгукнуўся тагачасны мэтр-крытык па паэзіі Рыгор Бярозкін). Заадно ён, пачаўшы з пасады загадчыка аддзела ў «ЛіМе», падымаецца па службовых прыступках ужо ў літаратурным асяроддзі.

## ЗА НАБЛІЖЭННЕ ДА РУЛЯ Ў ЧАСОПІСАХ І ВЫДАВЕЦТВЕ

У 1970-х крыху старэйшыя за Грачанікава пісьменнікі — з тагачаснага пакалення літаратараў, дзяцінства якіх прыпала на вайну, — пачалі ўсё настойлівей падаваць голас калі не супраць пісьменнікаў-франтавікоў і партызан, то аб тым, што і маладым не зусім даспадобы. Голас гэты — за большае прызнанне іхняй творчасці, за адзнаку яе не толькі камсамольскай прэміяй, але і дзяржаўнай, за набліжэнне да руля ў часопісах і выдавецтве. Карацей, запратэставалі насіць кароткія штонікі маладых пісьменнікаў. Гэты канфлікт у ЦК партыі і кіраўніцтве Саюза пісьменнікаў трэба было ўлічваць. Іван Шамякін, які да таго часу набыў творчую моц і ўплыў «наверсе», на чарговым пісьменніцкім з'ездзе (1971) «правёў» ад маладых у намеснікі старшыні праўлення СП Грачанікава. І гэта падтрымка сталася для апошняга «Грыбной парой» (назва ягонай кнігі, 1973) — публікацыямі новых падборак вершаў, частым выданнем новых кніг, увагай кампазітараў (некалькі песень на яго словы цудоўна выканала Марыя Пахоменка), актыўнай і плённай творчасцю для дзяцей, перакладамі, рэцэнзіямі, папулярным удзелам у розных літвечарынах. Іншымі словамі, рост, сталенне, «уваходжанне ў літаратурную абойму». Ды вось толькі…

## СП ДЫ «*OBLICO MORALE*»

Неўзабаве падпільнавалі, абрынуліся выпрабаванні. У 1976-м на пісьменніцкім з'ездзе (на ім прысутнічаў ужо і я) яго не перавыбралі ў намеснікі, а гэта на той час азначала калі не чалавеча-творчую трагедыю, то вялікую няўдачу. Адкінутаму могуць і не прапанаваць належнай працы і пасады. І тады «вольнахлебнасць» не кожнаму была зручная і ўдала пракормная. Нямала

ведаючы і ад самога Грачанікава, і ад іншых, абмяжуюся стрыманым тлумачэннем гэтай сітуацыі. Яму асабіста собіла шамякінская апека, радаваў творчы і грамадскі ўзлёт. Пры ўсім гэтым ён не заганарыўся, не стаў пазбягаць менш удалых калег, заставаўся даверлівым, кампанейскім чалавекам. Лічачы, што да яго ставяцца шчыра, радуюцца ягоным дасягненням і перспектывам па-сапраўднаму, ён браў удзел у вясёлых пасядзелках з людзьмі, мякка кажучы, нягоднымі. У выніку перад чарговым пісьменніцкім з’ездам паляцелі «наверх» даносы пра яго oblico morale. Спрацавала. Пазбавілі даверу. Не хацелі нават абіраць у члены праўлення. Але ўключылі ў спіс для тайнага галасавання — па настаянні Івана Мележа, голас якога тады не мог адпрэчыць ніхто, нават тыя, хто трымаў у руцэ даносы-ананімкі і мог памахаць імі: вось, маўляў, глядзіце, якія сігналы! Прымоўклы на час Шамякін прадоўжыў падтрымліваць свайго вылучэнца, клапатліва ведучы яго па прыступках рэдактарскай кар’еры: галоўным у «Вясёлцы» (1976—1978), «Бярозцы» (1978—1982), з 1982-га — у «Маладосці».

## ЁН ТУЛІЎСЯ З МЕЛЕЖАМ У «ДОМЕ КУБЭ»

З Грачанікавым я пазнаёміўся падчас яго працы ў «ЛіМе». Нашы сустрэчы прадоўжыліся ў ягонае намесніцтва ў Саюзе пісьменнікаў (ён туліўся з Мележам у «Доме Кубэ», на другім паверсе, у невялічкім пакойчыку, і быў сведкам таго, як Іван Паўлавіч паклікаў мяне і сказаў добрае слова пра мае апавяданні і першую аповесць «Усё яшчэ наперадзе», параіўшы яшчэ да кнігі ўступаць у Саюз). Калі Грачанікаў пачаў працаваць у «Бярозцы», а я — намеснікам галоўнага ў «Маладосці», мы зналіся ўжо амаль кожны працоўны дзень: рэдакцыі засядалі на першым і другім паверхах будынка ЦК ЛКСМБ, таму то сустракаліся твар у твар, то падымаліся-апускаліся на бяседы наконт пэўных грамадскіх і літаратурных падзей, новых узрушальных твораў у Маскве і Мінску, то разам адзначалі святы ці чыесьці юбілеі. Наша ўзаемная сімпатыя доўжылася, але аднойчы нечакана адбылася сутычка.

## ВАСІЛЮ ВАСІЛЬЕВІЧУ БЫЛО ЛЯГЧЭЙ

Сакратарыят ЦК ЛКСМБ неспадзявана папрасіў Васіля Зуёнка і мяне скласці адпаведна зборнікі паэзіі і прозы, прысвечаныя нашаму камсамолу. Васілю Васільевічу было лягчэй: камсамоліі прысвяцілі вершы многія паэты ўсіх пакаленняў, а вось з празаікаў — найбольш старэйшыя, чыё юнацтва прыпала на даваенны час, а з маладых сучаснікаў-празаікаў ці ніхто не «задрал штаны и побежал за комсомолом », ці гэты бег быў надта ж няўклюдным. Я прапанаваў па прозе ўключыць у зборнік выдатныя апавяданні пісьменнікаў 1930 — 1950-х гадоў нараджэння — пра сваё маленства і маладосць. Рэцэнзентам сакратарыят абраў Грачанікава, а ён да напісання рэцэнзіі паклікаў мяне і прапанаваў забраць больш як палову з майго «укладу»: творы добрыя і выдатныя, але не маюць ніякага дачынення да камсамола. «Чаму — ніякага?» — загарачыўся я. «Там жа героі — вучні і студэнты!» — «Але не падкрэслена іхняя піянерская і камсамольская дзейнасць». — «А не падкрэслена юная мужнасць у вайну і пасля яе? Любоў да родных мясцін? Светлыя дзіцячыя і юнацкія пачуцці і мары? Ці камсамолу гэтыя рысы непатрэбныя? Калі так, то трэба ў гэты зборнік уключаць не прозу. Нашы лепшыя празаікі “голай” камсамольскай тэматыкі не развіваюць, зрэшты, як і партыйнай. У іх сваё, народнае, светаўспрыманне. А калі камсамолу трэба толькі “чыста” камсамольская тэматыка з пахваленнем, то варта падабраць нарысы і артыкулы. Але выдатнага сярод іх я мала ведаю, таму не буду займацца іх падборам».

Не ведаю, які тады ў майго апанента быў унутраны голас, на які ўзровень сягалі яго камсамольскія перакананні, але ён са мной асабліва не спрачаўся. Толькі неяк дзіўна азіраўся і ўсміхаўся: «Молодой ещё». А пасля: «Но ранний». Гэтыя рускамоўнасці ён ужыў спецыяльна.

Той зборнік выйшаў у 1980-м, з прапанаванага мною там была толькі частка. Мае адносіны з Грачанікавым калі не пахаладнелі, то асабліва і не пацяплелі, хоць мы адно аднаго дружна хвалілі за новыя творы…

## ЗАШЧЫРАВАЦЬ У ВЯЧЭРНІХ РАЗМОВАХ

Апошнія амаль дзевяць гадоў ягонага жыцця мне пашанцавала спазнаць яго побач, калі ён быў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», а я намеснікам. Мы працавалі ў адным кабінеце, а ў выхадныя дні маглі сустрэцца на лецішчы і «зашчыраваць у вячэрніх размовах». Тую камсамольскую «калізію» не ўспаміналі: нашы ўнутраныя галасы клікалі больш перамаўляцца пра тое, што ўсіх нас чакае пасля чарговых «ПП» — «пышных пахаванняў» старцаў з Палітбюро. Мудрагелілі рознае, ды развалу маналіту КПСС не прадбачылі. Але я пераканаўся: Грачанікаў больш дасведчаны, рэалістычны і маштабны, чым я лічыў. Ён ведаў рэчы, якіх не ведаў я. Адпаведна, ужо і тады, да перабудовы, усведамляючы, што «развіты сацыялізм» — гэта застой, ён паціху пачаў шукаць новыя прыёмы, каб, як сказаў рускі класік, быць грамадзянінам. Хіба не пра гэта гавораць яго нібыта наследаванні старажытнаперсідскай паэзіі, дзе за паказам нораваў шаха і яго сатрапаў чытаецца іншае, сучаснае. І пры гэтым аўтар — не фіксатар трагедый, а філосаф-асэнсавальнік: кожнага чалавека, нават люд можна маральна і фізічна скалечыць, але ж не ўсіх людзей! Тым больш кожны вялікі і малы народ не знішчыш духоўна! Ён выцерпіць і нават рана-позна пераможа сваё духоўнае прыніжэнне! Беларускі народ — з такіх даўніх, таленавітых, славутых, паганьбаваных больш моцнымі і варожымі, але нязломных! Яго можна знішчыць, але не перамагчы! І дзеля гэтага ён можа нават на доўгі час замаўчаць. Нават — трагедыя і боль — аддаць душыцелям на расправу сваіх самых-самых, у каго не проста абуджаецца, а выбухае паўстанцкі дух Каліноўскага. Але рана-позна ўшануе не вешацеля, не яго памагатых з ліку сваіх выраджэнцаў, а самаахвярнікаў. Хоць Каліноўскага, канешне, ушанаваць не ўдаецца і сёння.

## У АДКАЗНЫМ МОМАНЦЕ

Гэта зусім не выпадкова — тое, што Грачанікаву за «Палессе» і кнігі для дзяцей у 1984-м была прысуджана Дзяржаўная прэмія. І рэпутацыя яго не толькі аднавілася, але і ўзрасла. У кнізе «Я вас люблю…» (1986) ён даў волю ўнутранаму голасу выявіцца ў таямнічым, чароўным свеце — у такой боскай адоранасці як каханне, узнясенне мужчыны жанчынаю. Выбачайце за нясціпласць, але больш за іншых я ведаю, паўтаруся, што за апошнія дзевяць гадоў жыцця на Зямлі ён сваю рэпутацыю значна павысіў — у тым ліку і на пасадзе галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць».

Ён, як і Зуёнак, даручыў мне «весці» прозу і публіцыстыку. Ён давяраў маім густу і пазіцыі. Калі празаікі звярталіся найперш да яго, ён адсылаў іх да мяне нібыта жартам: «Хачу ведаць, што жалезны Генрых скажа» (маючы на ўвазе, што я зямляк Дзяржынскага). А ўсё ж самыя адказныя моманты трэба браць на сябе, такая ўжо доля галоўнага. У адказным моманце — таленавітыя, але няпростыя для друкавання ў той час раманы «Як агонь, як вада» Алега Лойкі, «Меч князя Вячкі» Леаніда Дайнекі, унікальнае гістарычнае даследаванне Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь», вяршыня беларускай дысідэнцкай літаратуры — «Споведзь» Ларысы Геніюш. Пры ўсіх сваіх магчымасцях я мог бы і не «прабіць» гэта, калі б упёрся галоўны. Ды ён не супярэчыў: сам адкрываў для сябе новае ў нашай гісторыі — не толькі ў трыумфальным яе шэсці, поспехах савецкага ладу, але і ў злачынствах. І яшчэ больш задумваўся, сталеў, мужна рос у рэдактарскую асобу. Больш за мяне ведаючы ідэалагічныя хітраспляценні, розныя тактыкі і стратэгіі, дзясяткі разоў выклікаў мяне «прагуляцца» па парку Горкага ці «адскочыць на прыроду» (сам сядаў за руль свайго легкавіка), дзе мы без лішніх вушэй абгаворвалі сістэму абароны ў цэнзурным кабінеце твораў не зусім у духу сацрэалізму, а то і «нацыяналістычнага зместу».

* * *

У справе нашага выжывання Анатоль Грачанікаў і «ціха» ды «паціху», і як паэт, і як рэдактар зрабіў шмат. Скажам, для выпуску больш як 160 нумароў «Бібліятэкі часопіса “Маладосць”». Мог зрабіць больш. Ды нейкі выпадак у сакавіку 1991-га абарваў яго жыццё ў самым росквітным веку…

Пятро ВАСЮЧЭНКА

*Рубрыка кафедры*
*літаратурна-мастацкай крытыкі*
*Інстытута журналістыкі БДУ*

# «НИ ХЫТРУ, НИ ГОРАЗДУ...»

## *Навошта будучаму журналісту вывучаць даўнюю беларускую літаратуру*

***Шанцуе або не шанцуе першакурсніку? Учарашняму абітурыенту часам здаецца, што прафесія ў яго ўжо ў кішэні і вось-вось яна пачне прыносіць яму «бабосы», але неўзабаве атакуюць занудлівыя цётачкі і дзядзечкі, якія даводзяць, што будучаму журналісту патрэбна не толькі пісаць, але яшчэ і чытаць, у тым ліку і даўнюю беларускую літаратуру. І хто прыдумаў такую доўгую дарогу да дыплома?***

Выкладчык даўняй беларускай літаратуры (гэта я) пачынае першую лекцыю з жорсткай высновы пра тое, што «літаратура — гэта тэксты», а тэксты трэба чытаць. У бібліятэцы студэнта надзяляюць таўшчэзнай кнігай, якая называецца «Анталогія даўняй беларускай літаратуры», на 1015 старонак («Сабаку забіць можна!» — змрочна жартуе адзін са студыёзусаў), ды яшчэ і без малюнкаў. Тэксты, тэксты, тэксты, некаторыя з іх на стараславянскай мове, і што рабіць беднаму шкаляру, калі са стараславянскай ён памятае толькі «пакі херувімы», дый тое дзякуючы славутаму фільму? А выкладчык раіць, нягледзячы ні на што, «прадзірацца праз тэкст».

Малапразрыстыя рэаліі тысячагадовай даўніны (змяя ў конскім чэрапе, падпаленая пры дапамозе вераб'ёў сталіца драўлян, паўстанне наўцоў (зомбі) у Полацку, пераўтварэнні чалавека ў ваўкалака), сцёртыя ў часе імёны і постаці... Ну хто такі Траян, у чый сёмы век жыў і дзейнічаў Усяслаў Чарадзей? «Траян — гэта вірус», — упэўнена вырашае першакурснік.

Мабыць, жорстка кідаць у літаратурную старасвеччыну дзяўчат і юнакоў, якія адной нагой яшчэ ў школе, другой — у ВНУ, а ў марах — на крышталёвых вяршынях журналістыкі. Мабыць, трэба пачынаць з казак. Але ёсць няўмольная логіка выкладання літаратурнай гісторыі — паводле хparty храналогіі. Ды ў сямнаццацігадовых свая логіка. «Навошта нам, журналістам, гэта патрэбна?» — да такога пытання дарос адзін з «пупсікаў».

А тым часам прафесіянальныя журналісты напоўніцу карыстаюцца ўрокамі старажытнай літаратуры, нават калі самі пра тое не падазраюць. Творы даўняй літаратуры даўным-даўно парасцяганы на цытаты. «Не расцякайцеся мыслію па дрэве», — павучае студэнта-практыканта ягоны кіраўнік, суворы, бы Кірыла Тураўскі. Можа, нават і кіраўнік не здагадваецца, што ў першыкрыніцы, «Слове пра паход Ігаравы», было не «мыслію», а «мысью», што азначае: «вавёркай».

А пакуль выкладык пераконвае, што калі сямнаццацігадовы студэнт як след учытаецца ў «Анталогію...», дык пасля яго з гэтай кнігі за вушы не выцягнеш. Бо ў старадаўніх тэкстаў, выведзеных вучоным манахам на пергамене, ёсць непаўторны шарм.

Па вялікім сакрэце я паведамляю пра тое, што ў XII стагоддзі, калі Беларусь называлася Полацкім княствам, не было ні газет, ні радыё, ні тэлебачання і нават — о, жах! — інтэрнэту. Была адна літаратура, адна суцэльная літаратура, і яна замяняла сабою ўсё астатняе.

Нашы продкі і тады былі пісьменныя, цікаўныя, патрабавальныя, і яны хацелі ад літаратуры таго, што павінна даваць СМІ. Духоўнага. Душэўнага. Карыснага. Інфармацыі. Разрыўкі. І гэтак далей.

І яны гэта атрымлівалі. У тое адукаванае стагоддзе на Полаччыне панавала сапраўдная кніжная стыхія. Кнігі абдымалі ўсё. Карыснымі ў духоўным плане былі «Біблія»

Калі сямнаццацігадовы студэнт як след учытаецца ў «Анталогію...», дык пасля яго з гэтай кнігі за вушы не выцягнеш

ў перакладзе Кірылы і Мяфодзія, патрыстыка, гэта значыць, тварэнні айцоў царквы — Іаана Залатавуснага, Маргарыта, Васіля Вялікага, Залатаструя, Яфрэма Сірына, Іаана Дамаскіна.

Пра выбітных людзей свайго часу распавядалі жыцці — Еўфрасінні Полацкай, Аўрамія Смаленскага, Кірылы Тураўскага. Перакладзенае на нашу мову «Жыццё Аляксея, чалавека Божага» выклікала слёзы шкадобы і замілавання. Сярэднявечны чытач шукаў у ліхтугах рымскага пакутніка тое, што сённяшні знаходзіць у кранальных меладрамах і серыялах.

Наш продак мог, як і сучаснік, вандраваць па краінах і кантынентах, чытаючы хаджэнні. Асабліва папулярнай была «Хрысціянская тапаграфія» Казьмы Індзікаплава, які вандраваў у Адрыятыку, Егіпет, Эфіопію, Аравію, Цэйлон, Індыю (адкуль і атрымаў сваё імя). Пераканаўся, што Зямля пляскатая, чатырохкутная, абкружаная з усіх бакоў Сусветным Акіянам — але, тым не менш, праўдзіва апісаў свае ўражанні ад іншаземных краін.

Праграме «Жыццё жывёлаў» адпавядаў ізборнік «Фізіялог», адкуль можна было даведацца шмат цікавага пра льва, арла, пелікана, слана, кентаўра, сірэн ды іншых істот, рэальных і фантастычных.

Прагноз надвор'я рабілі пры дапамозе «Громніка», гараскоп складаўся паводле «Астралогіі», лекаваць зёлкамі дапамагаў «Траўнік».

Нашых продкаў цікавіла тое, што цікавіць і жыхароў XXI стагоддзя, а гэта значыць, што старадаўнія літаратары першымі распрацавалі сістэму журналісцкага пісьма, удасканалілі яго асноўныя прыёмы.

Журналіст заўжды абмежаваны — памерам паласы, колькасцю знакаў, часам... Старадаўнія летапісцы карысталіся дарагім матэрыялам (пергаменам), свае тэксты хутчэй малявалі, чым пісалі, і раздумвалі над кожным словам. Норма арыгінальнага тэксту складала некалькі сказаў на год. Нараджэнню тэксту папярэднічаў строгі адбор падзей, персанажаў, дэталей. І пры ўсёй гэтай звышлапідарнасці шмат якія тэксты чыталіся як шэкспіраўскія трагедыі.

Напрыклад, «Паданне пра Рагнеду», пра два яе крывавыя вяселлі. Да Рагнеды, полацкай князёўны, сватаюцца двое — Уладзімір і Яраполк. Рагнеда робіць выбар і адказвае сватам Уладзіміра: «Не хачу разуць рабыніча, а Яраполка хачу». Можна ўявіць сабе «дастаеўскія» згрызоты Уладзіміра, які насамрэч быў бастардам, сынам ключніцы Малушы. Падагрэты «добрымі» парадамі свайго дзядзькі Дабрыні, Уладзімір захапіў Полацак, забіў бацьку і двух братоў Рагнеды, яе саму прымусам узяў за жонку. Што перажывала Рагнеда/Гарыслава ў горкія гады замужжа — пра гэта летапіс красамоўна маўчыць. Летапісец пераходзіць да другога акта трагедыі, дзе вельмі моцны эфект прысутнасці аўтара.

Уладзімір, прымаючы хрысціянства і выракаючыся язычніцтва, вырашае развітацца са сваім тысячным гарэмам, а гэта значыць, і з Рагнедай. Яна замахваецца на князя, соннага, мячом. Ён прачынаецца, хапае яе за руку. «Ты бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцём», — чуе ён ад Рагнеды. Гэта кажа жанчына! Князь ладзіць Крывавае вяселле-2, а дзеля гэтага Рагнеда павінна прыбрацца ў шлюбныя строі нявесты і чакаць князя ў апачывальні, дзе ён яе заб'е. Але Рагнеда ўносіць свае карэктывы ў крывавы сцэнарый, бо яна ўжо не тая безабаронная полацкая дзяўчына, якою ўпершыню сустрэў яе Уладзімір. У апачывальні князя сустракаюць меч ягонага малалетняга сына Ізяслава і словы: «Бацька, не думай, што ты тут адзін». (Рэпліка выклікае ў студэнцкай аўдыторыі ажыўленне). Уладзімір у разгубленасці кажа: «А хто ведаў, што ты тут» і апускае меч. Баяры раяць Уладзіміру падараваць Рагнедзе жыццё і спадчыну, і ён адпускае яе з сынам у горад, які назавуць Заслаўе...

Мне часткова ўдалося перадаць сваё ўспрыманне тэксту, але ніяк не багацце яго вобразнасці, эмацыйнасці, псіхалагізму падтэксту. У «Аповесці мінулых гадоў»,

«Лаўрэнцьеўскім летапісе» гісторыя Рагнеды займае не больш за старонку, а чытаецца як раман або трагедыя.

Я прапаную першакурснікам напісаць «Летапіс майго жыцця». Не майго, вядома, а іхняга. Заўважаю, як «чухае рэпу» першакурсніца. Разумею яе. Што экзістэнцыйна значнага можа здарыцца за сямнаццаць гадоў юнага жыцця? Нарадзілася, пайшла ў дзіцячы садок, скончыла школу, паступіла на журфак... Што яшчэ? «У 2012 годзе я згубіла смартфон...» Не, гэта не падыходзіць. Можа, апісаць сваё безнадзейнае каханне? Чаму ў XXI стагоддзі не пішуць летапісы? Пераказаць галоўнае ў жыцці цывілізацыі за адзін год, падаць гэта як шэкспіраўскую трагедыю ды на адной старонцы — вось гэта быў бы праект!

На вялікі жаль, шмат якія з жанраў старадаўняй публіцыстыкі сёння занядбаныя. Мы жывём у эпоху жанравага збяднення. Пальцаў дзвюх рук досыць, каб пералічыць сучасныя жанры журналістыкі: замалёўка, рэпартаж, агляд, інтэрв'ю, справаздача, артыкул, нарыс... ну і яшчэ сёе-тое. Інакш было ў эпоху палемічнай літаратуры, калі вырашалі, да якой канфесіі прытуліцца беларусам. Тады колькасць жанраў вымяралася дзясяткамі. Шмат якія з іх прыдаліся б і сёння: адказы, аспрэчванні, абароны, пярэчанні, водпісы, гутаркі, разважанні, павучанні, перасцярогі, звароты, адозвы, пратэстацыі, суплікі, сатырычныя лісты, псеўдаказанні, псеўдапрамовы...

У той час публіцысты актыўна выкарыстоўвалі сугестыўнае пісьмо, хаця слова «сугестыя», напэўна, не ведалі. Гэта ўменне журналіста ўздзейнічаць на падсвядомасць чытача, хапаць яго за жывое. Такое майстэрства напоўніцу выкарыстаў Мялецій Сматрыцкі, аўтар знакамітага твора «Трэнас», што перакладаецца як «плач», «галашэнне». Плача Усходняя (праваслаўная) царква ў абліччы жанчыны, абабранай, абдзёртай, выгнанай з дому ўласнымі ж дзецьмі. Каму ў горадзе або ў вёсцы не была знаёмая такая жыццёвая гісторыя? Гераіні твора моцна спачувалі. Матыў «Трэнасу» ўзыходзіць не толькі да біблейскай традыцыі («Плач прарока Ерэміі»), але і да народных галашэнняў, таму твор, што называецца, працінаў навылёт.

Нездарма сугестыўную моц твора адчулі і апаненты Сматрыцкага, і ў выніку наклад кнігі амаль цалкам перанёс аўтадафэ, гэта значыць, быў спалены. Смяротнай пагрозы ледзьве пазбег і сам стваральнік.

«Рукапісы не гараць», — сцвярджае беларуская барочная публіцыстыка ў асобах Цыпрыяна Камунякі і Івана Мялешкі. Пад такімі імёнамі схаваліся невядомыя аўтары «Ліста да Абуховіча» і «Прамовы Мялешкі» ў жахлівым для Беларусі XVII стагоддзі, споўненым войнамі і сацыяльнымі ператрусамі. Кожны з тэкстаў займае тры старонкі, адпавядае стандартнаму фармату, напісаны, бадай, сучаснай літаратурнай мовай, ды якой сакаўной, крамянай! Чытанне іх настолькі ж прыемнае, наколькі і павучальнае.

Цыпрыян Камуняка звяртаецца да Піліпа Абуховіча, былога смаленскага ваяводы, як да свайго найлепшага сябры. Маўляў, я цябе люблю і шаную, але хто ж табе, апроч мяне, праўду скажа? Смаленск быў здадзены Масковіі падчас страшнай вайны 1654—1667 гадоў, і ў гэтым аўтар вінаваціць свайго «сябра». Нібыта хваліць яго за трываласць, мужнасць, цвёрдасць, але найгоршаму ворагу не пажадаю такой пахвалы. Гэта самая што ні на ёсць чорная іронія. Згадвае аўтар і тату, і дзядулю Абуховіча, заўважаных у карупцыі і падмане, і даводзіць, што нашчадак удаўся ў продкаў. «Лепей, пане Піліпе, сядзець табе было ў Ліпе. А то ўваліўся ў вялікую славу, як свіння ў гразь», — зазначае сатырык. Напэўна, моцна чымсь насаліў ваявода невядомаму аўтару!

Справу Піліпа Абуховіча разглядаў вайсковы трыбунал, і злашчасны ваявода быў апраўданы. Але, напэўна, ён не вытрымаў жорсткага літаратурнага прысуду і праз некаторы час пасля з'яўлення «Ліста...» памёр. І сёння школьнікі, студэнты, літаратуразнаўцы, аматары краснага пісьменства перачытваюць «Ліст да Абуховіча» і раздумваюць пра лёс нешчаслівага ваяводы.

**Князь ладзіць Крывавае вяселле-2, а дзеля гэтага Рагнеда павінна прыбрацца ў шлюбныя строі нявесты і чакаць князя ў апачывальні, дзе ён яе заб'е**

## «У 2012 годзе я згубіла смартфон...» Не, гэта не падыходзіць. Можа, апісаць сваё безнадзейнае каханне? Чаму ў XXI стагоддзі не пішуць летапісы?

Калі будзеце праязджаць электрычкаю праз станцыю Ліпа (у бок Баранавічаў), дык згадайце павучальную гісторыю гаротнага Піліпа Абуховіча і пераканайцеся ў простай ісціне: ніколі, ані пры якіх абставінах не псуйце адносіны з журналістамі, не сварыцеся з імі, бо абняславяць на ўвесь свет і на ўсе стагоддзі!

Згаданыя мною аўтары старадаўняй літаратуры былі мужчынамі, і іх перавага доўжылася ажно да XVIII стагоддзя. У эпоху лібералізму і Асветніцтва сітуацыя памянялася, і ў літаратурным жыцці Беларусі ўзнікла праблема гендэра. Прыйшлі аўтаркі.

У нясвіжскім замку складала свае трагедыі, драмы і камедыі жанчына-драматург Уршуля Францішка Радзівіл. А па краінах Еўразіі вандравала першая беларуская лекарка-акуліст, эмансіпэ XVIII стагоддзя Саламея Пільштынова-Русецкая. Яна не толькі вылечыла ад слепаты знакамітых асоб Турцыі ды іншых мусульманскіх дзяржаў, памяняла некалькіх мужоў і амантаў, але і пакінула пасля сябе кнігу «Авантуры майго жыцця», якая, пераказваючы падзеі яе бурнага жыцця, стварае партрэт тае эпохі.

Калі я вучыўся на журфаку, колькасць дзяўчат і хлопцаў на курсе была недзе пяцьдзясят на пяцьдзясят. Сёння, калі я ўваходжу ў лекцыйную аўдыторыю, бачу відавочную перавагу касічак-хвастоў, міні-спаднічак, манікюраў і дапытлівых дзявочых вочак. І гэта нягледзячы на тое, што журналістыка звязана з камандзіроўкамі, нерэгулярным харчаваннем, нервовай напругай ды іншымі мітрэнгамі. Але гэта мала каго палохае. Прыклад Саламеі Пільштыновай для большасці будучых журналістак з'яўляецца натхняльным.

І толькі аднойчы на іспыце я выявіў іншую пазіцыю.

Даволі прывабная паненка старанна распавяла пра жыццёвы шлях, авантуры і творчасць Саламеі, але пасля таго ўздыхнула і прызналася:

— Эх! Па шчырасці, не падабаецца мне ўсё гэта...

— Што? Твор не падабаецца? — здзівіўся я.

— Ды не, твор, можа, і падабаецца... Але, папраўдзе, нічога не падабаецца... А чаго яна цягаецца паўсюль? Жанчына павінна быць пры мужы, сядзець дома і боршч варыць...

— Можа, яно і так, — пагадзіўся я. — Але вы абралі задужа неспакойную для таго працу, — пярэчу я. — Журналістыка — гэта камандзіроўкі, беганіна, мітусня... Які тут боршч?

— Няпраўда ваша! Я буду працаваць у жаночым часопісе, сядзець дома за камп'ютарам і ў перапынках паміж працаю варыць мужу боршч.

— А што, муж ужо ёсць? — пацікавіўся я.

— Дык у тым уся бяда, што няма! Не бярэ ніхто чамусьці...

Размова напраўду атрымалася нечаканая і цікавая. Горш бывае, калі студэнт не прачытаў твор.

У другой палове семестра студэнты ў прадчуванні блізкага экзамена сядаюць за мастацкія тэксты, некаторыя прыносяць ахвяры багіні Халяве або новаму боству, якое завуць Гугл. Толькі гэты самы Гугл дагэтуль не дапамог аніводнаму філону адказаць на даволі простае пытанне:

— А што казаў вешчы Баян з нагоды смерці Усяслава Чарадзея?

Студэнт маўчыць, бо гэта Гугл, а не ён лапаціў «Слова пра паход Ігаравы», ды толькі дзе цяпер гэты Гугл? А ў творы з нагоды смерці Усяслава Баян кажа наступнае: «Ни хытру, ни горазду, ни птицю горазду суда Божиа не минути».

«Горазды» значыць умелы, спрытны. Птушка «горазд» хутчэй за ўсё стрыж, па-наску яшчэ — стрыгуль. Вешчы Баян, высвятляецца, любіў каламбуры.

Вядома, рэальна прагугліць і будучую сесію, і нават атрымаць пажаданы «пас» у выглядзе чацвёркі, але наступны экзамен, якога не пазбегнуць «ні хітраму, ні гаразддаму, ні пціцю гаразду», будзе прымаць жыццё. Экзамен на дапытлівасць, эрудыцыю, унутраную культуру, павагу да духоўнай спадчыны народа.

# КАБ АТРЫМАЦЬ, ТРЭБА ШУКАЦЬ

***Якім павінен быць добры падручнік па беларускай літаратуры? Можа быць, рэдакцыя яшчэ дачакаецца артыкулаў ад тых, хто ў гэтай тэме мае вагу, досвед і зацікаўленасць. Пакуль жа...***

## АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

**Сяргей Дубялевіч, ігрок элітарнага клуба «Што? Дзе? Калі?»:**

— Я, на жаль, выкладаю не той прадмет, аднак ведаю, што падручнікі па беларускай літаратуры пастаянна «выпустошваюцца», і да дабра гэта не прывядзе. Прыбраць «Тутэйшых» і іншыя творы, у якіх ёсць нейкі намёк на палітыку, напоўніць праграму безаблічнымі вершамі пра Радзіму, прыроду і гэтак далей, — гэта злачынства. Сучасная праграма не спрыяе ўзбуджэнню цікавасці да беларускай мовы і літаратуры. Дарэчы, пра праграму па рускай літаратуры такога сказаць нельга. Яна хоць таксама, на жаль, скарачаецца, але патрэбнае і годнае — застаецца.

## ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ПОГЛЯД

**Лада Алейнік, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры філфака БДУ:**

— Я ўжо дзесяць год не працую ў школе, таму амаль перастала сачыць за зменамі ў школьнай праграмме. Лічу, што зацікаўленасць вучняў у літаратуры цалкам залежыць ад настаўніка: напрыклад, калі не хапае часу, можна праводзіць дадатковыя заняткі. З іншага боку, дзве-тры гадзіны на «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча ці на творы Быкава — вельмі мала. Часам вучні скардзяцца, што заняткі па літаратуры нецікавыя. Але ў школу не ідуць забаўляцца! Згодна з тым, што праграме патрэбны творы сучаснах аўтараў, але ўводзіць іх трэба не за кошт класікі, а за кошт дадатковых гадзін.

## АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ВАРЫЯНТ

**Аляксандр Яфрэмаў, рэжысёр:**

— Я скончыў школу ў Расіі, таму з беларускай літаратурай знаёміўся пазней, разам з дачкой, калі ў мяне атрымалася дастаць скрыню дэфіцытных на той час кніг. Мы разам вывучалі рускую і беларускую класіку. Здаецца, у мяне атрымалася прышчапіць дачцэ густ да літаратуры. Цяпер яна чытае самастойна, не абапіраючыся на маё меркаванне. Тое, што яна потым распавядае, мне здаецца цікавым і не пустым.

## ГАВОРАЦЬ ВУЧНІ

**Алена Смоліч, сярэдняя школа № 11, Слуцк:**

— Мне не падабаюцца сучасныя падручнікі. У іх зусім няма тэорыі літаратуры і твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў. Затое ў іх шмат «вады». З гэтай прычыны я вельмі мала імі карыстаюся. Спадзяюся, калі падрастуць мае дзеці, падручнікі значна зменяцца.

**Таццяна Галавач, сярэдняя школа № 31, Гродна:**

— Для сярэдняга ўзроўню адукацыі такія падручнікі падыдуць, але каб атрымаць сапраўды глыбокія веды, трэба шукаць дадатковую літаратуру. На занятках мы карыстаемся кнігамі з бібліятэкі, а тэарэтычны матэрыял значна лягчэй адшукаць у інтэрнэце.

**Раман Урбановіч, выпускнік сярэдняй школы № 18, Гродна:**

— На маю думку, школьная праграма па беларускай літаратуры складзена досыць добра. Цешыць, што ў ёй прысутнічаюць глыбокія і сур'ёзныя творы, як класікаў 1960—1980-х, якія не губляюць сваёй вастрыні і актуальнасці дагэтуль, так і вартыя зададзенага раней узроўню працы сучасных аўтараў. Асабіста мне як чалавеку, не раўнадушнаму да сучаснага літаратурнага працэсу, хацелася б пабачыць у школьнай праграме таксама і, так бы мовіць, «нефармальных» аўтараў. Сярод іх літаратары кшталту Альгерда Бахарэвіча, Андрэя Хадановіча, Юрыя Станкевіча, Марыйкі Мартысевіч, Змітра Вішнёва, «зоркі» недалёкай мінуўшчыны Анатоля Сыса.

**Валерыя Грэк, выпускніца сярэдняй школы № 8, Салігорск:**

— На мой погляд, праблема ў тым, што творы, якія вывучаюцца ў школе, дзеці да канца не разумеюць — цяжкаватыя яны для ўспрымання. Ды і не вельмі цягне дзяцей да класікі, яны не знаходзяць яе актуальнай і цікавай.

**Юлія Тоўкач, гімназія, а/г Пагранічны:**

— Нармальныя падручнікі, мне падабаюцца. Інфармацыі дастаткова, але мы яе чулі ад настаўнікаў у папярэдніх класах: біяграфіі пісьменнікаў і гэтак далей. Я больш люблю апавяданні: мне даспадобы, што ў іх менш апісанняў і падзеі хутчэй развіваюцца. Мы ў першым паўгоддзі вывучалі Зарэцкага, мяне ўразіла апавяданне «Кветка пажоўклая». Я пачала чытаць — і не магла спыніцца.

**Аляксандра Сіяніхіна, сярэдняя школа № 10, Слуцк:**

— У гэтым годзе падручнік лепшы, чым ў мінулым. Стала больш цікавых твораў. Я ўжо пачала чытаць кнігі са спіса літаратуры на лета, і мяне вельмі ўразіла аповесць Быкава «Альпійская балада». Спадзяюся, што ў наступным навучальным годзе нам будуць даваць для чытання не горшыя творы.

## ГАВОРАЦЬ НАСТАЎНІКІ

**Віта Іванаўна, Браслаўская гімназія:**

— Падабаюцца падручнікі за 5-8 класы: у іх добрыя тэксты і пытанні. Заданні, праўда, маглі б быць больш творчымі, але настаўніку няцяжка замяніць іх на свае, таму я не бачу ў гэтым вялікай бяды. Хацелася б, каб у вучняў старэйшых класаў меліся хрэстаматыі — саміх тэкстаў вельмі мала. Складана працаваць, таму што ў вясковых школах (а таксама ў школах маленькіх гарадоў) у бібліятэках проста не хапае кніг.

**Наталля Уладзіміраўна, гімназія № 1, Салігорск:**

— Вельмі не спадабаўся перавыдадзены падручнік для 9 класа (старажытная літаратура). У папярэднім меліся ўрыўкі з твораў, звесткі пра аўтараў, тэарэтычны матэрыял, а цяпер вучням даводзіцца многае шукаць самастойна. Ды і мова скаладаная, нават для настаўнікаў. Падручнікі для старэйшых класаў — неблагія. З недахопаў — аналіз твораў мне здаецца павярхоўным. Лічу, што на маіх занятках мы разбіраем значна глыбей.

**Жанна Эдуардаўна, Няжанская базавая школа:**

— Усе падручнікі добрыя, пабудаваны сістэмна. Толькі для 5 класа цяжкаваты. Дзецям падабаецца проза: казкі і апавяданні. А вось ўспрымаць лірыку ім яшчэ цяжка. Верш «Лісце» Караткевіча і старэйшым класам зразумець не проста. Таму калі напрыканцы навучальнага года праводзілі апытанне, дзеткі, нібы дамовіліся, у графе «Любімы верш» амаль што ўсе напісалі: «Бацька» Барадуліна — ён лёгкі і зразумелы.

**Валянціна, Казянская базавая школа:**

— Хацелася б, каб было больш даступных твораў: менш гістарычных і больш сучасных. Дзеці не заўсёды добра разумеюць гістарычны кантэкст, і настаўніку прыходзіцца марнаваць час на тое, каб растлумачыць незнаёмыя словы і рэаліі мінулай эпохі. Напрыклад, калі чыталі «Паром на бурнай рацэ» Караткевіча, вучням было не зразумела, хто такія інсургенты.

*Запісала Ганна ЛІСЦА*

Ганна АЛЕКСЯЕВІЧ

# БЕЛ. МОВ. VERSUS БЕЛАРУСКАЯ МОВА

***Усе мы з адукацыяй і добра разумеем, што бел. мов. не тоесна беларускай мове. Бел. мов. (ці бел. яз.) — гэта вынік тых абмежаванняў, якія накладае школьная праграма. На гэтым можна было б паставіць кропку. Бо англ. яз. і English, нем. яз. і Deutsch, рус. яз. і руская мова вытрымліваюць аналагічную прапорцыю. Аднак бытаванне беларускай мовы спецыфічнае: для многіх яна абмежавана сценамі школ. Невыпадкова мы часта не ўсведамляем, што разважаючы пра беларускую мову, насамрэч разважаем пра бел. мову.***

Чытаць, пісаць, лічыць — тры ўменні, якія мусіць у нас закласці школа. Каб пасля мы змаглі падлічыць у краме грошы, прачытаць новыя законы і запоўніць на мытні дэкларацыю. Калі без іроніі, то гэта база, якую дае пачатковая адукацыя. Далей ідзе знаёмства з паасобнымі навуковымі дысцыплінамі — фізікай, геаметрыяй, біялогій… Беларуская мова таксама існуе ў якасці спецыяльнага прадмета. Бянтэжыць толькі, што на занятках мовай мы вучымся *ўсё яшчэ* пісаць. Пад словам «пісаць» варта разумець самае першаснае яго значэнне. «Пісаць» — значыць занатоўваць літарамі на паперы вуснае маўленне і рабіць гэта згодна прынятым правілам (адсюль «правільна пісаць»). Па-навуковаму гэта завецца арфаграфіяй.

Бел. мов. народжана арфаграфіяй беларускай мовы. Хоць паралельна існуюць іншыя раздзелы (сінтаксіс, марфалогія, фанетыка, лексікалогія), арфаграфія, несумненна, ходзіць у прымах. Школьны падручнік, вядома, структураваны па раздзелах, але гэты факт не варта браць напавер. Арфаграфія адшукала сабе месца ў кожным з іх. На практыцы гэта выглядае наступным чынам. Вывучаецца, напрыклад, прыслоўе. Спачатку даецца яму азначэнне, указваецца, што гэта нязменная часціна мовы, у сказе выконвае ролю акалічнасці; прыводзяцца класіфікацыі (вытворныя\невытворныя, азначальныя\акалічнасныя). Усё пакуль у межах марфалогіі. Пакуль. Бо як толькі будзе агучана, што прыслоўе можна пісацца разам, асобна ці праз злучок, марфалогія саступіць месца арфаграфіі. Аналагічнае прасочваецца ў дачыненні да назоўніка, калі пільна аналізуюцца канчаткі -а\-у ў мужчынскім родзе (горад-а\лес-у) ці чаргаванні ў месным склоне (на луз-е, у руц-э, на страс-е), да лічэбніка, калі канцэнтруецца ўвага на скланенні колькасных лічэбнікаў (пяццюдзесяццю трыма), да прыметніка, калі разглядаем суфіксы -н-, -ск-, -к-, да дзеяслова, калі вучымся спрагаць (каха-юць\любяць). Не абмінуў падобны лёс і сінтаксіс. Ён зведзены да расстаноўкі косак, працяжнікаў і двукроп'яў. У выніку адна з найбольш сутнасных тэм — парадак слоў — адсутнічае. Знакі прыпынку не тлумачаць сінтаксічны лад мовы. Коска яшчэ нікога не наблізіла да разумення, чаму па-беларуску можна сказаць *Бацька б'е сына* і *Сына б'е бацька,* пры гэтым ні ў кога не ўзнікне сумневу, хто каго біў. Па-англійску магчымы толькі адзін варыянт *A father beats a son*. Бо калі *a son* паставіць на першае месца ў сказе, то бітым будзе *a father*. Фанетыка таксама церпіць ад

> Школьны падручнік, вядома, структураваны па раздзелах, але гэты факт не варта браць напавер. Арфаграфія адшукала сабе месца ў кожным з іх

арфаграфіі. Кожны фанетычны закон абавязкова суправаджаецца выключэннямі (канцылярыя, легенда, дыктар, мадонна). Яны, як правіла, замежнага паходжання. Каб іх запомніць, лепш пра беларускую фанетыку нічога не ведаць. Аканне, дзеканне — што гэта? Затое «канцылярыя» і «дыктар» пішуцца праз Ы.

Цалкам натуральна, што могуць узнікнуць пярэчанні стасоўна нашага драматызму вакол правапісу. Бо падручнік усё ж змяшчае дастаткова інфармацыі тэарэтычнага мовазнаўчага характару, інфармацыі, якую немагчыма суаднесці з арфаграфіяй. Напрыклад, рознага кшталту разборы — фанетычны, марфемны, марфалагічны, сінтаксічны. Іншая справа, што гэта інфармацыя даецца як бы *проста так*, для цікавасці. Рэальная патрэба зусім не ў ёй, а ў веданні, дзе ставіцца націск, якая літара пішацца ці не пішацца, дзе неабходна коска, што напішам разам, а што асобна. Арфаграфіяй у нас займаюцца сур’ёзна і дэталёва. Найлепшы доказ гэтаму — дыктоўка і ЦТ. Дыктоўка ўвогуле з’яўляецца найпрымітыўнейшым спосабам праверкі, пісьменны чалавек ці не. Тэст першапачаткова мае большыя магчымасці, але мы іх ніяк не рэалізуем, таму нашы тэсты адрозніваюцца ад дыктоўкі хіба што формай. Дыктоўка — звязаны тэкст, тэст — «пытанне-адказ». Сутнасць пры гэтым адна: выявіць, колькі арфаграфічных памылак мы зробім. Калі правесці падлік тэставым заданням, якія абмінаюць арфаграфію, то іх будзе непараўнальна мала. Гэтае «мала» складаюць галоўным чынам пытанні па лексікалогіі, зрэдчас па фанетыцы і сінтаксісе.

З іншага боку, якая бяда ў тым, што чалавек будзе правільна размаўляць і пісаць пабеларуску? Бяды, вядома, тут ніякай няма, ёсць толькі вялікае «але».

**З пятага класа нас пачынаюць знаёміць з навуковымі дысцыплінамі. Лінгвістыкі гэта не тычыцца. Таму што ўставіць належную літару і паставіць у належным месцы коску — гэта не лінгвістыка**

**Знакі прыпынку не тлумачаць сінтаксічны лад мовы. Коска яшчэ нікога не наблізіла да разумення, чаму па-беларуску можна сказаць *Бацька б’е сына* і *Сына б’е бацька*, і пры гэтым ні ў кога не ўзнікне сумневу, хто каго біў**

Як ужо адзначалася вышэй, з пятага класа нас пачынаюць знаёміць з навуковымі дысцыплінамі. Лінгвістыкі, як бачым, гэта не тычыцца. Таму што ўставіць належную літару і паставіць у належным месцы коску — гэта не лінгвістыка. Калі змадэляваць сітуацыю з мовай, напрыклад, на хімію, фізіку або геаграфію, то хімія павінна звесціся да ведання хімічнага складу пральнага парашку ці губной памады, геаграфія — да апісання беларускіх краявідаў. Фізіку, відавочна, давядзецца зусім выключыць са школьнай праграмы, бо без тэорыі яе вывучэнне губляе ўсялякі сэнс. Тое, што дазваляецца рабіць з мовай, не дазваляецца ў нас вырабляць з фізікай. Як вынік, на ўроках фізікі мы маем справу з навуковай дысцыплінай, а на ўроках мовы — з правільна ўстаўленымі літарамі і правільна расстаўленымі коскамі. Сучасная лінгвістыка назапасіла вялікія аб’ёмы грунтоўнага, важнага і папросту цікавага матэрыялу аб мове, яе паходжанні і гісторыі. Чаму мы так старанна абыходзім увагай усе гэтыя навуковыя здабыткі, застаецца незразумелым. Пытанне з арфаграфіяй ўжо даўно вырашаецца з Microsoft Word, аўтаматычная праўка паспела разбэсціць ладную колькасць мовазнаўцаў. Пагадзіцеся, што цяжка сфармуляваць прычыну, па якой мы правапіс ставім вышэй за ўсю лінгвістыку.

Нашым будучым дзецям усё ж патрэбна, каб быў распачаты шлях да мовы праз лінгвістыку. У рэаліях беларускай школы будзе неабходна адмовіцца ад прынцыпу, паводле якога беларуская мова складае пару беларускай літаратуры, адпаведна руская мова — рускай літаратуры, а замежная мова застаецца без пары, сіроцінкай. Больш мэтазгодным уяўляецца аб’яднанне ўсіх моў у адзін блок і ўсіх літаратур у другі блок. Атрымаем два

трыа «беларуская мова — руская мова — замежная мова» і «беларуская літаратура — руская літаратура — сусветная літаратура». Дарэчы, нарэшце з'явіцца месца для сусветнай літаратуры, бо сёння яна хаатычна параскідана па беларускай і рускай. Не павінны быць асобныя настаўнікі па беларускай і рускай мовах. У ідэале, канешне, і па замежнай. Настаўнік абавязкова павінен з аднолькавым спрытам навучаць беларускай і рускай мовам, беларускай, рускай і сусветнай літаратурам. Ні ў якім разе нельга дазваляць спецыялізавацца на адной з іх. Пакуль застаюцца асобныя настаўнікі, нам не пазбегнуць канфрантацыі і паміж імі, і паміж мовамі. Што тычыцца зместу будучых падручнікаў, то частка тэм мусіць быць прысвечана агульнамовазнаўчым праблемам, справядлівым і для беларускай, і для рускай, і для замежнай моў. Напрыклад, недастаткова канстатаваць, што ёсць тры роды, і пасля заняцца канчаткамі. Якраз гэтак вучаць у нас сёння. Род — гэта адна з самых сутнасных граматычных катэгорый. У славянскіх мовах іх тры, у грузінскай і кітайскай яны адсутнічаюць, а ў некаторых афрыканскіх да дзесяці і прынята іх называць не родамі, а класамі. Праславянская мова не ведала родаў, яны паступова акрэсліліся шляхам спрашчэння шматлікіх скланенняў. Лінгвістыка пачынаецца з многіх моў. Малаверагодна, што яна ўзнікла б, каб людзі мелі адну мову. Таму прыклады і спасылкі на іншыя мовы, блізкія і далёкія, павінны быць. Яны падмацуюць тэорыю, якая таксама павінна прысутнічаць не толькі ў падручніку, але і ў тэстах. Такім чынам, першае — тэорыя, другое — паралелі з іншых моў (не з дзвюх-трох, а найменш дзесяці!), трэцяе — гісторыя. Гісторыю мовы нельга зводзіць да этымалогіі слоў. Побач з лексікай развіваецца граматыка і фанетыка, інакш кажучы, усе ўзроўні мовы. Сённяшняя

**Аканне, дзеканне — што гэта? Затое «канцылярыя» і «дыктар» пішуцца праз Ы**

**Тое, што дазваляецца рабіць з мовай, не дазваляецца ў нас выраблядь з фізікай. Як вынік, на ўроках фізікі мы маем справу з навуковай дысцыплінай, а на ўроках мовы — з правільна ўстаўленымі літарамі і правільна расстаўленымі коскамі**

бел. мов. — з'ява статычная, як быццам без мінулага і дынамікі. Яна не дае ніякай магчымасці растлумачыць, чаму Скарына называў мову сваіх перакладаў «рускаю», а вось сучасны спецыяліст схільны лічыць яе старабеларускай. І апошняе: няхай новы падручнік напіша лінгвіст і зробіць гэта без дапамогі метадыстаў.

* * *

Усе папярэднія развагі былі прыведзены з адзінай мэтай. Укласці нам у галовы, што мову трэба **разумець**, а нас вучаць ёю **валодаць**. Падыход да мовы, які выпрацавала школа, нагадвае інструкцыю па карыстанні. Яна мала чым розніцца ад інструкцыі да пыласоса ці іншых бытавых прыбораў. Мовай мы мусім авалодаць, каб эфектыўна ёю карыстацца. Якія тут любоў і разуменне! Мы ж не любім і не намагаемся зразумець пыласос. Арфаграфія забяспечвае нам правільнае карыстанне мовай, але ніяк не разуменне. Можна колькі заўгодна цытаваць словы класікаў аб «роднай мове, цудоўнай мове», паўтараць у чарговы раз, што мова — гэта духоўны скарб народа, але да той пары, пакуль будзе прапагандавацца спажывецкае стаўленне да яе, ніякія цытаты і афарызмы не дапамогуць, яны заўсёды будуць гучаць дысанансам.

* * *

P.S. Мы ўсё пра беларускую мову… Між тым, рускую мову таксама шкада, бо спрэс адзін рус. яз.

# У ХОРЫ ТОЛЬКІ ХЛОПЦЫ



*Самыя юныя.*

***З'явіўся новы педагог — і ўсё ў гэтай навучальнай установе пайшло не так, як раней. «Старажылы» элітнай спецыялізаванай школы пры кансерваторыі (сённяшняя назва — Рэспубліканскі каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі) з цікавасцю заўважалі, як змянілася само асяроддзе іх навучальна-творчых будняў. Падчас перапынкаў між урокамі ў калідор шумна высыпала гурма хлапчанят у школьнай форме: шасцісямігадовыя гарэзы лёталі, скакалі, тузалі адно аднаго, як звычайная дзятва ў двары, што падавалася надта нязвыклым для тутэйшага «акадэмічнага» этыкету.***

Сапраўды, гэта было рэвалюцыйнае папаўненне для адносна нешматлікага кантынгенту навучэнцаў-музыкантаў, у якім традыцыйна пераважалі дзяўчаты. Школа ўпершыню правяла набор на новую спецыяльнасць і пачала рыхтаваць адораных хлопчыкаў да прафесіі харавых дырыжораў. Вось такім чынам у 1968 годзе вядомы педагог, энтузіяст Ігар Жураўленка, які прыехаў у Мінск з Расіі, стварыў унікальны спеўны калектыў — вядомую цяпер і далёка за межамі нашай краіны Капэлу хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ.

Ад першага «хатняга» канцэрта на школьнай сцэне — да гастрольных тураў па свеце і перамог на буйных міжнародных фэстах: заўважны скачок за 45-гадовую гісторыю. А як жа няпроста дасягнуць стабільнага мастацкага ўзроўню і падтрымліваць яго ў навучальным творчым калектыве! Уяўляеце? Пачаткоўцы хутка становяцца выпускнікамі, а тыя, што прыходзяць на змену, мусяць вучыцца «з нуля». Ды яшчэ ўзнікаюць спецыфічныя праблемы, звязаныя з узроставай мутацыяй хлапечага голасу... І ўсё ж тут назапасіўся прафесійны досвед, наладзілася пераемнасць творчага працэсу, склаліся свае традыцыі. Сфарміраваўся разнастайны і ёмісты рэпертуар — больш як 400 твораў айчыннай і замежнай музыкі. З Капэлай у розны час працавалі такія вядомыя хормайстры, як Ігар Мацюхоў, Уладзімір Глушакоў (дарэчы, адзін з першых выпускнікоў каледжа па гэтай спецыяльнасці), а сёння кіруе хорам таксама колішні гадаванец каледжа Павел Шэпелеў.

**Ёсць эталон — ёсць і стымул** для развіцця харавога выканальніцтва хлопчыкаў па ўсёй краіне. Прычым не толькі ды не столькі «з прыцэлам» на адпаведную прафесійную дзейнасць, а галоўным чынам дзеля папулярызацыі гэтай цудоўнай, распаўсюджанай па свеце, калектыўнай музычнай творчасці сярод аматараў. Тым болей, што для Беларусі такі від спеваў — традыцыя: кранальныя сваёй чысцінёю хлапечыя галасы спрадвек гучалі ў нас, напрыклад, падчас народных свят і гульняў, набажэнстваў у цэрквах і касцёлах, на свецкіх урачыстасцях, стваралі ўзнёслы вобраз у творах прафесійных кампазітараў. Чаму сучасныя хлапчукі выбіраюць хор? Яны адчуваюць у ім або сваё прафесійнае прызванне, або — змястоўную і высакародную альтэрнатыву бяз-

думнаму баўленню часу ў вулічнай (або віртуальнай, сеціўнай) кампаніі.

Дык вось, пяць гадоў таму Беларускі саюз музычных дзеячаў, Асацыяцыя кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў БСМД задумалі разам з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй, Рэспубліканскім каледжам пры БДАМ, а таксама БРСМ правесці новае свята. Тое першае міжнароднае свята хароў хлопчыкаў «Галасы сяброў» сабрала 11 калектываў (каля 400 юных спевакоў), якія прадстаўлялі Беларусь, Літву, Нарвегію. Ладзілася яно з высакароднай мэтай прапаганды жывога музычнага мастацтва, сцвярджэння ідэалаў творчасці, міру і сяброўства. Гучанне хору хлапечых галасоў — то ўзнёслых, то лірычна-пранікнёных, то гарэзлівых — захапляе, расчульвае, паляпшае настрой і самаадчуванне. Нездарма юных спевакоў шчыра прымалі падчас творчых сустрэч і канцэртаў, што праходзілі не толькі ў Мінску, але і ў школах-інтэрнатах для хворых дзетак у Маладзечне, у Івянецкім дзіцячым доме, у псіха-неўралагічным дыспансеры ў Навінках, у пасёлку Вішнёўка для дзяцей перасяленцаў. А яшчэ спанатранай сталічнай публіцы запомніліся госці. Літоўскі хор Dagilelis паказаў не толькі высокі клас дзіцячага харавога музіцыравання, але і прыклад самапавагі ў мастацтве — трапяткога стаўлення да сваёй нацыянальнай музыкі, чаго часам бракуе нам. Надзвычай уразіў Хор хлопчыкаў кафедральнага сабора Nidoros Domen (XII стагоддзе) з Нарвегіі — калектыў, які працягвае 900-гадовыя традыцыі мужчынскіх царкоўных спеваў і лічыцца адным з лепшых у свеце.

**«Хай бы наша** свята вырасла ў міжнародны фестываль, а, мажліва, і ў конкурс...», — дазволілі сабе тады трошачку памарыць мэтры харавога мастацтва. І што ж? Іх пажаданні ў нечым пачалі спраўджвацца. Сёлета адбыўся ўжо ІІ Рэспубліканскі фестываль хароў хлопчыкаў і юнакоў, у межах якога ладзіўся і конкурс. Арганізатары імпрэзы — Беларускі саюз музычных дзеячаў, яго Асацыяцыя кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў (сустаршыні А. Варлахін, Ю. Казакевіч, П. Шэпелеў), прадзюсарскі цэнтр БСМД «Класіка». Капэле хлопчыкаў пад кіраўніцтвам Паўла Шэпелева выпаў гонар абвясціць пачатак свята і адмыслова адзначыць сваё 45-годдзе, выступіўшы з канцэртам у Полацкім Сафійскім саборы. А ў Мінску разгортвалася конкурсная інтрыга. Праслухоўванні калектываў праходзілі ў ДМШ № 2 імя М. Аладава. Высокая арганізацыйная культура, па-армейску дакладная дысцыпліна за кулісамі конкурсу, выхаванасць спаборнікаў уразіла кіраўніцтва школы, якое, прызнацца, шчыра сумнявалася, ці не пацерпіць далікатнае школьнае памяшканне ад небывалага нашэсця: 400 хлопцаў «свавольнага» ўзросту!

Што атуляе і родніць іх падчас выступлення? Урачыстая ўсхваляванасць. Жывы дух натхнення. Усведамленне агульнай творчай задачы. А яны ж такія розныя! Хор хлопчыкаў і юнакоў «Каравэла» пад кіраўніцтвам А. Варлахіна (Мінскі дзяржаўны палац дзяцей і моладзі) прымае ўсіх ахвотных, нават без музычнага слыху (гэтак званых «гудошнікаў»). На занятках хлапчукі вывучаюць сальфеджыа і гісторыю музыкі, спяваюць у вакальных ансамблях. Аснова рэпертуару — апрацоўкі народных песень і твораў сучасных кампазітараў, ёсць і музыка царкоўная, бо «Каравэла» — актыўны ўдзельнік міжнародных фестываляў духоўнай музыкі, адзначаны дыпломамі. Сталічны хор «Красавік» (кіраўнік Таццяна Сільчанка) створаны ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе № 13. Спяваюць у ім хлопчыкі ды юнакі з 3-га па 9-ы класы. Асаблівая ўвага надаецца творам без суправаджэння. «Красавік» удзельнічае ў школьных і гарадскіх імпрэзах, мае дыпломы міжнародных фестываляў з Польшчы і Расіі. Навучэнцы малодшых класаў духавога і народнага аддзяленняў Слуцкай ДШМ наведваюць хор хлопчыкаў, якім кіруе Галі-

***Міхась ДРЫНЕЎСКІ, народны артыст Беларусі, прафесар, старшыня праўлення БСМД, старшыня конкурснага журы:*** *— Народ згаладаўся па сапраўднай культуры. Людзі стаміліся ад той «прадукцыі», якой засмечаны эфір. Яны хочуць нармальнай жывой музыкі. Хор — астравок нашага менталітэту, нацыянальнай творчасці, песеннай культуры, якая павінна пашырацца. І нішто так не злучае, як мастацтва, тым больш — харавое. Яно — як залаты мост сяброўства між людзьмі: тымі, хто спявае, і тымі, хто слухае.*



*Канцэртны хор пад кіраўніцтвам Юрыя Казакевіча, салісты Глеб Данілаў і Леанід Данілюк.*

на Бруй. Хор — заўсёднік мерапрыемстваў горада і раёна, а пры садзейнічанні БСМД, далучыўшыся да праграмы па прапагандзе харавой дзіцячай творчасці, выступаў у канцэрце папулярнага абанемента сталічнай філармоніі «Спяваюць хлапчукі».

Калектыў «Пеўнікі» Маладзечанскай ДШМ створаны па ініцыятыве яго кіраўніка Вольгі Бялько, нараджаўся як вакальны ансамбль, а пасля ўдалага дэбюту на гарадскім конкурсе патрыятычнай песні на аснове ансамбля быў арганізаваны хор хлопчыкаў. І вакальная група, і хор удзельнічаюць у канцэртным жыцці, адзначаны міжнароднымі конкурснымі ўзнагародамі, з Латвіі хлопцы прывезлі спецыяльны прыз фэсту «Sudraba zvani» за самае артыстычнае выступленне.

Ёсць «Пеўнікі» і ў Брэсце — Узорны хор хлопчыкаў і юнакоў Гарадскога Дома культуры. Самы шматлікі сярод сёлетніх канкурсантаў: больш як 100 удзельнікаў! Яго кіраўнік Алег Нярода дзеля найбольшага далучэння дзяцей да духоўна-эстэтычнага выхавання праз музыку і супольныя спевы стварыў пры хоры студыю, дзе з першых класаў хлопчыкі знаёмяцца з асновамі прафесійнага навучання музыцы і спевам. «Пеўнікі» адзначаны на многіх конкурсах, выступаюць з канцэртамі ў гарадах Еўропы, гэта сталы творчы асяродак для правядзення абласных семінараў па праблемах вакальна-харавой культуры.

Малодшы хор хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ быў арганізаваны разам з Капэлай. Калектыў, якім сёння кіруе выхаванец каледжа, выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ю. Казакевіч, мае на мэце падрыхтоўку самых юных музыкантаў да далейшай навучальна-творчай дзейнасці ў Капэле хлопчыкаў. Канцэртная актыўнасць гэтых дзетак навідавоку: выступленні ў філармоніі, у сталічных музеях... Спяваюць і нашы народныя песні, і ўзоры барока, і класіку еўрапейскага музычнага рамантызму, і сучасныя творы.

**Сімвалічна,** што апафеоз фестывалю праходзіў у філарманічнай Малой зале, якая носіць імя патрыярха беларускай харавой культуры Рыгора Шырмы. Журы абвясціла вынікі конкурснага праслухоўвання. Галоўныя ўзнагароды размеркаваліся так: у намінацыі «Дзіцячыя хары хлопчыкаў» на 1-м месцы — Малодшы хор хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ, у намінацыі «Хары хлопчыкаў і юнакоў» 1-е месца заняў хор «Пеўнікі» ДШМ Маладзечна. Дыпломы лаўрэатаў 2-й і 3-й ступеней атрымалі ў сваіх намінацыях хары хлопчыкаў ДШМ Слуцка і мінскай СШ № 19, сталічная «Каравэла», узорны хор «Пеўнікі» ГДК Брэста, «Красавік» СШ № 13 Мінска, хор «Галасы сяброў» мінскай Дзіцячай музычна-мастацкай школы мастацтваў № 1.

Трапяткая малітва Ave Maria Дж. Качыні, узнесеная натхнёнымі галасамі камернай групы Капэлы і саліста Уладзіслава Вітушкі — лаўрэата сёлетняга Рэспубліканскага конкурсу юных вакалістаў імя Ф. Шаляпіна; суровы марш «Прощание славянки» ў выкананні «Каравэлы»; хрэстаматыйны запіс Г. Цітовіча «Із далекіх із краёў йшлі салдацікі дамоў», перачытаны «Красавіком»; жартоўныя абразкі «Быстра вадзічка» і «Як суседава кабыла» з дасціпным дэфіле брэсцкіх «Пеўнікаў»... Шыкоўны харавы букет з яркіх канцэртных нумароў цешыў і слых, і зрок. А вянчаў праграму Канцэртны хор Асацыяцыі кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў БСМД. Аб'яднаным калектывам, які размясціўся і на сцэне, і ў зале, дырыжыраваў Ю. Казакевіч. Родным словам, душэўным распевам атуляла ўсіх прысутных песня Г. Струвэ «Беларусь мая».

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ,***
***фота аўтара***

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# БЫЛІ КРЫНІЦЫ СІНІЯ...*

## *Сентыментальная хроніка*

### Частка першая

### ГАСПАДАР ТАЙГІ

Бліжэй да абеду патэлефанаваў Гаспадар тайгі. Так яго называў за вочы яго бліжэйшы сябар і былы аднакласнік, з якім яны выпускалі рукапісны часопіс, дзе змяшчаліся вершы і артыкулы на беларускай мове з ліку тых, што не надта стасаваліся з афіцыйным друкам. Гаспадар тайгі любіў успамінаць, як за гэты часопіс іх цягалі ў розныя ўстановы, і цытаваў верш свайго сябра, надрукаваны там:

Парыж не бачыў я ніколі
І ад таго чарніла п'ю.
Сяджу на прызбе і пяю:
Парыж не бачыў я ніколі
І ад таго чарніла п'ю.

Між тым, Гаспадар тайгі быў намеснікам галоўнага рэдактара мясцовай газеты і адначасова загадчыкам аддзела партыйнага жыцця.

Высокі, з рудаватай барадой, са змрочным позіркам з-пад густых броваў, ён быў падобны да бабелеўскага біндзюжніка і, напэўна, ведаючы пра гэта, часта намякаў на сваё цыганскае паходжанне, бо падобнасць на бабелеўскіх герояў нічога добрага ў лёсе тады не абяцала.

Мы з ім пазнаёміліся, калі я яшчэ працаваў у полацкай газеце «Сцяг камунізму», і сышліся на любові да Караткевіча, Бітлоў і Мулявіна.

— Якубавіч, — націскаючы на мяккае «ч», пачаў размову Гаспадар тайгі, — напішы верш пра партыю. Дзірка ў паласе, а закрыць няма чым.

Гэта ён першы пачаў зваць мяне Якубавічам, і з яго лёгкай рукі блізкія сябры мяне так часцей за ўсё і называлі.

— Аляксеевіч, — у тон яму вінавата адказаў я, — не ўмею я пра партыю, — баючыся, што Гаспадар тайгі ўсё ж угаворыць. — Давай лепш пра суботнік на ўстаноўцы «Палімір-50» напішу.

З партыяй у вершах у мяне сапраўды нічога не атрымлівалася, хаця воляй лёсу камуністам я стаў у дваццаць два гады. Калі пасля работы грузчыкам на заводзе шкловалакна ўладкоўваўся карэктарам у полацкую газету, трэба было станавіцца на камсамольскі ўлік у гарвыканкаме. А ў той дзень у арганізацыі праводзіўся справаздачна-выбарчы сход, і мне як навічку спіхнулі пасаду сакратара. І хоць гэта было не ўзгоднена з вышэйстаячымі таварышамі, я стаў на доўгія важаком маладых выканкамаўскіх служачых.

Далей — болей. Быў аб'яўлены курс на партыйную праслойку ў камсамоле, і на адным з пленумаў сакратар гаркама назваў сярод першых кандыдатаў на ўступленне ў слаўныя партыйныя рады і маё прозвішча.

Не скажу, каб надта ўзрадаваўся, і не зману, што моцна супраціўляўся. Чалавекам я быў законапаслухмяным, цалкам савецкім і цудоўна разумеў, што калі хачу быць журналістам, рана ці позна трэба вызначацца.

Праўда, калі прыйшоў з заявай у гарком партыі, адбылася невялікая замінка.

Справа ў тым, што ў заяве я працытаваў радкі Булата Акуджавы пра «камісараў у пыльных шлемах» і запэўніў, што сваім жыццём і творчасцю абавязуюся спрыяць ажыццяўленню высокіх камуністычных ідэалаў.

* Часопісны варыянт.

— Трэба перапісаць, — заявіў інструктар. — Пішацца так: статут прызнаю і абавязуюся выконваць.

— Хай будзе па-ягонаму, — паглядзеўшы паперу і ўбачыўшы маё замяшальніцтва, сказаў загадчык аргаддзела. — Гэта ж творчыя людзі, у іх усё па-свойму.

Так я стаў камуністам, і хоць мне гэта вялікіх пераваг перад іншымі не прынесла, спраўна плаціў узносы, хадзіў на сходы аж пакуль КПСС не загадала доўга жыць.

* * *

— Ну ладна, што з табой зробіш, — расчаравана прамовіў Гаспадар тайгі. Не забыўся? — Сёння «Крыніцы»!..

## АД «САВЕЦКАГА ПАШПАРТУ»…

Літаб'яднаннем «Крыніцы» пасля ад'езду былых кіраўнікоў — аднаго ў Віцебск, другога — у Мінск кіраваў Юрась Васільевіч, хударлявы, з пшанічнымі казацкімі вусамі, аўтар папулярнага ў мясцовых колах верша «Бульбонія», першыя радкі якога гучалі прыблізна так:

Завуць мой край Бульбоніяй,
А беларусаў — бульбашы.
Так крыху быццам бы з іроніяй,
А я скажу вам ад душы,
Што краем гэтым ганаруся,
У рад з другімі смела стаўлю,
Заву ад сэрца Белай Руссю,
І вершамі, і песняй слаўлю.

Тады гэтыя радкі гучалі амаль як дысідэнцтва. Наваполацк ганарыўся, што ў ім жывуць людзі амаль васьмідзесяці нацыянальнасцей, тут выходзіла адзіная ў БССР мясцовая газета на рускай мове, і пра беларусаў, тым больш, пра мову згадваць лічылася дрэнным тонам. Хаця абсалютная большасць насельнікаў маладога горада паходзіла з бліжэйшых Полацкага, Глыбоцкага, Міёрскага, іншых раёнаў Віцебшчыны.

Юрась якраз быў з Глыбоччыны, працаваў напачатку зваршчыкам на заводзе жалезабетонных вырабаў і — дзіва на той час — заўсёды карыстаўся беларускай мовай.

Напачатку літаб'яднанне пры газеце «Химик» мала чым адрознівалася ад полацкага «Наддзвіння», куды я прыйшоў разам з сябрамі ў свае васямнаццаць гадоў, — пара школьнікаў, пара пенсіянераў, некалькі яўных графаманаў, мясцовыя «карыфеі», што мелі ўжо свае рэдкія публікацыі ў мясцовым друку.

Я пасля таго, як «Химик» надрукаваў маю першую подборку вершаў, доўга не паяўляўся на «Крыніцах», бо вёў, працуючы ў газеце, разам са старэйшым сябрам, адказным сакратаром полацкай газеты «Сцяг камунізму», работу ў «Наддзвінні». Наваполацкімі літаратарамі я быў даволі прыхільна сустрэты. Пісаў ужо толькі па-беларуску, і такім чынам, прыхільнікаў беларускага слова ў «Крыніцах» паболела.

У той вечар на «Крыніцы» прыйшлі новыя людзі.

Адзін — высокі, хударлявы, са светлымі даўгаватымі валасамі — назваўся выкладчыкам нямецкай мовы Наваполацкага політэхнічнага інстытута. Назавём яго тут Лёня Запалоцкі, бо родам хлапец аказаўся з полацкага Запалоцця. На добрай беларускай мове ён расказаў пра сябе: што скончыў з медалём школу ў Полацку, вучыўся ў Мінску ў інстытуце замежных моў, захапляецца перакладамі.

— Маякоўскі. «Слова пра савецкі пашпарт», — аб'явіў хлопец.

Двое маладзёнаў захіхікала. Гэта былі Мацюс і Анёлак — яны заўсёды любілі пахуліганіць, пасмяяцца, асабліва з тых, хто піша на мове. Хто тады мог уявіць, што Анёлак стане адным з першых беларускіх бардаў.

Маякоўскі прагучаў па-беларуску даволі ўдала.

— А яшчэ што-небудзь з іншых моў ёсць? — папытаў з месца Гаспадар тайгі.

— Ёсць, — спакойна адказаў хлопец і пачаў чытаць пераклады на беларускую з Гейне, Шылера, Гётэ…

Усе былі прыемна ўражаны.

— А можна я яшчэ аднаго перакладчыка прывяду? — акрылены поспехам, запытаў маладзён. — Ён нават з фінскай перакладае.

— Здаецца, я ведаю такога, — азваўся Гаспадар тайгі. — Але ён, па-мойму, не на беларускую перакладае.

— Ужо на беларускую, — засмяяўся хлопец.

Потым вершы чытаў Мацюс:

«Я люблю смотреть, как умирают лошади», — галасіў ён.

Анёлак радасна запляскаў.

— Сяргей, ты ж пісаў: «Грянула двустволка, и волк закрыл усталые глаза». І далей — што ні ў кога ад спагады не скацілася сляза. Значыць, ваўка ты шкадуеш, Мацюс жа радаваўся б, — засведчыў Юрась.

— Мае права! — парыраваў Анёлак. — Галоўнае, каб ярка было напісана.

Мне хлопцы падабаліся, нягледзячы на ўвесь іхні эпатаж. Яны ведалі літаратуру, прычым, добрыя яе ўзоры, і стараліся пісаць ярка і па-свойму.

Не падабалася толькі іронія ў адносінах да тых, хто піша па-беларуску. Але гэта, як той казаў, быў яшчэ не вечар.

## ВАЖНАЯ ДАМА

Тым часам на працы мяне чакала даволі суровае выпрабаванне. Сакратар парткама з вечнай цыгарэтай у тонкіх даўгіх пальцах паведаміў:

— Заўтра да нас прыбывае вельмі важная дама з Масквы. Яе візіт узгоднены з сакратаром ЦК КПБ. Будзеш суправаджаць яе разам з загадчыкам аддзела прапаганды нашага гаркама. Не пакідаць ні на хвіліну! Гэта загад.

«Нічога сабе, — падумаў я. — А навошта аж двое суправаджаючых?»

Дама аказалася даволі праставатага выгляду, з вялікім кірпатым носам і шырокімі скуламі. Гаварыла ўпэўнена, загадным тонам.

— Я толькі што прыехала з Тбілісі, брала інтэрв'ю ў першага сакратара ЦК. Цяпер вось да вас, ваш сакратар ЦК са мной не змог паехаць, але машыну выдзеліў. З Мінска — да Масквы, а з Масквы — да вашага Наваполацка.

Па яе словах яна працавала ў «Литературной газете» палітычным аглядальнікам. Шчыра кажучы, яе прозвішча мне мала што гаварыла, хаця «Літаратурку» я чытаў рэгулярна і прозвішчы многіх журналістаў добра ведаў.

Мы з загадчыкам аддзела гаркама доўга слухалі пра яе сувязі, пра паездкі па нацыянальных рэспубліках.

— У вас, слава Богу, нет национализма, — «вещала» яна. — Не то, что на Украине! Там даже в ЦК всё по-украински написано. Город у вас уж очень какой-то маленький. Мы проехали — всего одна улица.

Гэта «вуліца без канца» была прадметам гонару навапалачан, і фанабэрыстасць госці, я бачыў, непрыемна закранула гаркамаўскага чыноўніка. Але ён змоўчаў.

Між тым Антаніна Барысаўна, так звалі журналістку, відавочна нікуды не спяшалася. Яна папрасіла знайсці ёй даведкі пра горад і «Палімір» і прынесці ў спецыяльна выдзелены для яе работы кабінет намесніка сакратара парткама.

Так прайшло два дні. Мы з гаркамаўскім чыноўнікам сустракалі жанчыну у гасцінічным холе, везлі на парткамаўскай машыне на «Палімір», дзе яна працягвала чытаць папкі.

— Ведаеце што, — заявіў на трэці дзень мой напарнік. — Вы тут павартуйце, а я на работу паеду, устыла мне гэтае дзяжурства, сіл няма. А вечарам яе сёння ў лазню сакратар гаркама павязе.

Сакратар гаркама па ідэалогіі была важная кабета з пышным шыньёнам на галаве, і я на момант уявіў, як дзве дамы будуць парыцца ў лазні.

На наступным тыдні госця заказала паездку ў Вільнюс. Начальнікі доўга рашалі, на якой машыне яе туды везці, урэшце вырашылі, што на паліміраўскай.

Больш нічым Антаніна Барысаўна не запомнілася. Месяцы праз два пасля яе ад'езду я знайшоў у «Літаратурцы» маленькую, радкоў сто, заметку «Молодой город над Двиной», якая слова ў слова пераказвала змест адной з даведак, што мы з партыйным чыноўнікам перадавалі сталічнай журналістцы.

## НЕДАПІСАНЫ НЕКРАЛОГ

Загадчыкам кабінета палітасветы ў парткаме працаваў былы камсамольскі сакратар будаўнічага трэста Вікенцій. Адчувалася, што работа гэтая яму не вельмі падабалася, ды і ў начальства ён меў рэпутацыю нефар-

мала, чалавека не надта надзейнага і не сур'ёзнага.

Не раз сакратар парткама рабіў Вікенцію заўвагі за тое, што той мог прыйсці на працу ў джынсах, што чытаў на рабочым месцы братоў Стругацкіх, іншую, зусім не партыйную літаратуру.

Вікенцій быў заядлым рыбаком і аматарам збіраць грыбы і ягады. Жонка яго працавала выкладчыцай у музычным вучылішчы, дзе сярод яе калег таксама было нямала аматараў лясных падарожжаў, з якімі Вікенцій вадзіў сяброўства і часта на іх машынах адпраўляўся ці на рыбу, ці ў грыбы.

…Была позняя восень. Аматары збору журавін выязджалі на Міёрскія балоты, дзе ягады былі асабліва буйныя. Праўда, слава пра гэтыя балоты была нядобрая: людзі часта прападалі, здараліся і бандыцкія напады, а то і твань зацягвала неасцярожных.

Вікенцій з сябрам выпраўляліся на адзін дзень. Прычым, каб раней вярнуцца, выехалі прыцемкам, амаль ноччу. Гэта было ў суботу. А ў панядзелак Вікенцій не прыйшоў на работу.

Жонка са слязамі ў голасе паведаміла, што ніякіх звестак ад сяброў няма і што за два дні можна было з'ездзіць у Міёры і назад разоў дзесяць.

Мы не ведалі, што рабіць. Мабільнікаў тады не было, давялося абмяжоўвацца міжгародняй тэлефоннай сувяззю. З Міёр адказвалі, што ніякіх надзвычайных здарэнняў за выхадныя не выяўлена. Парткамаўскія дзяўчаты з круглымі вачыма згадвалі жудасныя выпадкі, якія здараліся ў Міёрскіх балотах.

Пасля абеду мяне выклікаў сакратар парткама:

— Ведаеш, прыйдзецца табе некралог пісаць. Вазьмі ў аддзеле кадраў даведку, пашукай нейкія цёплыя словы. Вы ж, здаецца, у добрых адносінах былі.

Заданне, канешне, было не з простых. На некралогах я яшчэ не спецыялізаваўся. Тым больш па равесніку, якому не было і трыццаці.

Разлажыўшы паперы, пачаў нешта сачыняць.

Без пяці пяць зазваніў прамы тэлефон.

— Адставіць некралог, — правуркатаў начальніцкі бас. — Звоніць жонка гэтага, каго мы ў нябожчыкі ледзь не запісалі, кажа — бачыць праз акно, ідзе дадому наш Вікенцій.

Назаўтра Вікенцій, прыйшоўшы на працу, неадкладна быў выкліканы да начальства, адкуль выскачыў увесь чырвоны.

— Вымову адхапіў, — чамусьці шэптам паведаміў ён, — а так жа добра з'ездзілі!

Аказваецца, машына іх застрала ў балоце. Хадзілі пешшу да суседняй вёскі. У паселішчы трактара не было. Машыну на руках выцягнулі на сухое месца, а гасцей павялі начаваць. Трактара чакалі двое сутак. Увесь гэты час падарожнікаў кармілі, паілі, вялі доўгія з імі гутаркі.

— Такія цудоўныя людзі, — захапляўся Вікенцій, — аж ад'язджаць не хацелася.

І дадаваў:

— Але шкада, што ты некралог не дапісаў. Цікава было б пра сябе харошыя словы пачытаць.

### «ЛІСТ ДА СЫНА»

Між тым пасяджэнні «Крыніц» станавіліся ўсё цікавей. І ў многім дзякуючы Гаспадару тайгі. Ён прыводзіў на іх сваіх сяброў, сам шмат чытаў з напісанага, а гэта была цікавая проза, у якой, безумоўна, адчуваўся ўплыў Караткевіча, але гучалі і свае, сучасныя ноткі, у якіх ужо больш было ўплыву літаратуры заходняй.

Паступова нефармальнае лідарства Гаспадара тайгі стала вызначальным, і з гэтым быў згодны і сам Юрась.

Аднойчы на пасяджэнне прыйшла маладая дзяўчына з лёгкай картавінкай і сарамлівым румянцам. Доўга расказвала пра сябе, а працавала яна бібліятэкарам у будаўнічым трэсце, пакуль нехта не выгукнуў:

— Дык чытай ужо!

Глыбачанка пачала чытаць. Першае апавяданне, здаецца, называлася «Астудзі маё сэрца», а другое — «Ліст да сына». Сюжэт яго быў такі: дарослы сын чытае ліст ад маці, якой ужо няма на свеце. Паміраючы, маладая жанчына пакінула ліст, каб яе маленькі сынок, стаўшы дарослым, прачытаў і запомніў яе запавет.

А запавет гэты быў — любіць Радзіму, родную мову, ведаць слынных людзей з гісторыі краю…

Гэта ўжо была пазіцыя. Пазіцыя, якая паступова станавілася пазіцыяй большасці «крынічан», якую потым назвалі адраджэнскай. З якой у свет прыходзіла новае пакаленне патрыётаў, не схільных да фарысейства і прыстасаванства.

Цікава, што гэта адбывалася ў самым інтэрнацыянальным горадзе Беларусі, дзе практычна нішто не нагадвала, што гэта беларуская зямля: ніводнай шыльды на беларускай мове, практычна толькі адна трацiна з кожнага школьнага класа вывучала яе… Пройдзе час, і Наваполацк стане першым горадам, у якім адкрыецца беларускамоўны клас, мова загучыць на афіцыйных імпрэзах… І ў гэтым будзе заслуга і той глыбоцкай дзяўчыны, якая напісала свой шчымлівы «Ліст да сына».

## «ВЯЛІКІ БЕЛЫ БАЦЬКА»

Сёння ён паспяховы бізнесмен, а ў тыя гады быў не менш паспяховым камсамольскім функцыянерам. Але што яго цягнула да маладых беларускамоўных творчых людзей, застаецца загадкай і сёння. Ва ўсякім разе, не імкненне выслужыцца, бо такія стасункі ў захапленне начальства не прыводзілі.

Але першы сакратар гаркама камсамола, затым яшчэ большы начальнік у партыйных і савецкіх органах прыхінуўся да «крынічан», садзейнічаў стварэнню клуба творчай моладзі «Маладзік», быў актыўным яго ўдзельнікам.

Разам з намі ён аб'ездзіў амаль усю Беларусь. Мы пабывалі ў Нясвіжы і Навагрудку, Гародні і Мсціславе, Смольні і Альбуцi, Вязынцы і Ракуцёўшчыне, куды тады яшчэ ніхто не вазіў ніякіх экскурсій, нават у Пушкінскія горы ездзілі. Паколькі гэтыя паездкі ішлі пад шыльдай «Патрыятычнае выхаванне», то камсамольскі кіраўнік паспяхова выбіваў грошы на транспарт.

Па іроніі лёсу «маладыя дэмакраты» скінулі ў дзевяностыя яго з пасады як партакрата, але гэта было потым.

А тады ён разам з намі спасцігаў не вядомыя дагэтуль старонкі гісторыі роднага краю, вучыў і спяваў беларускія народныя песні, чытаў беларускіх класікаў.

Пры яго садзеянні ў горадзе адбылося нямала цікавых сустрэч з пісьменнікамі, вучонымі, артыстамі.

«Ты наш вялікі белы бацька», — часта гаварыў яму жартам Гаспадар тайгі, а ён толькі ўсміхаўся ў адказ.

## ДАКЛАД ДЛЯ ГЕРОЯ

На працы мяне ўсё больш загружалі напісаннем розных артыкулаў, даведак, выступленняў. Здаралася, што і Леў выклікаў да сябе.

— Посмотри, пожалуйста, — па-волжску «окая», гаварыў ён. — Меня тут статью для «Советской Белоруссии» попросили написать. Вот, понимаешь, начал, а закончить времени нет. Бери референта, пусть тебе фактиков подбросит.

І ён працягваў мне стосік папер. На першай рукой дырэктара было выведзена: «Полимиру — десять лет». І больш — ні радка, ні слова.

Што ж, даводзілася «заканчваць».

У той час, паколькі партыя наша была партыяй рабочага класа, нямала было вылучана актывістаў сярод рабочых. Яны бясконца ўдзельнічалі ў розных мітынгах і дэманстрацыях, пленумах і пасяджэннях. Як правіла, за іх у гэты час нехта мусіў выконваць іх непасрэдныя функцыі, і паступова некаторыя ператвараліся ў, так бы мовіць, прафесійных актывістаў, якія для астатніх станавіліся сімвалам перадавога рабочага класа.

Сярод такіх быў і адзін слесар, назавём яго Сідараў, які нават званне Героя Сацыялістычнай Працы атрымаў.

Высокі, стройны, нібыта сышоў з плаката, ён любіў белыя касцюмы і часам даволі дзіўна глядзеўся, калі спешна крочыў да прахадной з рабочага месца на чарговую імпрэзу. Ну, і, безумоўна, калі гэтак жа спешна пераапранаўся ў рабочую спяцоўку, бо на прадпрыемства мусіла прыязджаць тэлебачанне або фотакары з цэнтральных газет.

Аднойчы выклікаў мяне сакратар парткама і паказаў паперу з грыфам «ЦК КПСС». У Маскве павінен быў прайсці з'езд перадавых рабочых краіны пры ўдзеле самога

Генеральнага сакратара ЦК КПСС. Сярод выступоўцаў значыўся і наш Сідараў.

— Разумееш, канчатковую рэдакцыю выступлення яму ў Маскве зробяць. Там у ЦК паглядзяць, ды і журналісты дапамогуць, калі трэба. Але з першапачатковым тэкстам ён павінен ужо быць. Так што на цябе кладзецца адказная задача — падрыхтаваць выступленне Героя. Тэрмін — тыдзень, памер — да дзесяці хвін. А гэта дваццаць старонак машынапіснага тэксту.

— А дзе фактуру ўзяць? Ці, можа, ён нагаворыць мне пра тое, што хацеў бы сказаць у Маскве?

Сакратар парткама толькі ўсміхнуўся:

— Ну-ну !.. Ён табе паможа. Бяры газеты, даведкі, пішы!

Я хоць ужо, здаецца, і прывык да падобных заданняў, унутрана разззлаваўся. Хай бы, думаў, папрасіў Сідараў памагчы, сам бы хоць звярнуўся. Але не, бачыце, загад зверху…

На другі дзень Сідараў, як звычайна ў белым касцюме, зазірнуў у мой сціплы кабінет.

— Ну як? — павітаўшыся, спытаў. — Пішаце ўжо?

— Ды вось рыхтуюся. Можа ў вас якія прапановы ёсць?

— Ай, якія там прапановы? Вы спецыяліст, вы і думайце!

І захлопнуў дзверы.

Я не ведаў, што рабіць. Тэрмін ішоў, а ў галаве ў мяне нешта не складвалася гэтае клятае выступленне.

Яшчэ праз дзень раздаўся званок.

— Ну як поспехі? — пачуў я бадзёры голас Сідарава. — Калі зайсці за выступленнем?

— Ну, яшчэ трэба пачакаць, — пачаў было я, але Сідараў раздражнёна перабіў:

— Нічога не хачу знаць. Вы атрымалі заданне. Каб да пяці вечара ўсё было гатова!

Мяне калаціла. Крыху супакоіўшыся, пайшоў да сакратара парткама. Барыс Іванавіч слухаў мяне, хаваючы вочы. Былы начальнік цэха, вопытны інжынер, ён, здаецца, добра мяне разумеў.

— Ладна, напішам, — урэшце сказаў ён. — Але ты ўсё ж не справіўся з заданнем. Глядзі, у наступны раз можа выйсці табе бокам.

А калі я ўжо падыходзіў да дзвярэй, раптам зарагатаў.

— Уяўляю рэакцыю нашага Героя. Такога ён не чакаў!

## «ТОЛЬКІ СЭРЦАМ ТРЫВОЖНЫМ ПАЧУЮ…»

…Вогнішча зырка сыпала іскры. Сілуэты дрэў, паважныя і мудрыя, нібы абступалі з усіх бакоў, як уважлівыя слухачы. Унізе, у самым канцы высокага стромага берага несла свае вечныя хвалі Дзвіна…

Купалле…

Не памятаю, хто першы прапанаваў на пасяджэнні «Крыніц» правесці разам купальскую ноч на беразе Дзвіны. Тады яшчэ да гэтага народнага свята не дакраналіся работнікі культуры, і святкавалі яго ў асноўным па вёсках, хто як мог: часцей хлопцы і дзяўчаты палілі старыя аўтамабільныя пакрышкі ды нараблялі шкоду пад раніцу на падворках аднавяскоўцаў.

Рашылі сабрацца на аўтобусным прыпынку каля моста праз Дзвіну. Кожны меў з сабой пакунак з няхітрай закускай: кавалак сала, хлеб з цыбуляй, бляшанка кансерваў, слоік марынаваных грыбоў. Не забыліся прыхапіць і нечага больш істотнага, без чаго адпачынак на прыродзе не ўяўляўся.

Ішлі пешкі праз мост. Доўга выбіралі месца, балазе правы высокі бераг ракі быў шчодры на ўтульныя паляны, некаторыя з якіх былі даўно аблюбаваныя аматарамі пасядзець ля вогнішча.

Каля моста стаялі дзве міліцэйскія машыны: ноч чакалася ажыўленая, бо ў маладым горадзе было нямала жадаючых адсвяткаваць Купалле на прыродзе.

Народу сабралася досыць ладна: быў, безумоўна, Гаспадар тайгі, яго былы аднакласнік, назавём яго Разумаў, бо ён быў рускі, сын вайскоўца. Увогуле Разумаў быў у школе вызвалены ад вывучэння беларускай мовы і ставіўся да яе досыць скептычна аж да выпадку, калі аднойчы на сметніку не знайшоў выкінутую некім тоненькую кніжачку з вершамі Максіма Багдановіча. Ён так захапіўся з першых жа прачытаных радкоў, што Багдановіч прыцягнуў яго да мовы, і праз кароткі час Віця Разумаў загаварыў па-беларуску.

Прыйшлі і Анёлак з сябрам, Глыбачанка, пышнавусы Юрась, чорнабароды Міхась з «Паліміра», паляшук Лявон…

Ніхто пакуль не ўяўляў, што такія купальскія вогнішчы стануць трывалай традыцыяй і на іх нават будуць з'язджацца госці з Мінска, Маладзечна, Віцебска…

Аказалася, што песень беларускіх мы ведаем няшмат. Забягаючы наперад, скажу, што недахоп гэты хутка выправіўся, і калі гавараць пра мяне, дык тым, што я ведаю дзвесце народных песень, у многім абавязаны менавіта крынічанскім сустрэчам.

Затое вершаў і песень пад гітару хапала. Чыталі свае і любімых паэтаў, спявалі Высоцкага і Акуджаву.

І тут Разумаў раптам ускочыў і на матыў «Марсельезы» высокім ломкім голасам заспяваў:

> Толькі сэрцам трывожным пачую
> За Радзіму вялікую жах,
> Ўспомню Вострую Браму святую
> І ваякаў на грозных канях…

І столькі было ў гэтых словах, так выразна і востра ў іх чуўся неспатольны боль і ў той жа час адчувалася нейкая святая сіла, што, здаецца, на гэтай дзвінскай строме з'явіліся цені старадаўніх продкаў, якія пільна ўглядаюцца ў нас сённяшніх і бязгучна пытаюцца «вы хто?». Нават верш такі ў мяне пасля нарадзіўся, а ў той момант я раптам адчуў, што я частачка гэтай зямлі, што яе мова — мая мова, яе лёс — мой лёс.

І неўзабаве над соснамі нашымі няроўнымі галасамі панеслася:

> Біце ў сэрцы іх, біце мячамі.
> Не давайце чужынцамі быць!
> Хай пачуюць як сэрца начамі
> Аб радзімай старонцы баліць…

## Частка другая

### «ПРАШУ ПАВЕРЫЦЬ»

Я стаяў у кабінеце рэдактара газеты, а перада мной сядзелі супрацоўнікі, знаёмыя і блізкія, з якімі не раз гутарыў па тэлефоне, сустракаўся на рэдакцыйных калідорах, калі прыносіў матэрыялы з «Паліміра».

Рэдактар, якога я раней заўсёды паважаў за дэмакратызм і ўвагу да маладых, які, зрэшты, аднойчы, некалькі гадоў таму, запрашаў мяне на працу, абвёў позіркам прысутных і сказаў:

— Вось тут Навум на пэўны час застаўся без працы. Мы прымем яго ў свой калектыў, калі ён перад усімі паабяцае, што вызваліць месца для выпускніка журфака, якога мы запрасілі да нас па размеркаванні.

На вуліцы быў студзень, а выпускнік журфака, калі прыедзе, павінен прыступіць да работы першага жніўня, тым не менш, у папярэдняй размове рэдактар сказаў:

— Я б узяў цябе, дарагі, на работу да лета, але ўчора пракансультаваўся з пракурорам. Ён сказаў, што калі я залічу цябе ў штат, то ты можаш не вызваліць месца, і я павінен буду шукаць прычыну, каб цябе звольніць.

— Ды я слова даю!

— Вось калі заўтра дасі слова перад усім калектывам, то будзе іншая размова.

Мне было прыкра і горка. Пачатак гэтай гісторыі складваўся нібыта добра: мае матэрыялы на беларускім радыё пра «Палімір» ішлі рэгулярна, іх заўважалі, хвалілі, і я наважыўся аднойчы звярнуцца да аднаго мінскага радыйнага начальніка, калі ён прыязджаў у Полацк, які ведаў ужо мяне па вершах, па ранейшых сустрэчах.

— Можа мне варта ўжо ў сур'ёзнай прафесійнай працы сябе паспрабаваць? У сталіцы шмат магчымасцей для росту і ў журналістыцы, і ў літаратуры.

— Што ж, прыязджай, будзем гаварыць, — сказаў ён мне і пацвердзіў сказанае апошні раз пасля таго, як прагучаў мой чарговы матэрыял і я датэлефанаваўся да яго па міжгароднім тэлефоне.

— Дык, можа, можна мне ўжо звальняцца з «Паліміра»? — папытаўся я.

— Гэта ты сам думай.

Шчыра кажучы, за чатыры гады працы на хімічным гіганце я парадкам прытаміўся: надакучыла бясконцая пісаніна даведак, дакладаў і выступленняў розным начальнікам, ды і, здаецца, шмат што ўжо напісаў пра хімікаў. Гігант гігантам, а ў штаце ўсяго пяць тысяч чалавек, і, здаецца, амаль кожнага я ўжо ведаў як аблупленага.

Ды і зарплата не надта радавала — рэдактару заводскага радыёвяшчання было паложана па раскладзе плаціць 120 рублёў у месяц — на парадак менш, чым атрымлівалі мае калегі, мясцовыя журналісты, не кажучы ўжо пра саміх паліміраўцаў, дзе звычайны рабочы меў не менш трох соцень.

Таму, акрылены словамі мінскага кіраўніка, падаў заяву і праз некалькі дзён прыехаў у сталіцу.

Там мяне чакала расчараванне.

— Ты пакуль пахадзі, а мы падумаем, куды цябе ўзяць, — прамовіў высокі начальнік, калі я трапіў да яго ў кабінет.

Добра сказаць — «пахадзі»!.. У Мінску мне элементарна не было дзе жыць. Спыніўся ў былой каляжанкі па полацкай газеце, якая жыла ў ваенным гарадку на ўскраіне Мінска.

У Наташы і Аляксандра было двое маленькіх дзетак, кватэра невялікая, і я адчуваў сябе ніякавата. Тым больш, што платы за пражыванне браць з мяне не хацелі.

А тут яшчэ назаўтра, калі я зноў прыйшоў на Чырвоную, раптам пачуў:

— А прапіска ў цябе ёсць? У аддзеле кадраў мне сказалі, што абавязкова трэба мінская прапіска.

Я аслупянеў. Дзе ж я вазьму тую прапіску? У мяне ж сям'я: жонка, дачка, сын, што толькі нарадзіўся. Хто ж нас у Мінску проста так прапіша?

— Дзіўна! — сказаў увечары Аляксандр. — Калі бяруць на працу, то і прапіску павінны арганізаваць. Што ж, паспрабую праз свайго прапаршчыка пашукаць табе гэтую прапіску ў Калодзішчах. Ды, відаць, аднаго толькі, бо прапісаць з сям'ёй — гэта нерэальна.

Я ведаў, што за пэўную мзду прыватнікі прапісваюць у сябе іншагародніх з умовай, каб яны сапраўднае жытло шукалі сабе ў іншым месцы.

Дзе ж мне браць гэтую мзду? На рабоце разлік атрымаў і амаль адразу ён разышоўся: жонка з малым сядзела ў дэкрэтным, і ў сям'і грошай было нягуста.

Але ўрэшце нічога мне плаціць не давялося, бо той прапаршчык чамусьці адмовіўся дапамагаць, і пасля двух тыдняў безвыніковага блукання па Мінску я вярнуўся дадому. Пастаянную работу страціў, а на іншую ніякіх перспектыў не праглядвалася.

Да таго ж, у мамы, відаць, не без перажывання за мяне здарыўся інсульт, і я, застаўшыся без працы, разгублены і расстроены, амаль кожную ноч дзяжурыў у бальніцы каля мамінага ложка. Адчуваў сябе, безумоўна, вельмі кепска.

І вось стаю перад сябрамі-журналістамі і клянуся, што вызвалю месца па першым патрабаванні…

## ПЕРШАЯ СПРОБА ФІЛАСОФСКАГА АДСТУПЛЕННЯ

*…Што чалавеку трэба? Чаму так шмат праблем і памылак? На каго і на што спадзявацца? Пытанні гэтыя крыху рытарычныя, бо ў кожнага ёсць свой адказ, кожны мае сваю праўду. Праз шмат гадоў нешта бачыцца больш спакойна, больш мудра.*

*Тым не менш, напэўна, усё адбываецца, як павінна было адбыцца, як падрыхтавана ўнутраным адчуваннем, нейкімі сакральнымі сіламі.*

*І тое, што мая Дзвіна, мая Полаччына не адпусцілі мяне тады, таксама, відаць, па-свойму заканамерна, бо, напэўна, яшчэ трэба было заслужыць давер роднай зямлі, права на тое, каб мець свой выбар, які аднachасова мае карысць і для сябе, і для свайго роднага краю.*

*Можна, канешне, шукаць нейкія прычыны, крыўдзіцца на канкрэтных людзей, але гэта шлях контрпрадуктыўны. У нейкі момант да мяне прыйшло разуменне, што ўсе прычыны трэба шукаць у сабе, што дараванне — вялікая прывілея людзей годных і мужных.*

*І тады адчуў, што, згадваючы мінулае, больш помню пра светлае і высакароднае, пра добрыя і шчырыя ўчынкі людзей. І хай спагады і дабрыні атрымліваў больш ад тых, ад каго не чакаў, хіба гэта не здарова? Значыць, колькі яшчэ мы не ведаем тых слаўных, шчырых і спагадлівых людзей, якія ёсць сярод нас! І няхай тыя, хто здрадзіў ці адступіўся, самі ацэньваюць свае ўчынкі, суяг ім у рукі!*

## УЛАСНЫ КАРЭСПАНДЭНТ

Я яшчэ не ведаў, уладкоўваючыся ў «Химик», што абяцанне сваё выканаю літаральна праз два месяцы.

Так сталася, што якраз у час маіх пакут і мітрэнгаў у Наваполацку вызвалілася месца ўласнага карэспандэнта Беларускага радыё. І гэтую пасаду прапанавалі… Юрасю, які працаваў у «Химику».

Да гэтага часу не ведаю, ці зразумеў Юрась, што дзякуючы яму вызначаўся мой лёс, бо калі б ён тады згадзіўся, невядома якім чынам пайшло б маё жыццё.

Але Юрась якраз парэкамендаваў на пасаду ўласнага карэспандэнта мяне, заўважыўшы, што я ўжо маю вопыт работы на радыё, што ў мяне ёсць жаданне працаваць у эфіры… Не ведаю, як яшчэ характарызаваў мяне мой калега, але з Мінска пачалася праверка, якую наладзіла мне служба ўласных карэспандэнтаў.

Штодзень я атрымліваў заданне падрыхтаваць тэкставы ці галасавы матэрыял для навін, аператыўна пераправіць яго ў сталіцу па правадах. Адначасова запытвалі характарыстыкі на мяне з «Паліміра», з гаркама партыі, магчыма, яшчэ ад адпаведных службаў, не ведаю.

Апошнім складаным момантам стала тое, што ў Дзяржтэлерадыё запатрабавалі не проста характарыстыку, а пісьмовую рэкамендацыю кіраўніцтва горада. І невядома, ці атрымаў бы я яе, каб не былы мой непасрэдны шэф — намеснік кіраўніка палімірскага парткама па ідэалогіі і ўсё той жа генеральны дырэктар прадпрыемства Леў Вітальевіч, якія настаялі, каб рэкамендацыю падпісалі першы сакратар гаркама і старшыня гарвыканкама.

І вось я ў тым жа высокім кабінеце ў Мінску, дзе рабіў ужо няўдалую спробу ўладкавацца, стаю перад тым жа самым кіраўніком.

І ён, выслухоўвае маіх будучых непасрэдных начальнікаў.

Толькі адзін раз, калі ў дадатак да слоў галоўнага рэдактара мясцовага вяшчання пра тое, што я пішу вершы і друкуюся ў перыядычным друку, ён, крыху ўсміхнуўшыся краямі вуснаў, сказаў:

— Пра гэта я ведаю. Чытаў.

Праз шмат гадоў на адной з сяброўскіх вячэр у цеснай кампаніі ён у маёй прысутнасці прызнаўся, што тады было вялікае супраціўленне таму, каб браць мяне на працу, што нямала «дабрадзеяў» адгаворвалі яго ад таго, каб я стаў супрацоўнікам Беларускага радыё.

Гэтых «дабрадзеяў» было ў мяне нямала і раней, і, зрэшты, пазней, але я на іх не крыўдую: даказваючы іх няправату, я меў стымул працаваць больш і лепш, чым патрабавалася, траціць часу больш на самаўдасканаленне, быць заўсёды патрабавальным да сябе.

Зрэшты ў Наваполацк я вярнуўся ўласным карэспандэнтам не проста рэспубліканскага радыё, але ўсяго Дзяржтэлерадыё, прычым не толькі па Наваполацку і Полацку, а па адзінаццаці раёнах Віцебскай вобласці.

Праца на гэтай пасадзе зацягнулася аж на шаснаццаць год. І, кажу шчыра, гэта быў вельмі шчаслівы час у маім жыцці.

## БРЫЛІ СА СЛАБОДКІ

Новымі абсягамі для маёй паўсядзённай дзейнасці стала Верхнядзвіншчына і Ушаччына, Глыбоцкі край, Міёршчына, Браслаўскі край. Як быццам чалавек, які выйшаў з замкнёнага пакоя, я на поўныя грудзі ўдыхаў вецер дарог, новыя цудоўныя ўражанні, наталяўся радасцю ад сустрэч з цікавымі людзьмі.

Старэнькі «Масквіч», які мне выдзеліла мая арганізацыя, хоць і патрабаваў пастаяннага рамонту, усё ж дапамагаў мне пабываць у многіх куточках Віцебшчыны.

Адну з першых паездак я зрабіў на Браслаўшчыну. Даўно хацелася пабываць у гэтым азёрным краі, пра які шмат чуў.

І тое, што ўбачыў, не толькі не расчаравала, але пакінула ўражанне на ўсё жыццё.

Здаецца, пасля пабываў шмат дзе, і ў Партугаліі на беразе Атлантычнага акіяна, і ў Кітаі на берагах Янцзы, і на Чарнаморскім узбярэжжы Балгарыі, але ў вачах і па сёння стаіць залаты пясочак ля возера Дрывяты, высокія ўтравянелыя ўзгоркі, на якіх размясціўся горад, мураваны касцёл, Замкавая гара…

Мой гід Кастусь, супрацоўнік мясцовага музея, аказаўся вельмі цікавым суразмоўцам. Сакавітая беларуская мова, безліч цікавых фактаў, пра якія ён распавядаў, былі для мяне як чароўная музыка.

— Паедзем у Слабодку, — прапанаваў Кастусь. — Там жывуць цудоўныя майстры, якіх вы яшчэ не бачылі.

Да гэтага я пацікавіўся цудоўнымі расфарбаванымі зробленымі з дрэва скульптурнымі кампазіцыямі: святы Юр'я забівае змея, багаты шляхцюк з пышнымі вусамі з шабляй едзе на кані…

— Гэта Пятро Зяляўскі са Слабодкі, — заўважыў Кастусь. — Вырабы са звычайнага палена. Між тым, у Парыжы на выстаўцы пабывалі…

Слабодка аказалася вялікай вёскай на беразе возера, з магутным чырвоным касцёлам у цэнтры.

Напачатку мы зайшлі да мясцовага народнага майстра Пятра Карэніка. Даволі моцны яшчэ дзядуля плёў брыль з саломы. На цвіку вісеў ужо гатовы — адмысловы, такі беларускі, такі прыгожы, які толькі на карцінках раней бачыў.

— Вось мастакі з Мінска, што адпачываюць на Браслаўскіх азёрах, заказваюць такія брылі. А гэта ж сапраўдныя шэдэўры — тое, што ён вырабляе, — прамовіў Кастусь.

Так нараджаўся мой захоплены рэпартаж пра народнага майстра. Падараваны ім тады брыль захоўваю і па сёння.

Забягаючы наперад, скажу, што праз год, калі я ў час чарговага наведвання вёскі папрасіў сплесці брылі для маіх дзетак, дзед Пятро Карэнік паставіў мяне ў чаргу, сказаўшы, што не спраўляецца так хутка ўсіх задаволіць.

Пасля таго майго рэпартажу слава пра майстра са Слабодкі хутка абляцела Беларусь, і ўжо ўся сям'я дзеда ўключылася ў работу, столькі пасыпалася заказаў адусюль. Аказалася, што дзедава майстэрства — выдатны бізнес.

Цяпер, калі я бачу на сцэне народныя калектывы, здымкі ў часопісах, на якіх красуюцца беларусы ў саламяных брылях, успамінаю дзеда са Слабодкі, які з маёй лёгкай рукі стаў адным з тых, хто адрадзіў для сучаснікаў гэты від нацыянальнага мастацтва.

## «У СОННЫХ ВОДАХ РЭЧКІ ГАЙНА»

Між тым у нашы «Крыніцы», якія я не пераставаў наведваць, пастаянна прыбывалі навічкі.

Першым з'явіўся Алег — прыгожы, інтэлігентнага выгляду хлапец, які, скончыўшы сельгасінстытут у Маскве, прыехаў да сястры ў Наваполацк ды і застаўся, зняўшы кватэру ў завулку ў Запалоцці ў Полацку, побач з Сафійскім саборам.

Першыя вершы, якія ён прачытаў на «Крыніцах», былі вельмі, кажучы сённяшняй мовай, гламурныя: «заезжий музыкант, он дело знает, откроет он футляр и шляпу — на цемент»…

Але літаральна ў наступны раз Алег раптам стаў чытаць па-беларуску: «доўга, доўга без ветразя плыў наўздагад…». Такім чынам, з'явіўся яшчэ адзін цікавы беларускі паэт, пазнейшыя кнігі якога выклікалі ўхвальныя рэцэнзіі самых знакамітых беларускіх крытыкаў.

І яшчэ адзін — маленькі, худзенькі, у акулярах, амаль хлапчук, прыехаў размеркаваны з Наргаса ў бухгалтэрыю будаўнічага трэста. Размеркаванне ён сам папрасіў у Наваполацкі будаўнічы трэст менавіта таму, што ведаў пра «Крыніцы» і хацеў быць сярод нас.

Яго сур'ёзнасць не надта стасавалася з выглядам маладога шпачка, і калі ён пачаў чытаць «У сонных водах рэчкі Гайна жыццё віруе разнастайна», усе разрагаталіся.

— Гэта ж здорава! — заўважыў я. — Часам бытавізм у вершы надае яму незвычайны шарм. Памятаеце ў Вазнясенскага: «Я помню, как в рощах осенних ты встретилась, что-то спросила, и пса волокла за ошейник, а он упирался. Спасибо». Так і тут: «жыццё віруе разнастайна». Здаецца, канцылярызм, а ў такім кантэксце цікава.

Хутка хлопец асвоіўся. З бухгалтэрыі, куды яго накіроўвалі, перавёўся ў трэстаўскую шматтыражку. Назавём яго тут Друкар, бо ён актыўна разгарнуў работу па стварэнні самвыдатаўскага літаратурнага часопіса і кніжачак паэзіі.

Мы яму і нявесту падшукалі, і на вяселлі пагулялі.

Неўзабаве наш герой падаў заяву ў Саюз пісьменнікаў. Але пра гэта асобная гаворка.

## НОВАЕ АМПЛУА АНЁЛКА

З Анёлкам я пазнаёміўся, калі працаваў у полацкай газеце. Тады ён быў вучнем дзявятага класа адной са школ Полаччыны.

Прывёў яго ў рэдакцыю бацька — дырэктар гэтай школы, вядомы ў раёне кнігалюб, уладальнік унікальнай бібліятэкі. Пра гэтае яго захапленне, дарэчы, раней пісала наша газета.

Тады вось для мяне яго сын і здаўся анёлкам — бялявы, з шырока раскрытымі вачыма, з усмешкай, за якой, праўда, узгадвалася нейкая прыхаваная іронія. Вершы ў яго былі літаратурнымі, але не без таленту. «Кувшины древние давно стоят пусты…».

Мы надрукавалі падборку, і зноў праз нейкі час на парозе рэдакцыйнага кабінета з'явіліся бацька і сын. У руках сельскі настаўнік трымаў авоську з буйнымі ячэйкамі, праз якія выяўна выглядала пляшка «Сталічнай».

— Першы ганарар трэба абмыць, — дзелавіта прамовіў бацька. Анёлак толькі моўчкі пасміхаўся, іронія ў яго вачах была ўжо больш выразнай.

І вось на «Крыніцах» памужнелы Анёлак усміхаўся мне, як старому знаёмаму. Ён з сябруком эпатаваў прысутных, часам перадражніваў Гаспадара тайгі, але рабіў усё гэта нязлосна, з непадробным гумарам.

Потым Анёлак паступіў на філфак БДУ у Мінск і нечакана для ўсіх загаварыў пабеларуску.

Вершы яго былі пра касінераў, паўстанцаў 1863 года і вельмі адрозніваліся ад ранейшых, рускамоўных.

А яшчэ Анёлак любіў іграць на гітары і часта браў інструмент з сабой у час нашых вандровак.

«Пара гнедых, запряженных зарею...», — выводзіў ён прыемным барытонам.

— А давай «В шумном балагане», — прапаноўваў Гаспадар тайгі.

І Анёлак «даваў»: І Токарава, і Шуфуцінскага, і Высоцкага, і Акуджаву…

— Слухай, а чаму табе самому не паспрабаваць пісаць песні? — аднойчы прапанаваў яму я.

— А што? — раптам загарэўся Анёлак. — Трэба паспрабаваць.

І праз дзень патэлефанаваў.

— Паслухай! Я вось некалькі песень напісаў.

І стаў спяваць проста ў тэлефонную трубку.

Гэта было іранічнае, нешта і ад Высоцкага, і ад Галіча.

У адной рэфрэнам гучала: «здавайце, людзі, харчадходы ў спецыяльныя бачкі», у другой «прыляцела з крыламі свіння, птушка шчасця заўтрашняга дня»…

Так нараджаўся першы беларускі бард. Да таго часу ён працаваў настаўнікам адной з гарадскіх школ, і разам з калегам, настаўнікам фізкультуры, яны стварылі папулярную потым песню пра аксамітны летні вечар.

З тых часоў кожную яго новую песню мы спявалі разам.

Песні яго сталі папулярнымі, і мы ўжо не ўяўлялі сумесных выступленняў без Анёлка з гітарай.

## ДЗЕ ДЗІСЁНКА ВІЕЦЦА…

Камандзіроўкі працягваліся. Я вельмі палюбіў дарогу, якая вядзе з Полацка на Шаркаўшчыну. Прамая — да Дзісны, цудоўнага заходнебеларускага гарадка са старажытным мостам праз Дзвіну. Тут здымалася нямала фільмаў, адзін з іх — «Чужая бацькаўшчына» паводле твора Вячаслава Адамчыка. Я рабіў рэпартаж са здымачнай пляцоўкі і бачыў, як рэжысёр Валерый Рыбараў ствараў для кіно ўнікальны свет заходнебеларускага мястэчка.

Дзісне пашанцавала — яна практычна засталася такой жа, як і сто гадоў таму — утульнай, драўлянай, з непаўторнымі вуліцамі, якія выходзяць на дзвінскую набярэжную, з рэшткамі касцёла ў цэнтры.

І жыццё тут, здаецца, цякло непаўторна, з роздумам і сваёй філасофіяй.

А калі не паварочваць з шасэ направа, на Дзісну, то трошкі далей будзе паварот налева і, дарэчы, пацячэ вірлівай стужкай цудоўная Дзісёнка — рэчка, берагі якой зараслі вербалозам, палявымі кветкамі і густымі хмызамі.

На працягу ўсёй гравейкі да самай Шаркаўшчыны яна, нібы кацяня, суправаджае падарожніка, ні на хвілінку не хаваючыся ад яго позірку.

Аднойчы я вяртаўся ўвечары з паездкі дадому. Былі каталіцкія дзяды, і на тым беразе Дзісёнкі мігцелі свечачкі. Усё наваколле, здаецца, было залітае мірыядамі агнёў, і гэта было так прыгожа і ўражліва, што хацелася плакаць ад замілавання.

Гэта былі мясціны, звязаныя з вандроўкамі Язэпа Драздовіча, мастака, філосафа, наіўнага і думнага беларуса, які ўсё сваё жыццё прысвяціў роднаму краю і памёр, як народны святы, сярод людзей, не маючы ўласнай хаты і сям'і.

Пра Язэпа Нарцызавіча і яго творы распавядалі мне ў мястэчку Германавічы настаўнікі мясцовай школы Ада Райчонак і Клімен Кожан. Яны стварылі музей Драздовіча, хай школьны, саматужны, але ж першы і адзіны на той час музей, прысвечаны гэтаму выбітнаму дзеячу нацыянальнай культуры.

Там, у Германавічах, я яшчэ раз пераканаўся, які цесны свет, як шмат у ім неспадзяванага.

Аказваецца, Ада Эльеўна некалі, маладой дзяўчынай, працавала ў нашым прыгарадным саўгасе, жыла ў нашым пасёлку і не раз трымала мяне, малога, на руках.

Чым не сюжэт для перадачы «Жди меня»?

Тут, у Германавічах, з велічным касцёлам у цэнтры мястэчка, я ўпершыню пачуў пра Вацлава Ластоўскага, імя якога было тады забаронена, пабываў на старажытных могілках, дзе пахавана маці Язэпа Драздовіча.

Там раскрываўся непазнаны да гэтага свет, яркай старонкай айчыннай гісторыі.

## ІКЕБАНА Ў ДРУІ

Я ніколі раней не мог сабе ўявіць, што ў нашых краях жыве столькі незвычайных цікавых людзей. Старанна выконваючы рэдакцыйныя заданні, асвятляючы сяўбу і жніво, вытворчыя будні хімічных гігантаў і полацкага шклозавода, я стараўся ў кожнай паездцы, кожнай журналісцкай камандзіроўцы адшукваць такіх людзей, расказваць пра іх па радыё.

Неяк даведаўся, што ў мястэчку Друя на Браслаўшчыне жыве цікавы чалавек, які збірае камяні, стварае з іх прыгожыя кампазіцыі.

Жыў ён з сям'ёю на самым ускрайку звычайнай вясковай вуліцы. Але як толькі я ўвайшоў у двор, здалося, што апынуўся ў нейкім чароўным царстве камянёў.

Круглыя, пукатыя, прамавугольныя, маленькія і вялікія, яны стварылі цэлы фасад, цэлыя мікравуліцы. Некаторыя з іх нагадвалі незвычайных звяроў, птушак, рыб, некаторыя — велічных віцязяў з дзіцячых казак…

І ўсю гэтую ікебану стварыў звычайны местачковец, не абцяжараны вялікай адукацыяй, у тым ліку мастакоўскай ці дызайнерскай.

І вось ён сустракае мяне на сваім panaдворку. Высокі, мажны, з доўгімі русявымі вусамі. І нечакана на суровым сялянскім твары — амаль дзіцячы позірк сініх вачэй.

Разгаварыць яго было цяжка, як і цяжка перадаць у словах усю экзатычную прыгажосць яго тварэнняў.

— Ну што там такога? Хаджу, гляджу, дзе камень які. Потым бяру цялежку, гружу, прывожу.

— Ну а вось гэты? — я паказаў на вялізны валун.

— Суседа прасіў. Разам на трактар пагрузілі, прывезлі.

Жонка вяскоўца была больш гаварлівай.

— Спачатку суседзі казалі, маўляў, дзіўны твой Бейнарт, а потым сталі прыходзіць, глядзець, захапляцца. А тут і праўда прыгожа, і дзецям падабаецца. А мне што? Харошы чалавек, гарэлкі не п'е, і вось прыгажосць любіць. А так па гаспадарцы ўсё спраўна.

***Працяг будзе.***

# Бярозка

№ 9/2013(1024)











**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



***Усё цячэ, усё змяняецца, але жыццё, тым не менш, працягваецца…***

***Вось і ў «Бярозцы» адбыліся змены, і, прытым, істотныя. Бо поўнасцю аднавіўся яе творчы калектыў, і гэты верасьнёўскі нумар — першае сур'ёзнае выпрабаванне новых супрацоўнікаў на прафесійную годнасць, ці, хутчэй, іх уступны экзамен. Ну, а экзаменатарамі, вядома ж, будзеце вы, нашы паважаныя чытачы. Усе свае заўвагі, прапановы, пісьмы дасылайце на адрас часопіса «Маладосць» з паметкай «Бярозка». Ці па электронных адрасах: maladost@bk.ru альбо bjarozka@mail.ru.***

***Абяцаем уважліва чытаць усё тое, што вы нам будзеце дасылаць. І не проста чытаць, а абавязкова ўлічваць у сваёй будучай працы вашы заўвагі і прапановы. І, вядома ж, друкаваць на старонках «Бярозкі» тыя вершы, апавяданні ці артыкулы, якія вы будзеце нам дасылаць. Зразумела, калі яны будуць вартыя таго, каб з'явіцца ў «Бярозцы».***

***Ну, а ніжэй прапануем вашай увазе развітальны артыкул Кацярыны Безмацерных, якая з'яўлялася асноўным стваральнікам апошніх нумароў «Бярозкі».***

**Стваральнікі «Бярозкі»**

# Развітальны ліст любоўны

Здаецца, усе на свеце дзеці малююць. Але, не ведаю, ці вырабляюць усе на свеце дзеці часопісы і падпісныя каталогі. Я ж, дзелавое дзіця, займалася гэтым яшчэ ў раннія гады. А сваю першую кніжку, з тыражом 1 экзэмпляр, у самасшытым сшытку, напісаную фламастарамі, распачала пісаць у пяць. Не выхваляюся і не хачу падкрэсліць уласную абранасць. Бо... Калі б можна было змяніць свой лёс... Калі б было можна! Я б, відаць, выбрала быць не пісакам, а мастаком, напрыклад. :) Аднак ёсць тое, што ёсць, і тое, што ёсць, досыць няблага, калі разабрацца. Калі, карацей, дагулялася! Мая першая ў жыцці праца — праца менавіта ў часопісе.

Усяго два гады ці цэлых два ў «Бярозцы» — любімай «Бярозцы»! І вось — я яе пакідаю... Развітвацца — заўжды кранальна і неяк урачыста. Сум і радасць у развітанні становяцца адным, утвараючы новы хвалюючы колер.

Хочацца напісаць свой развітальны ліст праўдзіва. Ды ўсё адно не атрымаецца! Тэкст — гэта ўжо не пражытае, а штосьці іншае... Ды і цэлых два гады ў рэдакцыі «Бярозкі» ў адзін тэкст не запіхнеш. Нейкая істотная дэталь абавязкова не змесціцца, а які-небудзь вобраз будзе празмерна салодкім і глянцавым, што толькі праз год заўважыш.

У часопіс «Бярозка» я трапіла па размеркаванні, скончыўшы ў 2011 годзе Інстытут журналістыкі. Застацца ў родным Мінску, маім ад самага нараджэння, ды яшчэ і ў часопісе, а не газеце, — гэта было сапраўднай Радасцю. Уздыхнула з палёгкай: няпросты момант прымусовага размеркавання скончыўся найлепшым чынам!

Усе два гады ставілася да сваёй працы як да каштоўнасці. Месцамі — нават як да значнай і адказнай місіі, як бы пафасна ні гучала.

Люблю гісторыю журналістыкі. Таму з інтарэсам праводзіла некаторыя са сваіх працоўных дзён у Нацыянальнай бібліятэцы, вывучаючы старыя нумары нашага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага выдання для падлеткаў. Я ж не пішу курсавую альбо дысертацыю, што за дзівачка? І каму патрэбна такое даследаванне? Мне! Гэты цікавы занятак дазволіў адчуць цёплае і прыемнае, свае карані і падрымку — усё, што можна назваць словам «пераемнасць». Гісторыя выдання — гэта штосьці надуманае? Няпраўда! Ад мінулага немагчыма адмовіцца. Твая прабабуля і прадзядуля — непазбежнасць і зусім не міт.

Калісьці «Бярозку» рабілі Уладзімір Дубоўка, Алесь Якімовіч, Вячаслаў Адамчык, Анатоль Грачанікаў... Тут друкаваліся Кузьма Чорны, Янка Брыль і Васіль Быкаў. А часопіс 1990-х, калі аднаўлялася незалежная Беларусь, і папулярнасць набываў беларускі рок, і так хацелася распавядаць зялёным падлеткам пра нашыя падзабытыя замкі — проста казка!

...Калі толькі прыходзіш працаваць у рэдакцыю часопіса, разглядаеш, рэдагуеш першыя тэксты, дык вельмі абвострана адчуваеш: «Я трымаю сэрца на далоні!» Чыйсьці творык, чыёсьці жывое сэрца — на тваёй далоні. А гэта вельмі хвалюе і кранае, боязна пакрыўдзіць, зрабіць штосьці не тое з гэтым «сэрцам жывым». Памятаю, як падчас сваіх першых уражвальных месяцаў у «Бярозцы» я знайшла ў адной мінскай школцы чацвёртакласніка-пісьменніка. Ён чырванеў, саромеўся — і ўсё ж даверыў мне сваю аповесць у тоўстым агульным сшытку, напісаную ад рукі, няроўным почыркам. Яшчэ і малюначкі... Наша праца — лепшая ў свеце! Мной тады авалодала шалёная радасць, гэты сшытак адчуваўся сапраўдным скарбам, я выхвалялася сваёй знаходкай перад сябрамі. Але гэтак — толькі спачатку. З часам грубееш, становішся больш цынічным і халодным. Але ўсё адно — застаешся чалавекам, а значыць, рэгулярна ўражваешся і радуешся.

За свае дваццаць пяць гадоў я ўжо зразумела, што збегчы ад будзённасці немагчыма. Будзённасць здараецца нават у літаратурна-мастацкім часопісе, калі вакол цябе адныя паэты і празаікі. Але ж нават з ёю, гэтай неадчэпнай будзённасцю, у «Бярозцы» — клёва! Праца ў часопісе, як сапраўдны каханы хлопец, не можа расчараваць дарэшты. Бо, нарадзіўшыся на планеце Зямля, немагчыма страціць інтарэс да людзей.

Завяршэнне майго цеснага сяброўства з «Бярозкаю» супала з маім журналісцкім днём народзінаў: роўна дзесяць год таму я, пятнаццацігадовая, упершыню надрукавалася ў сапраўднай газеце, а не той, з алоўкамі і фламастарамі, выдаўцом якой сама з'яўлялася. Улетку 2003 памёр Васіль Быкаў. Мы падрабязна вывучалі яго творчасць у школе. Але, прыйшоўшы з сяброўкай на паніхіду, заўважылі, што на ёй выключна людзі ў гадах. А школьнікі, якія таксама яго чыталі?.. Пра гэта, малалетачка, я і напісала свой творык-разважанне. А надрукавацца ўпершыню, кожны аўтар ведае, Радасць Найвялікшая.

Праз дзесяць гадоў на працы я асабіста пазнаёмілася з паэтам Віктарам Лупасіным. Ён і падараваў гэтае файнае слоўка — «малалетачкі». Гэта тыя, хто хаця б на год маладзейшыя за цябе. Усё справядліва: праз дзесяць гадоў я ўжо не толькі друкуюся ў прэсе, але і сама рэдагую малалетачак. «Кветачкі» эпохі змяніліся. У мае падлеткавыя гады не было ЖЖ і сацыяльных сетак. Мы шмат пісалі асадкай: дзённікі і доўгія лісты сябрам па перапісцы з іншых гарадоў. Мы шанавалі газету «Переходный возраст» — тады такую нефармальную, аль-

тэрнатыўную, моладзевую. «Переходный возраст» нараджаў буйную і вельмі сапраўдную мару паступаць менавіта на журфак. Мне здаецца, што цяпер гэтая прафесія стала нашмат менш папулярнай сярод моладзі. І пісаць гелевай асадкай доўгія лісты загадкавымі вечарамі ці на нудотных уроках, класці гэтыя лісты ў каляровыя самаробныя канверты — таксама непапулярна.

Два гады ў «Бярозцы»! Вядома, гэтыя два гады ўвабралі ў сябе ЛЮДЗЕЙ! На развітанне, з удзячнасцю, мне б хацелася ўзгадаць, перадаць прывітанне тым, хто дапамагаў рабіць нам часопіс. Тых, чыё «жывое сэрца» ляжала на маёй далоні, пад маім рэдактарскім вокам — і я любавалася, разглядала яго, непаўторнае сэрца. Кагосьці тут не ўзгадаю, аўтараў багата ў нас друкавалася, ды і тэкст проста няздольны змясціць ўсіх-усіх, усе-усе дэталі. Такім чынам… Музычны крытык Вітаўт Мартыненка, чытаць якога сапраўдная інтэлектуальная асалода, размяшчаўся ў галерэі нашых пазаштытных аўтараў на асаблівым, ганаровым месцы. Наташа Ленская —даволі амбіцыйная і мэтанакіраваная дзяўчына — запомнілася як Вялікая Аматарка Рокмузыкі. Нядаўна Наташа ўразіла, падзяліўшыся паведамленнем у сацыяльнай сетцы пра тое, што паступае вучыцца на журналіста… у Піцер! Паліна Бучэль, цяперашняя студэнтка Інстытута журналістыкі, спачатку друкавала ў «Бярозцы» свае публіцыстычныя матэрыялы, але ж нядаўна ўжо і мастацкую прозу даслала. Алена Бірукова рэгулярна друкавала ў нас свае эсэ-разважанні, дзе паказала сябе чалавекам асэнсаваным, здольным задумавацца над важным. Проза Алісы Шэрэр з Рэчыцы парадавала: розныя сёння ёсць падлеткі, але і падлеткі з літаратурнымі здольнасцямі таксама ёсць! Не магла не запомніцца Кацярына Жорава з Ліцэя БДУ: «Мокры снег» — экспрэсіўныя, атмасферныя празаічныя спробы, што чапляюць сваёй сапраўднасцю і падрабязнай празаічнай прамаляванасцю. Натхненне і захопленасць словам адчуваюцца ў Кацярыны Лясун. Карына Чуес дарагая нам найперш сваім узростам: 12 гадкоў! А ўжо ў часопісе выступіла! Цяперашні студэнт гістарычнага факультэта БДУ Уладзь Калеснікаў друкаваў вершы і прозу. Аднак, па шчырасці, больш проза ў душу запала: мілыя такія паштовачкі-мініяцюры. Мы рады, што зрабілі добрую справу і дапамаглі назбіраць публікацыі такім сёлетнім абітурыентам Інстытута журналістыкі, як Святлана Смык, Андрэй Голуб, Вераніка Гамзюкова.

Што ж, бывай, любая «Бярозка»! І любая рэдакцыя, дзе дыхалася гэтак вольна. А ўсім нашым аўтарам і чытачам хочацца пажадаць памятаць пра тое, што жыццё — значна больш, чым стаць журналістам альбо пісьменнікам. Не падманвайце сябе, не адкладвайце радасць на будучыню, шчасце — гэта не стаць кімсьці, шчасце — гэта проста жыццё!

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

***АД РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ». Рэдактар аддзела школьнага жыцця Кацярына Безмацерных не развітваецца з вамі. Перадаўшы сваю пасаду ў часопісе не менш крэатыўным асобам, яна абяцала быць нашым пазаштатным карэспандэнтам з замежжа. «Лісты з Індыі» — магчыма, так будуць называцца яе допісы ў рэдакцыю, якія, безумоўна, размесцяцца на старонках «Бярозкі».***

● **Верасок**

# А восень на дрэвах фарбуе лісточкі

## Восень — птушка залатая

Восень, восень залатая!
Колькі лісця ападае...
Заўтра птушкі адлятаюць,
Лісцем восень замятаюць.

Восень, восень залатая
Дрэвам косы расплятае.
Сонца ў небе не смяецца,
Павуцінне ўсюды ўецца.

Восень, восень залатая,
Хутка сцюжа завітае.
Лягуць белыя пушынкі,
Замятуць сляды, сцяжынкі.

*Лізавета ЛАМАНОС,*
*Мінскі раён, п. Гатава*





## Заслаўе

З далёкіх часоў і да сённяшніх дзён
Ты розныя зведаў хвіліны.
І назву сваю атрымаў нездарма
Ў гонар сына вялікай княгіні.

Краявіды твае на палотнах жывуць,
Ў габеленах — легенды і мроі.
Ў час Купалля вянкі па Чарніцы плывуць,
Як і той старажытнай парою.

Хоць за тысячу год адлічыў табе лёс,
Ты такі ж малады і прыгожы,
З папялішчаў вайны адрадзіўся, уваскрос
Працай простых людзей, дапамогаю Божай.

Дык квітней, зеляней, горад мой дарагі,
Каб табой ганарыцца маглі мы,
Каб нашчадкі таксама цябе зберaглі,
Горад сына вялікай княгіні.

*Кацярына МАКАРЧЫК,*
*г. Заслаўе*

## Школа

Калісьці ў першы клас сюды прыйшла,
І ты такой вялікай мне здалася.
Я для сябе тут шмат карыснага знайшла,
Ты з цягам часу роднай падалася.
У сценах тваіх рознае было:
Сяброўства, першае каханне.
А колькі тут цікавага прайшло!
Былі і радасць, і расчараванне...
Настаўнікі нам сталі, як бацькі,
Забыць пра іх не зможам мы ніколі.
І потым будзем, колькі будзем жыць,
Успамінаць сваю вучобу ў школе.

*Юлія КАЖУХАР,*
*г. Заслаўе*



## Як не любіць цябе, Радзіма?

Як не любіць цябе, Радзіма?
Красу тваіх багатых ніў,
Дзе каласяцца моры жыта,
Дзе пахне горыччу палын.

Буслы ляцяць здалёк дадому,
Дзе гнёзды-хаты ў іх стаяць,
Дзе прамяніцца сонца ў вокнах,
Азёры сінню зіхацяць.

Мой родны кут — прытулак родны,
Бацькі жыццё далі мне тут.
Дзе б я не заблукала ў свеце,
Мяне чакае родны кут.

*Юлія КАЧАН, Віцебская вобласць,*
*Міёрскі раён*

## Прырода



Прырода — багацце зямлі беларускай!
Пакрыла зямлю ты зялёнаю хусткай,
Палеткі, лясы, сенажаці, дубровы —
Для кожнага сэрца вы любы і новы.
Вясной ажывае прыгожа прырода,
Вяртаюцца птушкі да роднага лога.
Улетку цвітуць незлічоныя краскі...

А восень на дрэвах фарбуе лісточкі,
Пляце павуцінне, змяншае дзянёчкі.
Прыходзіць зіма — засынае прырода,
І мроіцца ёй цеплыня і лагода.

І кожнай парою мне любы прасторы
Зямлі маёй роднай, маёй непаўторнай.

***Павел ВАЛЕЎКА,***
***Віцебская вобласць, Міёрскі раён***

* * *

Каханне,
нянавісць,
пакута,
любоў...
Нам дадзена гэта ад Бога.
Так ёсць, так было...
І паўторыцца зноў
Жыццё наша, нібы дарога.
Па гэтай дарозе цяжкога жыцця
Павінны ісці мы бясконца.
Пачатак...
Ніколі не будзе канца...
Дарога, аблокі і сонца.

***Валерыя ЯКІМОВІЧ,***
***Мінскі раён, Самахвалавічы***

*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

# Вася Лайдачкін і спрэчка планет

Прысніўся аднойчы Васю Лайдачкіну дзіўны сон. Быццам прыйшлі да яго ў госці ўсе планеты нашай Сонечнай сістэмы. Вядома ж, акрамя Зямлі, бо нават у сне Вася добра разумеў, што сам у гэты момант на паверхні зямной знаходзіцца, а таму ў госці да яго Зямля прыйсці ніяк не магла.

А так усе астатнія планеты дружна да Васі завіталі. І вялізны Юпітар, і маленькі Меркурый, і Венера з Марсам...

Хацеў наш Васіль спачатку здзівіцца такому міжпланетнаму да сябе візіту, але ўспомніў, што гэта толькі сон, і не стаў здзіўляцца. Прыняў планеты ветліва, за стол іх пасадзіў, цукеркамі пачаў частаваць. Бо не кожны дзень, што ні кажы, планеты ў госці да цябе заходзяць, дакладней, не кожную ноч, бо справа гэтая ў сне адбывалася...

А планеты ўзялі па цукерцы кожная і кажуць:

— Прыйшлі мы да цябе, Вася, па справе, і справа гэтая вельмі важная. Рассудзі нас, Вася, па вялікай мудрасці сваёй, дакладней, рассудзі спрэчку нашу спрадвечную!

Хацеў Вася ў другі раз здзівіцца, пачуўшы пра «вялікую сваю мудрасць», але ўспомніў, што ўсё гэта толькі ў сне адбываецца, і здзіўляцца зноў-такі не стаў. Спытаў толькі, пра што спрэчка гэтая даўняя.

— А спрэчка ў тым, — кажуць планеты, — што ніяк не можам мы вызначыць, якая з нас, планет, найлепшая ва ўсёй сістэме нашай Сонечнай! Вось ты нас і рассудзі, вызначы з нас найлепшую. Толькі май на ўвазе, што Зямля твая ў гэтым нашым конкурсе не ўдзельнічае, бо ты, вядома ж, ёй перавагу адразу аддасі!

Задумаўся Вася. А потым даў планетам яшчэ па цукерцы і кажа:

— Цяжка мне, паважаныя планеты, нягледзячы на ўсю вялікую мудрасць маю, выбраць сярод вас найлепшую, бо мала я пакуль што пра кожную з вас ведаю. Так што вы спярша мне крыху пра сябе раскажыце, а потым я ўжо і вырашу спрадвечную спрэчку вашу. Вось ты, Юпітар, і пачынай. Раскажы мне, у чым ты самы-самы...

— Я — самы вялікі! — з гонарам адказвае Юпітар. — Нават самы-самы вялікі, бо планеты большай за мяне ва ўсёй сістэме нашай Сонечнай не маецца!

Паглядзеў Вася на Юпітар. І сапраўды, узвышаецца ён над астатнімі планетамі, нібы гара над пагоркамі невялікімі. Даў Вася за гэта Юпітару яшчэ адну цукерку і хацеў ужо прызнаць яго найлепшай з планет, але не паспеў...

Бо выскачыла аднекуль з-за Юпітара маленькая такая планетка, ды як залемантуе:

— Я, Меркурый, бліжэй за ўсе іншыя планеты да Сонца нашага знаходжуся! А значыцца — я самы з усіх вас найлепшы!

— Знайшоў, чым хваліцца! — фыркнула насмешліва Венера. — Ты яго, Вася, не слухай! Па-першае, у гэтага Меркурыя нават атмасферы ўласнай няма, па другое — на ім вялізныя перапады тэмператур! Уяўляеш, днём гарачыня такая, што нават камяні плавяцца, а ноччу — мароз люты!

— Праўду кажаш! — падтрымала Венеру другая планета, яшчэ меншая за Меркурый. — Вось я, Плутон, сапраўды самы-самы!

— Ну, і ў чым жа ты самы-самы? — спытаўся ў яго Вася недаверліва.

— А ў тым, — кажа Плутон, — што, па-першае: я самая далёкая ад Сонца планета, па-другое: самая халодная! Ну, і самая з усіх малая... гэта ўжо патрэцяе выходзіць...

— Ды якая ты планета! — зноў Венера сваю рэпліку ўставіла! — Сыходзячы з самых апошніх даследванняў, вучоныя, наогул, цябе з нашага планетнага спіску выкраслілі! Малы занадта!

Зірнуў Вася на Плутон, Меркурый поглядам змерыў... і толькі галавой адмоўна матлянуў. Даў ім па цукерцы, каб не вельмі перажывалі, і зноў да Юпітара павярнуўся.

І зноў не паспеў яму першае месца прысудзіць, бо Венера перашкодзіла.

— А ці ведаеш ты, Вася, — кажа яна, і здзекліва так на Юпітар пазірае, — што Юпітар з адных толькі газаў складаецца. І ён, і Сатурн, і Уран, і Нептун. Іх так і называюць: газавыя гіганты! Ды на іх, калі хочаш ведаць, нават паверхні цвёрдай няма!

— Ды не можа такога быць! — аж абурыўся Вася. — Як гэта, планета ды без паверхні? Маніш ты, напэўна, Венера?

— А ты ў іх сам спытай, калі мне не верыш! — аж пакрыўдзілася на такі недавер Венера. — Спытай, спытай!

Паглядзеў Вася на Юпітар, паглядзеў на другіх газавых гігантаў і зразумеў, што не зманіла Венера. Уздыхнуў ён, даў збянтэжаным гігантам па цукерцы і зноў да Венеры павярнуўся.

— А ў цябе хоць паверхня цвёрдая маецца? — пытае ў яе.

— А як жа! — кажа Венера. — Ды яшчэ якая!

— А ў мяне чым горшая? — з крыўдай уступіў у размову Марс. — Тым больш, што маю паверхню нават у тэлескоп убачыць можна, а твая заўсёды за воблачнасцю схавана!

— У цябе няма воблачнасці, вось табе і зайздросна! — агрызнулася Венера. — Ды і якая можа быць воблачнасць з тваёй слабой атмасферай!

— Затое ў мяне спадарожнікі маюцца, якія вакол мяне круцяцца! — захваляваўся Марс. — У цябе вось аніводнага спадарожніка няма, а ў мяне іх цэлых два: Фобас і Дэймас!

— Знайшоў, чым хваліцца! — аж зайшоўся ад смеху Юпітар. — Ды ў мяне іх процьма, спадарожнікаў гэтых! А некаторыя з іх па памерах нават гэтым двум недамеркам не саступаюць!

І ён паказаў на Меркурый з Плутонам, а тыя ад такой крыўды аж заплакалі. Прыйшлося Васю іх суцяшаць, цукеркамі зноў частаваць.

— Спадарожнікі ў мяне таксама ёсць і не малыя! — уступіў у размову Сатурн. — А Тытан, найбольшы мой спадарожнік, нават уласную атмасферу мае! Але я пра іншае хачу сказаць. Вось ці мае хто з вас такое кальцо, як у мяне? Паглядзі, Вася, якое яно ў мяне вялікае ды прыгожае!

Зірнуў Вася на Сатурн. І сапраўды, вакол планеты гэтай яркае-яркае кальцо, і нават не кальцо, а вялізнае іх мноства, адно ў другое ўстаўленыя ... ні ў адной з іншых планет такога і блізка не назіраецца. Уран, праўда, таксама меў штосьці падобнае, але кольцы ягоныя, вузкія і блёклыя, ні ў якое параўнанне з кольцамі Сатурна не ішлі...

Залюбаваўся Вася на кольцы, хацеў ужо Сатурн пераможцам конкурсу аб'явіць, але своечасова ўспомніў пра адсутнасць цвёрдай на ім паверхні і ўстрымаўся. Ды Сатурн і сам зразумеў, што адных толькі кольцаў для Васінай прыхільнасці недастаткова. Уздыхнуў ён цяжка, атрымаў у суцяшэнне ажно дзве цукеркі і на задні план адышоў. А да Васі зноў Марс з Венерай падступаюць.

— З нас двух табе, Вася, выбіраць давядзецца! — кажа Венера. — Так што выбірай, ды правільна выбірай!

— Вось-вось, правільна выбірай! — дадае Марс. — Таго, пра каго ты больш кніжак фантастычных чытаў, фільмаў глядзеў.

Хацеў Вася прызнацца, што, нягледзячы на ўсю сваю мудрасць, кніжкі не вельмі паважае, але ўспомніў раптам, што зусім нядаўна фільм па тэлевізары паказвалі са Шварцэнегерам у галоўнай ролі. Фільм той называўся «Успомніць усё», і якраз на Марсе падзеі фільма адбываліся. Узрадваўся Вася, хацеў ужо аб'явіць Марс пераможцам, але тут у пакой цэлы натоўп планет уварваўся, ды маленькіх нейкіх...

— І мы, і мы! — крычаць гэтыя ліліпуты. — І нас, і нас!

— Ды хто вы такія? — здзіўлена пытае ў іх Вася. — Няўжо таксама планеты!

— Мы — астэроіды, або малыя планеты! — крычаць ліліпуты. — Мы таксама вакол Сонца па сваіх уласных арбітах рухаемся і таму маем поўнае права ў гэтым вашым конкурсе ўдзельнічаць! А для пачатку дай нам таксама па цукерцы!

Невядома, чым бы ўся гэтая справа закончылася, магчыма, і каметы ў госці да Васі завіталі б, але ў гэты самы момант Вася прачнуўся. Дакладней, маці яго пабудзіла, каб у школу не спазніўся. На факультатыў па астраноміі, даклад да якога Вася вечарам старанна рыхтаваў, бо маці побач увесь час знаходзілася і дзяжку ў руцэ трымала. Для лепшай, так сказаць, стымуляцыі творчага працэсу...

І ведаеце, дапамагло. Бо інакш, хіба ж мог Васю Лайдачкіну такі дзіўны і, галоўнае, пазнавальны сон прысніцца!

● **Школа пачынаючых журналістаў**

# Думкі з майго дзённіка

***У мяне часта змяняецца настрой. І калі раптам адчуваю, што мне становіцца сумна, я адасабляюся ў сваім маленькім свеце, каб супакоіцца і паразважаць пра розныя рэчы.***

## Скразняк у душы

Калі мне сумна, я люблю сядзець на падаконніку ў сваім пакоі і глядзець на неба... Яно заўсёды мяне прыцягвала і магло супакоіць разнастайнасцю формаў аблокаў або ззяннем яркіх зорак.

За акном восень, таму рана сцямнела. На вуліцы ўжо ва ўсю пануе ноч... А неба зорнае-зорнае. Уладкаваўшыся ва ўлюбёным мястэчку, накіравала погляд на зоркі. Чамусьці думаю, што яны з'яўляюцца не проста так, а каб прынесці радасць людзям. Мне здаецца, што сёння гэтыя маленькія агеньчыкі свяцяць неяк па-іншаму, незалежна адно ад аднаго. У гэты момант я ўяўляю, што неба — гэта вялікі і бясконцы свет, падобны да зямлі, а зоркі — адзінокія людзі, якія ў душы адчуваюць тое ж, што і я. І мне робіцца неяк не па сабе... Няўжо ў свеце столькі адзінокіх людзей?

...Усё часцей і часцей я пачынаю заўважаць, што чым больш сур'ёзныя мае праблемы, тым менш людзей, гатовых мне дапамагчы. Гэта падобна да своеасаблівага адбору. Менавіта ў такіх сітуацыях ты пачынаеш разумець, хто цябе шануе, для каго ты па-сапраўднаму важны...

Самае страшнае ў гэтай сітуацыі — усведамляць, што людзей, гатовых табе дапамагчы, няма. Што ўсе, каго ты лічыш сябрамі, на самай справе толькі блізкія знаёмыя. Вельмі страшна прымаць сваю адзіноту!



І чым часцей здраджваюць, тым больш ран у тваім сэрцы. І ў гэтай незапоўненай пустаце адразу ж пачынае веяць скразняком. Становіцца вельмі халодна.

Набліжаецца поўнач, а я ўсё думаю пра адзіноту. У галаве ўсплываюць розныя моманты майго жыцця, звязаныя з сябрамі. Я ўспамінаю ўсё: нашы

гульні, сумесныя паездкі, дні нараджэнняў, купанне ў фантане на плошчы... Я адчуваю, што ўсё ж такі мае сябры сапраўдныя, і без іх няма часткі мяне... Без іх я — ужо не я...

## Вочы...

Здаецца, няма нічога больш прыгожага. Злавіўшы адзіны нясмелы погляд, можна зразумець усё тое, што адчувае ў гэты момант чалавек: шчасце, радасць, боль, расчараванне, адзіноту, страх...

Больш за ўсё ў людзях я цаню іх вочы. Яны ніколі не падмануць, дапамогуць зразумець натуру, характар.

Я вельмі люблю яркія, шчаслівыя, бяздонныя вочы. Калі ты ныраеш туды, зачараваны іх прыгажосцю і глыбінёй, то зведваеш невытлумачальную эйфарыю, пік шчасця, задаволенасць ад таго, што змог зазірнуць у іх, атрымаць асалоду і вынырнуць, глыбока ўздыхнуўшы...

Мяне заўсёды палохалі пустыя і шкляныя вочы... Сутыкнуўшыся з такім чалавекам усяго толькі на імгненне, мае ўласныя вочы цьмянеюць. У такі погляд я проста баюся нырнуць, бо, здаецца, там мне не хопіць паветра...

Людзі, спрабуйце зрабіць сваіх блізкіх шчаслівымі, запальвайце іх вочы! Толькі з яркім і бліскучым поглядам лёгка жыць. Бо калі твае вочы гараць, то яны могуць запаліць і іншыя...

## Вясёлкавыя людзі, ау!

Дзіўныя ўсё ж такі людзі. Зірнеш у акно, а яны ўсе, як робаты, быццам пад капірку зробленыя. Усе сумныя, шэрыя і некуды бягуць...

Няўжо і праўда, усе настолькі заклапочаны сваімі праблемамі, што ім няма калі радавацца жыццю, заўважаць яе драбнюткія яркія моманты? Людзі перасталі здзіўляцца першаму снегу, сонечным праменьчыкам, маладой зялёнай траўцы. Прачынаюцца раніцай, бачаць першыя прамяні сонца, але не цешацца з іх, а ўздыхаюць, што зноў трэба рана ўставаць. Выпаў снег — трэба апрануцца цяплей і хутчэй бегчы на работу, бо холадна.

Аднак сярод гэтай шэрасці ўсё ж такі засталіся чулыя, радасныя і ўважлівыя людзі. Менавіта яны робяць наша жыццё яркім і запамінальным, заўсёды ва ўсім шукаюць аптымізм. І нават, калі здаецца, што выйсця няма, яны абавязкова дапамогуць і падтрымаюць.

Але «вясёлкавых» людзей, на жаль, становіцца ўсё менш і менш. Такім у грамадстве жывецца нялёгка. Іх не разумеюць і цураюцца, таму ў іх вельмі мала сапраўдных сяброў. Але ў сілу свайго характару яны ніколі не сумуюць і цалкам аддаюць сябе тым, каму давяраюць.

Напэўна, «вясёлкавыя людзі» з'явіліся для таго, каб дзяліцца з навакольнымі сваім аптымізмам, вучыць іх радавацца жыццю і такім чынам павялічваць колькасць шчаслівых людзей.

Я веру, што з часам людзі навучацца жыць ярчэй!

*Ксенія РАГЕЛЬ, г. Маладзечна,*
*школа журналістыкі «Маладзік»*

● **Школа пачынаючых журналістаў**

# Наша спадчына

***«Мой родны край» — так гучыць тэма першых урокаў амаль ва ўсіх школах. З самага пачатку нас вучаць любіць сваю радзіму, ведаць яе гісторыю і паважаць родную мову.***

Я вучуся ў Лебедзеўскай сярэдняй школе Маладзечанскага раёна. Сіламі настаўнікаў, вучняў і бацькоў у 1984 годзе ў нашай школе быў створаны гісторыка-краязнаўчы музей «Спадчына», які падзелены на тры секцыі: гістарычную, этнаграфічную і літаратурна-мастацкую. З першага дня яго заснавання кіраўніком з'яўляецца настаўнік гісторыі Антон Апанасевіч. Ён вучыць нас любіць беларускую зямлю і рабіць дабро на яе карысць. А для гэтага трэба ведаць пра Беларусь і пра малую радзіму як мага больш. Вось таму малодшыя школьнікі часта наведваюць музей, дзе экскурсаводы з ліку старэйшых вучняў зацікаўліваюць іх гісторыяй.

Пачынаем падарожжа ў музеі з легенды пра паходжанне назвы Лебедзева. Згодна з ёй, вёска ўзнікла на месцы вялікага возера. Пасярод яго, на востраве, здаўна жылі лебедзі і ахоўвалі плаціны і дамбы.

Але галоўная скарбніца любой мясцовасці — гэта людзі. Ім у музеі прысвечана большасць стэндаў. Тут у свой час нарадзіліся альбо вучыліся і працавалі знакамітасці нашага краю. Напрыклад, гісторык Генадзь Каханоўскі. Адна з экспазіцый музея расказвае пра яго як вучонага, аўтара многіх навуковых манаграфій. Ведаем мы яго і як літаратуразнаўцу, пісьменніка, фалькларыста і краязнаўцу.

Яшчэ адна асоба, якой мы ганарымся, — мастак Раман Семашкевіч. Вельмі высока ацаніў творчыя здольнасці гэтага чалавека ў 20–30-я гады XX стагоддзя вядомы крытык Сяргей Ромаў, які, дарэчы, быў асабіста знаёмы з Пікаса, Матысам, Марке. У кнізе «Мастакі групы 13» сказана: «Семашкевіч — яркая і загадкавая фігура савецкага мастацтва».

Любоў да сваёй малой радзімы адчуваецца ў малюнках Рамана Семашкевіча, а паважлівыя адносіны да землякоў — у лістах да родных. Але — пачакайце! Спынімся на лістах...

Музей захаваў для наведвальнікаў цікавую гісторыю. Падчас вучобы ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, Семашкевіч прыязджаць на радзіму не мог, было небяспечна. Нават весткі, якія прыходзілі ад яго бацькам, трымаліся ў таямніцы. Іх зусім нядаўна знайшлі сваякі мастака і перадалі ў наш музей. Разгортваючы кавалачкі пастарэлых лістоў з ледзь бачнымі літарамі, мы заўважылі на адваротным баку паперы малюнак мастака. Простая на першы погляд



*Члены гуртка «Музеязнаўства» ў сваім музеі.*

работа з'яўляецца для нас вялікай каштоўнасцю, бо гэта — наша гісторыя і памяць пра земляка.

Выпускнікамі нашай школы з'яўляюцца паэты Рыгор Семашкевіч і Кастусь Цыбульскі, Герой Сацыялістычнай Працы Уладзімір Калачык, акадэмік Васілій Рагуновіч. Прафесар, доктар філасофіі і акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыс Кіт працаваў у Лебедзеўскай школе настаўнікам матэматыкі і нямецкай мовы. Тамара Супоніна — оперная спявачка і народная артыстка — першыя ўрокі майстэрства таксама набыла ў нашай вёсцы. Жыццё і дзейнасць гэтых асоб з'яўляюцца прыкладам для нас, маладога пакалення.

Наведвальнікі музея любяць затрымацца ў этнаграфічным кутку, бо менавіта тут створана частка інтэр'еру сялянскай хаты мінулых часоў. Дапаўняюць каларыт макет печы, народнае адзенне і калекцыя самавараў.

Шмат матэрыялаў музея прысвечаны тэме Вялікай Айчыннай вайны. Асаблівая ўвага нададзена зброі былых часоў і ўкладу лебедзеўцаў у перамогу над фашызмам.

— Уражлівыя карціны мінулага кранаюць дзіцячыя душы, нараджаюць мары быць падобнымі да дзядоў і прадзедаў, — адзначае Антон Антонавіч.

У музеі «Спадчына» праводзяцца розныя мерапрыемствы, выставы кніг, карцін, сустрэчы з вядомымі людзьмі, замежнымі гасцямі. Нядаўна ў нас пабывала беларуская пісьменніца Вольга Іпатава. Частым госцем з'яўляецца Кастусь Цыбульскі. Летась нашу школу наведалі госці з Італіі і Германіі, а дэлегацыя з Ізраіля перадала ў фонды музея цікавыя матэрыялы па гісторыі яўрэяў мястэчка Лебедзева.

Экспазіцыі музея пастаянна папаўняюцца. Члены гуртка «Музеязнаўства» збіраюць казкі, вершы, песні, паданні і легенды. За апошнія гады былі падрыхтаваны даследчыя працы, з якімі вучні прымалі ўдзел у навукова-даследчых канферэнцыях, раённых, абласных і рэспубліканскіх конкурсах. Усе работы былі адзначаны дыпломамі. У цяперашні час мы рыхтуем шмат новых і цікавых матэрыялаў. Самае ж галоўнае — музей «Спадчына» вучыць нас любіць і помніць свой родны куточак.

***Юлія СТРЫГА, г. Маладзечна,***
***школа журналістыкі «Маладзік»***

● **Конкурс**

# Казкі са школьнага ранца



***Паважаныя чытачы «Бярозкі». З гэтага нумара мы пачынаем новы літаратурны конкурс «Казкі са школьнага ранца», прыняць удзел у якім змогуць усе жадаючыя, каму яшчэ не споўнілася 18 гадоў. Абяцаем уважліва разглядаць усё тое, што вы нам будзеце дасылаць, і ўсе казкі, вартыя таго, каб іх надрукавалі, вы потым абавязкова ўбачыце на старонках «Бярозкі».***

***Вядома ж, не можа быць конкурсу без пераможцаў! Таму наша журы абавязкова іх вызначыць, і адбудзецца гэта напярэдадні Дня беларускага пісьменства, у жніўні 2014 года. Пераможцаў казачнага конкурсу чакаюць ганаровыя граматы і каштоўныя прызы.***

***Да Дня беларускага пісьменства будзе прымеркаваны выпуск кнігі, у якую ўвойдуць усе казкі, якія да гэтага часу з'явяцца на старонках «Бярозкі». Так што ў вас, нашы паважаныя чытачы, ёсць рэальны шанц стаць самымі сапраўднымі пісьменнікамі, хай сабе і пачынаючымі. А цяпер за справу! Бярыце ў рукі аловак, ручку альбо прысуньце да сябе клавіятуру камп'ютара — і творчага вам натхнення! А потым дасылайце нам свае казкі ў любым варыянце: папяровым альбо электронным — не мае значэння.Папяровы варыянт — на паштовы адрас: 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, рэдакцыя часопіса «Маладосць» (з паметкай «Бярозка»), электронны — maladost@bk.ru альбо bjarozka@mail.ru.***

***Абавязкова ўкажыце свае дадзеныя: прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, хатні адрас і нумар тэлефона (хатняга або мабільнага).***

***І яшчэ…***

***Казачныя гісторыі, якія вы нам будзеце дасылаць, вядома ж, павінны быць беларускамоўнымі і не вельмі вялікімі. Адна, максімум, дзве старонкі. Напрыклад, як казкі першых нашых аўтараў.***

## Кемлівы кулон

Восенню ляцела чародка вялікіх кулонаў у Афрыку на зімоўку. Ляцелі яны, ляцелі, але адзін малады кулон стаміўся і вырашыў крыху адпачыць. Зляцеў ён уніз і апынуўся на птушыным двары, на якім певень і квочкі паважліва дзяўблі зерне.

Квочкі ўбачылі кулона і спыталі:

— Хто ты такі?

— Я — птушка! — адказаў кулон. — Такая ж, як і вы!

— Якая ты птушка?! — кінуўся да яго певень. — Кукарэ-э-ку!

Кулону вельмі хацелася есці і піць, ды і адпачыць таксама. Ён не хацеў ляцець далей цяпер і вырашыў схітрыць:

— Я — афрыканскі певень! — закрычаў ён. Потым памаўчаў крыху і дадаў: — Кукарэку!

Квочкі, як пачулі, адразу ж абступілі кулона.

— Ко-ко-ко! Які прыгожы!

Певень разззлаваўся:

— У цябе няма рознакаляровага хваста, як ва ўсіх звычайных пеўняў!

А кулон усміхнуўся і адказаў:

— Такія хвасты ўжо не ў модзе! А мой — самы модны!

— Ко-ко-ко! — разам заквахталі квочкі. — Які ён модны!

Певень яшчэ больш расхваляваўся.

— А чаму гэта ў цябе дзюба такая доўгая?!

— Я з афрыканскіх рэк далікатэсы сабе дастаю! — не разгубіўся кулон.

— А ногі навошта такія доўгія? — усё ніяк не сунімаўся певень.

— Каб па афрыканскіх непралазных балотах гуляць! — адказаў кулон.

Пачуўшы гэта, квочкі з захапленнем закудахталі. А певень уздыхнуў, апусціў свой рознакаляровы хвост, ды і прэч адышоў.Так што кулон змог спакойна паесці, папіць і адпачыць.



Але калі ён сабраўся ляцець далей, квочкі захваляваліся:

— Ко-ко-ко! Куды?

— Далёка! — адказаў ім кулон, узлятаючы. — На курорт заморскі! А да вас я будучай вясной завітаю! Да пабачэння!

## Чаму чапля на балоце жыве

Раней чапля разам з бусламі жыла на лузе. І заўсёды лічыла сябе самай прыгожай.

Хадзіла яна па лузе і ўсё паўтарала:

— Я — самая прыгожая і прывабная птушка ва ўсім белым свеце! Ах, як шкада, што няма ў мяне люстэрка, каб



сваёй прыгажосцю палюбавацца!

Аднойчы буслы разам з чапляй на новы луг пераляталі. Над полем ляцелі, затым над лесам. І раптам чапля ўбачыла знізу сваё адлюстраванне! Узрадвалася, уніз спусцілася, а гэта балота са шматлікімі воднымі акенцамі.

— Якія вялікія люстэркі! — усклікнула радасна чапля. — Якая я прыгожая! Цяпер я буду заўсёды тут жыць і ў гэтыя люстэркі на сябе любавацца!

З таго часу чапля і жыве на балоце. І кожны дзень на сваё адлюстраванне глядзіць і ўсё ніяк наглядзецца не можа.

А жабкі ды рапухі над ёй насміхаюцца.

— Даўганосая, цыбатая! — крычаць яны. — Ква-ква-квасатуля!!

А чапля за гэта вельмі на іх злуецца і хоча здзяўбаць.

Але, хоць і засталася чапля на балоце жыць, ды так і не змагла да халоднай балотнай вады прызвычаіцца. Таму і стаць на адной назе.

*Мілана ЦЫРЫНСКАЯ, г. Чэрвень*

## Школьная казка

Было тое ў гэтым навучальным годзе або ў мінулым, у нашай школе або не ў нашай — не гэта галоўнае. Галоўнае — што яно ўсё ж было...

Падарылі неяк самаму лепшаму вучню класа новыя школьныя прылады. Яны былі шыкоўныя, са знатнага замежнага канцэлярскага роду Parker. Канешне, хлопчык вельмі ўзрадаваўся — такі падарунак! — і назаўтра, склаўшы ўсе свае прылады ў новы пенал, весела пайшоў у школу. Па трывалыя веды ды добрыя адзнакі.

Тым часам у пенале не было згоды. З пагардай пазіраючы на старых сяброў гаспадара і з гонарам папраўляючы сваю прыгожую сукенку, новая Сіняя Ручка прамовіла:

— Ну і экзэмпляры: праставатыя, зношаныя занадта! Я з такімі працаваць побач не збіраюся!

— Гэтым прымітыўным час у музей збірацца, ім няма чаго рабіць у пенале! — дадаў заморскі Аловак.

І былыя жыхары пенала сціпла адышлі ўбок: хто ціха плакаў, хто злаваўся, але таксама ціха. Што ж зробіш? Яны ж простыя. Куды там да замежных!

— Што ж гэта на белым свеце робіцца?! — спрабавала пярэчыць ранейшая Чырвоная Ручка, але нават яна нічога зрабіць не магла.

— Альбо мы, альбо гэтыя! — паставіла кропку фрэйлен Сіняя Ручка.

Вучань на хвіліну задумаўся, а пасля дастаў старыя прылады з пенала і паклаў іх у кішэню партфеля.

— Улада наша! — заскрыгатаў Цыркуль з новых.

— Улада наша! — падхапілі астатнія чужынцы. І пачалі ўладарыць ды панаваць.

І вось адказны момант — кантрольны дыктант. Вучань паўтарыў усе правілы, вывучыў слоўнікавыя словы і, упэўнены ў сваім поспеху, пайшоў на ўрок. Ён дастаў свае «крутыя» прылады і падмігнуў ім:

— Прыйшоў наш час!

— No problem! — ганарліва адазваліся тыя і пачалі працу.

Фрэйлен Сіняя Ручка так ганарылася сваім нямецкім паходжаннем, што, каб пра яго ніхто не забыўся, праз літару выводзіла то лацінскае «p» замест «п», то «m» замест «м»...

І ўжо ў загалоўку атрымалася аж некалькі памылак: фрэйлен паважна выводзіла «pamылка», замест «памылка»,«pamаць», а не «памяць»...і так увесь дыктант!

Перачытаў хлопчык тое, што напісаў — за Гумку схапіўся, а тая такая гламурная, бакі свае шкадуе. Нічога не выцірае, толькі плямы брудныя за сабой пакідае...

У бядзе ўспомніў гаспадар пенала пра сваіх старых сяброў, асцярожна дастаў іх з партфеля, на працу паклікаў. Зашчыравалі тыя адразу ж, не дазволілі двойцы кватэраваць у кантрольным сшытку.

З таго часу наш герой адказную працу давярае толькі сваім прыладам, але і замежнымі карыстаецца час ад часу. А цябе, чытач, павучае: заводзь сабе новых сяброў, але і былых не забывай!

***Ганна ТКАЧЭНКА, Мінскі раён,***
***п. Юбілейны***



# Лёс гераічнай жанчыны

***Калі ішла на сустрэчу з Марыяй Фёдаравай, то неяк не думала, што двухгадзінная размова выклікае такое моцнае ўражанне. Ужо потым успамінала суразмоўцу, асабліва погляд. Вочы, якія былі напоўнены слязьмі, калі 89-гадовая жанчына распавядала пра жудасныя падзеі Вялікай Айчыннай. Сямнаццаць гадоў, апошні экзамен. І вайна…***

«24 чэрвеня 1941 года, здаўшы апошні экзамен, атрымала дыплом аб заканчэнні Мінскага педвучылішча. А ўжо 28-га ўцякала з Мінска, бо над горадам кружылі нямецкія самалёты, — успамінае Марыя Міхайлаўна. — Пайшла на Заслаўе, дзе і пераначавала ў знаёмай. Затым вырашыла рухацца ў бок хаты, па дарозе ўбачыла гару солі, вырашыла і дадому ўзяць. Гэта было на Кацярынінскім тракце. Толькі выйшла, гляджу — калона немцаў рухаецца, уцякаць няма куды. Спалохалася. Пад'ехалі на матацыклах, акружылі. Першае, што яны спыталі: колькі кіламетраў да Масквы? А я стаю ў здзіўленні, сказала, што ніколі ў Маскве не была. Потым хутка здагадалася:

— Дык у вас жа карта ёсць, вось і паглядзіце.

Немцы дружна ўсміхнуліся, сказалі: «Гут!» І рушылі наперад…

29-га чэрвеня была ўжо дома, у вёсцы Рэўкуцьевічы. У гэты ж дзень над нашай вёскай пранёсся падпалены самалёт, але зваліўся ўжо каля суседняй. На наступны дзень я пабегла туды, бо бачыла, як ад самалёта парашутыст аддзяліўся. Магчыма, застаўся жывы. Прыйшла да настаўніцы-камсамолкі Ганны Спіцыян, яна ж адвяла мяне да дзеда Кандрата, які і выратаваў стралка-радыста з таго самалёта, Дзмітрыя Янава».

Успамінаючы знаёмства з ім, Марыя Міхайлаўна ўсміхаецца.

— Ай, у Беларусі — усе Марусі!

— Не, Маша — гэта вельмі добрае імя, — з упэўненасцю пацвердзіў Дзмітрый.

Неяк у лесе Марыя Пуцейка знайшла газету ад 3 ліпеня з прамовай Іосіфа Сталіна, дзе быў зварот: «Таварышы!» Гэты нумар газеты яна паказала Дзмітрыю. Ён узрадаваўся такой знаходцы і сказаў:

— Маша, перапісвайце! Толькі ўсю прамову не трэба, а самае галоўнае, што перамога будзе за намі. І распаўсюджвайце, як зможаце.

Стралок-радыст расказаў, што самалёт прыляцеў з-пад Курска, разбамбіў эшалон у Маладзечне, затым на шашы каля Радашковічаў калону абстраляў, і тут яго атакавалі аж два нямецкія самалёты…

У хуткім часе Дзмітрыя Янава адвезлі ў Буцэвічы, дзе ён доўгі час лячыўся. І не толькі лячыўся, але і пачаў агітаваць жыхароў вёскі за Савецкую



*Вера Адамовіч і Ніна Кабанава былі выратаваны брыгадай «Штурмавая», у цэнтры — Марыя Фёдарава.*

ўладу, а некаторым гэта не падабалася. Марыя яго неаднаразова папярэджвала, што варта недзе і прамаўчаць, але ён не хацеў нават слухаць. А праз нейкі час Дзмітрыя Янава выдаў хтосьці з мясцовых, і ён аказаўся ў канцлагеры ў Масюкоўшчыне. На шчасце, застаўся жывы, але пра гэта Марыі Міхайлаўне стала вядома толькі пасля вайны.

З пачатку ліпеня 1942 па ліпень 1944 года Марыя Міхайлаўна спачатку была сувязной партызанскага атрада «За Айчыну», затым стала партызанкай атрада «Штурм». Дарэчы, у хуткім часе атрад «Штурм» быў ператвораны ў партызанскую брыгаду «Штурмавая».

Успамінаючы пра гэты час, Марыя Міхайлаўна расказвае: «У час вайны ў Сёмкаве засталася школа-інтэрнат, дзяцей якой не паспелі эвакуіраваць. У гэтых дзяцей немцы час ад часу бралі кроў для сваіх параненых салдат. Калі ж нашай брыгадзе “Штурмавая” ў лютым 1944 паведамілі, што дзяцей хочуць адвезці ў “Трасцянец” на спальванне, тады і паўстала пытанне пра іх выратаванне. Камандзір брыгады Барыс Лунін адразу ж засумняваўся ў мэтазгоднасці такой аперацыі, бо палічыў яе немагчымай: 17 кіламетраў ад Мінска, могуць загінуць і партызаны, і самі дзеці. Але, на шчасце, камісар брыгады Ілья Фёдараў змог настаяць на сваім. І неўзабаве ён сабраў камандуючых атрадаў “За Айчыну”, “Штурм”, “Грозны”, “Фрунзэ”, “імя Жукава”, і змог пераканаць

іх усё ж такі рызыкнуць. Усе разумелі, што гэта будзе няпроста, але ніхто не адмовіўся. У нас былі парашуты, з якіх мы шылі белыя маскіровачныя накідкі для дзяцей і коней. Сабралі лепшых кулямётчыкаў і аўтаматчыкаў. Рушылі ў пасёлак Сёмкава ноччу. Аперацыя прайшла ўдала — 274 дзіцяці вывезлі больш чым на шасцідзесяці фурманках у Лагойскі раён».

— Я і Вера Вітушка селі на коней і паскакалі ў бліжэйшую вёску, каб даведацца, хто зможа даць прытулак дзецям, бо ў атрадзе ж іх не пакінеш, — успамінае Марыя Міхайлаўна. — Нягледзячы на тое, што ў кожнай сям'і было па тры-чатыры, а то і больш дзяцей, ніхто не адмовіў у дапамозе. Выратаваных дзяцей размеркавалі ў пасёлку Шаршуны, у вёсках Пецькевічы, Рэўкуцьевічы, Горы, Слабада.

У час вайны ў Сёмкаве апынуліся дзеці з розных рэспублік Савецкага Саюза: Беларусі, Расіі, Украіны. Сярод хлопчыкаў быў нават адзін з Аўстрыі. «Праз многія гады пасля вайны ён прыязджаў у Беларусь і ў адным з інтэрв'ю сказаў, што няма ў свеце больш гасцінных і добразычлівых жанчын, чым беларускія», — з усмешкай на твары распавядае Марыя Міхайлаўна. Думаю, такое заключэнне зроблена не на пустым месцы. Аўстрыйскі хлопчык жыў у жанчыны, у якой было трое сыноў. Становішча было цяжкае, бывала, нават хлеба не хапала. Але, нягледзячы на гэта, самую першую бульбіну або кавалак хлеба атрымліваў менавіта хлопчык з Аўстрыі.

У партызанскім жыцці Марыі Міхайлаўны было шмат баявых эпізодаў, але найбольш значнай падзеяй, яна лічыць вызваленне Беларусі ад нямецкіх акупантаў.

У хуткім часе Марыя Пуцейка выйшла замуж за былога камісара партызанскай брыгады «Штурмавая» Ілью Фёдарава.

Гледзячы цяпер на Марыю Міхайлаўну, якая ў свае 89 гадоў жыве з аптымізмам, разумееш, што сілы духу ёй і цяпер не займаць. Яшчэ будучы партызанкай, баявыя заданні заўсёды выконвала на «выдатна». Менавіта таму ў сямейным архіве маецца незлічоная колькасць грамат і ўзнагарод, сярод якіх медаль «Удзельніку партызанскага руху ў Беларусі», юбілейны медаль, прысвечаны 45-годдзю са дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, многія іншыя. Таксама Марыя Міхайлаўна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалём «За перамогу над Германіяй».

Марыя Міхайлаўна выхавала добрых дзяцей, якіх навучыла стойкасці і дабрыні. Паводле яе слоў, «з мужам пашанцавала, ён быў вельмі разумным, добрым чалавекам». І сёння яна ўспамінае пра яго з любоўю. Бо на кожнае свята Ілья Мартынавіч дарыў ёй паштоўку з вершамі ўласнага сачынення. Сёння, збіраючыся за сталом, дзецям і ўнукам Марыя Фёдарава зачытвае лісты і паштоўкі, якія пісаў муж, дзе кожны радок нясе цеплыню і пяшчоту.

***Дар'я ШОЦІК, май 2013***

Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 36 000 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 15 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 45 600 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 11200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 11.09.2013. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,31. Тыраж 2363 экз. Заказ 2906. Кошт нумара ў розніцу 16 600 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ruhttp://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**